Г. Ф. ЮРЧАНКА

# СУЧАСНАЕ НАРОДНАЕ СЛОВА

З гаворкі Мсціслаўшчыны



Слоўнік

МІНСК «НАВУКА І ТЭХНІКА» 1988

ББК 81.2Бел-4
Ю 83

В словарь включен богатый лексический материал, собранный в последние десятилетия на востоке Белоруссии, на пограничье непосредственных контактов современных русских и белорусских говоров. Включены также различные устойчивые сочетания и связные тексты. Всего объяснено около 4000 слов.

Рассчитан на лингвистов, преподавателей и студентов филологических факультетов вузов. Полезный для себя материал найдут здесь работники печати, писатели, журналисты.

Рэдактар
канд. філал. навук А. А. Крывіцкі

Рэцэнзенты:
д-р філал. навук А. І. Падлужны,
канд. філал. навук І. Я. Яшкін

**Юрчанка Г. Ф.**

Ю 83 Сучаснае народнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны: Слоўн.— Мн.: Навука і тэхніка. 1988.— 256 с.

ISBN 5-343-00297-8.

Юрченко Г. Ф. Современное народное слово: Из говора Мстиславщины: Слов.

У слоўнік уключан багаты лексічны матэрыял, сабраны ў апошнія дзесяцігоддзі на ўсходзе Беларусі, на мяжы непасрэдных кантактаў сучасных рускіх і беларускіх гаворак. Падаецца пераважна традыцыйная лексіка. Уключаны таксама розныя ўстойлівыя спалучэнні і звязныя тэксты. Усяго растлумачана каля 4000 слоў.

Разлічан на лінгвістаў, выкладчыкаў і студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ.

**Ю $\frac{4602020000-049}{М 316(03)-88}$ 114-88** **ББК 81.2Бел-4**

ISBN 5-343-00297-8

# З ГЛЫБІНЬ РОДНАЙ ГАВОРКІ

Беларуская дыялектная лексікаграфія мае зараз прыкметныя набыткі. Ёсць у нас ужо каля двух дзесяткаў дыялектных слоўнічкаў і слоўнікаў мясцовых гаворак розных куткоў і дыялектных зон рэспублікі, а таксама лексікаграфічных зборнікаў, дзе знайшлі месца многія невялікія калекцыі мясцовых слоў і ўстойлівых выразаў. Рыхтуецца да выдання лексічны атлас, які адлюстроўвае пашырэнне дзесяткаў тысяч слоў у мясцовым беларускім маўленні. Усё гэта з'яўляецца вынікам працы нашых мовазнаўцаў, а таксама аматараў мясцовага народнага слова.

Многа гадоў з вялікім стараннем збірае слоўныя багацці роднай гаворкі Г. Юрчанка, закопваючыся ўсё глыбей і глыбей у яе нетры. Пачалося гэта ў яго з выбаркі ў маўленні сваіх землякоў з Чырванагорскага сельсавета Мсціслаўскага раёна самабытных мясцовых слоў. Яны склалі яго першую лексікаграфічную працу «Дыялектны слоўнік» (1966). А пасля ім створана каля дзесятка падобных прац, напоўненых не толькі новымі слоўнымі адкрыццямі ў роднай гаворцы, але і глыбокімі назіраннямі над абыходжаннем яе носьбітаў пры маўленні з усёй яе намінацыйнай гаспадаркай — словамі, устойлівымі выразамі, словатворчасцю. У прыватнасці, гэта кніга «Народная сінаніміка» (1969), дзе раскрываюцца вялікая разнастайнасць аднолькавых або блізкіх па значэнню слоўных найменняў у гаворцы, іх сэнсавая спецыфіка, а таксама спосабы атрымання падобных лексічных сродкаў. Гэта грунтоўнае выданне ўстойлівых мясцовых спалучэнняў слоў «І коціцца і валіцца» (1972), «І сячэ і паліць» (1974), «Слова за слова» (1977), дзе паказаны багацце, вобразная яркасць і эмацыянальная насычанасць даных намінацыйных сродкаў гаворкі і іх утварэнне. Нарэшце, тры кніжкі слоў пад агульнай назвай «Народнае вытворнае слова»

(1981, 1983, 1985), прысвечаныя раскрыццю галоўным чынам мясцовай народнай словатворчасці.

Новым змястоўным дадаткам да адзначаных збораў слоў і ўстойлівых спалучэнняў з'яўляецца даная лексікаграфічная праца. Тут зноў падаецца значная колькасць малавядомых мясцовых слоў. Многія з іх, можа, нават упершыню выводзяцца на нашу агульнанацыянальную моўную арэну. Магчыма, што якому-небудзь з іх пашанцуе трапіць адсюль з дапамогай пісьменніка, журналіста, вучонага ў шарэнгі агульнанародных літаратурных слоў. Асноўны ж змест новай працы Г. Юрчанкі — зноў мясцовая народная словатворчасць. Працягваецца раскрыццё народных прыёмаў сэнсавага словаўтварэння — выкарыстанне слова не па яго прамому прызначэнню, а зыходзячы з яго сэнсу. Гэта розныя прыёмы пераноснага, метафарычнага, метанімічнага і іншага падобнага ўжывання слоў.

Аднак галоўнае месца займаюць тут уласна вытворныя словы, афіксальная словатворчасць, ці, дакладней, словапераўтварэнне — разнастайная, іншы раз вельмі складаная і няўлоўна тонкая фармальна-семантычная перабудова слоў у адпаведнасці з іх функцыямі ў складзе выказванняў або ў змесце паведамленняў. Такі цікавы слоўнікавы механізм працуе ў гаворках звычайна вельмі прадуктыўна. Слоўнік гаворкі з'яўляецца не толькі і не столькі складам гатовых слоў, упарадкаваным словасховішчам. Гэта пастаянна дзеючая творчая майстэрня слоўных намінацый, у якой добры знаўца яе абсталявання і сродкаў, а таксама спосабаў іх выкарыстання можа не толькі без цяжкасцей сам атрымаць належнае і вядомае ўсім носьбітам гаворкі слоўнае найменне для любога паняцця, але і пры дапамозе яго ўнутранай (семантычнай) і знешняй (словаўтваральнай) формы падкрэсліць сэнсавыя адценні гэтага паняцця і паказаць свае адносіны да таго, што за ім стаіць. Да гэтага якраз і хацелася прыцягнуць увагу.

Раскрыццё падобнага словатворчага механізма гаворкі, канкрэтны паказ яго дзейнасці — гэта, зразумела, досыць далікатная справа. Тут трэба і глыбокае веданне гаворкі, і тонкае адчуванне берагоў яе слоўніка. Г. Юрчанка змог зрабіць гэта шырока і дакладна. Сведчу пра сказанае з упэўненасцю, таму што даная гаворка блізкая і мне.

А. А. КРЫВІЦКІ

# А

**Абада** *ж.* Навала, напасць. *За што ны мяне тыкая абáда! Во, і ны Зьмітракоўну абáда.*

**Абажваць** *зак.* Абжаваць. *Блізка ні кідай: цёлычка сьцягніць платок і ўтопчыць ныгамі, у мяне раз цялёнык пупаў куртычку і ўсю палу абыжвáў, сплюгáвіў, хуць выкінь.* **Абажваный** *дзеепрым. Абыжвáныя скарінкі выляюцца ны стале, ужо засохлі. Рукáвы былі ўжо абыжвáныя, я ў цёлычкі з зубоў вырывáў.*

**Абалдзенне** *н.* Затлум. *Другей раз як найдзіць нейкыя абалдзеньня, ён нічога ні сыбрыжáіць. Ці ў цябе, чылавек, абалдзеньня, ці ты прітвыряісься глумачком?*

**Абарвацца** *зак. перан.* Пацярпець раптоўную няўдачу пасля працяглага шанцавання. *Ні ў чужоя места, што далі штрáпу, усё вязло, а тут абырвáўся.*

**Аббарахліць** *зак.* Забяспечыць адзеннем, вопраткай. *Аббырахліла дачок, як куклы нырiджáюцца.* **Аббарахліцца** *зак.* Забяспечыцца адзеннем, вопраткай. *Яе дзеўкі ладна аббырахліліся: і плáцьціў нуспруўлялі, і кохтычык, польты харошыя пукуплялі, яны прыцаўнэя, зырыбатыюць хырашо. Віджу, віджу, што ты аббырахліўся, касьцюм пряма паньській.* **Аббарахлёмшы** *дзеепрысл. Яны ўжо аббырахлёмшы, ёсьць што надзець.*

**Аббіць** *зак.* 1. Пашкодзіць ударамі. *Ямку аб'іжджалі і йгрушу аббілі восімі. Будуць пыдываць жэрдзя і крышу абаб'юць, глядзі, каб акурáтній цігалі. Нісла гырлáчык, ап прітылку ударіла, аббіла.* 2. Абабіць для ўцяплення. *Дзьвері я сёліта цёпла аббіў, ніякій мароз ня проймiць.* 3. Абмалаціць снапы ўручную. *Ну кулі нада абізацільна жыта аббіць. Бувала, стыряісься лён аббіць, каб рызыслаць раншы.* 4. Пазбіваць. *Такея вы́рвысы якей хочыш сад абаб'юць і с суччым зьнясуць. Харошыя была мідунічка, аббілі зá ныч.* 5. Пабіць, перамагчы ў бойцы. *Сьпірва ціха гулялі, а тады чую: плачуць — меншый большыга аббіў.* **Аббіцца** *зак.* 1. Абабіцца, нарабіць сабе

балячак. *Ляцеў па лесьвіцы як куль, аббіўся ўвесь.* 2. Абабіцца для ўцяплення. *Абаб'юцца ішчэ дзьвері, пасьпеюць, ды марозыў далёка.* 3 *перан.* Прывыкнуць, навучыцца абыходжанню. *Аббіўся пу людзях, наўчыўся, ён табе к кажныму патход найдзіць.* **Аббітый** *дзеепрым.* 1. Пашкоджаны звонку, зверху. *Тута ўжо і печ тыкая, карнізік аббітый, кабыла дужа слабыя. Пірялі ў аббітый кушунок, тама нямнога.* 2. Абабіты для ўцяплення. *Аббітыя дзьвері так холыду ні прупускаюць, як ніаббітыя.* 3. Абмалочаны ўручную (пра сноп). *Аббітыя снапы нада вытрісьць ды ў кулі зьвізаць, толька етых мала будзіць ны абая бакі.* 4. Пазбіваны. *Выйшлі ураньні, глянулі — яблыны стыяць аббітыя, ну ці ні двынаццыць сядзіць у етых мальцых!* 5. Пабіты, пераможаны ў бойцы. *Воць сяньня ты пойдзіш ат'етуля аббітый, ты сам просісься.*

**Аббягаць** *незак. перан. іран.* Дагаджаць. *Іна аббігаіць кругом, а я пайду зыбігаць,— нягож, жджыця. Слыбыдзіняты іх дужа аббігаюць ува ўсём усякім.*

**Абвазграчыванне, абвазгрочыванне** *н.* Запэцкванне, вымазванне. *А йдзі ты зь естым абвызгрячывыньнім, ня прі ўсякія грязі ў хату. Німа меры твайму абвазгрёчывыньню.*

**Абвазграчываць, абвазгрочываць** *незак.* Запэцкваць, вымазваць. *Січаж жа пірістань абвызґрячывыць тубуретычку! Гаршчонык абвазґрёчывыіць куляшом твой ядун.* **Абвазграчывацца, абвазгрочывацца** *незак.* Запэцквацца, вымазвацца. *Сідзяць і абвызґрячывыюцца бульбыю, трошку ў рот, а большы ну рубашычкі. Ці ні хваціць табе абвазґрёчывыцца?* **Абвазграціць, абвазгроціць** *зак.* Запэцкаць, вымазаць. *Чым жа ён штонікі етык абвызґряцію? Тута ні грязь, у нешта другоя рукавы абвазґрёціў.* **Абвазграціцца, абвазгроціцца** *зак.* Запэцкацца, вымазацца. *Атыйдзі ач шаік, толька абвызґряцісься. Ён усігда найдзіць чым абвазґрёціцца.* **Абвазграчаный, абвазгрочаный** *дзеепрым. Куды ж ты за стол лезіш с абвызґрячынымі рукувамі? Нечым абвазґрёчын пінжачок, нада пысаскресьць ды замыць.*

**Абваліваць** *незак. перан.* Абсыпаць, з'яўляцца ў вялікай колькасці (пра балячкі). *Што мучыюся ш шыію, толька веціp трошку дунець, і пычынаіць кругом абвалівыць, гылавы ні пывярнуць, усё абвязывый і абвязывый.* **Абвалівацца** *незак.* Абсыпацца балячкамі. *Я ўжо чую, як шыя пычынаіць абвалівыцца, тады давіць са ўсіх бакоў і жыра усхуплівыіцца.* **Абваліць** *зак.* Абсыпаць, з'явіцца

ў вялікай колькасці (пра балячкі). *Узноў на печы варочыіцца, шыю абваліла, скульля нейкыя выскычыла кругом.* **Абваліцца** *зак.* Абсыпацца балячкамі. *Уся шыя ў яго абвалілыся, пряма бургункі нейкія пат кожыю, і гаворіць, у горлі баліць, глытаць больна.* **Абваленый** *дзеепрым. Куды яму йиціць, шыя скýльлім абвáліна, ніхай пыляжыць, прагреіцца хырашэнька.* **Абвалёмшы** *дзеепрысл.* 1. Абваліўшыся. *Тая пуня зыдавіць можыць абвалёмшы, к ёй пытхадзіць дайжа страшна. Сы стáрыга калодзіжа ваду ні бяруць, ён даўно абвалёмшы.* 2. Абсыпаўшыся балячкамі ў вялікай колькасці. *Усе плечы скулкымі абвалёмшы, яны яму быляць.*

**Абварзёкыванне, абварзёпыванне** *н.* Квэцанне, вымазванне. *Каб пу руках даў хырашэнька зы абварзёкывыньня, тады б ён ні бáлывыўся. Што ты глядзіш ны яго абварзёпывыньня, крікні, каб уняўся.*

**Абварзёкываць, абварзёпываць, абварзёпкываць** *незак.* Заквэцваць, вымазваць. *Ты мне пірістань абварзёкывыць столік, ато сымаго зыстáўлю мыць. Сядзіць, пальцым кулеш кулупаіць і абварзёпывыіць стол, дык я яго пу руках: нілізя так дзелыць,— во чаго ён пішчыць. Чаго табе лезьць у такую куламесу, боцікі толька абварзёпкывыць.* **Абварзёкывацца, абварзёпывацца, абварзёпкывацца** *незак.* Заквэцвацца, вымазвацца. *Хвáціць абварзёкывыцца, пусьці, самі як-небудзь дадзелыім. Дужа табе нада було абварзёкывыцца, самі ніхай ба рукавы зыкысáлі ды браліся. Ня торкый яшчэ ты рук сюда абварзёпывыцца, хваціць ужо аднае. Толька дзяўчонка атыйшла, мáлый узноў пычаў абварзёпкывыцца.* **Абварзёкаць, абварзёпаць, абварзёпкаць** *зак.* Заквэцаць, вымазаць. *Стульчык абварзёкыў, пакуля еў, што гырячыю вадою атмуваць нада. Увесь тазік абварзёкылі пырысяты, пыстаў у шайку астарожнінька. Ні пускай к посыду: ні паб'ець, дык абварзёпыіць, тады вазіся, мый. Левыю палу абварзёпкыў, што зумуваць нада, так яе ні ататреш.* **Абварзёкацца, абварзёпацца, абварзёпкацца** *зак.* Заквэцацца, вымазацца. *Есьць як есьць, ці пад'еў, ці не, а абварзёкыўся чышчы некуды, пу рубашычкі бульба налепліна, і зу рубашычку ныклаў. Ці яму доўга умеючы абварзёпыцца, прідзіць, што ні пызнаіш якей. Лезь, пыглядзі, толька ні абварзёпкыйся: тама стыўбячкі мокрыя і грязныя.* **Абварзёканый, абварзёпаный, абварзёпканый** *дзеепрым. Ён жа ні падумыіць, тазік пыт паху і пашоў, пріходзіць — увесь бок абварзёкыный. Явіліся*

*ў грязі, абварзёпыныя нейкім глеім, хочыш — прібірай іх, мый, хочыш — с хаты гані. Ні бяріся зы адзежыну абварзёпкынымі рукамі.*

**Абварзёпа** *м.* і *ж.* Заквэцаная, вымазаная асоба. *Якей жа ты абварзёпа нікуратный, ці ты ня мог астарожнінька занесьць, каб ня вымызыцца. Я б абварзёпу такую к хаці блізка ні пусьціла.*

**Абгадыванне** *н.* Набыццё з цяжкасцю, пры абмежаваных сродках. *С такім абгадывыньнім ты ішчэ дзесіць гадоў біс каровы будзіш.*

**Абгадываць** *незак.* Набываць з цяжкасцю, пры абмежаваных сродках. *Нада ж думыць якую халупіну абгадывыць, ці ты ўсю жызьню пу чужых вуглах будзіш туляцца.* **Абгадывацца** *незак.* Набывацца з цяжкасцю, пры абмежаваных сродках. *Ня дужа яно абгадыіцца, кылі ў кырманых веціp сьвішчыць.* **Абгадацца** *зак.* Набыцца з цяжкасцю, пры абмежаваных сродках. *Усяго зразу ні схваціш, ні па сілі, пыжывеш, с уремім луччыя што абгыдаіцца.* **Абгаданый** *дзеепрым. Што абгыданыя було, а што цёткі пымаглі, так і свадзьбу спруўлялі.*

**Абганяннік** *м.* 1. Той, хто абганяе, пераганяе (у руху, працы). *Во стыяць абгыняньнікі, каток пулумаўся, хваліліся, што зы мінуту будуць у горыдзі.* 2. Той, хто абганяе бульбу. *Зымаріліся нашы абгыняньнікі, жарішча, коні мардуюцца, у быразьне ня ўдзержыш, бульба трецца.* **Абганянніца** *ж.* 1. Тая, што абганяе, пераганяе (у руху, працы). *Усьлед плятуцца абгыняньніцы, пірігналі.* 2. Тая, што абганяе бульбу. *Ікая зь Зінкі абгыняньніца, кылі іна плуг тэй у руках ці дзіржала, толька бульбу пулумаіць.*

**Абгарнуць** *зак. перан.* Забяспечыць адзеннем. *Ны кынчатковыя пырядышна грошы далі, я сваіх абгарнула: і пальцечкі справіла, і на ногі купіла.*

**Абгладжыванне** *н. перан.* Абходжванне, падлізлівыя паводзіны. *Не, сколька яны ні пыдлізаюць, нічога зь іхныга абгладжывыньня ні палучыцца, Сыхранёнык даўно іх рускусіў.*

**Абгладжываннік** *м.* Той, хто абходжвае, падлізліва паводзіць сябе. *Ні ш чым пашоў абгладжывыньнік ат Пынасывых, нешта нёс у кашолкі, віднa, цяжолыя і панёс нызад, сагнуўшы гылаву.* **Абгладжываннiца** *ж. Пыдзікуйсь-ка ны абгладжывыньніцу, як іна масьліным бліным пыд'іжджаіць к стыршыніхі.*

**Абгладжываць** *незак. перан.* Абходжваць, падлізліва паводзіць сябе. *Я знаю, чаго яны Хвідарёнка абгладжы-*

*выюць. Ён ужо толька сымаго чорта ні абгла́джывыў.* **Абгладзіць** *зак.* Дабіцца прыхільнасці падлізлівымі паводзінамі. *Работыць ня дужа хочыцца, дык стыряюцца нычальства абгла́дзіць. Ты відзіш, як Сідырiняты абгладзілі брігадзіра?* **Абгладзіцца** *зак.* Дазволіць абысці сябе, паддацца на падлізлівае абыходжанне. *Ікімёнык абгла́дзіўся і цяперя у іхніх руках цёпліенькій сядзіць, ні стріпянецца.* **Абгладжаный** *дзеепрым. Я зразу, сь первых слоў пыняў, што ён абгла́джыный.*

**Абгойзаць** *зак. неадабр.* 1. Абгойсаць. *Дужа яны тэя грібы глідзяць, ім каб толька лес абгойзыць. Якей іх сон возьміць, за́ ныч усю акругу абгойзыюць, пакуль вічарінку найдуць.* 2. Ababіць, абсунуць. *Увесь бок стога абгойзылі, пупруўля́ць нада, узьлезуць, а тады зыіжджаюць — куўза́юцца.* **Абгойзаный** *дзеепрым.* 1. Абгойсаны. *Лес так абгойзын, жывэя травінкі ня ўвідзіш.* 2. Абабіты, абсунуты. *Пыстыялі мы, пыглядзелі: копы абгойзыны, пырызьбіва́ны, — ну, каб каторыга пупаў, засек ба пугыю.*

**Абгоцаць** *зак. перан. неадабр.* Абабегаць. *Глядзі за ім, зыстыўля́й учыць урокі, ато яны як сыбяруцца кучыю, усё зубува́юць, ім ні да ўчэньня, пакуля абгоцыюць усё кругом.*

**Абгыцаць** *зак. перан. іран.* Аб'ездзіць, абабегаць. *Ён тута ўсё кругом абгы́цыў, дайжа зы Сажом пубува́ў,— нійдзе пытхыдзяшчыя кыравёнкі ні пупыдаіцца. Яны белый сьвет абгы́цылі, нійдзе дырмавога хлеба ні даюць.*

**Абдрыпа, абдрыпка** *м.* і *ж. зневаж.* Асоба ў абшарпаным, брудным адзенні. *Ходзіць абдріпа, лахмоцьця буўта́юцца, а ён жа можыць па-людзку надзецца. Усё бірягець, усё складыіць ета абдріпа. Думыіш, ач чаго другога? — адж жадныськці абдріпкыю ходзіць.*

**Аб'еджаный, аб'етый** *дзеепрым.* Аб'едзены. *Я ўскачыла ў хату, дык етыя кусочыкі ліжалі аб'еджыныя,— ну кошка, пряма ні прідумыю, што зьдзелыць зь естыю кошкыю. Ні такей ты ўжо аб'еджыный, як плачыш. Во што тваe хва́ліныя дзелыюць: відзіш, аб'етыя быра́нькі выляюцца,— пыгрызу́ць і кінуць.*

**Аб'ездзіць** *зак. перан.* Абабіць, абсунуць (пра копы, стагі і інш.). *Красівый стажок, а ты глянь, што дзеці зь ім зьдзелылі: с таго боку, ад балота, увесь аб'езьдзілі.* **Аб'езджаный** *дзеепрым. Ужо крыша аб'ежджыныя, ці відзіш ты.*

**Абіджанне** *н.* Крыўда, крыўдаванне. *Дура, што церь-*

*піць абіджáньня, ета ні ны мяне, я б яму скора места дыла. А што мне яе абіджáньня, ніхай сыма ны сябе абіджáіцца. Сколька абіджáньній було, што ні гукнулі іх!*

**Абіджаннік** *м.* Крыўдлівы чалавек. *Раз ужо такея абіджáньнікі, большы я слова ім ні скажу.* **Абіджанніца** *ж.* Крыўдлівая жанчына. *Усігда была абіджáньніца, паспробый-ка што-небудзь ні так скызаць, як губы распýсьціць.*

**Абіджаць** *незак.* Крыўдзіць. *Старэй Хадору дужа абіджáў, ета ў яе натура тыкая, што нікому нічога ні прыгаворіцца, а мы ўсё чысьцінька знаім.* **Абіджацца** *незак.* 1. Крыўдзіцца. *Мыкар на Восіпывых дужа абіджáіцца. Нечыга табе абіджáцца, ты сам дужа харошыя цаца.* 2. Скардзіцца. *Ганна Пітрачонку абіджáлыся, што старэй нічога дзелыць ня хочыць, прітвыряіцца.* **Абіджаный** *дзеепрым. Чым ты абіджын? — пеньсію ты пулучаіш німáлыю, кыравёнку ты дзяржыш, сыны пымыгаюць, дык ці табе вы́сьпітка ад бога нада?*

**Абідліва, абідчывата** *прысл.* Крыўдна, крыўдліва. *Ёй пыкызалыся, што Іван дужа абідліва скызаў пры сватоў, а ён нічога такога і ні гыварій. Мне здалося, што ён як-то абіччывыта гаворіць.*

**Абідлівасць, абідчыватасць** *ж.* Крыўда, крыўдлівасць. *Ні знаю, як ты будзіш зь людзямі жыць с такою абідлівысьцю. С тваёю абіччывытысьцю трудна жыць на сьвеці. Ні нада мне гыварíць пры абіччывытысьць.*

**Абідлівый, абідчыватый** *прым.* Крыўдлівы. *Анька ні тыкая абідлівыя, як ты гаворіш, ета табе пыкызалыся. Такою самыю абіччывытыю цётка яе была, часта губы дýла ні за тоя, дык зу другоя. Памянш.* **абідлівенькій.** *Чаго ж ты еткій абідлівінькій?*

**Абкапчываць** *незак.* 1. Пакрываць копаццю. *Во гылыва ў мальца: апкáпчывыіць палку, а тады даець мáлым, дужа сьмешна, што яны рукі зымáзывыюць.* 2. Пакрывацца копаццю. *Ат лампы тожа копыць сыбіраіцца, апкáпчывыюць і сьцены, і адзёжа, калі ні накрыта чым-небудзь.* **Абкапціць** *зак.* Пакрыць копаццю. *Ты сваёю грýбычкыю апкапцій усю хату, нешта іна ў цябе ды́міць і ды́міць.* **Абкапцець** *зак.* Пакрыцца копаццю. *Дайно шост ні выціраўся, апкапцей пырядышна, троху ат ланпы, а то вецір вяйнець у комін, дым сь печы йдзець.* **Абкопчаный. абкапчоный** *дзеепрым. Дровы смольныя, дыму дужа многа, увесь посыд апкопчыный, хуць ні стынаві пірід агнём. Апкапчоныя чугункі вытрі вехцікым.*

**Абквакліванне** *н.* Абквэцванне. *Ну пряма нілізя глядзець ны яго апкваклівыньня, як такей няўрёміна урадзіўся!*

**Абквакліваць** *незак.* Абквэцваць. *Нашто було бацінкі апкваклівыць, лезьць у тоя балота, сыпагі різінывыя усторнуў і йдзі куды хочыш.* **Абквакліваццa** *незак.* Абквэцвацца. *Глядзі, січас другей пычанець апкваклівыцца, будзіш тады пыдряд абмуваць дый ні справісься.* **Абквакліць** *зак.* Абквэцаць. *Дзяржы яго ды глядзі: мала што сябе, дык і цябе апкваkліць, ён ня столька ў рот нясець, сколька міма.* **Абквакліцца** *зак.* Абквэцацца. *Доўга яму апквакліцца, так вымыжыцца, што ні пызнаіш.* **Абквакленый** *дзеепрым. Новыя штаны ў дзёгыць апквакліны, цяперя іх нічым ні ататреш і ні атмыіш, плямы на ўсё ўремя астануцца. Полы ў куртычкі нечым апквакліныя, усё дно як цестым якім.*

**Абковываць** *незак.* Абіваць металічнымі пласцінамі, акоўваць. *У нас куплёных канькоў ні було, мы самі дзелылі дзірівянныя і апковывылі.* **Абковываццa** *незак.* Абівацца металічнымі пласцінамі, акоўвацца. *Дык яно ў цябе і нічога апковывыіцца.*

**Абкратыванне** *н.* Абкладванне для ўцяплення. *Ны тваё апкрятывыньня толька пулюбувацца!*

**Абкратываць** *незак.* Абкладваць для ўцяплення. *Зьмітрачонык сам узяўся апкрятывыць хату бульбоўнікым, каб сваю куклу ні зымарозіць.* **Абкратываццa** *незак.* Абкладвацца для ўцяплення. *Ты ўжо і на печы усім усякім апкрятывыісься?* **Абкратаць** *зак.* Абкласці для ўцяплення. *Сьцяну саломыю апставіў, а тады бульбоўнікым апкрятыў сухім, ні прыбярець мароз.* **Абкратацца** *зак.* Абкласціся для ўцяплення. *Дрывамі апкрятыўся, на трі гады хваціць і то ні пыпаліць.* **Абкратаный** *дзеепрым. Баня апкрятына сакою, ці ны пацьсьцілку, ці на што ён укладывыў.*

**Abліва** *ж.* Абліваха. *Сяньня дужа быльшая абліва, можыць дзерівы аблумаць ці саўсім пулумаць.*

**Абложыць** *незак.* Пуставаць, не арацца, зарастаць травою. *У Пархвена, бувала, усе палоскі абложылі. Цяперя зямле абложыць ні даюць, усе кусочыкі ўспахыны.*

**Абманяць, абманіваць** *незак.* Падманваць. *Не, хлопіц, ты мяне абмыняіш, тута ня столька було рублей. Ні абмыняй, ты гаворіш адно, а думыіш саўсім другоя. Нашто ты дзіцёнка абманівыіш, хочыш даць пыпряньнічык — дай, а ні дражніся.*

**Абмарываць** *незак.* Зморваць. *Ны гряды выйду, пуўчыса пыкыпашуся, і мяне ўсю абмáріiць, ні магу на сонцы, серца ўсё.* **Абмарыць** *зак.* Змарыць. *Села посьлі беда ны скамеічкі, абмарíла мяне ўсю неік, чуць пірікулíлыся ны крываць, зыдрямнýла.*

**Абмасліваць** *незак.* 1. Квэцаць, пэцкаць тлушчавым рэчывам. *Ня лезьця вы яшчэ сюда, дужа вам хочыцца адзёжу абмáсьлівыць.* 2 *перан.* Даводзіць выраб да вышэйшай якасці. *Як возьміцца абмáсьлівыць, два дні граблі будзіць дзелыць.* 3 *перан.* Улагоджваць. *Абмáсьлівыў ён, абмасьлівыў стыршыну, ды нічога ні пулучылыся.* **Абмасліваццa** *незак.* 1. Квэцацца, пэцкацца тлушчавым рэчывам. *Ты глянь, як у цябе полы абмáсьлівыюцца, пыдвяжыся чым.* 2 *перан. іран.* Збліжацца, знаходзіць агульную мову. *Яны ўжо ні раз пычыналі абмáсьлівыцца, ну хракцірымі адзін другому ні патходзюць.* **Абмасліць** *зак.* 1. Абквэцаць, запэцкаць тлушчавым рэчывам. *Лі печы як акуратна ні бірягіся, а ўсё дно абмáсьліш і рукáвы, і перід.* 2. Давесці выраб да вышэйшай якасці. *Гладзінька абмáсьліў ступу, два дні толька апцясывыў і апстрýгывыў.* 3. Улагодзіць. *Во пылядзіш, яны і Зыхарьку абмáсьлюць: з маткыю пушушýкуюцца, Проські жыніха пыбішчáюць, а тады і з бутылычкыю пыднясуцца.* **Абмасліцца** *зак.* 1. Абквэцацца, запэцкацца тлушчавым рэчывам. *Сальнымі рукамі абмáсьліўся. Абмáсьлісься ў дзёгыць, плямы нічым ні атмыіш.* 2. Зблізіцца, знайсці агульную мову. *Яны з год крівíліся адзін ны днаго, а тады абмáсьлíліся, друзьямі сталі.* **Абмасленый** *дзеепрым.* 1. Абквэцаны, запэцканы тлушчавым рэчывам. *Ірьмяк увесь чыста абмасьлін у нешта жырныя, яго ж ні надзеніш.* 2. Даведзены да вышэйшай якасці (пра выраб). *Не, Сумусёнык як зря ня кініць, у яго кажныя ручка, кажныя чырянца абмáсьліна, апчышчына.* 3. Улагоджаны. *Ты ж помніш, што ён гыварíў на прошлый нядзелі, разьві ж ні абмáсьліный, — і як яны скорінька усьпелі абработыць!*

**Абмасоліць** *зак.* Абслініць, памяць зверху дзяснамі. *Ні дывай яму бальшымі кускамі, абмасоліць і кініць. Што ні пупадуць, абмасолюць, абмасолюць, у рукі ні ўзяць.* **Абмасоленый** *дзеепрым. Ну, думыю, січас цёплыя вязёнкі надзену, цап,— а яны абмасоліныя ўсі: кыцянок сь пячуркі выцігнуў, а цялёнык пупаў у зубы.*

**Абмякініванне** *н.* Засмечванне мякінай. *Калі табе нырáвіцца абмякінівыньня, злазь, пулюбуйся.*

**Абмякініваць** *незак.* Засмечваць мякінай. *Ні абмякінівый касьцюм, надзень што-небудзь старінькыя.* **Абмякінівацца** *незак.* Засмечвацца мякінай. *Ні палезу я туды абмякінівыцца, яны самі усё упыря́ччуць.* **Абмякініць** *зак.* Засмеціць мякінай. *Пулушубык абмякініў, ідзі аптрясіся, у хату мякіны ні нясі.* **Абмякініцца** *зак.* Засмеціцца мякінай. *Абмякінійся, сыгнаў ахоту, палезіш яшчэ ці не?* **Абмякіненый** *дзеепрым. Пыглядзі, якей ён абмякініный, дайжа вачэй ня відна.*

**Абмякчэць** *зак.* 1. Памякчэць, аблегчы (пра пухліну). *Пухліна абмякчэла і паменшыла, троху праходзіць.* 2 *перан.* Зменшыць злосць. *Усё кіпяційся: я так жыць ні хачу, ня буду! — а тады малу-пымалу троху абмякчэў.*

**Аборына** *ж.* Асобная абора. *Вісела во тут аборіна, сам учора вешыў, а сяньня як згарела айдзе-то.* *Памянш.* **аборынка, аборыначка.** *Якую аборінку пупаў ды й пытпіряжы́ся, бульбу выбіраць — ні ны свадзьбу. Тут і нада кусочык аборінычкі зывізаць, дык і тае ж німа пуд рукамі.*

**Абпадаць** *зак.* Апасці (пра яблыкі, грушы і інш.). *Раз аппа́дылі, ета ш чырьвямі, цэлыя яблыка будзіць дзіржацца, пакуль ні пасьпеіць.*

**Абпаіваць** *незак.* Даваць піць звыш меры. *Цялёнычка нілізя аппа́івыць, асобінна крошышныга, луччы ніхай гыладней пабудзіць.* **Абпаіць** *зак.* Даць піць звыш меры. *Кыня тожа можна аппаіць, калі паіць зразу посьлі цяжолыя работы, гырячыга.*

**Абпаласкыванне** *н.* Абмыванне чыстай вадой. *Я віджу, якоя ў яго аппыла́скывыньня: грязь пы ліцу разьвёз.*

**Абпаласкываць** *незак.* Абмываць чыстай вадой. *Скарей аппыла́скывый рукі ды за стол садзіся.* **Абпаласкываца** *незак.* Абмывацца чыстай вадой. *Ты як станіш аппыла́скывыцца, дык цябе трудна дыждацца.* **Абпаласкаць, абпаласнуць** *зак.* Абмыць чыстай вадой. *Тряп'ё ета аппылашчы́ троху ды ўськінь ны вярёўку. Аппыласьні рукі, яны ў цябе дужа пыльныя, вадою пряма з бочкі.* **Абпаласкацца, абпаласнуцца** *зак.* Абмыцца чыстай вадой. *Пыдажджы, так нілізя іціць у хату, нада ны дваре аппылыска́цца. Некылі було дужа мыцца, аппыласну́ліся троху ды скарей ныдзівацца.* **Абпаласканый, абпаласнутый** *дзеепрым. Усё аппылыска́ныя ляжыць ны скамеічкі. Ну што ты, я ж аппыласну́тымі рукамі бяру.*

**Абпахыванне** *н.* Акучванне бульбы. *Я б яго с такім аппа́хывыньнім палкыю б с поля туріў, пыхаў, як рукі ні*

*туды служылі. Якоя ж у яго будзіць аппáхывыньня, кылі ён із-зы рыспáшніка чуць відзін.*

**Абпахываннік** *м.* Той, хто акучвае бульбу. *Вашы аппáхывыньнікі ня дужа стыряюцца, большы курюць, чым пашуць, а коні ў быразьне стыяць. Аппáхывыньнікі коні атпряглі і купацца, а тэя ў вык.* **Абпахываннiца** *ж. Зь мяне аппáхывыньніца абычайныя: пыкывіря́ла рыспашнікым, пыкывіряла, цяперя матыкыю буду прáвіць.*

**Абпахываць** *незак.* Акучваць бульбу. *Кылі так аппá́хывыць, як Доўгій аборычык, дык луччы ня едзь. Ня дужа тут ладна аппáхывыць, цьвёрда, плуг скачыць — ня ўдзержыць. Ці ты бульбу ні разу ні аппáхывый, ці што, кусты пывывырáчывыіш.* **Абпахывацца** *незак.* Акучвацца (пра бульбу). *Як яно ў цябе аппáхывыіцца? — ты дужа мелка бяреш, цьвярды́нь, нічога ня вырысьціць. У нас ішчэ ні аппáхывылыся, мы позна сеілі, мáлінькыя, толька ўсходзіць.* **Абпахаць** *зак.* Акучыць бульбу. *Я хацеў аборычык аппыхáць, дык ні пуцступіцца, грязна, конь топіцца. Ну ці ты ўжо бульбу аппыхáць ні судоліш, дзяржы рыспашнік роўнінька, а конь сам будзіць цягнуць, ён зьмірный.* **Абпахацца** *зак.* Акучыцца (пра бульбу). *Аппáшыцца і кынава, такея-то бяды, трі разы с канём зывярнуцца. Зыпрігай ды едзь, трошку аппáшыцца другей раз і ладна.* **Абпахываный, абпаханый** *дзеепрым. Трошку аппáхывына, можна було яшчэ плугі два ўзяць. Хведзька усігда любіць пы-хызяйску зьдзелыць, у яго і аборычкі, і кынаўкі, і дарожкі аппыхáны луччы некуды. Позна ж у цябе бульба ні аппáхывына, дзеньдва — і ў яе ня ўлезіш. Няроўна бульба аппыхáна: айдзе пыт кареньня, аж кусты засыпыны, а айдзе ніскотька ні прісыпына.*

**Абпіваць** *незак.* П'янстваваць за чужы кошт. *Пыдыбралыся кынпанія, аппівáюць яго, а ён усе грошы траціць.* **Абпіць** *зак.* Пап'янстваваць за чужы кошт. *Нягож ні абап'ю́ць, калі такім глумаком будзіць. Аппілі яе і аб'елі етыя госьці, а паможч нічога ня хочуць.*

**Абпіраннік** *м.* Той, хто абапірае. *Пакоціцца калода твыя ды пы ныгах, во будзіць табе, аппірáньнік.* **Абпіранніца** *ж. Я віджу, ікая сь цябе аппірáньніца: січас палка пыляціць і ны ціплят, пыдавіць усіх.*

**Абрабець** *зак.* Спалохацца і разгубіцца. *Ета ж нада, стыяць і прідумывыюць усякыю лухту, я замеціла, што абрабелі, спужаліся, — толька і знаіця ету сплетню.*

**Абрагатаць** *зак.* Груба абсмяяць. *Пашоў, ну й абрі-*

*гытáлі як дурука якога, ці можна ж було йіціць зы якей-то нішчасный кусок вярёўкі.* **Абрагатаный** *дзеепрым. Увідзіш, сам увідзіш, што пойдзіш як пымяло якоя, абрігытáный.*

**Абрасціцца** *зак.* Звярнуцца. *Нада було б ґ дыктырам абрасьціцца, балезьню зупускаць нілізя.*

**Абрасяніваць** *незак.* Намочваць у расу. *Ты пыткысайся вышы, ні нада калошыкі абрысянівыць.* **Абрасяніваца** *незак.* Намочваца ў расу. *Чаго табе січас іціць абрысянівыцца, ніхай трошку абветрііць.* **Абрасёмшы** *дзеепрысл. Неткуль прішлі абрасёмшы чуць ні па поіс, ні гаворюць, айдзе былі.*

**Абрашчываць** *незак.* Загадоўваць (пра валасы). *Ужо і Лісяёнык абрáшчывыіць быраду, во будзіць воґірь.* **Абрасціць** *зак.* Загадаваць (пра валасы). *Што йта за хлопцы цяперя сталі, борыды абросьцюць, ходзюць як с пымілáмі.*

**Абсаленый** *дзеепрым.* Запэцканы тлушчам. *Зьдзівай апсáліныя штаны, куды ты ў такіх пойдзіш.*

**Абсвоіцца** *зак.* Асвойтацца. *Сколька тута кароў, яны скора апсвоюцца. Яны лісáвыя дзеці, зразу апсвоіліся.*

**Абсевяраць** *незак.* Абветрываць. *Відзіш, як рукі апсівіряіць, што выбігаіш з мокрымі, яны мароз ня дужа любюць.* **Абсеверацца** *незак.* Абветрывацца. *Пысярёд зімы неік ні так, а пыд вясну ух апсівіряіцца ліцо, вы́сыхніць і пычало шулушы́цца.* **Абсеверыць, абсевярыць** *зак.* Абветрыць, абсівераць. *К вясьне ліцо як апсевіріiць, ажно шулушы́цца пычынаіць. Усё на полі, на ветрі, гной вазіць даецца, ліцо апсівяріць к марту, і мазыньня ні пымыгаіць.* **Абсеверыцца, абсевярыцца** *зак.* Абветрыцца, абсіверацца. *Гаворюць, як ідзеш зімою на веціp, нада шчокі вызіліным трошку пымазыць, тады ні апсевірюцца. Як якоя ліцо, у аднаго усю зіму на ветрі, ны марозі і нічога, а ў другея — у хаці будзіць сядзець і апсіваріцца.* **Абсевераный, абсевяроный** *дзеепрым. Ты пыглядзі, якея апсевіріныя губы ў Томкі, верна, з Валодзькым цулувалыся ны марозі. Разым работыім, у яе ліцо апсівярёныя дужа, а ў мяне ні так.*

**Абсініванне** *н.* Вымазванне ў сіняе. *Дам яму апсінівыньня, выкінь саўсім, у ямку зынясі, ато ён пызадзелыіць усё чыста.*

**Абсініваць** *незак.* Вымазваць сінім. *Ета ж твыя новыя рубашка ўсё бяльлё апсінівыіць.* **Абсініваца** *незак.* Вымазваца сінім. *Як сухая куртка, нічога, а ац сырэя апсі-*

*нівыіцца другая адзёжа.* **Абсініць** *зак.* Вымазаць сінім. *Ты зь естыю кухвайкыю астыражней, зь яе краска з мокрыя бярецца, апсініш усё.* **Абсініцца** *зак.* Вымазацца сінім. *Рубашка апсінілыся плямымі, ні надзеніш такую.* **Абсінeный, абсінетый** *дзеепрым. Чугун сцáджывыць і апсініныя тряпка ладна будзіць. Я гляджу, аччаго ў мяне ўсё тряп'ё апсінітыя.* **Абсінёмшы** *дзеепрысл. Увесь перід у рубашкі апсінёмшы.*

**Абскрабаннік** *м.* Той, хто абчышчае, абірае (бульбу, моркву і інш.). *Ты, апскрібáньнік, рук ні пареж, морква малінькыя, а нож войстрый, крутнецца і раскоціш ладонь.* **Абскрабанніца** *ж. Сідзяць тваe апскрібáньніцы зы капою, ізыкі точуць, хвалюцца адна адной пры ўчырашнію вічарінку.*

**Абскрабацца** *незак.* 1. Абчышчацца, абірацца (пра бульбу, моркву і інш.). *Мыладую бульбу ніхто ня скобліць, іна хырашо апскрібáіцца.* 2 *перан.* Абжывацца, пазбывацца беднасці. *Мікілаёнык патроху апскрібáіцца: кароўка ладныя, пырасёнка дзяржыць, а хату пыставіць — і саўсім ладный хызяін станіць.* **Абскрэсць** *зак.* 1. Абскрэбці. *Хуць грязь апскрябі, кымкамі ляжыць ны пінжаку.* 2 *перан. гумар.* Дагледзець, надаць прыстойны выгляд. *Я й ня думыла, што Мікілай так апскрябець сябе, ета ня столька Мікілай, сколька жонка дзяржыць хызяйства у руках і Мікілая разым. Цябе хуць цётка апскріблá троху.* **Абскрэсца** *зак.* 1. Абскрэбціся. *Ты худзь ба апскрёбся ны дваре, усю грязь ба ні валок зы сабою ў хату. Калі й трошку пазьней апскрябýцца твае боты, нічога зь імі ня зьдзелыіцца, усё дно карелыя.* 2. Абжыцца, пазбыцца беднасці. *Зы пасьледнія ўремя і Мікіцёнычык апскрёбся, крепінька жывець.* **Абскрабаный** *дзеепрым.* Абчышчаны. *Кылі апскрібáна, дык яно і відна, што апскрібáна, а тута ні разу грыблямі ні праведзіна.*

**Абскрабыванне, абскробыванне** *н.* Абскрабанне. *Пасьлі яго апскрябывыньня глядзі, каб адны дзірькі ні асталіся. У сенцых ні апскрёбывыньня, вун выйдзі ны ґанкі і тама скрябіся сколька хочыш.*

**Абскрабываць** *незак.* Абдрапваць. *Ці помніш ты, сколька разоў цябе мáлыга кошка апскрáбывыла, як ты зь ёю балывыўся?* **Абскрабывацца** *незак.* Абдрапвацца. *Штоб січаж жа пірістаў мне апскрáбывыцца, ато пу руках ныдаю і будзіш хныкыць.* **Абскрабаць** *зак.* Абдрапаць. *Дыбáлыісься, што кот усе рукі апскрáбыіць. Айт, пу кустах лез, шчаку апскрáбыў, кроў цякець.* **Абскрабацца**

*зак.* Абдрапацца. *Ну што, кылі дзеці апскра́быліся, ці ета ім упірьвіну́, каб толька ні грязьніліся тады.* **Абскрабаный** *дзеепрым. Учора атвечыра іу́ля́іцца мой гірой, увесь апскра́быный, спрашыю: хто йта цябе так? — маўчыць.*

**Абскрабываць, абскробываць** *незак.* Абскрабаць. *Бочкі дысталі с погріба, ён пыт паветкыю апскря́бывыу́. Нечыга тама апскря́бывыць, станоу́, кіпяток дыстала, січас памыю. Як жа ты апскрёбывыу́, што цеста жывымі кымкамі ляжыць.* **Абскрабывацца, абскробывацца** *незак.* Абскрабацца. *Трошку пычало апскря́бывыцца, толька акуратнінька скрябі. Зь естыга боку апскрёбывыіцца патроху, а тама так прікарела, што хуць зубамі вазьмі і грызі.*

**Абскубаннік** *м.* Той, хто абскубае, скубе. *Ні мішай, найшоу́ся мне апскуба́ньнік, я сыма зьдзелыю.* **Абскубанніца** *ж. Сь цябе у́жо й апскуба́ньніца, па дной пярінкі будзіш дзень вырываць.*

**Абскяпліванне, абскепліванне, абскяпыванне, абскёпыванне** *н.* 1. Абколванне. *Кінь ты етый пень, што йта зы работа апськя́плівыньня, тута нада харошыя кліньня зыгнаць. Ні апця́сывыньня, ні апськеплівыньня тута нічога ні дасьць, палена у́сё паві́тыя, пакрі́у́ліныя, яго ні абработыіш. Апськя́пывыньня — ета толька шчэпкі дзелыць, нада с аднаго боку пытпіліць, крепкій клін — і яно тресьніць на́пыл, а тады ляхчэй пойдзіць. Трудзі́уся, трудзі́уся і у́сё апськёпывыньня тваё прыпала, пычынай на́нызва.* 2. Аскепкі. *Пыдбярі апськя́плівыньня у́ грубычку. Усё апськеплівыньня умясілі у́ грязь. Ныбрау́ бяремца апськя́пывыньня у́ хату. Сыбярі апськёпывыньня, укініцца у́ печ.*

**Абскяпліваць, абскепліваць, абскяпываць, абскёпываць** *незак.* Абколваць. *Я два часы ету калоду апськя́плівыу́, зразу б яе нізашто ні разьбіу́. Нашто табе на шчэпкі апськеплівыць, іна пупыла́м рызаб'ецца, сырая верба колкыя. Сірядзінку у́сё апськя́пывыу́ і апськя́пывыу́, пасьці кончыу́, пасьледній раз дзіу́бануу́, а палка тресь пупыла́м,— во табе й навойчык. Кынчай ты у́жо апськёпывыць, нічога тута ні палучыцца, пірярежыш і у́ печ укініш, уся пакру́чыныя палка.* **Абскяплівацца, абскеплівацца, абскяпывацца, абскёпывацца** *незак.* Абколвацца. *Во так кускамі і будзіць апськя́плівыцца, а што я зьдзелыю, ці мыя змыга́ рыскалоць яе. Лоўка ж у цябе апськеплівыіцца, толька глядзі: сук можыць вылымыцца. Ня то што разьбіцца, іна й апськя́пывыцца ня*

*дужа хочыць, зростык на зростку, паспробый што зьдзелыць. Тую палку дзюўбаў — апськёпывылыся хырашо, а тута пычаў — выкру́чывыіцца ў бок, то туды, то сюды.* **Абскяпіць, абскіпаць** *зак.* Абкалоць. *С краёў пілкыю абрезыў кружка́, а тады са ўсіх бакоў апськяпіў, трошку пыцьцісаў і гатова. Зразу ні расколіцца, апськіпа́й кругом, с аднаго боку саўсім роўна, атколіцца лёхка.* **Абскяпіцца, абскіпацца** *зак.* Абкалоцца. *Не, роўна тут ні апськепіцца, відзіш, як слыя́мі пакру́чына ўсё дзеріва, нада сьцёсывыць. Абськіпа́іцца кружком, а тады і рызаб'ецца, ні нада ірвацца пыдыма́ць, паб'ецца кускамі.* **Абскяпываный, абскёпываный** *дзеепрым. Апськя́пывыных палычык унясі, хваціць прукуріць, ці я дужа ныжарівыць летым буду. Яно відна, што апськёпывыный, толька нехта цюкыў як ні сваімі рукамі, пудзюўбаў і ўсё.* **Абскяпёмшы** *дзеепрысл. Такей пень апськяпёмшы, і аддыхнуць можна.*

**Абсмаргыванне, абсморгыванне** *н.* Абцягванне. *Ат твайго апсма́ргывыньня ірьмяк яшчэ большы зыдзіраіцца. Ці ета яму апсма́ргывыньня ну вуме, ета яму каб толька зычапіць. Харош ты і біз апсморгывыньня, кывалер еткій.*

**Абсмаргываннік, абсморгываннік** *м.* Той, хто абцягвае. *Ты ў мяне глядзі, апсма́ргывыньнік, пу руках апсмаргну́. Ля́ньця вы на етыга апсма́ргывыньніка, што ён дзелыіць.* **Абсмаргыванніца, абсморгыванніца** *ж. Твыя апсма́ргывыньніца адзін край сільна пыцягну́ла, а другей — чуць-чуць і тады атрезыла, і левый бок у кохці пулучыўся кырацейшый. Адна піріда дною стыряюцца апсморгывыньніцы ны вічарінку.*

**Абсмаргываць, абсморгываць** *незак.* 1. Рэзка абцягваць уніз. *Сколька разоў апсма́ргывыў, а рубашка ўсё тапы́ріцца. Қылі пашыта абы-як, дык сколька ні апсморгывый, будзіць быраною тарчэць.* 2. Сашморгваць. *Ці ты ня відзіш: нехта апсма́ргывыў авёс, голыя аўсіны стыяць. Трошку стручкі апсморгывыіць і есьць.* **Абсмаргывацца, абсморгывацца** *незак.* Абцягвацца. *Пашылі мне тады шубычку, роілым стаіць, ні апсма́ргывыіцца, дайжа ныдзівацць стыдна було. Скарей апсморгывыйся, тама ждуць.* **Абсмаргнуць** *зак.* 1. Рэзка абцягнуць уніз. *Апсмаргні спадніцу райней, сьперіду апусьцілыся, а ззадзі ўверьх пыднілася.* 2. Сашморгнуць. *Апсмаргнець нескылька аўсін і ў кырман, у кырман.* **Абсмаргнуцца** *зак.* Абцягнуцца. *Апсмаргніся, у цябе вун падол зыдраўся.*

*Зашпіліцца, прігла́дзіцца, апсмаргнецца, дык і ны чылавека троху пахожа становіцца.*

**Абсмяханне, абсміхыванне** *н.* Высмейванне. *Ніхто іхныга апсьміха́ньня ні прізнаець, ніхай самі ныц сабою пысьмяюцца. Дужа некыму важна ета апсьміха́ньня. Ня дужа хто Коліныга апсьміхывыньня спужаўся, ніхай ён луччы сябе прысьміха́іць.*

**Абсмяханнік, абсміхываннік** *м.* Той, хто высмейвае, насмешнік. *Я б тых апсьміха́ньнікыў жыва б палкыю с хаты путуріла, у мяне б яны ныска́лілі зубы. Вы луччы насы наўчыціся выціраць самі сабе, апсьміхывыньнікі, а тады сьміяцца будзіця ныц старшымі.* **Абсмяханніца, абсміхыванніца** *ж. Вы такея ўжо найшліся апсьміха́ньніцы, вас саміх так прысьмяюць, што толька круціцца будзіця і ні найдзіця места, куды вочы дзець. Узяў ба етых апсьміхывыньніц ды тряпкыю пы вычах, пы вычах, во тады б яны пысьміяліся і другім ба сьміяцца зыкызалі.*

**Абсмяхаць, абсміхываць** *незак.* Абсмейваць, высмейваць. *Хвіччанок другіх апсьміха́ць дужа любіць, а як ныц самім пысьміяліся, ні пыныра́віłыся. А вы сваю цётку апсьміхывыйця, іна вас дужа красівыму вучыць, дык і пасьмейціся. Нечыга апсьміхывыць другіх, зы сабою нада пыглядзець хырашо.*

**Абсмяяцца** *зак.* Насмяяцца звыш меры. *Ты толька ні апсьмейся глядзі, ато посьлі такога сьмеху сьлёзы бываюць. Усе былі апсьміяліся, пряма пыклыда́ліся с хохыту, як ён стаў чудзіць.*

**Абстаўлянне** *н. перан. жарг.* Перавага, пераўзыходжанне. *Ці хто ні знаіць, якоя ў цябе апстыўля́ньня, цябе ма́лый абвядзець кругом пальца, і ты будзіш рот разінуўшы стыяць.*

**Абстаўляннік** *м.* 1. Той, хто абстаўляе вакол чаго-н. слупкі, снапы і інш. *Якей зь яго ішчэ апстыўля́ньнік, дзіцёнык, ён ставіць, а пінька́ ўсьлед ляціць.* 2 *перан. жарг.* Той, хто дабіваецца перавагі. *Нешта пашлі апстыўля́ньнікі насы павесіўшы, ім мазкі зукруцілі як глумука́м якім.* **Абстаўлянніца** *ж.* 1. Тая, што абстаўляе вакол чаго-н. слупкі, снапы і інш. *Глядзі, апстыўля́ньніца, тваё гырадджэньня січас пыляціць.* 2. Тая, што дабіваецца перавагі. *Вот табе і другая ныйшлася апстыўля́ньніца, кругом цябе абвядуць.*

**Абстраваць** *незак.* Рашуча заступацца. *Зы яго дужа ні було каму апстріва́ць.* **Абстраць** *зак.* Рашуча засту-

піцца. *Усе людзі як апстря́лі зу Купчанкоў, дык зразу апстоілі.*

**Абстраміцца** *зак.* Выставіць сябе на сорам. *Адж жаднысьці апстраміліся, цяперя і самі каюцца: ні нада було нам с тым сеным чыпа́цца.* **Абстрамлены** *дзеепрым. Апстра́мліный, зыпаску́джыный і ходзіць худзь ба што, яму ўсё як ап сьценку гарох.* **Абстрамёмшы** *дзеепрысл. Цяперя іна на ўвесь век апстрамёмшы, путнэй хлопіц ны яе і ні гляніць.*

**Абстроіванне** *н.* Узвядзенне ўсіх неабходных гаспадарчых будынкаў. *Січас то двор харошый, ну хваціла ім вазьні с апстроівыньнім, ім нічога само ні прішло ў рукі. Нашто мне тоя апстроівыньня, пу́нчына кыравёнкі ёсьць і ладна, ета раншы ўсё глядзелі, каб абізацільна круглый двор узьвесьць.*

**Абстроіваць** *незак.* Узводзіць усе неабходныя гаспадарчыя будынкі. *Ты зірні-ка, якей дваро́гу Зьмітрок апстроівыіць, верна, сотык на восім зыняў.* **Абстроівацца** *незак.* Забудоўвацца, узводзіць усе неабходныя гаспадарчыя будынкі. *Думыюць яны быгата апстроівыцца, толька ныўряд ці палучыцца што ў іх. Да-а, яны ні зіваюць, быйстра апстроівыюцца, ня то што ты ўсё толька рузмунды́кывыіш.*

**Абстругываннік** *м.* Той, хто абстругвае. *Я січас дам етым апстру́гывыньнікым, пальцы пыпарежуць, тады гусьць будуць.* **Абстругыванніца** *ж. Пылажы-ка ты нож, апстру́гывыньніца, ні парезыла пальцый, дык парежыш.*

**Абстрыганнік** *м.* Той, хто абстрыгае. *Ну, ты ўзяўся, апстрыга́ньнік, пат первый номір, кінь ужо яму нібальшэнькій чубок, кінь, ніхай ня хліпыіць.* **Абстрыганніца** *ж. Рідáмі пызрізáла, пызрізала, як айцу, ну й апстрыга́ньніца.*

**Абстрыкаць** *зак.* Апячы крапівой. *Злаўлю і крапівыю апстрыка́ю, я цябе ныба́лыюся.* **Абстрыкацца** *зак.* Апячыся крапівой. *Палезьлі зы жавіныммі, яны сьпелыя, смашныя, ну так жа апстрыка́ліся!* **Абстрыканый** *дзеепрым. Апстрыка́ныя дужа чэшыцца, пряма хочыцца рызыдраць кожу.*

**Абстрэшыванне** *н.* 1. Заснаванне ніжняй часткі саламянай страхі. *Не, мае дырагенькія, нада брацца зы апстрешывыньня, само нічога ня зьдзелыіцца.* 2. Снапкі для заснавання ніжняй часткі саламянай страхі. *Апстрешывыньня гатова — і паплецінкі нацёсыны, і за́кулькі занёс, пыра пычынаць.*

**Абстрэшываннік** *м.* Той, хто засноўвае ніжнюю частку саламянай страхі. *Ну во, апстрешывыньнік, калі ён пычаў стряшыць, пры яго і скажуць апстрешывыньнік, а цяперя ўжо ня стрешуць, шыхвірым крыюць, і саломы німа прямэя.*

**Абстрэшываць** *незак.* Засноўваць ніжнюю частку саламянай страхі. *Пычынайці-ка вы апстрешывыць пуню, ато пакуля нахлынкыіціся, дык і некылі будзіць лезьць. Калі апстрешывыіш, глядзі, каб роўнінька пулучалыся, каб ні тарчэлі закулькі адзін вышы, другей ніжы.* **Абстрэшывацца** *незак.* Засноўвацца (пра ніжнюю частку саламянай страхі). *Што, само ні апстрешывыіцца, а рукі ты пыкалоць баісься, ну што ж, страшна — ні страшна, а прідзіцца неік брацца.* **Абстрашыць** *зак.* Заснаваць ніжнюю частку саламянай страхі. *Як апстрешыш, тады вісялей работа дзьвігыіцца. Хату мы хырашо апстряшылі ды замырызкыў, а с пунію спазьніліся.* **Абстрашыцца** *зак.* Заснавацца (пра ніжнюю частку саламянай страхі). *Не, само ні апстряшыцца, нада лесьвіцу ставіць, несьць прівізкі, закулькі цігаць. У мяне ўремя церьпіць, калі апстрешыцца, тады й ладна.* **Абстрэшаный, абстрашоный** *дзеепрым. Хуць апстрешыныя, я і то ўжо рада, трошку ж пычынаіцца работа. Сьнегу як ываліць ны тваю апстряшоныю пуню, і зызімуіць нінакрытыя.* **Абстрашомшы** *дзеепрысл. Што толку, што апстряшомшы, а калі ты крыць яе пычанеш.*

**Абступіцца** *зак.* Аступіцца, нязручна ступіць. *Апступіўся і нагу чуць ні пыдвярнуў, баліць цяперя. Другей раз апступісься, дык ны адной наге папрыгыіш.*

**Абсяканнік** *м.* Той, хто абсякае. *Тута апсіканьніку і дзелыць нечыга, уся сысна голыя.* **Абсяканніца** *ж. Во апсіканьніца, тыпаром мыхаіць ня хужы мушчыны.*

**Абтаптыванне** *н.* Абтоптванне. *Тута аптаптывыньня ні паможыць, нада брацьлупату ды рыськідаць сьнег хырашэнічка. Аптаптывыньня — што, нада аптоўч, утрумбуваць.*

**Абтачыцца** *зак. перан. гумар.* Абжыцца. *Во табе і Сьвірідзёнык, апачыўся, што ніхто зь ім ня згоніцца. Кылі будуць галовымі думыць, апточуцца — абжывуцца, хызяйства троху прідбаюць, чорт іх ня возьміць.*

**Абтопыванне** *н.* 1. Абтоптванне. *Ідзі ты ат'етуль с такім аптопывыньнім, ні мішай.* 2. Абтрасанне топаннем. *Ну й ідуць, грюкыту надзелылі с аптопывыньнім, што ў вушах зьвініць.*

**Абтопываннік** *м.* 1. Той, хто абтоптвае. *Ну-ка, ну, аптопывыньнік, топні крянчэй, тута зімля рыхлыя, утопчыцца.* 2. Той, хто атрасае топаючы. *Тваім аптопывыньнікым каб толька пудурачыцца.* **Аптопыванніца** *ж.* Тая, што атрасае топаючы. *Вазьмі венік, аптопывыньніца, ды абмяці ногі.*

**Абтопываць** *незак.* 1. Абтоптваць. *Вы як возьміціся аптопывыць, дык ныгамі увесь сьнег шчы́сьціця.* 2. Атрасаць топаючы. *Ета яны ногі аптопывыюць — грюкочуць так, я ж прікызала, каб мыкрыцьця́ ў хату ні нына́шывылі.* **Абтопывацца** *незак.* 1. Абтоптвацца. *У цябе кылы самыя сьценкі ні аптопывыіцца, як сыпну́та зімля, так і ляжыць.* 2. Атрасацца топаннем. *Хырашэнька стукні, дык будзіць аптопывыцца, сьнег ня ўдзержыцца.* 3 *перан. гумар.* Прывыкаць гаспадарыць. *Доўга ты аптопывыісься ў мужука, ны сьвякроўку ўсё надзеісься.* **Абтопаць** *зак.* 1. Абтаптаць. *Усюдых нада думыць, во сасну зываліць простыя дзела, а й тут сьнег аптопый, каб ніжы зрезыць можна було.* 2. Абтрэсці топаючы. *Ні нясі сьнегу ў хату, аптопый ногі ны ґанкых. Грязь — ета табе ня сьнег, ня дужа аптопыіш.* **Абтопацца** *зак.* 1. Абтаптацца. *Каб аптопылыся, луччы було б стаць, чым у сьнягу мясіцца.* 2. Абтрэсціся топаннем. *Хуць нямножка аптопыйся, ня прі зы сабою сьнег у хату, мыкрыцішчы ня дзелый.* 3. Прывыкнуць гаспадарыць. *Ну як, ці аптопылыся ты ў Кузьмовый хаці? Во прігледзься, як ста́рыя дзелыіць, і ты аптопыісься.* **Абтопаный** *дзеепрым.* 1. Абтаптаны. *Кругом асіны аптопына, стынавіціся резыць.* 2. Абтрэсены топаннем. *Вот і к пырядку прівукаіш, віджу, і ва́лінычкі ў цябе аптопыныя.*

**Абторкыванне** *н.* 1. Абтыканне, затыканне дзірак. *Калі ўжо сыгніло, ніякыя апторкывыньня ні паможыць, нада новыю пуню ставіць.* 2. Матэрыял для абтыкання. *Роілым тарчыць апторкывыньня ува ўсе бакі. Пувудува́ў веціp усё апторкывыньня, сьвішчыць у пуні кругом.*

**Абторкываннік** *м.* Той, хто абтыкае, затыкае дзіркі. *Ён такей апторкывыньнік: січас зыгаріцца, кажыцца, усё падзелыіць, а цірізь мінуту кінуў і пашоў,— во якей зь яго работнік.* **Абторкыванніца** *ж. Глядзі, апторкывыньніца, ні зьляці, лесьвічка слабінька стаіць, паедзіць — і ты ля́сьнісься ны паленьня.*

**Абторкываць, абтаркываць** *незак.* Абтыкаць, затыкаць дзіркі. *Апторкывый пацстрешша: зугудзець, зымяцець — скот пыкалеіць. Горька нада гарох апторкывыць:*

*ляжыць кріцыю і згніець, ні стручка ня будзіць. Аптаркывый і пыкідáў дзірькі, наскрозь пуня сьвіціцца.* **Абторкывацца, абтаркывацца** *незак.* Абтыкацца, затыкаць дзіркі. *Скора задмець, нада апторкывыцца. Нешта ў цябе дренна высыдкі аптáркывыюцца.* **Абторкаць, абторкнуць** *зак.* Абаткнуць, заткнуць дзіркі. *Худзь ба нямнога пуню апторкыць нада, пынымяцець сьнегу, тады чы́сьціся зь ім. Абізацільна апторкый высыдкі, ато зывалюцца і прыпадуць, апторкый палычкымі і пыпрівя́зывый. Нада було б хуць пруцьцім якім ат поля апторкнуць, сьнегу б ні так нымітала.* **Абторкацца, абторнуцца** *зак.* Абаткнуцца, заткнуць дзіркі. *Ну ня кончыш сяньня, заўтря твае сенцы апторкыюцца, нічога зь імі ня зьдзелыіцца. Апторкыўся кійкамі і коціць у хату. Апторкылыся цьвітамі, уся гылыва жоўцінькыя як вяночык. Ідзі дзелый, як апторніцца, так і ладна, худзь ба сьнегу ні нудувáла.* **Абторкываный, абторканый, абторнутый, абторкнутый** *дзеепрым. У мяне работы па горла: нада бульбу дыпірібірáць, гряды ішчэ ня ўсе вы́брыны, пуня ні апторкывына, хуць рызарьвіся с адныммі рукамі. Каб і сяніца была апторкына троху, хужы ні було б, ні вымітаў ба цэлыю зіму. У апторнутыя пацстрешша сьнегу ні нынясець. Гарох трошку апторнут, ну там нада було вісачэйшыя пруціны уваткнуць. У яго ўсё абгледжына, апторкнута, пы-хызяйску зьдзелына.*

**Абтрасаннік** *м.* Той, хто абтрасае. *Січас другей аптрісáньнік як пацскочыць, яны што хочыш вытрісуць.* **Абтрасанніца** *ж. Ты ж мокрымі рукамі ні вазі пы плічах, аптрісáньніца.*

**Абтрасыванне** *н.* Абтрасанне. *Ты акуратней с аптря́сывыньнім, у посыд нічога ні насып.*

**Абтрасываць** *незак.* Абтрасаць. *Яны кажный год ігрушкі аптря́сывыюць раншы мяне. Ну што ты грязь у хаці аптря́сывыіш?* **Абтрасывацца** *незак.* Абтрасацца. *Пашлі аптря́сывыцца пыт паветку.*

**Абтрушываць** *незак.* 1. Абтрасаць. *Нашу яблыну крайнію нехта аптру́шывыіць, усё меншы і меншы яблык, і кажныю ноч сьляды сьвежыя.* 2. Абсыпаць, пасыпаць. *Калі пырысяты ні дыядуць, я аптру́шывыю мукою, тады ўсё як падмыюць.* **Абтрушывацца** *незак.* Абтрасацца. *Што я буду аптру́шывыцца, січас узной у пыль лезьць.* **Абтрусіць, абтрухнуць** *зак.* 1. Абтрэсці. *Пінжачок зьнімі дый аптрусі, ён увесь у апілкых. Яблынку б нада аптрухну́ць ды вы́сыпыць ны хату, марозік ціскане́ць і папор-*

*ціць, яны яблыкі дужа дылікатнінькія.* 2. Абсыпаць, пасыпаць. *Саломыю аптрусілі і ні пызнáіш, ці былі там якея сьляды. Як аптрухнеш мукою, тады есьць, а так носым рыіць.* **Абтрусіцца, абтрухнуцца** *зак.* Абтрэсціся. *Аптрусíся ны дваре, ці ты ў сенцых будзіш тресца ай у хату ўсю грязь пынясеш. Табе тожа нада аптрухнýцца, пы плічах пыль пряма слоім ляжы́ць. Трошку аптрухнýўся, можа, айдзе што й астáлыся.* **Абтрушаный, абтрухнутый** *дзеепрым.* 1. Абтрэсены. *Аптрýшыныю адзежу ў хату нясі. Я тріханý, а ты аптрухнýтыя яблыкі сыбярі ў дзьве карзінкі, хужэйшыя карові пареж, а лаýчэйшыя есьць будзім.* 2. Абсыпаны, пасыпаны. *Сена аптрýшына саломыю, ну хырашо заметна, што сена. Трыва сьняжком аптрýшына, дык сьлед ладна відзін. Пáня былььшая твыя карова стала, ужо і аптрýшыныя мукою сечкі есьць ня хочыць, мордыю круціць.* **Абтрусёмшы** *дзеепрысл.* 1. Абтросшы. *Я ўсё вымыла, зыхадзі ў хату, толька хырашо аптрусёмшы пыл.* 2. Абсыпаўшы, пасыпаўшы. *Аптрусёмшы мукою, пырысяткі усё пыядуць.*

**Абтрылюдзіць** *зак. неадабр.* Абгаварыць. *Тэя куклы і аптрілю́дзілі, сідзяць дзень прі дні, чаго ж ім ні выдýмывыць.*

**Абтрэсца** *зак.* 1. Абтрэсціся. *Выйдзі аптрясíся, ны табе мякіны ляжыць нівісь сколька. Гані карову, ігруша і пазьней аптрясецца, а табун будзіш дзьве вярсты дыгыня́ць.* 2 *перан.* Пазбавіцца беднасці, нягод. *Антоніхін сын ладна аптрёсься, зырыбáтыіць многа, хызяйства крепкыя.*

**Абтушыць** *зак.* Абсмажыць, запячы з розных бакоў. *Бальшы́мі кускамі аптушы́ мяса, а тады ны тарелычкі пареж, іс сылатым яно будзіць хырашо.* **Абтушыцца** *зак.* Абсмажыцца, запячыся з розных бакоў. *Дужа бальшымі кускамі ні кладзі: кругом аптýшыцца, а ўсярёдку можыць быць сурувáта.*

**Абтыканнік** *м.* Той, хто абтыкае. *Нечыга скызаць, харошый аптыкáньнік, каб такея памошнічкі часта сеіліся, ды редка ўсхадзілі: гарелку выпіў і пашоў.* **Абтыканніца** *ж. Зь мяне ізьвесныя аптыкáньніца: узьлезу па лесьвічкі і хочыш — уніз пылячу.*

**Абтынянне, абтыніванне** *н.* 1. Умацаванне сценак пограба, сажалкі плашкамі. *Сяньня вы ладна пыработылі, посьлі аптыня́ньня можна і аддыхнуць. Ну як, ці быляць рукі посьлі апты́нівыньня?* 2. Матэрыял для абтынянне. *Дысталі іс сажылкі стáрыя аптыня́ньня, зьверьху пыгні-*

*ло, а ўнізу ішчэ дзяржыцца, пацсохніць — дровы будуць. Путрупехла аптынівыньня, ажно лумаіцца, дайжа піріпіліць нілізя.*

**Абтыняць, абтыніваць** *незак.* Умацоўваць сценкі пограба, сажалкі плашкамі. *У нас редка хто аптыняў погріб, зімля тута цьвёрдыя, ні апсыпаіцца, ета айдзе пясочык, там ні дзяржыцца. Андряёнык і на хутырі сажылкі аптынівыў, сьпірва адну выкыпыў, аптыніў, а тады другую.* **Абтыняцца, абтыніващца** *незак.* Умацоўвацца плашкамі (пра сценкі пограба, сажалкі). *Ды я віджу, як у цябе аптыняіцца, адна палка ўкрій, а другая ўкось, у такея дзірькі ня то што мыш, а й лісіца, кылі падрыіцца, улезіць. Ну нашто пыгрябы аптынівыліся? — каб чысьцей було, каб ня сыпылыся са сьценык, харошый хызяін дывядзець усё як яечка, у такім погрібі хуць жыві.* **Абтыніць** *зак.* Умацаваць сценкі пограба, сажалкі плашкамі. *Мой дзед, помню, сажылку як аптыніў, дык іна, верна, гадоў підзьдзісят стыяла, трошку пачысьціць і ўсё ў ёй выда дзяржыцца і дзяржыцца, пяньку кажный год мачыў. Погріб аптыніць хырашо, ня сыпіцца са сьцен, мышы ні так вядуцца, у ім тады ўсігда акуратна.* **Абтыніцца** *зак.* Умацавацца плашкамі (пра сценкі пограба, сажалкі). *Ці я буду ціряшчур дывадзіць, як аптыніцца, так і ладна, усё апсыпацца ня будуць сьценкі, бульба цалейшыя будзіць.* **Абтыняный, абтыненый** *дзеепрым. Погріб ішчэ ні аптынян, ну я плашык харошых прігатовіў: сухей дуб пупылам руспусьціў, веку ня будзіць. У Зьмітрыка ямка ў хаці пыд мастом была аптыніныя сасновымі доскымі, дужа смольныя былі доскі.* **Абтынёмшы** *дзеепрысл. Аптынёмшы погріб луччы б дзіржаўся. Ета дужа даўно ны Пыдгародзьдзі нескылька сажылык былі аптынёмшы.*

**Абуванне** *н.* 1. Абутак. *Прусушыці-ка вы сваё абуваньня, і валінкі, і сыпагі ны загнет можна пыкласьць, а чулкі і анучы ў пячурку. Г зіме нада думыць пры цяплейшыя абуваньня.* 2 *перан. жарг.* Падманванне. *Твайго абуваньня яшчэ ніхто ні спужаўся.*

**Абуваннік** *м.* 1. Той, хто абувае, абуваецца. *Ты скарей, абуваньнік, шывяліся, ато ўсе пашлі.* 2 *перан. жарг.* Падманшчык. *Такіх абуваньнікыў ішчэ саміх падбуюць, што яны й агляпуцца ні пасьпеюць.* **Абуванніца** *ж.* Тая, што абувае, абуваецца. *Доўга абуваньніцы капошуцца, скарей нада.*

**Абуездка** *ж.* Аб’езд. *Дарога саўсім разьбіта і абуезд-*

*ка уся ны кареньніх, духі вытрісаіць. Памянш.* **абуездачка.** *Ны Зяціцкый дарогі лі Дзедывыя амшары была абуездычка, а троху дальшы другая.*

**Абхадзіцца** *незак.* Пракручвацца і зрывацца (пра механізм замка, пра разьбу). *Замок дужа апходзіцца, круціш, круціш, пакуль замкнеш, нымардýісься. Відна, різьба сырвáлыся, гайка апходзіцца, ня будзіць дзіржаць.*

**Абхахатаць** *зак. экспр.* Асмяяць. *Самі сябе апхыхаýцця, кылі вы разумныя такея, а мы што знаім — ета мы знаім, а ня вы.* **Абхахатацца** *зак.* Насмяяцца звыш меры. *Сярьгей-барін як станіць чудзíць, усе, бувала, апхахочуцца, ён дужа чудак быў. Мы ўсе былі апхыхытáліся, як Сямён стаў рысказывыць пры Мікітывы прадзелкі.* **Абхахатаный** *дзеепрым. Апсьміяный, апхыхытáный, як табе ня стыдна людзям на вочы пыказывыцца, хто ня ўвідзіць і спрáшыіць: ці ета тэй, што курям голывы аткручывыў?*

**Абхлынкаць** *зак. неадабр.* Абшвэндаць. *Ты яго жджы, пакуля ён апхлы́нкыіць Лібісы, тады яшчэ куды-небудзь яму захочыцца,— тута толька што ёсьць урэмя расьседжывыцца, ждаць.*

**Абхныкываць** *незак.* Абыходзіць без мэты розныя куткі. *У сенцых усё абгледзіць, зайдзіць у пуню, будзіць вугалкі апхны́кывыць, ну я атучу яго ат етыя дурацкія прівычкі.* **Абхныкаць** *зак.* Абысці шукаючы, без мэты, без сэнсу. *Дзелыць нечыга дзень прі дні, пойдзіць, лес апхны́кыіць, пы былыщаку пройдзіць, лі сасоньнічку пыстаіць.* **Абхныканый** *дзеепрым. Толька зайшоў, дык пыняў, што тута ўсё апхны́кына.*

**Абціраннік** *м.* Той, хто абцірае. *Толька расквэцыў большы, апцірáньнік, ці так жа дзелыюць.* **Абціранніца** *ж. Січас другая апцірáньніца возьміцца, зушуміць дзела.*

**Абцісканнік** *м.* Той, хто абціскае. *Твой апціскáньнік ні апцісьніць, а толька саб'ець увесь край у сені.* **Абцісканніца** *ж. Дужа ня ёрзыйця, апціскáньніцы, ні зьбівайця салому ўніз.*

**Абцюкыванне** *н.* Абсяканне лёгкімі ўзмахамі сякеры. *Толька што апцю́кывыньня, тута сіканyць нечыга.*

**Абцюкываць** *незак.* Абсякаць лёгкімі ўзмахамі сякеры. *Старэй нейдзі за пунію паплецінкі апцю́кывыіць, а посьлі заўтріка сыбіраўся іціць аборкі апкáшывыць.* **Абцюкывацца** *незак.* Абсякацца лёгкімі ўзмахамі сякеры. *Калі трошку апцю́кывыіцца, і дзяўбі, толька нагі ні пыц-*

*стыўляй.* **Абцюкаць** *зак.* Абсячы лёгкімі ўзмахамі сякеры. *Сьцены нада пыткынытпáціць, а тады апцю́кыць мох, каторый астаўся, вісіць.* **Абцюкацца** *зак.* Абсячыся лёгкімі ўзмахамі сякеры. *Там работы нямнога, на той нядзелі кусьцікі апцю́кыюцца.* **Абцюканый** *дзеепрым.* *Ня йдзі, там усё апцюкына, нечыга табе дзелыць.*

**Абцяпыванне** *н.* 1. Абы-якое абсяканне. *Во сякець! — ні нада мне такоя апця́пывыньня, ні хачу я ны яго глядзець.* 2 *перан.* Уладкоўванне (справы). *Ня дужа надзейся ны Ірмылаіва апця́пывыньня, ён раз-два можыць падвесьць.*

**Абцясыванне** *н.* 1. Абчэсванне. *Зразу крівоя апця́сывыньня пычынаіцца, так ты можыш кругом пыласу прыгнаць.* 2 *перан. экспр.* Прывіванне культурных звычак, выхаванне. *Ны яго нада ні такоя апця́сывыньня.*

**Абцясываннік** *м.* Той, хто абчэсвае. *Мой апця́сывыньнік дудурáчыўся: тапор ну сучку сыскачыў ды па костычкі, сядзіць зь лялькыю.* **Абцясываннiца** *ж.* *Ты німала нацешыш, апця́сывыньніца, пылажы луччы тапор ды сядзь.*

**Абцясываць** *незак.* 1. Абчэсваць. *Апця́сывыў-апця́сывыў бірнушко, мáсьліў-мáсьліў, ды тыпаром пы наге. Нечыга тут апця́сывыць, зыгыняй так.* 2 *перан. экспр.* Прывіваць культурныя звычкі, выхоўваць. *Многа вас ішчэ нада апця́сывыць.* **Абцясывацца** *незак.* 1. Абчэсвацца. *Тапор туп, таго й ні апця́сывыіцца, каб войстрый, тут ба ну пуўчыса работы ета кольля пыцісаць.* 2. Набываць культурныя звычкі, выхоўвацца. *Апця́сывыюцца хлопцы патроху, культурнейшыя сталі.* **Абцясаць** *зак.* 1. Абчасаць. *Шýльля ён дужа сьпецна апцісáў, усё зьдзелыў як пуч шнурочык.* 2. Прывіць культурныя звычкі, выхаваць. *Пу людзях пойдзіць, то патроху апцешуць, ні такім будзіць, як січас.* **Абцясацца** *зак.* 1. Абчасацца. *Ніхай троху пылячжыць, пазьней апцешыцца, карыта табе ня к сьпеху дзелыць.* 2. Набыць культурныя звычкі, зрабіцца выхаваным. *Ты лянь-ка, як Пархвеніхін сын апцісáўся, дайжа шапку зьдзіваіць піряць цёткыю.* **Абцясываный, абцясаный, абцёсаный** *дзеепрым.* 1. Абчасаны. *Там ладныя кылячкі ліжалі апця́сывыныя, а вы іх, знаць, у печ парезылі. Апцісáный паплёт я склаў адзьдзельна. Ён зразу апцёсыныга лесу купіў. Шульля апцёсына, што табе ішчэ нада.* 2. З культурнымі звычкамі, выхаваны. *Ня дужа відна, што апця́сывыный, у шляпі, а мыцірікі верніць. Не, мала ён яшчэ апцісáн, яго нада дрáіць ды драіць, пакуля*

*зь яго чылавек выйдзіць. Ай, гывcovers ты мне, апцёсы-ный,— якей быў хамуйла, такей і астаўся.*

**Абчоскі** *мн.* Пачассе. *Я склыдаю апчоскі у карзінычку, мала айдзе апторнуць нада, узяў і забіў дзірічку. Памянш.* **абчосачкі.** *Апчосычкі ў мяне пасьці ўсігда ёсьць, ета во січас рызыйшліся неік.* **Абчоссе** *н. зб. Мы апчосься дужа ні бірягём, пользы зь яго мала, заткну́ць толька што-небудзь. Некытырыя прядуць апчосься ны пасьцілкі, як хлыпя́нка пулучаіцца.*

**Абчосываннік, абчэсываннік** *м.* Той, хто чэша. *Такей апчосывыньнік усю шэрсьць пывырыва́іць ш шубы. Ета работа твайго апчэсывыньніка, ён усё з грябёнкыю насіўся.* **Абчосыванніца, абчэсыванніца** *ж. Наша апчосывыньніца ўзілася зы пряжу, лёну нычысала, мы́чык намы́кыла, кросны пыд вясну будуць. Дужа даўно ты возісься, апчэсывыньніца, нада вісялей шывяліцца.*

**Абчыканеный** *дзеепрым. жарт.* 1. Абрэзаны. *Тута махры́ віселі, ды гляджу, ужо апчыка́ніны: ма́лый пыхызяйнічыў.* 2. Абстрыжаны. *Пушубуцеў Міця, апчыка́ніный ходзіць, як месік бліщчыць.*

**Абчышчываць** *незак.* 1. Абчышчаць. *Нечыга грязь у хаці апчы́шчывыць, выйдзі на двор і чысьці сколька хочыш.* 2 *перан.* Абкрадаць. *Быў злудзюга́н, апчы́шчывыў клеці, людзкоя сальца дужа любіў. У наз ба яму так апчы́шчывыць пуні ні далі.* **Абчышчывацца, абчышчацца** *незак.* 1. Абчышчацца. *Сколька хочыш апчы́шчывыйся, а штоб грязным такім ня лез сюда.* 2 *перан.* Пачынаць жыць лепш, набываць прыстойны выгляд. *Айдзе ж ён будзіць апчы́шчывыцца, кылі друзья с пуця зьбіваюць. Пыра б табе апчышча́цца пычынаць, ці ты зломык сена ныгатовіць карові, пуню якую пріпя́ць.*

**Абшалудзівіць, абшалудзіць** *зак.* Закарэць, заняпасці. *Апусьцілыся, ні глядзіць зы сабою, во чаго апшулудзівіла. У цябе ёсьць каму прігледзіць, цябе ні апшулудзівіць, ты разумін. Апшулудзіла маіх са́льнікыў, як мышыняты пішчаць у гнязьдзе.* **Абшалудзівіцца, абшалудзіцца** *зак.* 1. Закарэць, заняпасці. *Пырасёнка пачысьціць ба нада, пу́ньку прібраць, пыдыслаць чысьцінька, ён ба так і ні апшулудзівіўся. Нешта вы саўсім апшулудзівіліся, усё дно як жыць на сьвеці ні зьбіраіціся. Апшулудзіўся, што ны чылавека ні пахож стаў хызяін етый, зь дзества ні прівучын ні к я́кыму дзелу.* 2 *перан. іран.* Абжыцца, прыдбаць для гонару. *Зы два гады апшулудзівіліся! Ты богу ні гряшы, хлопцы тваё апшулудзіліся, нічога жывуць,*

*а ґ дачке возьміш зяця і будзіш дыжываць.* **Абшалудзіўленый** *дзеепрым. Я б такіх апшулудзіўліных пырысят дайжа б на двор ні хацела. Нейкій ён стаў апшулудзіўліный, ці ён сам сябе дагледзіць ня можыць.* **Абшалудзёмшы** *дзеепрым.* 1. Закарэўшы, заняпаўшы. *Такіх сáльнікыў' мне ні нада апшулудзёмшы, зь еткіх сала ні дажджэсься.* 2. Абжыўшыся, прыдбаўшы для гонару. *Апшулудзёмшы, пычаў зыдзірацъ нос угору.*

**Абшалушыванне** *н.* 1. Ачыстка ад шалупіння. *Посьлі апшалýшывыньня рукі памыць нада, тама зямлі многа. Ныдаела тваё апшалýшывыньня, як дзень, так і бяріся зы адно й тоя.* 2. Ачысткі. *Куча апшалýшывыньня, у пуню вы́сып, у гной.*

**Абшалушываннік** *м.* Той, хто ачышчае ад шалупіння. *Сь цябе ніплахей апшалýшывыньнік, ныд адною цыбуліныю будзіш пуўчыса кулупацца.* **Абшалушываніца** *ж. Сідзяць апшалýшывыньніцы, галоў за кучыю ня відна.*

**Абшалушываць, абшалушаць** *незак.* Ачышчаць ад шалупіння. *Ці цябе ўжо цыбулю апшалýшывыць учыць нада, ты яе патрі, патрі хырашэнька, шулуха ета і зьлезіць. Каноплі труць — усё дно як апшулушáюць, і зірняты высыпаюцца, і мякіна ўмесьці сыпліцца.* **Абшалушывацца, абшалушацца** *незак.* 1. Ачышчацца ад шалупіння. *Ну як жа ні апшалýшывыіцца, кылі іна саўсім сухая, ты скажы праўду, што табе брацца ня хочыцца, у цябе саўсім другоя на ўме.* 2. Лушчыцца (пра скуру). *Ліцо як пасевіріiць, кожа апшулушáіцца.* **Абшалушыць** *зак.* Ачысціць ад шалупіння. *Цыбуля як каторыя, адну апшулушы́ш зы мінуту, а другая саўсім ні шулушы́цца.* **Абшалушыцца** *зак.* 1. Ачысціцца ад шалупіння. *Цыбулю нада вырвыць і ў пуні ссы́пыць редзінька, іна пыляжыць, высыхніць і апшулушы́цца.* 2. Палушчыцца (пра скуру). *Кожа ну руках апшулушы́лыся, ажно нікрасівыя сталі, ета во што пасевірілі ны марозі.* **Абшалушаный, абшалушоный** *дзеепрым. Вяжуць апшалýшыныю цыбулю, пірібяруць і вяжуць. Апшулушоныю квасолю пірясып з решыта ў цёрлічка, там яе ні так многа, ета луччыя, ніхай на семя астаецца. Нядзелі дзьве як пыбылі кажын дзень на ветрі, ны марозі, пріехылі — шчокі апшалýшыныя, губы патрескылі, відна, што ладна пыработылі. Посьлі рожы кожа кругом пятном апшулушоныя.* **Абшалушомшы** *дзеепрысл. Апшулушомшы, зразу вяжы цыбульку і пляці ў пляцёнку. І рукі, і ліцо апшулушомшы, ны марозі ды яшчэ зь ветрым усігда так буваіць.*

**Абшара** *ж.* Абшар. *Такую апша́ру засеілі пышаніцыю, во, кылі пад год, будзіць хлеба. Быльшая апша́ра ніўбіра́ныга, што наш брігадзір сам сабе думыіць!*

**Абшарахываць** *незак.* Абшмульваць, запэцкваць. *Хворысьця вазілі, чыпля́лыся, і ўсё апшыра́хывылі. Ні нада стол апшыра́хывыць, зьдзелыіш яго нікчомным.* **Абшарахывацца** *незак.* Абшмульвацца, запэцквацца. *Аткладзі адзёжу дальшы ці пасунь к сьценкі, тут іна апшыра́хывыіцца і грязьніцца.* **Абшарахаць** *зак.* Абшмуляць, запэцкаць. *Настолька апшыра́хылі сьцяну ат варот, яе ні атмыіш, ні ацскрябеш, хуць бярі ды цяшы. Кыла посыду апшырахыіш рукавы́, толька мый усьлед.* **Абшарахацца** *зак.* Абшмуляцца, запэцкацца. *Відзіш, як ты апшыра́хыўся, увесь бок задзелын. Акура́тній лазь, тута апшыра́хыцца нядоўга.* **Абшараханый** *дзеепрым. Дзьвері вы́мызыныя ў нейкыя цеста, прітылка апшыра́хыныя, ну худзь ба ж патрошку глядзелі. Уся спадніца зьнізу ап чугуны апшыра́хыныя.*

**Абшарпыванне** *н.* Лахманы, рыззё. *Куды ты зь естым апша́рпывыньнім нясесься, кінь айдзе ў вугалок, ніхай ляжыць. Я ўчора ўсяму апша́рпывыньню толк дыла: пысыбра́ла, пысыбрала і тряпышніку, чугуночык узіла, нітык узіла і краскі трі па́чычкі.*

**Абшарушыванне** *н.* Ачышчэнне ад шалупіння. *Бульбу нада хвытаць, пыдажджэць тваё апшару́шывыньня, ета можна і ў дождж дзелыць, а бульба нымя́кніць, мокрыя можыць пагнісьць.*

**Абшарушываннік** *м.* Той, хто ачышчае, тручы, пераціраючы. *Апшару́шывыньнікі як узяліся шурушы́ць, дык пыл стаўбом на ўсю хату, ні прады́хыць.* **Абшарушываніца** *ж. Стыряіцца апшару́шывыньніца, знаіць, што прывінілыся, учырашнію работу дзелыіць.*

**Абшарушываць, абшарушаць** *незак.* Ачышчаць, тручы, пераціраючы. *Як вы апшару́шывыіця, што ўся шулуха астаецца, і дайжа з грязьзю. Апшуруша́ць нада чысьцінька, і ні кідай, ціхінька кладзі, ато паб'ецца і будзіць гнісьць, цубуля — іна дылікатныя.* **Абшарушывацца, абшарушацца** *незак.* Ачышчацца трэннем, пераціраннем. *Каб ты хацеў, каб узяўся як сьледыіць, яно б апшару́шывылыся. Як высыхніць, будзіць хырашо апшуруша́цца, а сырую трогыць ні нада, толька папорціш.* **Абшарушыць** *зак.* Ачысціць, тручы, пераціраючы. *Як пацсохніць цубуля, яе нада апшурушы́ць, а тады пірібірай ды вяжы, у пляцёнку спляцеш і павесіш.* **Абшарушыцца** *зак.*

Ачысціцца трэннем, пераціраннем. *Ныйряд, ці апшурýшуцца каноплі, яны сурувáтыя, дажджом засекла.* **Абшарушаный, абшарушоный** *дзеепрым. Што апшарýшыныя, сыбярі ў карзінку ці ў лубку, а ў шулухе ніхай пыляжыць ды зайтріга. Квасоля ўжо ўся апшурушоныя, у стуўбанкі ссыпыла, у адзін і ў другей.* **Абшарушомшы** *дзеепрысл. Апшурушомшы цубулю, сыбраліся бежч у хвырасток, а тута яны ны парог грім.*

**Абшархываць** *незак.* Абціраць, шоргаючы. *А ты на іх крічы, каб ні апшáрхывылі чыстыя пасьцілкі, зысланы крываці і ніхай будуць роўнінька зысланы.* **Абшархывацца** *незак.* Абцірацца шорганнем. *Глядзі троху, каб ні апшáрхывылыся новыя адзежына, ато табе што ні спраў, зы нядзелю зьдзелыіш як тряпку. Ты вун зірні-ка, як левый рукаў у цябе апшáрхывыіцца.* **Абшархаць** *зак.* Абцерці, шоргаючы. *Цёрліся ўсё ўремя, то тэй цірнецца, то тэй, апшáрхылі сьценку.* **Абшархацца** *зак.* Абцерціся шорганнем. *Айдзе меншы патходзюць, там чысьцей, а тута шпалеры апшáрхыліся, яны ўжо даўно ні міня́ныя.* **Абшарханый** *дзеепрым. У хаці ў яе дужа нікуратна: мост грязный, сьцены апшáрхыны, шпалеры вісяць шмáцьцім, зы пасьцельлю ніскольна ні глядзіць, дужа нізґрайныя баба.*

**Абшнырываць, абшныпарываць, абшныхарываць** *незак.* Абшнарваць. *Пры каго ты пýтніга талкуіш, во прівыкла апшнырівыць дзяреўню, у хаці ёй ні мінуты ні сядзіцца. Усе куткі любіў апшныпырівыць. Ныравілыся б табе ўсё кругом апшныхырівыць.* **Абшнырыць, абшныпарыць, абшныхарыць** *зак.* Абшнарыць. *Айдзе толька яе ні пабудзіць, усю акругу апшнырíць зá дзінь. Увесь бызар апшнырілі і ні найшлі нічога купіць, ні пыдыбралі пы сабе. На двор зайдзіць і глядзіць, каб усе куточыкі апшныпырíць, што йта зы чылавек урадзіўся, якей там двынаццыць у ім сядзíць. Устаніць цёмнінька, іішчэ птушычкі ні шчабечуць і ў лес; пакуля хто толька падумыіць пра тэя грібы, іна ўжо увесь лес апшныхырíць, пыт кажным кусьцікым пірябудзіць.* **Абшнураный, абшныпараный, абшныхараный** *дзеепрым. Што ж ты ў апшныріным бірізьнячку хочыш найціць, тута пыт кажным дзеріўцым абнюхына і піряпоріна. У апшныря́ным лесі нічога ні найдзіш, сюда народ кучымі ішоў іішчэ цёмнінька було. Я толька зыйшла, дык віджу: у хаці ўсё апшныпыріна. Ну каго йта тут насіла, хто тута лазіў: увесь двор апшныхырін, усё ўсюдых пірявернута.*

**Абшпарыванне** *н.* Апарванне. *Акуратнінька лі, ато ат твайго апшпáрівыньня і кожа кускамі пызлáзіць.*

**Абшпарываннік** *м.* Той, хто апарвае. *Ідзі-ка ты заві сваіх апшпáрівыньнікыў у хату, ато яны тама будуць нівісь сколька вазіцца.* **Абшпарываннiца** *ж. Ты, апшпáрівыньніца, сабе на рукі як лінеш, тады будзіш енчыць.*

**Абшпарываць** *незак.* 1. Апарваць. *Маліньківх пырысят апшпáрівыюць, смаліць на іх нечыга.* 2 *перан. жарт.* Абабегваць. *Мы знаіш сколька мыладымі апшпáрівылі!* **Абшпарывацца** *незак.* Апарвацца. *Чаго ты лезіш сюда, апшпáрівыцца? — тута твыя помышч ні нада.* **Абшпарыць** *зак.* 1. Апарыць. *Руку чуць ні да локця кіпятком апшпáріў, цяперя кавэнчыцца.* 2. Абабегчы. *Яны табе як выпрывюцца, дзесіць дзірявень зá ныч апшпáрюць, а вічарінку найдуць.* **Абшпарыцца** *зак.* Апарыцца. *Ці доўга да слýчыя, апшпáріцца — тады вазіся зь ім; ацьцягні січас ач чугункоў.* **Абшпарываный, абшпараный** *дзеепрым. Ны скамеічкі пітушок у сенцых, ішчэ ні апшпáрівын. Апшпáріныя ўсігда дужа баліць.*

**Абшурпаціць** *зак.* Зрабіць шурпатым. *Кошка абыдрала, апшурпáціла ножкі ў скамейкі, ну й палучыць ета кошка зь яе цырáпыньнім і зь яе кіпцімі.* **Абшурпаціцца** *зак.* Зрабіцца шурпатым. *То ў ваду, то ны мароз выскычыш з мокрымі рукамі, тады яны апшурпáцюцца. Шырáхыў і шырахыў пы жалезьзю, чырянца і апшурпáцілыся.* **Абшурпачаный** *дзеепрым. Увесь вілышнік апшурпáчыный нейкій, ні прідумыіш, як у руках дзіржаць.*

**Абшчапуліцца, абшчалепіцца** *зак. жарт.* Моцна абняцца. *Ай-я-яй, апшчапýліліся, стыяць,— дужа даўно ня відзіліся: цэлыя нядзеля прыйшла. Січас апшчалепюцца, ты на іх пулюбуісься.* **Абшчапуленый, абшчалепленый** *дзеепрым. Я знаю, айдзе ён быў: сы саваёю красоткыю апшчапýліныя да поўнычы простоілі, ніяк ні маглі рысстрáцца. Ці ныравіцца апшчалепліным сядзець?*

**Абшчаственскій** *прым.* Грамадскі. *Я помню, як Амшару дзялілі, іна была апшчаственскыя, на ёй лес рос на халодныю пастройку.*

**Абшэрпаць** *зак.* Абадраць, пашарпаць. *Апшэрпыў пінжачышка, што яго толька выкінуць.* **Абшэрпаный** *дзеепрым. Як табе ня стыдна такім апшэрпыным хадзіць, надзень путнейшыю адзежыну, дзлі каго ты ўсё бірягеш.*

**Абычайна** *прысл.* Звычайна. *Як ён пойдзіць? — абычáйна пойдзіць, устаніць, пад'есьць і пашоў. Яму ўсё абычáйна, ні за вошта ні піріжываіць.*

**Абязлюджываць** *незак.* Рабіцца малалюдным або бязлюдным. *Каторыя дзярэўні саўсім сталі абязьлю́джывыць, і ў нас трудаздольных пасьці ні аста́лыся.*

**Авеччына** *ж.* Мяса авечкі, бараніна. *Ладный кусочык авеччыны ўкінула, капуста зашы́лыся, мае такую дужа любюць. Памянш.* **авеччынка.** *Ты б авеччынкі зьеў, толька авец дзіржаць табе му́тырна.*

**Авёс** *м.* Авёс. *Памянш.* **авясец.** *Ссып-ка ты авясец у клу́мычку, ны кісель нада будзіць змалоць, ны кісель ён ідзець. Павеліч.* **аўсішча, аўсюган.** *Аўсішча вырыс чуць ня ў рост чылавека, лета яму сёліта дужа пріяла. Тэй год, помню я, жалі мы ны Напреівым, ух, аўсюга́н быў!*

**Аглабелле** *н. зб.* 1. Аглоблі. *Нешта ў цябе аглабельля выляіцца айдзе зря, пы ўсяму двару раські́дына.* 2 *перан. груб.* Ногі. *Вы́цігнуў аглабельля — ні прайціць, у бок ацсунься!*

**Аглабліна, аглобліна** *ж.* Аглобля. *Адна аглабліна харошыя, а другая дайжа някоріныя — і едзіць. Аглобліну бярёзывыю ацьсякі і зукруці. Памянш.* **аглаблінка, аглоблінка.** *У цябе ж ны балькых, кажыцца, аглабли́нка вылялыся. Роўнінькія высік аглоблінкі, акуратнінькія.*

**Аглуздацца** *зак.* 1. Ачмурэць. *Ён аглу́здыўся, што ні паймець, што к чаму гаворіцца.* 2. Разабрацца, скеміць, зразумець. *Зукруціўся ў лясу, а ніяк ні пайму, айдзе я, а тады пычаў глядзець, глядзець, во троху аглу́здыўся, пыняў, куды йіціь. Ты ні дажджэсься, пакуль твой Ільля аглуздáіцца, яму нада пуўдня, каб сыбразіць што.* **Аглузданый** *дзеепрым.* Ачмураны. *Яны абея аглу́здыныя, ні знаюць, куды й чаго пруцца.*

**Аглумачыванне** *н.* Задурванне, падманванне. *Я хуць аддыхну тута ат Высілёвыга аглума́чывыньня, там жа спакою німа ат яго трілюджыньня.*

**Аглумачываць** *незак.* Задурваць, падманваць. *Я стаю — патходзюць, большый пычынаіць пры Саньку нешта верзьць, меншый спра́шыіць, ці помню я Кіріёнка,— ета яны мяне аглума́чывыюць, ах жа вы, сыплякі нішчасныя.* **Аглумачывацца** *незак.* Задурвацца. *Я кажный дзень пряма аглума́чывылыся ат іхныга сквілу, цалюхтынькій дзень хата хадзіла хыдаром з раньня да вечыра.* **Аглумачыць** *зак.* Задурыць, падмануць. *Цябе тама аглума́чылі твае родніņкія, ім дужа ні ыравіцца, што ты сюда ходзіш.* **Аглумачыцца** *зак.* Задурыцца. *Зь імі дыгывaріцца — аглума́чысься, січас яны табе адно гаворюць, цірізь мінуту дос ета — другоя пычынаюць,*

*сяньня так, зайтра етык,— самі ні знаюць, чаго яны хочуць.* **Аглумачаный** *дзеепрым. Віджу, што ён выйшыў якей-то аглума́чыный, дайжа ні сыбрыжаіць, у якей бок ідзець. Яны ўжо абея аглума́чыныя, лухтў нясуць, вярзўць ны чылавека.*

**Агонь** *м. перан.* Імпэт, імклівасць, спрыт, энергічнасць. *Агонь чылавек, ні ў я́кый рабоці ні ў чом ня ўступіць. Агонь была дзеўка, сь сярпом як пойдзіць, большы ўсіх жжына́ла.*

**Аграномша** *ж.* Жанчына-агараном. *К нам аграномша толька пріехыла і замуж выскычыла. Аграномшу пыслалі на нейкія курсы падвучывыцца.*

**Аграшанне** *н. метаф. жарт.* 1. Яда нашча. *Каторыя ў цябе агріша́ньня?* 2. Ежа. *Нясі-ка што-небудзь ны агріша́ньня, ці ні дзісятый час ужо.*

**Аграшыцца** *зак. метаф. жарт.* З'есці нашча. *Ся́дзімка мы агряшы́мся, ато нешта духі падводзіць.*

**Агрэсць** *зак.* Загрэбці, хапануць. *Тоя ўремя яны німала чаго агряблі. Ладна агрёб грошы, ні бядніся.*

**Агуніваць** *незак.* Ганьбіць. *Посьлі свадзьбы пачалі Пуўлючка агў́нівыць, ім там чаго ці ні тріпанўлі.* **Агуніць** *зак.* Зганьбіць. *Карова добрыя, агў́ніць нілізя, ну нешта зьдзелылыся: аттопіш — творг пупылам ісь сьмітанью, а сьмітаны німа.* **Агунены** *дзеепрым. Ну ніхай я буду агў́ніныя, а што табе да етыга?*

**Адбабухаць** *зак.* Адгрукатаць, адгрымець. *Ні знаю, што яны там дзелыюць, ну кувадлі пакуль адбабў́хыюць, аж у гылаве зытряшчыць. Ух, адбабў́хылі нескылька начэй, тэя аттуль, а нашы па іх.*

**Адбалдзіць** *зак. неадабр.* Спыніць пустую балбатню. *Кароў пыдаілі, цяперь ніізьвесна калі адбылдзя́ць, верна, пакуля мылако ў вёдрых ськісьніцца.*

**Адбалматаць** *зак. неадабр.* Спыніць павольную, невыразную балбатню. *Я ўжо ні знаю, калі яны адбылмыта́лі, заснула, па-мойму, ды пітухоў сядзелі.*

**Адбарабаніць** *зак. перан.* Цвёрда, шпарка выказацца, сказаць. *Адбырыба́ніла, як з різца, і пышла, вазьмі яе за руб зы дваццыць.*

**Адбарахліць, адбарахлець, адбарахліцца** *зак. неадабр.* Перастаць плявузгаць. *Я ўжо ня чуў, калі яны адбырахлілі і рызыйшліся, заснуў, ён сам хадзіў дзьвері зышчыпляць. Ну ня трогый, дай ты ім адбырахлець, яны столька ня відзіліся. Ім толька дай сыбрацца, каб адбырахліцца, ім судык ні хва́ціць.*

**Адбарахцець, адбарахціць, адбарахціцца** *зак. неадабр.* Спыніць плявузганне. *Трудна дыждацца, пакуля Пёкла зь Мікітоўнью адбырыхцяць. Во яшчэ й другей найшоўся, ждаць будзіш, пакуля ён адбырахціць, етыя трілюды і зы нядзелю ні піряслухыіш. Ці ты ўжо адбырахціўся, можа, пойдзіш палку дроў піряры режыш з малым?*

**Адбарсыванне** *н.* Выцягванне аборы з лапця. *Якоя тут адбарсывыньня, вузёл ну вузлу аборіна, кідай у печ усё разым, мішаць пуд рукамі ня будзіць.*

**Адбарсываннік** *м.* Той, хто выцягвае аборы з лапця. *Стыряіцца адбарсывыньнік, аж сапець.* **Адбарсываннiца** *ж. Ні пулучаіцца ў тваё адбарсывыньніцы нічога, ні выцягывыіцца аборіна.*

**Адбарсываць** *незак.* Выцягваць аборы з лапця. *Нашто яму новыя лапці адбарсывыць, можа, калі ўсторнуцца ны нагу, вун вярёвычык цэлый крюк вісіць.* **Адбарсывацца** *незак.* 1. Выцягвацца з лапця (пра аборы). *Вузёл зачэпіцца зу курцы, тады ня хочуць адбарсывыцца.* 2 *перан.* Адчэплівацца. *Во прістаў як смыла, ні адбарсыіцца ат Веркі.* **Адбарсаць** *зак.* Выцягнуць аборы з лапця. *Калі лапці, бувала, стопчуцца, аборы адбырсаіш, мала на што аборіна можыць прігадзіцца, і другей раз зыбырсаіш.* **Адбарсацца** *зак.* 1. Выцягнуцца з лапця (пра аборы). *Самі ж лапці ні адбырсаліся, выцягывыў жа нехта аборы, каму яны нада былі.* 2. Адчапіцца. *Адбырсайся ты ат мяне, прістаў як банный ліст, ці табе дзевык у дзяреўні мала.* **Адбарсываный, адбарсаный** *дзеепрым. Адбарсывыныя аборы ну крюку вісяць. Ні було ў лапціх ніякіх абор, яны даўно выляюцца так, адбырсаныя, можа, гадоў пяць як выцігнулі.*

**Адбасятнічаць, адбасятнічацца** *зак.* Пабасячыць. *Паехыў зь дзядзькыю, тэй ны рабоці, глядзець за ім некыму, крепка адбысятнічыў, пакуля Мірянкоў сагрёб ды нызад прівалок. Чаго там хувацца, адбысятнічыліся ўволю, хырашо, што було каму сыдзіржаць гультаёў.*

**Адбатракаваць** *зак.* Набыцца паслугачом, наўслугоўвацца. *Я ўсім чыста адбутрукувала, а як, бувала, ён станіць, і матым, і шматым накоціць, яны і ціішэй.*

**Адбаўляць** *незак. перан.* Адпрэчваць. *Адбуўляй ты еткыга друга аць сябе, нашто зь ім зьвязывыцца, ён любога у балота ўцягніць.* **Адбаўляцца** *незак.* Пазбаўляцца, адчэплівацца. *Пріўчы, пріўчы, як ты ат іх будзіш адбуўляцца.* **Адбавіць** *зак.* Адпрэчыць. *Верычка адбавіла Пітрачковыга мальца, ён дужа за ёю ўлігаў, верна б, узяў.*

**Адбавіцца** *зак.* Пазбавіцца, адчапіцца. *Як прістаў, як прістаў: хадзі ты зь ім, чуць адбáвілыся,— ну ета ж пряма сьмех: пайду я с Антоным піва піць.* **Адбаўленый** *дзеепрым. Ну што ты, адбáўліный ужо ў Хадосычкі?*

**Адбаярыць** *зак.* Вельмі шчыра адпрацаваць, адслужыць. *Адбыярілі ў лесі цэлыю нядзелю, пряма на месьці рубілі хату. У сорык чацьвёртым як пашоў, дык сем гадоў адбыяріў у арміі, а тады ўчыўся чатырі гады.*

**Адбел** *м.* Адбелка, адбельванне. *Якоя було пылатно серыя, такоя і посьлі адбелу асталыся. Ты самыя луччыя мысьцяріца пы адбелу.*

**Адбіваннік** *м.* Той, хто адбівае. *Адбівáньнік твой ні на сьмех узяўся, хочыш, і бярно ўмесьці с прабоім вырьвіць.* **Адбіванніца** *ж. Ляпыіць адбівáньніца, ці палучыцца ў яе што-небудзь.*

**Адбіваць** *незак. перан.* 1. Не даваць ссаць (звыч. пра кабылу, авечку). *Айца редка калі адбівáіць ігнят, кабыла часьцей можыць адбіць жырябёнка.* 2. Пакрываць (пры гульні ў карты). *Нечым у мяне адбіваць, я ўсё зьнімаю.* **Адбівацца** *незак.* Пакрываць (пры гульні ў карты). *Во пыглядзіш, як я буду адбівáцца.* **Адбіць** *зак.* 1. Не даць ссаць (звыч. пра кабылу, авечку). *С пайлета айца адбіла ігнят, ні путпускáіць к сабе.* 2. Пакрыць (пры гульні ў карты). *Хырашо, што адбіў, каб пріняў, мы прыпалі б.* **Адбіцца** *зак.* Пакрыць (пры гульні ў карты). *Ня бойся, я січас атаб'юся.* **Адбітый** *дзеепрым.* Пакрыты (пра карты). *Ета адбітыя карты, ня трогый.*

**Адбіраннік** *м.* Той, хто адбірае. *Вот рызыйшоўся адбірáньнік, ну-ка сядзь, ні тваё, дык ня лезь.* **Адбіранніца** *ж. Не, адбірáньніца, у цябе ішчэ сілы мулувáта са мною справіцца.*

**Адблажэннічаць, адблажэннічацца** *зак.* Пажыць прывольна, у выгодзе. *Адблажэньнічылі яны дык адблажэньнічылі, жылі — толька птушыныга мылыка ім ні хвытала. Скора яны адблажэньнічыюцца, кынчаіцца іхныя блажэнства.*

**Адблуканяць, адблуканяцца** *зак.* Набадзяцца. *Адблукунялі дык адблукунялі, ні за што пальцым ні прітронуліся, Марья і ны рабоці, і ў горыд за хлебым, і зы каровыю бягіць, а яны вы́сьпюцца, вы́ліжуцца і хлы́нкыюць дзень прі дні. Я ўжо і сыма ні знаю, калі яны адблукуня́юцца, худзь ба хацелі прітронуцца к чаму-нібудзь — ні прітронуцца, ці гывары ім, ці ні гывары, ці шу́рхый, ці пу́рхый, ці што хочыш дзелый.*

**Адбой** *м.* 1. Другі, супрацьлеглы пракос, прыкладзены да першага. *Прі адбоі пулучаіцца два пакосы ўмесьці. Адбой прайціць трудней, чым прастэй пакос.* 2. Набор карт, якімі можна адбіцца. *У мяне поўный адбой, я нікога ні баюся.* 3. Адбітыя карты. *Адбой ляжыць кылы газеты. Ці ня ты ета сўнуў шасьцёркі у адбой?*

**Адбойный** *прым.* 1. Такі, які прыкладаецца да першага, (пра пракос). *Пысярёд як пычынаіш касіць, ідзеш туды адзін пакос, а нызад к етыму кладзеш адбойный пакос.* 2. Такі, якім можна адбіцца (пра карты). *У яго адбойныя карты, нічога ня зьдзелыіш сваімі сямёркымі.*

**Адбрызкаць** *зак.* Перастаць пырскаць. *Ты ў мяне січас адбрызкыіш,— зырявеш і на печ палезіш.* **Адбрызкацца** *зак.* Перастаць пырскацца. *Адбрызкыўся, сядзіць як мыш пад венікым, я дурачыньня выгыняць умею.*

**Адбрындаць** *зак.* Адбадзяцца. *Адбрындылі за лета здорыва, столька можна було і сена ныкасіць, і дроў насеч, конь пасьці ўсігда ў руках быў,— дык ні за што ні ўзяліся.*

**Адбрынкаць** *зак. экспр.* Адкасіць. *Нешта, Кузёмка мой, ты сяньня зыляніўся, мог ба біряжок ат ячменю адбрынкыць, тама травіца трошку засела.* **Адбрынкацца** *зак.* Адкасіцца. *Там ношычкі дзьве будзіць і тут нямножка адбрынкыіцца, паўвозіка сыбярецца.* **Адбрынканый** *дзеепрым. Ац самыя мяжы адбрынкына, а туды, к кынаўкі, нятронутыя стаіць, там ба можна ішчэ кышанўць.*

**Адбузаваць** *зак. перан.* 1. Доўга, не шкадуючы, пранасіць (пра адзенне). *Етый пінжачок зыдашный пупаўся, сколька я яго адбузуваў: і вясну, і восінь с плячэй ня ськівывыў.* 2. Напрацавацца, патраціць шмат сілы. *Столька ён за лета адбузуваў над етымі пнямі, сілухны сколька пылажыў.* **Адбузавацца** *зак.* Напрацавацца, патраціць шмат сілы. *Во адбузуваліся мы, як з Равоў лес вывазілі! Штоб так адбузувацца нат пнём, а ніхай ты згаріш на месьці разым с кареньнім!*

**Адбулдыхаць, адбулдыхацца** *зак.* Напрыгацца ў ваду. *Што, вы ўжо адбулдыхылі, большы ні палезіця? Як паедзім у луг, тады адбулдыхыімся ў Сажы.*

**Адбурыць** *зак.* Разабраць завал. *Лі варот усё рухнула, ні туды, ні аттуля ходу німа, пакуля мы адбурілі, чуць справіліся.*

**Адбухаць** *зак.* 1. Перастаць бухаць, кашляць. *Адбухылі, сяньня ня чутна, ато цэлыю нядзелю грюкуталі, зыбівалі сваі. Адбухыў ён дык адбухыў, пряма лёхкія як*

*ні рваліся.* 2. Зрабіць адмыслова. *Адбу́хылі сабе даміну на ўсю акругу, дайжа ў горыдзі такея ні ўсігда ставюць.*

**Адбушмаціць, адбушмачыць** *зак.* Скончыць гаварыць пустое. *Сямён, кызалі, ляжыць, слаб, ён тыкі стар, яму пырядышныга ны дзівятый дзісятык пашло, адбушма́ціў, як ён у пусты́ніх вуювай. Чаго іна толька ні адбушма́чыла: і як хто жаніўся, і як хрясьціўся, і каго аткуль сва́тылі — нам ужо і слухыць ныдаела.* **Адбушмачаный** *дзеепрым. У вас усё адбушмачына ай троху аста́лыся?*

**Адбялендзіць** *зак.* Набалбатацца, спыніць балбатню. *Нічога ня зьдзелыіш, прідзіцца ждаць, пакуля свае тріл́юды адбяленьдзюць, а іхных новысьціў надоўга хва́ціць.*

**Адгаварыванне** *н.* 1. Выгаворванне замовамі. *Тута ні адгыва́рівыньня нада, а скарей у бальніцу вязі.* 2. Замовы. *Мыя матка многа адгыва́рівыньня знала.*

**Адгаварываннік** *м.* Той, хто гаворыць замовы. *Бяріська і ты шыпта́ць, тожа будзіш адгыва́рівыньнік.* **Адгаварыванніца** *ж. Ці мы ні знаім, ікая с Аксюты адгыва́рівыньніца.*

**Адгаварываць** *незак. устар.* Лячыць замовамі. *Калі рожа, я ўмею адгыва́рівыць, а зьвіх дужа хырашо адгыва́рііць Маруська. Мой дзед ваўкоў адгыва́рівыў і мяне наўчыў.* **Адгаварыць** *зак.* 1. Закончыць гаварыць. *Ні піріжджыцё, пакуля Кірей адгаворіць.* 2. Палячыць замовамі. *Адзь зьмяі адгаворіць адна Праскоўя, большы ніхто ня ўмеіць у нас. Ні адгаворіць, а нада ў бальніцу везьць, ґ доктыру.* **Адгавораный** *дзеепрым. Прося табе адгаворіць, будзіць адгаворіна,— каго ты слухыіш, іна ні разу ні знала нічога і ні знаіць.*

**Адгавор** *м.* 1. Адгаворка. *Мог ба ён паможч, лес — ета толька адгавор.* 2. Замова. *Хочыш верь, хочыш не, а нікаторым адгавор пымыгаіць. Ці ні пычыла ты адгаворымі зынімацца?*

**Адгад** *м.* 1. Адгадванне. *Я біз адга́ду скажу, хто тута быў.* 2. Адгадка. *Ну любую зыгадку знаіць адга́д.*

**Адгадываннік** *м.* Адгадчык. *Такей адга́дывыньнік нядзелю будзіць думыць — ні да чога ні дадумыіцца, ён ніякія зыгадкі ні ў жысьць ні рызгыдаў.* **Адгадыванніца** *ж. Стыряюцца адга́дывыньніцы адна пірід адною, койшто ўгадывыюць, толька яны дужа ня ўмеюць.*

**Адгалаганіць** *зак. жарт.* Абстрыгчы дагала. *Я доўга ня чы́кыюся, во ножніцы бяру, як адґылыґа́ню траіх пыдряд, аж блішчаць, а кылі троху й рідамі, нічога, пы-*

*рыўняіцца.* **Адгалаганеный** *дзеепрым. Мы ні зупускаім сваім лахмоцьця, відзіш, адґылыґаніныя бегыюць.*

**Адгаладаваць, адгаладавацца** *зак.* Нагаладацца. *Каб ён адгулудуваў, як я, ён ба маліprintнькыю скарінычку хлеба цаніў, а ў выгыдзі жыўшы, што яму. Ня бойся, ні адгыладўіцца, яму будзіць усігда.*

**Адгалдзець, адгалдзіць** *зак. неадабр.* Накрычацца, нашумець. *Ні знаю, калі яны тама адгалдзелі, я ў пуню пашоў ды лёг на сена, скора заснуў. Тады адгалдзілі, як Зьмітрок сь кійком выйшыў ды прутуріў, ато б яны усю ноч спакою ні далі.*

**Адгалузаваць, адгалузіць, адгалузавацца** *зак.* Надурэцца. *Ні знаю, дзеці, калі вы адгалўзыіця, німа ны вас бацькі ладныга. Даждж эсься, пакуль яны адгалўзюць, пыдаждж ы большы,— нада кряпчэй брацьу рукі, каб дўху твайго быяліся. Кончылыся тваё балыўства, адгалўзывыўся, цяперя цябе ныстаўніца крепка будзіць дзіржаць у руках.*

**Адгаркаць** *зак. асудж.* Спыніць злосны крык. *Ці адгаркыў ён тама? — ніяк ні нарьвецьяго духі. Уняўся, адгаркыў, два дні ўсё кругом тряшчэла ат яго кріку.*

**Адгарланіць, адгарлапаніць** *зак. асудж.* Накрычацца, перастаць гарлапаніць. *Ніхто розуму ні дыкладзець, калі іна адгырланіць, і што толька ў етый бабі зывіряіцца! Ні адгырланюць, пакуля іх ні патўріш сы скамеічкі. Мы ні дыжыдалі, пакуля яны адгырлыпанюць, паехылі, дужа нам аньціресна чужэя трілюды слухыць, самі ніхай рызьбіраюцца.*

**Адгарлаць, адгарлацца** *зак. груб.* Накрычацца, змоўкнуць. *Калі іна адгырлаіць, чаго ёй ухадору ніяк ні найдзіцца. Во горла ў бабы дык горла, за ўсю сваю жысьць ці адгырлаіцца калі.*

**Адгваздаць** *зак.* 1. Адлупцаваць, пабіць. *Як адгвыздаюць хырашэнька, тады ён возьміцца за розум, а так усё лезіць ні ў сваё дзела.* 2. Моцна запэцкаць. *Адгвыздаў пінжачок — ня то што надзець, а ў рукі нілізя ўзяць, увесь ў нейкім дзёхці.* **Адгвазданый** *дзеепрым.* 1. Адлупцаваны, пабіты. *Скажы, каб уняўся, а не — адгвызданый пойдзіць, зь ім доўга чыканіцца ні станиць.* 2. Моцна запэцканы. *Такей ужо адгвызданый пулушўбычык, места на ём жывога німа.*

**Адгваздзіць** *зак.* Адлупцаваць, пабіць. *Тута ўсё вышакоміўся, зыдзіраўся, вышы ўсіх сябе нёс, а яны пупалі аднаго і крепка адгвазьдзілі, ніхай пыхваліцца.* **Адгваз-**

**джоный** *дзеепрым. Сам маўчыць, ні хваліцца, а кылі й адгважджоный, дык ні ў чужоя места, ён ужо ні знаў, пы якому сьвету ходзіць.*

**Адгвэздаць** *зак.* Моцна запэцкаць. *Ну пряма ні знаю, што мне зь ім зьдзелыць: новінькій касьцюмчык адгвэздыў, што выкідаць нада.* **Адгвэзданый** *дзеепрым. Кладзі ўсё адгвэздыныя ў сенцых!*

**Адглуздываццa** *незак.* Пазбаўляцца чмуты, выбаўляцца з дурману. *Во трошку пычынаіць адглўздывыцца, ато ты зукруціла яму мазкі сваімі рызьясьненьнімі.*

**Адглядзецца** *зак.* Заглядзецца. *У цябе жонка як карцінка, пряма адглядзецца. Выстрыіў даміну — адглядзецца, на ўсю акругу.*

**Адгнятаць** *незак.* Адціскаць. *Ты ўжо раз адгнітáў сабе пальцы — ні наўчыўся, яшчэ пыцстыўляіш.* **Адгнесць** *зак.* 1. Адціснуць. *Дудурáчуцца, што адгнятўць сабе ногі бярном.* 2 *перан.* Пабіць. *Што адгнялі, добря й чынілі, ён ужо рузмудрей большы некуды, ні днаго сыдка ні асталыся ў дзярэўні, айдзе б ён ні пубуваў.* **Адгнесца** *зак.* 1. Адціснуцца. *Пацсунь, пацсунь пыт палкі, пальцы й адгнятуцца.* 2 *перан. іран.* Адшкадавацъ (пра сквапнага). *Адгнілáся, дыла трі сотні, купілі кыравёнку, хуць чарка мылыка дзіцям ёсьць.* **Адгнеценый** *дзеепрым.* 1. Адціснуты. *Будзіш кавэнчыцца с адгнеціными пальцымі, дыбáлыісься.* 2. Пабіты. *Пыбягіш ты січас ат'етуль адгнеціный.*

**Адгойзаць, адгойзацца** *зак.* Нагойсацца. *Лета адгойзылі, цяперя некылі будзіць дурачыцца. Ладна адгойзыліся, бáлыўства зь іх хвацíла.*

**Адгоцаць, адгоцацца** *зак. неадабр.* Надурэцца, набегацца, наскакацца. *Яны па сену ладна адгоцылі, пацёрлі, пыўмялі, паўбілі, нада було пруцінью турíць, а ты сядзеў ды пасьміхывыўся. Не ўжо, ні знаю, калі вы адгоцыіціся, чаго вас так нешта дрэнчыць.*

**Адгрызць** *зак. перан.* Налаяць, набэсціць. *Сеньку яны крепка адгрызьлі зы пасьледнія ўремя, як ён толька церьпіць.* **Адгрызца** *зак.* Налаяцца. *Ну іх к чорту, ці я іх міріць буду, адгрызуцца і пірістануць.*

**Аддараваць, аддаравацца** *зак.* Аддарыць, падарыць у адказ. *Мы аддурувáлі ёй харошыя пыкрывала ны пасьцель. Дайжа ні знаю, як мне аддурувáцца.* **Аддараваный** *дзеепрым. Чаго ёй сердзіцца, іна нядренна аддурувáныя.*

**Аддзелыванне** *н.* 1. Адштукоўванне. *У цябе адзьдзелывыньня як у ныстыяшчыга масьціра.* 2. Зняцце чар.

*Ні трілю́дзьця вы лухты зь естым адзьдзелывыньнім, такея-то чыраўніцы найшліся Домна і Пыраска.*

**Аддзелываць** *незак.* 1. Адштукоўваць. *Доўга адзьдзелывылі етыя калёсы, ныба́бчыліся і ныма́сьліліся большы некуды.* 2. Знімаць чары, чараванне. *Ён толька зучурува́ць умеіць, адзьдзелывыць ішчэ ні наўчыўся.* **Аддзелаць** *зак.* 1. Адштукаваць. *Вокны адзьдзелылі — зыглядзецца: і пывырезывылі, і пывыпілівылі кругом.* 2. Зняць чары, чараванне. *Я ж ні знаю, ці ета так було, ці ні так, а гывbooрілі, што ён мог нучурува́ць, зьмей нупусьціць, а як папросюць, то ён адзьдзелыіць.*

**Аддзівіць, аддзівіцца** *зак.* Надзівавацца. *Адзьдзівілі мы ладна, гледзічы на іхныя дуры́. Што ўжо адзьдзівілыся Мырьянка, як пачула пры Дзім'янёнка.*

**Аддрынкаць** *зак.* 1. Перастаць брынчаць. *Ну ныды-я́длыя мальцы, ныцігаюць ґ двару нейкіх жылізя́чын, як возьмуцца кузьнечыць, пакуль аддры́нкыюць, у вушах зызьвініць.* 2 *перан. неадабр.* Перастаць швэндацца, бадзяцца. *Ета с такога пріродзьдзя, што няскора аддры́нкыіць, ці помніш, як бацька яго сойдзіць ны нядзелю і ніізьвесна айдзе блукуня́іцца.*

**Аддрэнчыць** *зак.* Перастаць непакоіць. *Калі яго аддрэнчыць што, усё яму спакою ніяк ні находзіцца.* **Аддрэнчыцца** *зак.* Перастаць непакоіцца. *Пахожа, аддрэнчыўся Гырысімёнык, трошку яму спакою далі.*

**Аддубашаный** *дзеепрым.* Адлупцаваны, пабіты. *Адду-ба́шыный я — і ладна, ты луччы сваe бакі бірягі, зы мяне біспакоіцца нечыга.*

**Аддых** *м.* Перапынак, адпачынак. *Ну й мне ж адды́х нада. С адды́хым пыдажджы, ні ды адды́ху цяперя.*

**Аджарыць** *зак.* Перастаць пячы (пра спякоту). *Сёліта юль аджжа́ріў дык аджжаріў, чуць ні пыгарелі ўсе пасевы.*

**Аджыўлянне** *н.* Вяртанне да жыцця. *Посьлі такога аджжыўля́ньня можна і ныпраўду кыпыты́ аткінуць. Якоя вам аджжыўля́ньня, кылі яго мёртвыга пывязьлі ат'етуля.*

**Адзінанне** *н.* Спосаб гульні «У куля», калі залічваецца адно ачко. *Адзіна́ньня — ета ні гульня, ета калі пяць гадоў, так гуляюць, мне каб зы вярсту куль зупузы́ріць.*

**Адзінаннік** *м.* Той, хто пры гульні «У куля» адзінае. *Нам тута дзелыць нечыга, тут адзіна́ньнікі гуляюць.*

**Адзінаць** *незак.* Пры гульні «У куля» адкідаць куль без удару па ім. *Адзіна́юць ма́лыя, яны яшчэ куль уска-*

*ціць ня ўмеюць. Нарошня адзінáіць, усё дно як гуляць ня ўмеіць.* **Адзінацца** *незак.* Адкідацца без удару (пра куль). *Якей ты гулец, што ў цябе дайжа ні адзінáіцца.* **Адзінуць** *зак.* Адкінуць куль без удару па ім. *Адзінýць— ета й мáлінькій адзінець, а ты піцярнуць паспробый. Далёка ні адзінеш, далёка адбіваць нада.*

**Адзубрыць** *зак.* Вызубрыць, перастаць зубрыць. *Ты адззубріла, што любэй аґзамін здасі. Гісторію яны ўжо адззубрілі.*

**Адкалбасіць** *зак. жарг.* Навычвараць. *Ты цяперя дзівісься, што яны тута столька аткылбасілі, а што ім, унімаць ні було каму.*

**Адкалдыбаць, адкалдыбацца** *зак.* Адкульгаць, накульгацца. *Ладна аткалдыбый, пакуль ныга троху зыгаілыся, зразу нуступіць дайжа ня мог. Паехыў Бырысёнычык, аткылдыбáў, некыму будзіць і пысьмяшыць вас. Я ўжо й сам ні знаю, калі аткалдыбыюся, столька ўремя ні магу нуступіць. Аніська ўжо аткылдыбáўся, пряма ходзіць.*

**Адкапцець, адкапціць** *зак.* 1. Перастаць курэцца. *Аткапцела лампа, німа.* 2 *перан. экспр.* Аджыць, перастаць існаваць. *Ікáя ўжо стáрыму жызьня, аткапцеў і ўсё. Во аткапціла, дык цяперь спакойна, іна нікому ні мішаіць і ёй ніхто ні нада.*

**Адкастыляць** *зак. экспр.* Моцна пабіць. *Як аткыстыляюць ладна, тады будзіш думыць, ці нада чыпáцца, ці луччы атыйціць.* **Адкастыляный** *дзеепрым. Вярнуўся аткыстыляный, спрасі, можа пыхваліцца.*

**Адкатаць** *зак. перан.* Моцна без жалю пабіць. *Каб цябе хто аткытáў хырашэнька, ты й пызьмірнеў ба.* **Адкатаный** *дзеепрым. Ні паслухыіш, як дзіцёнык, дык аткытáный пыбягіш.*

**Адкаціць** *зак. перан.* 1. Зрабіць выключна, надзвычайна. *Ніхай сабе што ніпыглядный, ён аткаціў сабе хату на ўсю акругу,— ны камінным хундамінці, рузукрáшыныя.* 2. Нарадзіць дзіця (звыч. сына). *Разым выхадзілі замуж, за трі гады пы пары сыноў аткацілі — зулюбувáцца мальчыкі.* **Адкацёмшы** *дзеепрысл.* Адкаціўшы, адкаціўшыся. *Аткацёмшы етыя палкі, можна будзіць праехыць, а йначы каткі ня пройдуць. Аткацёмшы былі, мы й ні замецілі каточыкый.*

**Адкашываць** *незак.* Адкошваць, адпрацоўваць доўг касьбою. *Пашоў жа Кулінoўні аткáшывыць, што йна бульбу сеіць пымыгала, праўда, іна з дачкою пріхадзіла.*

**Адкашывацца** *незак.* Заканчваць касавіцу. *Ячмень хуць сяньня жні, а яны яшчэ аткáшывыюцца. Нада аткáшывыцца, німа урємя валыніцца.*

**Адквактаць** *зак.* 1. Адквахтаць. *Атквокчыць і ўзной станіць несца, дужа нясўшчыя курычка.* 2 *перан. іран.* Перастаць вохкаць, стагнаць. *Калі ты ўжо атквокчыш сы сваёю сярэдзіньню, худзь ба ліжаў ціха.* **Адквактацца** *зак.* 1. Адквахтацца. *Паквокчуць, паквокчуць, атквокчуцца і нясуцца.* 2. Перастаць вохкаць, стагнаць. *Атквокчыцца на печы, тады на пол зьлезіць, пысядзіць, работыць іна ўжо нічога ня можыць, пы хаці трошку патопыіць.*

**Адкрындзядзюліцца** *зак.* Перастаць капрызнічаць. *Не, яму пуўдня дай, каб аткріньдзядзю́ліўся, як зыкапы́ліць нос, тады яго ніякія ўгаворы ня ймуць.*

**Адкурняўкаць** *зак.* 1. Перастаць мяўкаць. *Ну, вазьму венік, іна ў мяне аткурня́ўкыіць, скварку зьела, дык дывай ёй яшчэ.* 2 *перан. экспр.* Змоўкнуць (звыч. пра дзіця). *Аткурня́ўкыў, заснуў, ныдыядлый ма́лый, усё пішчыць і пішчыць.*

**Адкырхаць, адкэрхаць** *зак. экспр.* 1. Нахварэцца, паправіцца. *Калі ўжо ён атќырхыіць, сколька куды ня кідыўся, нійдзе ня могуць паможч, прідлыгаюць апірацыю дзелыць, а ён баіцца. Ай, ці аткэрхыіць ён, асколык у грудзях сядзіць, нілізя дыстываць і так увесь слаб.* 2. Памерці. *Ну што я жыву, як гылавешка тлею, каб ужо атќырхыла, худзь ба мыладым ні мішала. Рядым тута Арцём жыў, зь дзества дружылі, тожа пірьха́ў, дык во аткэрхыў, а я ішчэ цягну.*

**Адпаласкыванне** *н.* Выпалосканне. *Кіпяціць нада, тут атпыла́скывыньня ні паможыць.*

**Адпаласкываць** *незак.* 1. Выпалоскваць. *Сколька ты будзіш атпыла́скывыць, вы́цігні, выкруць дый ніхай сохніць.* 2 *перан.* Вымочваць (пра дождж). *Цябе толька ў етым месіцы ці ня трі разы дождж атпыласкывыў.* **Адпаласкывацца** *незак.* Адмывацца. *Табе ня мыцца, а пряма атпыла́скывыцца нада посьлі мякіны, ны табе пылу ў паліц тыўшчыною.* **Адпаласкаць** *зак.* Моцна вымачыць (пра дождж). *Ідзіця, ідзіця, дождж вас як атпалошчыць, дык будзіця знаць грібы, атрікіцёся.* **Адпаласкацца** *зак.* Вымакнуць. *Так ужо атпылыска́ліся між кустоў, айдзе ні шырахнісься, у лісьці пуўвідра вады і ны цябе, прымя́клі ўсе да ніткі.* **Адпаласканый** *дзеепрым.* Намоклы, вымаклы. *Схувацца на полі нейдзі, а*

*яны дайжа ніякія адзёжыны ні ўзялі, атпылысканыя прідуць, кылі ішчэ ні прастудзюцца.*

**Адпахываць** *незак.* 1. Адворваць. *Блізка к пацстрешшу ні атпахывый.* 2. Акучваць. *Мой учора ўсё посьлібедзьдзя атпахывыў бульбу.* 3. Выворваць. *Многа ні нада атпахывыць, ато ў ноч астаніцца.* **Адпахывацца** *незак.* 1. Акучвацца. *Як тут у цябе атпахывыіцца, кустоў ні пывыпахывыў?* 2. Выворвацца. *Троху атпахывыіцца, і ладна, як умеіць.* **Адпахаць.** *зак.* 1. Адараць. *Мяжу атпыхалі, тама дзярном усё ўзялося. Нада було атпыхаць ат аборка, худзь ба разы чатырі праехыць.* 2. Акучыць. *Учора мы другей раз атпыхалі бульбу, цяперя я спакойна, піряйду і ніхай расьцець.* 3. Выараць. *Многа ні нада, а грядкі чатырі атпашы, выбірім як-небудзь к вечыру.* 4. Прааараць пэўны час, скончыць араць назаўсёды. *Мы сваю норму атпыхалі. Я ўжо сваё атпыхаў, ніхай мыладэя пашуць.* **Адпахацца** *зак.* 1. Адарацца. *Во тут трошку атпашыцца, а лі йгрушы ніхай астаецца, тама ўжо некуды лезьць.* 2. Акучыцца. *Бягі ў горыд, бульба, кылі й заўтря атпашыцца, цэла будзіць, іна ішчэ ні пірірысла.* 3. Выарацца. *Бульбоўнік нада жжаць, ато ні атпашыцца, ціціва пад дышла ныбіваіцца і плуг выскакыіць, ня ўдзержыш.* 4. Скончыць ворыва; скончыць араць назаўсёды. *Як атпашымся, тады нядзелі дзьве будзіць свыбадней трошку. Старэй Міхяёнык атпыхаўся, сына ўжо атправіў с плугым.* **Адпахываный, адпаханый** *дзеепрым.* 1. Адараны. *Мы былі тама: ац сасоныk атпыхана, а ат кустоў ні атпахывына, можа, пазьней атпашыцца. Ац сажылкі атпахына с абоіх бакоў, тама, памойму, Кузьмянок круціўся с канём.* 2. Акучаны. *Атпахывыныю бульбу мы піряйшлі ўдзьвюх ды дарогі, цяперь каб етый кусочык, ат вербыў атпыхаць ды піряйціць. Атпыханыя бульба і расьцець луччы. Ці ета ў цябе бульба ішчэ ні атпахына?* 3. Выараны. *Ну ўверіў: ці мне доўга, усю атпашу,— сыбрала я кыпаньніц, прішлі: айдзе ж атпахывыныя грядкі — ні адна плугым ні пырянута і яго німа с канём. Наныч асталіся атпыханыя грядкі, цісканець марозік — і памерзьніць, а яно нешта сьвятлеіць, ядріна становіцца.*

**Адпетаваць, адпетаць** *зак.* 1. Моцна пабіць. *Што йта зы ніпуцьцё ўрадзілыся: пакуліцька ні атпетывыіш, ён цябе ні каплі ні паслухыіць. Каб нашы ні зуступіліся, цябе б там атпетылі як міліцькыга, харош ба ты быў.* 2. Цяжка напрацавацца. *Сколька яны ў лясу атпетывы-*

*лі! Лявон прыцаўнэй, здорыва за свой век атпетыў.* **Адпетавацца, адпетацца** *зак.* Цяжка напрацавацца. *Зьдзелыў, ну й зьдзелыў, каб польза ікая была, а ікая польза, што ты на етых злых духоў атпетывыўся, дайжа спасіба ні пачуў. Я помню, сколька ён атпетыўся ныт хатыю, паможч ні ў чом некыму, усё адзін і адзін.* **Адпетаваный, адпетаный** *дзеепрым.* Моцна пабіты. *Сяньня ў яго так ні абойдзіцца, сяньня ён пойдзіць атпетывыный, зырявець і пойдзіць, айдзе й дуры́ дзенуцца. Харошыя прішлі, пы вычах відна, што явіліся атпетыныя.*

**Адплявушыць** *зак.* Надаваць аплявух. *А так во кончыцца: будзіць лезьць, лезьць, пакуля атпляву́шуць.* **Адплявушаный** *дзеепрым. Стыдна будзіць, як атпляву́шыный пойдзіш, а етыга ты дайно зуслужыў.*

**Адправіцельная, адпраўная, адправашная** *ж.* Адпраўка, развітальны вечар. *Зьмітраковы заўтря сыну атправіцільныю спруўляюць, ідзець у армію, сяньня ўвесь свой род бегыюць сызыва́юць. Мы ўчора ў Мікітывых ны атпраўной былі, быгата справіліся. Ці вы ня чулі ў том канцы, калі ў іх атпра́вышныя нымічаіцца.*

**Адпрыбірацца** *зак.* Перастаць прыбірацца. *Вам, канешня, толька пріборы на ўме, а мы ўжо атпрібіра́ліся, нам ні ды прібіра́ньня.*

**Адпуздрачыць** *зак.* 1. Адбіць (пра мяч). *Во лоўкій, ны ляту мячык нызад атпуздря́чыў.* 2 *экспр.* Пабіць, натаўчы. *Цябе дайно нада було атпуздря́чыць крепінька.* **Адпуздрачаный** *дзеепрым.* Пабіты. *Атпуздря́чыный ты ні так будзіш рейць.*

**Адпырхываць** *незак.* Адскокваць. *Найшоў зыйчанёнка, ма́ліч…кій саўсім, толька я брацъ — ён атпы́рьхывыіць, гыняўся, гыняўся я і ні злавіў.* **Адпырхнуць** *зак.* Адскочыць. *Ну й конь, ідзеш к яму, кажыцца, стаіць, толька брацъ за гріву — атпы́рьхніць, і так круціся зь ім.* **Адпырхаць, адпырхацца** *зак.* 1. Перастаць прыгаць. *Сядзіць у хаці, атпы́рьхыў: зьвіх, знаць, ну дурачуцца ж цэлый дзень, чаму ногі ні пызьвіха́юць. Мой атпы́рьхыўся, у школу пашоў, некылі ба́лывыцца, урокі нада глядзець.* 2. Суняцца. *Скора ён атпы́рьхыіць, ася́дзіцца, дужа ґіморыў многа, работыць ня хочыцца, а нычальнік ба быў. Тута ён ціряшчур джоґ і сьмел, а тама атпы́рьхыіцца, пыспыкайнеіць.*

**Адпыхаць** *зак. перан.* Паспакайнець. *Што ёй ні скажуць пры Зьмітрычка, цяперя ня пы́хыіць, атпы́хыла, ато ж раншы як пымяну́ць, дык як агнём зыгаріцца.*

**Адпыхцець** *зак.* Напыхцецца. *Знаць, у хаці сядзіць, атпыхцеў, нада ж так рыстаўсьцець чылавеку, ня спышыцца, як пыравоз.*

**Адсварыць** *зак.* Перастаць сварыцца. *Калі вас ацсва́ріць, ні пірід дабром вас так хвыта́іць.* **Адсварыцца** *зак.* Насварыцца, перастаць сварыцца. *Ета што, каб ты паслухыла, сколька яны летыся ацсваріліся.* **Адсваромшы** *дзеепрысл. Ні ацсварёмшы, яны ні разойдуцца.*

**Адседжываць** *незак.* Трымаць лішні час у печы (пра хлеб). *Ні нада ацьседжывыць хлеб, можна воўрімя вы́ніць.* **Адседжывацца** *незак.* 1. Адставаць (пра верхнюю скарынку хлеба). *У харошыя хызяйкі ўсё як нада выходзіць, а ў няўрёмы і кулеш прігáріць, і хлеб ацьседжыіцца.* 2. Дранцвець, млець. *Доўга пысяджу, дык ныга ацьседжывыіцца.* **Адседзець, адсядзець** *зак.* Ператрымаць у печы (пра хлеб). *Ты тут астаесься, глядзі хлеб ні ацьседзь, ціріш час вынімай, нымачы скарінку і накрый рушніком. Зыбалмочыцца і на ўсё забудзіць, ацьсядзіць хлеб.* **Адседзецца, адсядзецца** *зак.* 1. Адстаць (пра верхнюю скарынку хлеба). *Хлеб ацьседзіўся, дужа доўга ў печы дзіржала. Відзіш, як у цябе хлеб ацьсядзеўся, уся скарінка атхлу́пла ат мякуша.* 2. Здранцвець, замлець. *Пыдажджы, пыдажджы, рызыйдуся трошку, ныга ацьседзілыся. Яно ж, буваіць, як доўга сядзіш, ацьсядзіцца ныга, тады яе пакуль расходзіш.*

**Адсініць** *зак.* 1. Пафарбаваць у сіні колер. *Як ацьсініла рушнікі, яны сталі ні рызьбярі пойміш якея.* 2 *перан.* Нарабіць сінякоў. *Ладна — ні ладна, а троху ацьсінілі, с хвынырáмі ходзіць.*

**Адскараджыванне, адскароджыванне** *н.* Паўторнае баранаванне. *Ацскыра́джывыньня ўсякім пасевам пымыгаіць, дождж пріб'ець, а праедзіш, быраною ўзрыхліш — і ўсходзіць. Будзіць у яго толк с ацскароджывыньня, кылі ён ні знаіць, у якей бок кыня пывярнуць.*

**Адскараджываць, адскароджываць** *незак.* 1. Вельмі добра баранаваць. *Мы сьпірва думылі, што ета саўсім спорціць жыта ацскыра́джывыць, а тады відзім, што яно лúччы росьць пычынаіць. Ацскароджывыць нада акуратна, каб зімля кускамі ні лумалыся, тады кареньня парьвецца.* 2. Барануючы адмяжоўваць. *Тута ні нада ацскыра́жывыць, міжа пупала пы быразёнкі, відна. Роўнінька мяжу ацскароджывый.* 3. Адпрацоўваць доўг баранаваннем. *Мы Сямёну ўсігда ацскыра́джывылі зы па́хыту. А што ты будзіш дзелыць адными рукамі, я й*

*ку́му ацскароджывыла.* **Адскараджывацца, адскароджывацца** *незак.* 1. Баранавацца паўторна. *Што дажджом пріб'ець, тады ацскыра́джывыіцца, хырашо пымыгаіць. Тута ўжо нечыму ацскароджывыцца, нада було месіц таму нызад ехыць, плуг зыпрігай ды піріпахывый.* 2. Закончваць баранаванне. *Вы ўжо ацскыра́джыіціся, а ў нас ішчэ бальшэй кусок нада абыйціць. Мы сяньня ацскароджывыімся і тады вун сколька ўремя будзім свабодны.* **Адскарадзіць** *зак.* 1. Вельмі добра забаранаваць. *Ны Стыхвана можна надзеіцца, ён ужо калі ацскарадзіць, як пух зямлю зьдзелыіць.* 2. Барануючы адмежаваць. *Тама відна, ат пасеіныга я ацскырадзіў, трі разы сьлед праехыў.* 3. Закончыць баранаванне. *Я сваё ацскырадзіла, я чуць на ногі нуступа́ю, мне с конімі ні справіцца.* 4. Адпрацаваць доўг баранаваннем. *Я пыпрашу, ён успашыць, а я тады ацскыраджу́ за ета.* **Адскарадзіцца** *зак.* 1. Забаранавацца паўторна. *Бульба дужадужа дажджом прібіта, як ацскародзіцца, іна скарей узойдзіць, едзь, скырадзі.* 2. Адмежавацца пры баранаванні. *Зь естыга краю ацскародзіцца, а там відна будзіць.* 3. Закончыць баранаванне. *Ацскырадзіліся, дык як гыра с плеч звалілыся, хуць ат пылу атмыцца можна.* **Адскараджываный, адскароджываный, адскароджаный** *дзеепрым.* Забаранаваны паўторна. *Тут ацскыра́джывына, відзіш, лёгінькыю быраною праехына. Нешта німа толку с ацскароджывыныга ячменю, редка прарезыўся і сядзіць кріцыю. Вы пылядзіця, як ацскароджыныя пышаніца зызілянелыся, а айдзе борыныміні праехына, кой-айдзе редзінькія расткі тырчаць. Ацскароджына пыхызяйску, відна, што ныстыя́шчый хызяін дзелыў.* **Адскарадзёмшы** *дзеепрысл.*

**Адскітацца** *зак.* Наблукацца, набадзяцца. *Большы некуды, сколька ацьськіта́ўся Ільля, усё яму нешта ні вязло ў жызьні.*

**Адскрабываць** *незак.* Аддзіраць скрабучы. *Ні нада дальшы ацскра́бывыць, рызьдзяреш — большы будзіць балець, пычанець гнаіцца, а як ня будзіш трогыць, зыжывець.* **Адскрабывацца** *незак.* Аддзірацца, адскрэбвацца. *Я дайжа ныхця́мі пробывыла драць, ніяк ні ацскра́бывыіцца, во прісохла.* **Адскрабаць** *зак.* Адскрэбці. *Трошку ацскрабыў тута збоку, пыглядзі, ікаво яно. Ты струпок ацскра́быіш, і ўзноў зыкрасьнеіцца, а хочыш, і нырываць пычанець.* **Адскрабацца** *зак.* 1. Адскрэбціся. *Я й так цыра́пыла, і етык, чуць-чуць ацскра́былыся,*

*усё дно як прідзірьвянела.* 2. Перастаць чухацца. *Ацскра́быісься, як пу руках ныдаю, палучыш скра́быньня.* **Адскрабаный** *дзеепрым. Тут відна, зь етыга боку трошку грыблямі ацскра́бына.*

**Адскрэсць** *зак.* 1. Адскрэбці, адгрэбці. *Нада ацскресьць с краю, тута будуць езьдзіць і паўтопчуць сена. Цеста нейкыя прікарела, ні ацскресьць, вадою пымачыць ці што.* 2 *перан.* Адцягнуць. *Учапіўся ў Кымшынка, ні ацскресьць, дужа нейкій зыядлый.* **Адскрэсца** *зак.* 1. Адскрэбціся, адгрэбціся. *Так, як ты хочыш, зы мінуту ні ацскрябецца, тута атнесьць нада ношкі дзьве.* 2 *перан.* З цяжкасцю адчапіцца. *Тэй сьпірва ўсё шуціў, а тады дывай ныпраўду прістыва́ць, Мітрыхван ат яго чуць ацскрёбся.*

**Адскулець, адскуліць, адскулецца, адскуліцца** *зак. неадабр.* Перастаць дакучаць, выпрошваць. *Як хвачу хлыбазіну, ты ў мяне жыва ацскуліш, і канхветы табе будуць, і пыпря́ньнікі. Большы ні заходзіць і на вочы ні пыказыіцца, ацскуліла. Ну што, ацскулеўся? — я цябе ат етыя дурнэя прівычкі атучу́. Ні знаю, ці ацскуліцца іна калі, ходзіць усьлед зы хвастом і ныдыідаіць.*

**Адскяпыванне, адскяпліванне, адскепліванне, адскёпыванне** *н.* 1. Адколванне (трэсак, лучыны). *Тваё ацьськя́пывыньня ні на што ні паходжа, якея пупала кускі пулучыліся. Пальцы як пысякеш, тады будзіць табе ацьськя́плівыньня. Ні мішай мне сы сваім ацьськеплівыньнім, я што нада і сам зьдзелыю. Якоя ж ета ацьськёпывыньня пысярёд, ты с кынца тапор убівай.* 2. Аскепкі. *Кладзі ў кучку ацьськя́пывыньня, у хату зыбярецца. Ацьськеплівыньня ну руку ды пыдз загнет. Во сколька ацьськёпывыньня, ны растопу бу́дзіць.*

**Адскяпываць, адскяпліваць, адскепліваць, адскёпываць** *незак.* Адколваць (трэскі, лучыну). *Нада раўней ацьськя́пывыць, ато відзіш, у цябе убок пышла кысіна́, яшчэ трошку — і тресьніць, прыпала палка. Тута ішчэ можна многа ацьськя́плівыць, пакуля да зросткый дойдзіш. Зь естыга боку нехта трошку ацьськеплівыў, а ты дзіўбані-ка во тут. Стаў лучынкі ацьськёпывыць ды нажом пы ладоні, а ён войстрый, рыскаціў ды касьці.* **Адскяпывацца, адскяплівацца, адскеплівацца, адскёпывацца** *незак.* Адколвацца (пра трэскі, лучыну). *Ня дужа ж яно хочыць ройна ацьськя́пывыцца, нейкыя павітыя дзеріва. Віджу, што ацьськяплівыіцца ладна, я з рызмаху ўдаріў, а там кусок жалеза — ці ні асколык якей, увесь*

*тапор пузубіў. Кускамі ацьскеплівыіцца троху, а пысярёд я баюся тапор гнаць: заб'еш ды ня выніш. Калі дзеріва роўныя, ацьськёпывыіцца роўна, а с крівіны ня дужа што атколіш.* **Адскяпіць** *зак.* Адкалоць (трэскі, лучыну). *Адзін корінь ацьськяпілі, а большы хуць зубамі ірьві — так зраслося крепка.* **Адскяпіцца** *зак.* Адкалоцца (пра трэскі, лучыну). *Пуўдня дывадзіў тыпарішча, пасьці гатова було, хацеў узьбіваць, а тута ўзяў і кусок збоку ацьськяпіўся.* **Адскіпаць** *зак.* 1. Адкалоць (трэскі, лучыву). *Ацьськіпа́й сколька лучыньік ны паттопу, ніхай сохнуць.* 2 *перан. экспр.* Адпрэчыць. *Я б такіх кывалерыў мігым ацьськіпа́ла аць сябе.* 3 *перан. экспр.* Пабіць. Яго каб *хырашэнька ацьськіпа́ў лума́чынью якою, тады б можа трошку абрузуміўся.* **Адскіпацца** *зак.* 1. Адкалоцца (пра трэскі, лучыну). *Во зь естыга боку нескылька па́лычык ацьськіпа́іцца, тута сучкоў німа.* 2 *перан. экспр.* Адчапіцца, адстаць. *Як Пітрыка ўвідзілі, тады ацьськіпа́ліся, ато було хуць ґвалту крічы.* **Адскепленый, адскёпаный** *дзеепрым.* Адколаны. *Ацьськепліныга ньізад ні прідзелыіш, пірісякі на дровы, ці ты будзіш пы грыбяльнішчу плакыць. Некылі вазіцца, ныбярі ацьськёпыных кусочыкыў, січас многа ні нада.* **Адскіпаный** *дзеепрым.* 1. Адколаны (пра трэскі, лучыну). *Тама трошку ацьськіпа́ных палычык ёсьць, унясі, ны растопу хва́ціць, а наверьх і сырейшыя можна.* 2. Пабіты. *Пыбягіць ён січас ацьськіпа́ный ат'етуля.* **Адскяпёмшы** *дзеепрысл. Ацьськяпёмшы дзьве шчэпычкі, ты хочыш печ рыста́плівыць.*

**Адслаблянне** *н.* Паслабленне. *Скарей шыв'яліся с ацслыбля́ньнім сы сваім, ні рызьвязыіцца — нажом різані.*

**Адслабляць, адслабліваць** *незак.* Паслабляць. *Рызьвяжы і паціхіньку-паціхіньку ацслыбля́й, а я буду збоку вілкымі падзьдзержывыць. Пычаў ацсла́блівыць, вярёўка выіхыла з рук, дровы і гу́ркнулі, хырашо, дзіцёнык ні стыяў рядым, а сам пасьпеў ацскачыць.* **Адслабляцца, адслаблівацца** *незак.* Паслабляцца. *Нешта ў цябе нісколька ні ацслыбля́іцца, ці ні зыжайся ў пятлю пыд вярёўку другей вузёл. Тваё зыв'я́зывыньня ацсла́бліiцца, глядзі, каб воз ні разьехыўся, тады будзіш вазіцца, пірікла́дывыць.* **Адслабіць** *зак.* Паслабіць. *Ацсла́б вярёўку, дужа туга зыцягнута, рукі ні падзьдзеніш.* **Адслабіцца** *зак.* Паслабіцца. *Ацсла́біліся твае зыв'я́зкі, нічога ні дзяржыцца, усё на́нывa нада вiзаць.* **Адслабленый** *дзеепрым. Усе вярёўкі ацсла́бліныя, дрябінка выніцца.*

**Адсмаргыванне, адсморгыванне** *н.* Рэзкае адцягванне. *Тут і ацсма́ргывыньня ні паможыць, нада новый шнурочык, етый увесь ну вузюлка́х. Цішы с ацсморгывыньнім, пырваць можыш.*

**Адсмаргываць, адсморгываць** *незак.* Рэзка адцягваць, развязваць. *Ну разьві ж так ацсма́ргывыюць, ірвануў і пырваў, а каб ціхінька ссунуў, яно б і цэла було. Ні нада вакно ацсморгывыць.* **Адсмаргывацца, адсморгывацца** *незак.* Рэзка адцягвацца, развязвацца. *Нешта тут ні ацсма́ргывыіцца, відна, якей-то вузялок ёсьць, што заела. Таго ні ацсморгыіцца, што рукі ня ў тэй бок служуць.* **Адсмаргнуць** *зак.* Рэзка адцягнуць, развязаць. *Гомын мы нейкій чулі, я ацсмаргну́ла зынавесычку, пыглядзела, ну було ўжо цімнува́та, нічога ня відна.* **Адсмаргнуцца** *зак.* Рэзка адцягнуцца, развязацца. *Я думыў, лёхка ацсмаргнецца, а тута заціснулыся, ня йдзець ні туды, ні нызад.* **Адсмаргнутый, адсморгнутый** *дзеепрым. Я ні паглядзіў, што вярёўка ацсмаргну́та, павёз, а тута дрёгка, сена і разьехылыся. Ацсморгнутыя канцы я зывізаў, каб яны ні руспуска́ліся.*

**Адсопсць, адсопць** *зак.* Адсапціся, перастаць сапці. *Дай ты яму ўремя ацсопсьць, ніяк ня спы́шыцца — столька бег. Прідзіцца яму ацсопць нат погрібым, сам нікому ні хацеў паможч і к яму ніхто ня пойдзіць.* **Адсопсца** *зак.* Адсапціся, аддыхацца. *Пастой, ацсапі́ся, куды ты ляціш на злом гылавы.*

**Адсукывацца** *незак.* 1. Адкасвацца. *Саўсім ні дзіржацца рука́вы, ацсу́кывыюцца.* 2 *перан.* Адчэплівацца, адвязвацца. *Мы збоку стыялі, глядзелі, хацелі ўмішацца, а тады відзім: сталі ацсу́кывыцца — ну йдзіця.*

**Адтаванне** *н.* Раставанне. *Пат хворысьцім у бальшую вясну зыця́гывыіцца аттыва́ньня, доўга лёд ні рыстаець.*

**Адтаіванне, адтоіванне** *н.* Адмаўленне, утойванне. *Знаю, што яны ета ўтварілі, і ні прізнаю́цца, во ныдаела іхныя аттáівыньня. Ты іх ніяк ні атвучыш ат етыга аттоівыньня.*

**Адталаваць** *зак.* Вытаптаць. *С таго краю ці сей, ці ня сей, куры ўсё чыста атталу́юць, жалься божа, што сімяно ў зямлю ўкініш.* **Адталавацца** *зак.* Натаптацца, натаўчыся. *Во ўжо аттулува́ліся ма́льцы, ты пылядзі, сколька яны ячменю вы́тыптылі — усё зы мячыкым лазілі.* **Адталаваный** *дзеепрым. Аттулува́ныя копкі нада пірявезьць скарей, дождж хля́ніць і ўсё сянцо прыпадзець.*

**Адтапліваць** *незак.* Затапляць, падтопліваць. *Як бальшэй пáвыдык, ніжнія хаты кыла лугу ў іх аттáплівыіць, пыд мастом выда стаіць, ато й вышы пыднімаіцца.* **Адтапліваццa** *незак.* Затапляцца. *Па етый лашчы́нкі жыта нілізя ні разу сеіць, усігда аттáпліiцца і вымікáiць.* **Адтапіць** *зак.* Затапіць. *Пышаніца пычыла ўжо ўсхадзіць і ўсю лашчыну аттапіла дыжджамі.* **Адтоплeный** *дзеепрым. Тая лашчына аттопліна, прыпадзець жыта.* **Адтапёмшы** *дзеепрысл. Еткій луг аттапёмшы, хочыш, бясь сена астáнуцца людзі.*

**Адтарабарыць, адтарабарыцца** *зак. неадабр.* Скончыць бязладную, шумную размову. *Ні знаю, калі яны аттырыбáрілі, два разы я прышынáлыся — усё сядзелі, дуріліся. Ня столька ім урeмя нада аттырыбáріцца, як ты думыіш, ім каб ны нядзелю засесьць, а можа й с хвосьцікым.*

**Адтарабеніць** *зак. неадабр.* Адбалбатаць. *Доўга іна там ні пыстаіць, аттырабеніць і пойдзіць, а вы можыця стыяць сколька хочыця.*

**Адтараторыцца** *зак.* Скончыць шпаркую, неразборлівую гаворку. *Стой ты і жджы іх, яны ішчэ ні аттыраторіліся,— січас кыня зывярну, а вы тут хуць да ночы мяліця пустоя.*

**Адтаўмясіць** *зак.* Патаптаць (гразь). *Грязь аттаўмесюць, у бацінкі пыныбірáюць і прідуць з мокрымі ныгамі.* **Адтаўмясіцца** *зак.* Натаптацца (у гразі). *Аттыўмісяцца пы грязішчы і вернуцца нызад, нійдзе шагу ступіць нілізя.*

**Адтаўпясіцца** *зак.* Наштурхацца ў цеснаце. *Трошку народ аттыўпясíцца, разойдуцца, тады можна будзіць прайціць, а січас я ні хачу лезьць.*

**Адтаўхыванне** *н.* Адштурхоўванне. *Цішы с аттáўхывыньнім, стаіш спакойна, дык стой.*

**Адтаўхываць** *незак.* Адштурхоўваць. *Ета ж аттáўхывыіць мяне, каб с Толікым ні стыяла.* **Адтаўхывацца** *незак.* Адштурхоўвацца. *Аттáўхывыіцца ад бярёзкі і ляціць сколька жысьці, прыгыіць.* **Адтаўхнуць** *зак.* Адштурхнуць. *Пычаў быў выкамы́рівыцца, дык яго аттаўхнýлі ў вугыл, там ён і сьціх.* **Адтаўхнуцца** *зак.* Адштурхнуцца. *Аттаўхнýўся і піряпы́рьхнуў ціріс кынаву, іна ж ня вузкыя.* **Аттаўхнутый** *дзеепрым. Рызабíджыный, аттаўхнýтый стыяў адзін паць сьліўкымі збоку.*

**Адтоівацца** *незак.* Утойваць. *Спрасілі пры капёшкі, зразу пычаў аттоівыцца: я тама ня быў і нічога ні знаю.*

**Адтопкаць, адтопкацца** *зак.* Натупацца. *Я лі печы пакуль аттопкыю, зымарюся, а ня то мне палоць іціць. Якоя ні хызяйства, а й то старысьцю пакуль аттопкыісься, дык і заморісься.*

**Адтрапаць** *зак. перан.* 1. Скончыць балбатню. *Аттріпа́лі, чуць-чуць рызыйшліся, кажныму пы пяць разоў косьці пыпірімува́лі.* 2. Прайсці значную адлегласць. *Аттріпа́лі вёрст пац сорык, чуць жывэя пріцягнуліся.* 3. Цяжка адпрацаваць значны час. *Дзед рысказывыў, што ён крепка аттріпа́ў ны Галкоўскіх.* 4. Моцна змучыць, пазбавіць сілы (пра хваробу). *Ладна яго хвароба аттріпа́ла, к вясьне троху вы́кырыскыўся.* **Адтрапацца** *зак.* 1. Скончыць балбатню. *Паедзім, ні піряжджэш ты, пакуля яны аттреплюцца.* 2. Напрацавацца, адпрацаваць. *Што наш старік аттріпа́ўся зы сваю жызьню, сколька ён чаго пірядзелыў!* **Адтрапаный, адтропаный** *дзеепрым.* Змучаны цяжкай працай. *Сіла яго аттріпа́ныя, айдзе яму з мыладымі справіцца. Ён чылавек аттрёпыный саўсім.*

**Адтрусіць** *зак.* 1. Адсыпаць. *Аттрусі́ зьверьху, ні дынясеш, рассыпіш.* 2 *перан.* Адвесці мяжу, пасыпаючы чым-н. *Во ач шу́льца ґ бярну аттрусі́ аторію, і відна будзіць, айдзе веіныя.* **Адтрусіцца** *зак.* Адсыпацца. *Аттрусілыся і ладна, каб толька ні рыссыпа́ць.* **Адтрушаный** *дзеепрым. Мала аттру́шына, будзіць сыпыцца.*

**Адтрылюдзіць, адтрылюдзіцца** *зак. неадабр.* Скончыць балбатню. *Сядзь ты пад'еж, пакуль яны аттрілю́дзюць, кынца ў іх ні дажджэш. Пакуля мы зь імі аттрілю́дзіліся, дык і пітухі запелі, уся ноч так прыйшла, ні заснулі як сьледыіць.*

**Адтуманіць** *зак.* 1 *метаф. іран.* Пакурыць, накурыцца. *Аттума́нілі воґірі, ідуць нызад.* 2 *перан.* Перастаць задурваць, падманваць. *Кацю яны аттума́нілі, цяперя зу другую бяруцца, а Каця ж ім так веріла!*

**Адтупаць, адтупкаць, адтупкацца** *зак.* 1. Натупацца, нахадзіцца. *Я ўжо сваё атту́пыла, мне толька на печы сядзець. Як атту́пкыю, тады ўжо гляджу, каб на печ ускаціцца, пыліжаць мінутычку на цёплым. Атту́пкыісься, дык і пысядзець трошку можна.* 2 *перан.* Памерці. *Як атту́пыю, буду ліжаць спакойна, ні нада мне будуць ніякія ні заботы, ні клапоты. Атту́пкыла Хрісьцінка, на той нядзелі схувалі. Во і Хралёнык атту́пкыўся.*

**Адтурзаць** *зак.* Натузаць. *Крепка яго атту́рзылі за тэя капёшкі, чуць-чуць штра́пу ні ўляпілі.* **Адтурзацца**

*зак.* Натузацца. *Яны, знаць, ладна аттýрзыліся, быў лідагоській хлопіц, дык кызаў, што нашыму хлюсту пупала троху.* **Адтурзаный** *дзеепрым. То-то я гляджу, большы ён туды ні зьбіраіцца, ажно ета ўчора аттýрзыный прішоў.*

**Адтурлычыць** *зак. метаф.* 1. Скончыць гаварыць невыразна, незразумела. *Што іна аттурлы́чыла, ці ты рызыбрала хуць што-небудзь? Раз пычаў, няскора аттурлы́чыць.* 2. Перастаць спяваць. *Жаўрынкі аттурлы́чылі сваё, ня чутна.* **Адтурлычыцца** *зак.* Спыніць дамаўлянне, тлумачэнне. *Я сваё, іна сваё, пакуля аттурлы́чыліся, час прайшоў, ёй што-небудзь гыварiць крепкія нервы нада.*

**Адтурчэць** *зак. метаф.* 1. Нацячы. *Там нейкыя дзі́річка ў шыхвірі, дык знаіш сколька аттурчэла зá ныч, пасьці пуўтаза выліла.* 2. Перастаць спяваць (пра птушку). *Аттурчэлі жаўрынкі, ня чутна стала, пыляцелі ўжо ў цёплыя страны.*

**Адтушываць** *незак.* Спыняць гарэнне. *Я бальшэя гылавешкі аттýшывыю, а тады ызáўтріга уськідáю, яны і дыгáріюць, зы раз корінь, дубіна ні згыря́іць.* **Адтушывацца** *незак.* Спыняцца (пра гарэнне). *Як жа яно аттýшывыіцца, кылі ішчэ жарінкі бліщчаць, звáліцца каторыя ў салому — і пыжар.* **Адтушыць** *зак.* Спыніць гарэнне. *Гром як ударіў, пуня зыгарелыся, ну людзі набеглі, аттушы́лі.* **Адтушыцца** *зак.* Спыніцца (пра гарэнне). *Дзьве гылавешкі цьмеюць і цьмеюць, а ты гыварiў, усё аттушы́лыся.* **Адтушаный** *дзеепрым. Аттýшыных гылавешык айдзе зря ні кідай, там можыць іскырка астацца, а вецір рызадмець.* **Адтушомшы** *дзеепрысл. Аттушомшы, пылажы ны загне́т гылавешкі.*

**Адтыняць, адтыніваць** *незак.* Умацоўваць сценкі пограба, сажалкі плашкамі. *Вукулёнык умеў аттыня́ць, ён у столі руўнувáў канцы, крайнія бáлькі пыцьця́сывыў с таго боку, айдзе плашкі зыкладывыліся, а тады плашкі адну к адной пріпускаў. Некыму ўжо у мяне атты́нівыць і тоя тыненьня саўсім ні нада, ямку вырыў, столь зыклаў, каб ня сы́пылыся, і ніхай стаіць.* **Адтыніць** *зак.* Умацаваць сценкі пограба, сажалкі плашкамі. *Сярьгей умеў дывадзіць пыгрябы, каторый як атты́ніць, тама ня то што мыш — кымар ні пралезіць, яго дайжа ныймалі погріб зьдзелыць.* **Адтыніцца** *зак.* 1. Умацавацца плашкамі (пра сценкі пограба, сажалкі). *Сажылка ў цябе кріва аттыні́лыся.* 2. Перастаць умацоўваць сценкі пограба, сажалкі плашкамі. *Я ўжо аттыніўся — і здароўя ня*

*тоя, і сіла ні тая, і сыпыць туды дужа нечыга, два засічкі бульбы адгародзіш і гукым хвытаіць на ўсю зіму.* **Адтыненый** *дзеепрым. Аттыніный погріб? — ні ў кога ня ўвідзіш.* **Адтынёмшы** *дзеепрысл. Ета дзед наш аддыхаў, сажылкі аттынёмшы.*

**Адтырхыванне** *н.* Адштурхоўванне. *Ён ні глядзіць ны аттырхывыньня, смалою прістаець і ўсё.*

**Адтырхываць** *незак.* Адштурхоўваць. *Я ўжо дывай яго аттырхывыць, а ніяк ні атвізацца.* **Адтырхывацца** *незак.* Адштурхоўвацца. *Чаго ты аттырхывыісься, ён дужа хочыць пыгывcovaріць с табою.* **Адтырхнуць** *зак.* Адштурхнуць. *Айдзе ты яго атырхнеш, такога выла.* **Адтырхнуцца** *зак.* Адштурхнуцца. *Аттырхнўўся ат яго і пашоў, ні стаў рызгыварівыць.* **Адтырхнутый** *дзеепрым. Пыляцеў аттырхнўтый дыгары ныгамі.*

**Адурмачыванне** *н.* Адурманьванне. *Нейкыя адурмачывыньня ны Стыхвана нывалілыся: талкуім, што нілізя такея каровы брацъ, у яе мылыка ня будзіць, а ён упёрся, плоціць грошы і ўсё, што ты зь ім зьдзелыіш.*

**Адурмачываць** *незак.* Адурманьваць. *Я ўжо віджу, што пычынаюць Дынілёнка адурмачывыць, дык я яго зу рукаў ды «Пашлі!»* **Адурмачывацца** *незак.* Адурманьвацца. *Такоя хызяйства, што йна за дзінь адурмачыіцца: карова, пацьцёлык, кыбан, пацьсьвінкі, сьвіньня с пырысятымі, а куры, а гусі, пішчаць, крічаць, рявуць — карміі, нашто ім ета ўсё!* **Адурмачыць** *зак.* Адурманіць. *Адурмачыш ты мяне сваім балывыньнім, вазьмі цацкі ды займіся чым-небудзь, вун калёсікі пыкытай.* **Адурмачыцца** *зак.* Адурманіцца. *Адзін дзень зь імі пабудзіш і адурмачысься, я б нізаштычка ні сыгласілыся малых глядзець.* **Адурмачаный** *дзеепрым. Ці вы толька сяньня адурмачыныя, ці ўсігда такея, нешта з вамі ні найціць ні пыціряць, як з глумыкамі.*

**Адурона** *прысл.* Бяздумна. *Адурёна жывуць. Я б так адурёна ня дзелыў.*

**Адуроный** *прым.* Празмерны, такі, які немагчыма ўсвядоміць. *Летыся адурёный урыжай быў ны яблыкі, усе пряма асыпыліся. Хваліўся, што адурёныя грошы зыгрібаў, а як пріехыў, дык у маткі прасіў у горыд схадзіць.*

**Адхаласцякаваць, адхаласцякавацца** *зак.* Нажыцца халасцяком. *Калі ты ўжо атхылысьцякуіш? Атхылысьцікуваў Жэнька сваё, ходзіць, ны свадзьбу сызываіць. Во ў смак увыйшла жызінь, ніяк ні атхылысьцякуіцца.*

**Адхарчыць** *зак.* 1. Пакарміць пэўны час. *Месіц атхарчы́лі, а рышшчытаўся скýпінька.* 2. Перастаць карміць. *Я сваіх пыстыяльцыў атхарчы́ла, паехылі.* **Адхарчыцца** *зак.* 1. Пакарміцца пэўны час. *Яны дзьве нядзелі атхарчы́ліся ў Высілёвых.* 2. Перастаць карміцца. *Атхарчы́ўся і пашоў, мне свыбадней цяперь будзіць.*

**Адчаставаць, адчасціць** *зак.* 1. Пачаставаць, закончыць частаванне. *Пакуля сватоў аччуствáлі, дык і поўныч ны дваре. Аччасьціла я сваіх гасьцей, паехылі ўчора.* 2 *перан. іран.* Аблаяць. *Аччуствáла кумá кýма, вясёлінькій ідзець. Хвядора устрецiць цябе, дык аччасьціць, так ня вы́круцiсься.* 3 *перан.* Адлупцаваць. *Дарзýцца, што і свайго, і чужога аччастýю. Аччасьцілі ладна, пачэсывыіць косьці.* **Адчаставацца, адчасціцца** *зак.* 1. Начаставацца, нагасцявацца. *Учора яны крепінька аччуствáліся, пат поўныч вярнуліся. Сколька я іх аччуствáлыся, ну іх. Мікіцёнык аччасьціўся нядренна, пасьці месіц сядзеў на ўсім гатовым.* 2. Выслухаць лаянку. *Што хацеў, то й пулучыў: аччуствáўся, ходзіць пачэсывыіцца. Што ў цёткі аччасьціўся, ета нядренна.* 3. Атрымаць лупцоўку. *Абоя аччасьціліся, большы пыцскáкывыць ня будуць.* **Адчаставаный, адчашчоный** *дзеепрым.* 1. Пачаставаны. *Давольныя ішлі ат Ільлі, аччуствáныя. Максім аць Сьціпанёнка аччашчоный пашоў, вясёлінькій, відна, была бутылычка.* 2. Аблаяны. *Пахожа, што аччуствáныя абоя, толька ні хвалюцца.* 3. Адлупцаваны. *Ні я буду, што ты сяньня аччашчоный вы́прывісься.* **Адчасцёмшы** *дзеепрысл.* 1. Пачаставаўшы. *Вульляна, бувала, ні аччасьцёмшы ні разу ня выпусьціць с хаты.* 2. Аблаяўшы. *Глядзі, каб цябе ня вы́прывілі аччасьцёмшы.* 3. Пабіўшы. *Ніхай пупадуць аднаго, аччасьцёмшы пыбягіш.*

**Адчахвошчаный** *дзеепрым.* Адлупцаваны. *Так зь ім сяньня ні абойдзіцца, аччахвошчыный пойдзіць ат'етуліцька, палучыць сваё, што хочыць.*

**Адчыканіць** *зак.* 1. Адрэзаць. *Прібег, кусок кылбасы аччыкáніў, у рукý, у другую ськівку хлеба і кытануў на вуліцу, дужа ён твайго абеда ждаць будзіць.* 2 *перан.* Зрабіць адмыслова, адштукаваць. *Нам кырыбчáнскій масьцір аччыкáніў рямы, хуць на выстыўку вязі.* 3 *перан.* Адпрэчыць. *Нешта твае бабы аччыкáнілі Зьмітрачонка, большы ні заходзіць.* **Адчыканіцца** *зак.* 1. Адрэзацца. *Ну-ка бярі ножніцы, можа, у цябе луччы аччыкáніцца.* 2. Адштукавацца. *Ты ныпраўду масьцір харошый, тубуреткі аччы-*

*каніліся толька пулюбувацца.* 3 *перан.* Адчапіцца. *Ета ты ня ўмеў аччыканіцца ат яго, пымянуў ба Вулітку.* **Адчыканеный, адчыканетый** *дзеепрым.* 1. Адрэзаны. *Ух, якей ты скорый, я ішчэ ні скызала, резыць ці ня резыць, а ў яго ўжо гатова, аччыканіна. Канешня, ты страшный, айдзе ня пройдзіш, тама с аччыканітымі голывымі і ліжаць, і ліжаць, цябе нада быяцца.* 2. Адштукаваны. *Усё ў хаці даведзіныя, аччыканіныя аж блішчыць, ня то што ў цябе, атряхі. Такея ў яго хрантоны аччыканітыя, усяго ўсякыга нывырезывына і пыпрібівана.*

**Адчыкаць** *зак. жарт.* Адрэзаць. *А ты во пряма аччыкый, ні нывадзі дужа, тута ціряшчур ройна ні нада.* **Адчыкацца** *зак.* 1. Адрэзацца. *Во глядзі, як у мяне аччыкыіцца.* 2 *перан.* Перастаць вазіцца, зважаць на капрызы. *Хваціць, мы с табою аччыкыліся, сыбірай сваё тряхольля і кытай на ўсе чатырі сторыны, ні хацеў жыць пы-чылавечыску, жыві па-сыбаччыму.* **Адчыкнуць** *зак. аднакр.* Адрэзаць. *Пыцставіш пальцы, я табе іх і аччыкну, што ты будзіш дзелыць біс пальцыў, а?* **Адчыкнуцца** *зак.* Адрэзацца. *Во так скарей аччыкніцца.*

**Адчыніваць** *незак.* Адчыняць. *Я пашоў аччынівыць, а ямка была атложына, я і ўляцеў туды.* **Адчынівацца** *незак.* Адчыняцца. *Ты хырашэнька вароты прістукні, ато яны самі аччынівыюцца.* **Адчынятый, адчынетый** *дзеепрым. У хаці духацішча, усё дно як вокны ні разу ні аччынятыя,— праветрівыць нада, тыкая ціплыта ны дваре. Ну як жа ты на ныч кідыіш аччынітыя пуні.*

**Адчышчываць** *незак.* Адчышчаць. *Як жа ты аччышчывыў, кылі сьнегу кругом ні пралезьць, пукулупаў трошку і кінуў — аччышчына.* **Адчышчывацца** *незак.* Адчышчацца. *Вун яны, аччышчывыюцца, скрябуць адзін аднаго.* **Адчышчаный, адчышчываный** *дзеепрым.* І ні *заметна, што етый плашч аччышчаный. Трошку аччышчывына, нада було б атмесьць хырашэнька.* **Адчышчаный** *дзеепрым. перан.* 1. Аблаяны. *Каб адзін раз ды другей пашоў аччышчыным, дык ба ўняўся, пыспыкайнеў, а ты яму слова скызаць баісься.* 2 *перан.* Пабіты. *Ніхай пыхваліцца, за што аччышчын.*

**Адчэп** *м.* Адчэпка. *Яму аччэп якей-нібудзь нада.*

**Адшамацець, адшамацецца** *зак.* Перастаць шоргаць, шамацець. *Як кошку прінісла ў хату, зразу мышы ачшымацелі, ціха стала, ато ж былі пы гылывах пашлі. Вы, знаць, пыц самыя раньня ачшымацеліся ў сені.*

**Адшарахываць** *незак.* Адціраць, адшоргваць. *Тута*

*ўжо вілкымі ачшырáхывыіш, таго і грязьніцца, нада будзіць як сыбрацца ды зыбяліць.* **Адшарахывацца** *незак.* Адціранца, адшоргвацца. *Мел стаў быйстра ачшырахывыцца, а містамі атлітаіць пляйсьцірымі.* **Адшарахаць** *зак.* Адцерці, адшоргаць. *Ну рукаве нейкыя грязь, ачшырáхый.* **Адшарахацца** *зак.* Адцерціся, адшоргацца. *Ты ладна ачшырáхыўся, увесь бок у пулушубку вымызын.* **Адшараханый** *дзеепрым. Такея ўжо ачшырáхыныя шкуматы вісяць, што ні знаіш, зь якога боку пыдыйціць.*

**Адшарудзіць** *зак. метаф.* Перастаць шумець, бушаваць. *Кызалі, трошку ачшурудзілі, ну доўга ім ні далі рызьвярнуцца.* **Адшарудзіцца** *зак.* Скончыць збірацца, рыхтавацца. *Ён ужо ачшурудзіўся, ціха сядзіць. Дзеўкі думылі, і праўда вы зы гырманістым паехылі, сколька яны ачшурудзіліся дырма, ну будзіць вам.*

**Адшкаруднічаць, адшкарыднічаць, адшкаруднічацца, адшкарыднічацца, адшкарудзіцца** *зак.* Скончыць вычваранне. *Тоя ўремя ім ні було ўходу, усе мы помнім, сколька яны ачшкарю́днічылі. Каб нашы хлопцы зьехыліся, ён ба ў тэй жа міг ачшкарю́днічыў. Ладна ачшкáрідднічылі, ні адзін добрым словым пымяніць, каб ім узныку ні було, суседзім такім. З вузёл таго чылавека, а сколька ён ачшкарю́днічыўся, сколька ат яго Мыксіміняты ныцярьпеліся. Во калі ён ачшкáрідднічыўся, найшоў сабе ціхамірія. Найшлі вы пры каго пўтніга тулкуваць, ён скора ачшкарюдзіцца.*

**Адшмуляный** *дзеепрым. перан.* Адлупцаваны. *Ня пойдзіць дабром, ачшмуля́ный пыбягіць, айдзе й упорства дзеніцца, што ён малютычка ці што.*

**Адшчапуліваць** *незак.* Вызваляць з абдымкаў. *Як павісьніць на Косьціку, хут ты яе ачшчапу́лівый.* **Адшчапулівацца** *незак.* Вызваляцца з абдымкаў. *Дужа зудушэўныя падругі, абняліся і ні ачшчапу́лівыюцца адна ад другой.* **Адшчапуліць** *зак.* Вызваліць з абдымкаў. *Як хваціў яго за шыю, нашто ўжо крепкій у руках Антончык, а й то ня мог ачшчапу́ліць.* **Адшчапуліцца** *зак.* Вызваліцца з абдымкаў. *Во ты хаці толку з большых, мáлый схваціўся — ні ачшчапу́ліцца.* **Адшчапуленый** *дзеепрым. Ета ён прітвыряіцца, рукі ў Якыва ачшчапу́ліны.*

**Ажарабіцца** *зак.* 1. Прывесці жарабя. 2. Нарадзіцца (пра жарабя). *Наш выраненькій жаребчык у самыю пáхыту ажырябіўся. Сёліта ў нашый брігадзі трі жырябёнычкі ажырябілыся.* 3 *перан. груб.* Абапіцца. *Ажаребісься ты сяньня ат вады.* **Ажарабёмшы** *дзеепрысл.*

1. Ажарабіўшыся. *Зразу, як ажырябёмшы, ты ж яе ў плуг ні зыпрягеш.* 2. Ажарабіўшы. *Ажырябёмшы лысінькыга, іна тады апáла на ногі, і мы яе прыдалі.*

**Аздараўляць** *незак.* Папраўляцца. *Цяперя ён ныдбірігáіцца, дык стаў патроху аздырыўляць.*

**Айканнік** *м.* Той, хто войкае. *Такей ты áйкыньнік дылікатный, тама болі на нохыць, а ты рызайкыўся, як нівісь ікая боль.* **Айканніца** *ж.* *А сьціхні, áйкыньніца, пыцярьпі, цэла будзіш, пакуля 'скабку дыстану.*

**Аказіць, аказляніць** *зак.* Прывесці казляня. *Яе кыза козьліка аказіла, ёй каб козычка, дык гудувала б. Стáрыя акызьляніла козычку, гудуваць кінім, а ў мыладэя два кызьлянкі, нашто б іх два.* **Аказіцца, аказляніцца** *зак.* 1. Прывесці казляня. *Рана кыза аказілыся, кызьліняты ўжо бальшэя. Мыя козка скора акызьляніцца, хуць дзіцёнку стыканок мылыка будзіць.* 2. Нарадзіцца (пра казляня). *Кызьліняткі аказіліся мáлінькія, а ўжо глянь, як пыдрасьлі. У іх пырядышный кызьлянок, большы месіца як акызьляніўся.*

**Акалачыванне** *н. жарг. неадабр.* Бязмэтнае знаходжанне. *Туріць іх нада зь естым акылáчывыньнім.*

**Акаціць** *зак.* Прывесці ягня. *Мыя аўца акаціла дзьвюх авечык, гудуваць буду абеіх.* **Акаціцца** *зак.* 1. Прывесці ягня. *Буваіць, аўца увосінь акоціцца, як у поля ішчэ гыняюць, тады зь ёю горя.* 2. Нарадзіцца (пра ягнят). *У абеіх авец акацілыся пы быранчыку і па вечычкі.*

**Акацяніць** *зак.* Прывесці кацяня. *Піцярых штук акыцяніла, а ніхай ты здохла была сы сваімі кыцінятымі, нада яны мне тута.* **Акацяніцца** *зак.* 1. Прывесці кацяня. *Ны хаці акыцянілыся, ужо чутна — пішчаць.* 2. Нарадзіцца (пра кацяня). *Яны рана вясною акыцяніліся, двух я закінуў, а два асталіся, ужо ладныя кыціняты, вазьмі.*

**Акачурыць** *зак.* Зрабіць так, каб учадзеў. *Так рана зычыняіш юшку, дзяцей можыш акачýріць.* **Акачурыцца** *зак.* 1. Учадзець. *Глядзі комін рана зычыняць, акачýріціся, што жывымі ці пывыцягыюць.* 2 *перан.* Памерці, апруцянець. *Людзі прібеглі, дык што яны памогуць, калі ён ужо акачýріўся.* **Акачураный** *дзеепрым.* *Пуўдня акачýріныя ліжала.*

**Акаяннасць** *ж.* Нягодніцтва. *Яны ўжо ні знаюць, куды сваю акыяннысьць дзівацъ, усіх ба, кажыцца, паелі, а яны адны б асталіся і рускушувáлі.*

**Акравяніванне** *н.* Запэцкванне ў кроў. *Я дужа ні люблю акрывянівыньня, нада ўсё акуратнінька дзелыць.*

**Акравяніваць** *незак.* Запэцкваць у кроў. *Ты ж рукáвы ні акрывя́нівый, пыткысай вышы, ці ета ёсьць урэмя зумуваць.* **Акравяніваццa** *незак.* Запэцквацца ў кроў. *Калі ністарожна рызьбіраіш, мяса акрывя́нівыіцца, тады яно хужы.* **Акравяніць** *зак.* Запэцкаць у кроў. *Кроў пышла з носа, акрывя́ніў падушку, пакуля спрасонку рызыбраўся.* **Акравяніцца** *зак.* Запэцкацца ў кроў. *Айдзе білі кыбанчыка, уся трыва акрывя́нілыся, куры ходзюць і дзяўбуць.* **Акравянены** *дзеепрым. Стаіць як разбойнік, рукі акрывя́ніныя па локці: кыбына рызьбіраў, верна, пудоў пітнаццыць кыбанюга, сала ў чэцьвірць.*

**Акуратнік** *м.* Акуратыст. *Сярьгей акурáтнік быў, ня тоя, што ты, няўрёма нейкыя. Памяниш.* **акуратнічак.** *Ты глядзі, якей акурáтнічык, дайжа пасуду зы сабою мыіць.* **Акуратніца** *ж. Такую акурáтніцу пыіскаць толька, ці відзіш, якей у яе пырядык у хаці.*

**Амарываць** *незак.* Зморваць. *Як трошку пыківаюся, мяне і амáрівыіць, ны жаре саўсім быць нілізя.* **Амарывацца** *незак.* Зморвацца. *Калі лёхкыя работа, я дужа ні амáрівыюсь, а ціжалей мне работыць трудна.* **Амораный** *дзеепрым. Печ вы́тыплю, сяду і сяджу уся аморіныя нейкыя.* **Амаромшы** *дзеепрысл. Трошку пыпаролыся ны грідах і во ўся амарёмшы.*

**Аматар** *м.* Круцель. *Такей аматы́р што хочыш скруціць, такіх пыіскаць ды пыіскаць. Сірахвіміны хлопцы амáтыры ішчэ тэя.* **Аматарка, аматарша, аматаршая** *ж. Во ўжо амáтырка, чаго толька зь яе ні тварілыся. Тыкая ўзілася амáтырша, чышчы Андрея рыспыріджаіцца, ужо ён пыд яе дудку скачыць. Успакоіў ба ты сваю амáтыршыю троху, увы ўсякыю пролыбку лезіць, куды б ёй саўсім ні нада носа торкыць.*

**Аматарстваваць, аматарнічаць** *незак.* Распараджацца, камандаваць. *Іна б амáтырствывыла, каб яе хуць на нохыць хто слухыў. Амáтырнічыць ён любіць, ён дужа зыя́длый зывадэвуш.*

**Апанелый** *прым.* Звыклы да лайдакавання. *Апанелый стаў, што палкі дроў у хату ні ўнясець, кармі ты яго і паі, а ён вылежывыцца ды выгу́лівыцца будзіць.*

**Апарасіцца** *зак.* 1. Прывесці парасят. 2. Нарадзіцца (пра парасят). *У нас як апырасілыся раз высімнаццыць пырасёнычкыў, во було горя, сьвіньня ні мыгла ныкарміць, дужа рана сталі пріпаівыць мылаком, і ўсе вы́жылі.* **Апарасёмшы** *дзеепрысл. Апырасёмшы зыдавіла дваіх зразу, во мáцірка. Було нам і бяды, і вазьні: сьвіньня*

*апырасёмшы зыбалела, ні ўстаець, карміць іх ня хочыць, а яны пішчаць.*

**Апекар** *м. іран.* Апякун, абаронца. *Ці зь яго дренный апекырь, што айдзе зарьвець, то й звылакець з двыра.* **Апекарка, апекарша, апекаршая** *ж. Ці мы ж ні зналі такую апекырьку, ні пынімаім, пра што йна большы ўсяго думыіць і клапоціцца. Во яшчэ адна апекырьша бярецца, снабдзіць па вушы ўсім, чым хочыш. Ці дайно ж іна тама зы апекырьшыю?*

**Апекарства, апекарнічанне** *н.* Апякунства. *Ты луччы мяне знаіш, што зь яго апекырьства палучыцца. Мне тваё апекырнічыньня ні нада, як-небудзь абыйдуся бізь яго.*

**Апекарстваваць, апекáрнічаць, апекарыць, апекарыцца, апекарстававацца** *незак. іран.* Апекаваць, абараняць. *Тама як стаў Кузьма апекырьствывыць, зы пайгода хызяйства ляснула ўсё да бы́лычкі. Многа ці мала, алі ж апекырнічыла, была ўсю ўладу над ім зыбрала ў свае рукі. Узілася апекыріць, што куды там каму пытыкацца, усяму кодлу гылыва стала. Іна любіць нуд людзямі апекыріцца, каб усе пад ёю хадзілі і пычыталі яе. Думыў, што будзіць тут апекырьствывыцца, на тоя біў, каб сабе жырнейшый кусок ухваціць.*

**Апратнік** *м.* Акуратыст. *Вот як ета так пулучаіцца, умесьці расьлі, гудуваліся, адзін маліц апря́тнік, а другей атря́ха атряхыю. Памянш.* **апратнічак.** *Хырашо, як мальчык апря́тнічык, нада ўсё зы сабою прібіраць акуратнінька, складывыць.* **Апратніца** *ж. Ікая ж апря́тніца, кылі ўсё роілым у хаці, а яшчэ мылыдая баба.*

**Апусцюмшый** *дзеепрым.* Неахайны, зусім абыякавы да парадку, чысціні, прыстойнасці. *Чаго ён стаў такей апусьцёмшый, можна ж хуць нямножка зы сабою прігледзіць.*

**Апушчэльнік** *м.* Неахайнік. *Як на ногі паднімуцца, так і жэнюцца, атря́хі такея, апушчэльнікі.* **Апушчэльніца** *ж. Ці ета ж можна дзеўкым такімі апушчэльніцымі быць?*

**Апякуннічаць** *незак. іран.* Апекаваць, абараняць. *Над імі ўзяўся цяперь Ныпряёнык апякýньнічыць, етый ныправіць на пуць ісьцінный: руб вырвыць.*

**Апялетаць** *зак.* Прагна і многа з'есці. *Місішчу жыдкія бульбы апялетыў, мяса кусюган, а тады я ныліла зыбіляныя крупені — усё пашло.* **Апялетаный** *дзеепрым. Усё апялетына, пустэя гаршкі стыяць ны загнеці.*

**Арап** *м. метаф.* 1. Брудны чалавек. *Патходзіць нейкій арап, грязішчы на ём па вушы, а тады гляджу — ета ж Санька твой.* 2. Загарэлы чалавек. *Зыгарей, арап арапым стаў, вочы толька бліщчаць як бялкі.*

**Аржаніна** *ж.* 1. Жыта. *Нада було б аржаніны мяшочыкі два змалоць, ці ета кажный раз у лаўку набегыісься.* 2. Жытняя мука. *С аржаніны хлеб харошый.* 3. Жытні хлеб. *Калі аржаніна ны сталe, ета ня голыд. Памянш.* **аржанінка**. *Вам ужо і аржанінка ні пу душэ, пыдажджыця, я вам яшныга сьпяку, тады носым пакруціця.*

**Армяк** м. Армяк. *Памянш.* **армячок.** *Я скызала сваймy пашыць арьмячок, дык ні блізка: хто йта цяперь носіць арьмякі! Памянш.-зневаж.* **армячышка, армячэнка, армячонка.** *Раншы глядзелі, каб армячышка на плечы быў і ладна. Армячэнка вун вісіць, накрыіцца і пірінaчуіць. Якей ні армячонка, а ўсё ні так нымякніш. Павеліч.* **армячышча.** *Такей армячышча цяжолый, сукно валіна крепка, яго ніякій дождж ня пройміць. Гл.* і р м я к.

**Артамон** *м. іран.* Недарэка, няўклюда. *Памянш.* **артамончык, артамонічка, артамоня, артамонька.** *Паслухыў я свата іхныга: артамончык, толку ніякыга. Хадзі сюда, артамонічка, сядзіш, я табе места бірягу. Дывайка двору зьбірацца, артамоня мой, цябе ж хуць зу руку вядзі. Хадзіла зь якім-то артамонькыю, як нідапечыный нейкій.* **Артамонка** *ж. Як жа ты, артамонка, нічога ня пойміш, табе ж рускім ізыком гаворюць, што рыстаропа быльшая і ні пярёйдзіш.*

**Артамоніць, артамоннічаць** *незак. іран.* Быць разявакай. *Адзін раз хырашэнічка правучуць, дык ня будзіць артамоніць, пы быках рызглідацца. Паедзіш, дык ні артамоньнічый, а глядзі калёсы адны ні кідай.* **Артамоніцца, артамоннічацца** *незак.* Пустазвоніць, пляткарыць. *Еcьлі сыйшліся — izьвесна, чаго сыйшліся: будуць артамоніцца пуўдня, ета зыняція ікраз па іх. Мне з вамі некылі артамоньнічыцца, пасобіць вы ні пасобіця, а грядкі могуць у ноч астацца.*

**Артамонніčанне** *н.* Разявацтва. *І хырашо, што вы ня відзілі таго артамоньнічыньня.*

**Артачанне** *н.* Упартасць. *Зь яго б ета артачыньня нада було б выгныць, я ўмею ета дзелыць. Уніміся сы ртачыньнім сы сваім.*

**Арташлівый** *прым.* Упарты. *Яны дужа арташлівыя, луччы ўсіх шчытаюць сябе. Нечыга быць такою арташлівыю, кылі с табою як ш чылавекым рызгыварівыюць.*

**Асаджыванне** *н.* Устаўлянне шуфляды для акна. *С такою работыю ім ны нядзелю хваціць аса́джывыньня.*

**Асаджываннік** *м.* Той, хто ўстаўляе шуфляду для акна. *Ты ж ні вазьмі такіх аса́джывыньнікыў, што тыпыра ў руках ні дзіржалі.*

**Асіраціцца** *зак.* Асірацець. *Мы ма́лыя асіраці́ліся, пяціра нас асталыся, кукувала матка з намі, большы некуды як кукувала.*

**Аскялёпак** *м.,* **аскялёпіна** *ж.* Аскепак. *Тама ў цябе аськялёпкыў усякіх на дзьве печы сыбярецца. Якую-небудзь сушэйшую аськялёпіну паттoрні, каб рызгарэліся дровы. Памянш.* **аскялёпачак, аскялёпінка.** *Аськялёпычкі сыбяры ды складзі ны ямку, ны паттопу пацсохнуць. Во паччы́сьціліся, дайжа аськялёпінкі ны дварe ні асталыся. Павеліч.* **аскялёпішча.** *Тарчыць аськялёпішча на пне, печ ба ім вытыпіў.*

**Астраміць** *зак.* Асарамаціць. *Ну што, кылі ты яго астра́міш, можа ён ні вінуват саўсім.* **Астраміцца** *зак.* Асарамаціцца. *З ладныя сям'і хлопіц, а нада ж, так астрамі́ўся, ён, відна ні сам, яго, верна, падбілі лезьць у сад.* **Астрамлены́й** *дзеепрым. Столька ны яго Прося ныгнала ўсяго, такей ён астра́мліный, ажно глядзець жалка.* **Астрамёмшы** *дзеепрысл. Будзіш хадзіць, астрамёмшы бацьку.*

**Астуджанне** *н.* 1. Ахаладжванне. *Зваліцца тарелычка ці зы вакно, ці ны лаўку і рызаб'ецца, во табе й астуджа́ньня будзіць. 2 перан.* Супакойванне. *Яму ні такоя астуджа́ньня нада.*

**Асцервянеласць** *ж.* Раззлаванасць да страты самавалодання. *Сколька ж у ём асьцірьвянелысьці, у етым шкарпэту!*

**Асцюля, асцюліна** *ж.* Асцюк. *У аторі пыкычаўся, дык на ём асьцю́ль поўна. Асьцю́ліна адна будзіць ва́дзіць ніізьвесна сколька. Памянш.* **асцюлька, асцюлінка, асцюлічка.** *Асьцю́лька, буваіць, пупадзець куды і коліцца, і коліцца, мішаіць. Зьнімі пінжак ды тріхані асьцю́лінкі. Асьцю́лічка ма́ліралькыя ў вока пупала, а сколька намучыўся!*

**Асэсар** *м. іран.* Валадар, фанабэрлівы чынуша. *Асэсыр мне найшоўся ўказывыць, што дзелыць і як хадзіць, схадзі вун свайму дзядзічку ўкажы.* **Асэсарка, асэсарша** *ж. Ну хто ж цябе, асэсырку, ні знаў, дужа ты любіш пырядкі пывадзіць і рыспыріджацца. Ты ні ўказывый, як гываріць і што гываріць, асэсырша мне ныйшлася.*

**Атавіна** *ж. зніж.* Атава. *Каб пуц сухую пагоду скасіў, пуцём увыбраў, атáвіна б тожа ні звылялыся. Памяніш.* **атавінка.** *Вомыль сена, саўсім вомыль, худзь ба атáвінкі якога паўвозіка нызьбіраць.*

**Атажмаць** *зак.* 1. Выціснуць. *Атажмí етыя свае тряпкі ды ўськінь пат крышу ны вярёвычку, яны ўміг высыхнуць.* 2. Адсунуць прыціснуўшы. *Мушчыны іх атыжмáлі ў бакі, ато б маглі крепка схляснýцца.* **Атажмацца** *зак.* 1. Выціснуцца. *Плацьця атажмецца і разьвесіцца посьлі, пойдзім есьць.* 2. Адсунуцца пры націсканні. *Во тута скáбы ішчэ троху атажмýцца.* **Атажманый, атажматый** *дзеепрым.* 1. Выціснуты. *Во твае атыжмáныя пасьцілкі ліжаць. Усё атыжмáтыя кладзі на ўслончыку.* 2. Адсунуты пры націсканні. *Атыжмáтыю сьценку ныўряд ці пыставіш нызад як стыяла.*

**Атайстрыванне** *н.* Адточванне. *Доўга ты дужа возісься с атáйстрівыньнім.*

**Атайстрываць** *незак.* Адточваць. *Я пычаў брусочыкым атáйстрівыць, а нічога ні бярець, нада патпілкым цірнýць, ды харошыга ў мяне січас німа.* **Атайстрывацца** *незак.* Адточвацца. *Нісколька тапор ні атáйстрівыіцца, дужа сух, як быў туп, так і астаўся, можа б ны тачыла цірнуць.* **Атайстрыць** *зак.* Навастрыць. *Настолька лупатка зутупілыся, што нілізя було атайстріць.* **Атайстрыцца** *зак.* Навастрыцца. *Доўга шуруваў патпілкым, і нісколька ні атайстрілыся, зубузовына нівісь як, а сыма матычка дужа цьвёрдыя.* **Атайстрываный, атайстраный, атайстроный, атойстраный** *дзеепрым. Якей жа ён атáйстрівыный, кылі як тупіца, ты сам паспробый атреж етым нажом. Воць цяперя нажы атáйстріны! Рубанкі атайстрёны хырашо, ато ж былі як палка, у достку ня лезьлі. Бярі атойстріный кырнáчык, ім хырашо резыць.* **Атайстромшы** *дзеепрысл. Атайстрёмшы нажы, пойдуць у лазу к Сажу.*

**Атамшчаць** *незак.* Помсціць, адпомшчваць. *Доўга гразілі, што будуць атымшчаць, толька іх ніхто ні спужаўся.*

**Атаўсюль, атаўсюля, атаўсюліцька** *прысл.* Адусюль. *Атаўсю́ль сыбраліся госьці, толька на коніх ці ні чатырі падводы былі. К Сярьгеівым атаўсю́ля зьедуцца, іх род бальшэй, дайжа пат Крічывым нехта ёсьць. Яго ўжо атаўсю́ліцька вупруўляюць, ніхто ны яго глядзець ня хочыць.*

**Атважываць** *незак.* Адвозіць. *Сяньня мы жыта ат мы-*

*лацілкі атвáжывылі, зымаріліся: пыцігай-ка мяхі цэлый дзень ны калёсы, ны вясы, у анбар.* **Атвазіць** *зак. перан.* Пабіць моцна. *Я знаю, за што яго атвазілі, і добря, што пупала, ніхай сам ні пыдлазіць.* **Атвазёмшы** *дзеепрысл.* 1. Адвозячы, адвёзшы. *Атвазёмшы салому, пулумаў каток. Атвазёмшы, рыспрыглі коні, пукупаліся і зыляглі ў будкі.* 2. Пабіўшы. *Атвазёмшы яго, сыма расстроілыся, ну й нулупіла бакі ладна, каб слухыў.*

**Атварачываацца** *незак. перан.* Вымяркоўваць час на іншы занятак, адрываацца. *Калі ў мяне тоя ўремя ёсьць атвырáчывыцца куды, я цэлый дзень парюся, чуць спруўляюсь к вечыру.*

**Атварзёпкаць** *зак.* Запэцкаць, вымазаць. *Атварзёпкыў штонікі, што каб хацеў, так ба ні прідумыў.* **Атварзёпкацца** *зак.* Запэцкацца, вымазацца. *Ці хваціць табе два часы атварзёпкыцца з вокнымі?* **Атварзёпканый** *дзеепрым. Ніхай мінутычку пыляжыць, я ўсё атварзёпкыныя пірінылашчў.*

**Атвашапрудзіцца** *зак.* Перастаць выхваляцца, вычвараць. *Не, я нічога гывaріць ня буду, я пыдажду, пакуля ты атвышапрýдзісься.*

**Атвірыдуваць, атвірыдувацца** *зак.* Перастаць здзекавацца, самаўпраўнічаць. *Скора атвірядýіць, ета яму ня тоя ўремя, што дзядзю зы сабою чуў, а цяпер ўнімуць, кылі сам ні ўспакоіцца. Ніхай, ніхай пудуреіць, калі сам ні атвірядýіцца, яму памогуць, такея ёсьць мáхырі — што хочыш утворюць, і сьлядоў ніякіх ні найдзіш.*

**Атвогірнічаць, атвогірстваваць, атвогірнічацца** *зак.* Навычварацца. *Ні знаю, ці атвоґірнічыіць калі Гапкін хлюст, ужо такей шулудзівіц, што другога еткыга, верна, німа ні ў мірі ні ў Сібірі. Уго якей зыдывала быў, места нійдзе сабе ні знаў, а во атвоґірствывыў, стаў ціхій, спакойный, дайжа ні скажыш, што ета тэй самый Толік. Ні даждж эсься ты, калі ён атвоґірнічыіцца, во бярі за шкырку ды цягні двору, там успакоіцца.*

**Атвыць** *зак.* Наплакацца вельмі горка, уголас. *Што ўжо атвыла Пылагея пы сваём, пряма ацьцягнуць ні маглі.*

**Атвярчыванне** *н. перан.* Ухіленне, лоўкае выкручванне. *Дужа я ні люблю етыга атвя́рчывыньня, так і цыля́іць, каб атвільнуць, нічога ня зьдзелыць.*

**Атвярчывацца** *незак. перан.* Ухіляцца, лоўка выкручвацца. *Ох, як ён лоўка ўмеіць атвярчывыцца ат любога дзела.*

**Ат'езджаный** *дзеепрым.* Зношаны ў працэсе язды. *Етыя калёсы ат'ежджыныя, кажныя лясычка ў іх шымаціць як дырабочык, дроў на іх ні прівязеш.*

**Ат'ёрзаць** *зак.* 1. Папсаваць, збіць падскокваючы. *Увесь бок ны стагу ат'ёрзылі, тулуваліся цалюхтынькій дзень.* 2 *перан.* Надурэцца. *Пакуля бацькі ні було, ат'ёрзылі яны тута.* **Ат'ёрзацца** *зак.* Надурэцца. *Я знаю, калі яны ат'ёрзыюцца: як хлыбазіну вазьму.* **Ат'ёрзаный** *дзеепрым.* Папсаваны, збіты ў выніку скакання. *Кыпа быльшая была, увесь вугыл ат'ёрзын: узлазілі, а тады кулдыкыліся.*

**Атладзіць** *зак. перан.* 1. Перастаць жыць у згодзе. *Во, многа атладзілі: нядзелю пышыпталіся і рыссваріліся.* 2. Перастаць дагаджаць. *Сколька іна атладзіла тваёй куме, і ўсё ні ў чэсьць ні ў ласку.*

**Атлазіць** *незак. перан.* Пераставаць чапляцца. *Раз яму скызаў: «Атлезь!» — ні атлазіць, чыпляіцца, другей раз скызаў — тоя самыя, а тады як штурхнець, тэй і пылляцеў у зямлю носым.*

**Атлалакаць, атлалалакаць, атлалакацца, атлалалакацца** *зак.* Спыніць павольную балбатню. *Ну няўжэлі я буду сядзець, ждаць, пакуля яны атлылакыюць. Сколька вам нада ўремя атлылылакыць, ці ні с самых абедыў сідзіцё? Я й ня чула, калі яны атлылакыліся, заснула. Дай ты ім атлылылакыцца, яны ж, верна, с учырашніга дня ня відзіліся, знаіш, сколька новысьціў сыбралыся.*

**Атласкатаць, атласкацець** *зак.* Набалбатацца. *Што ўжо Сірьгяёўна атлыскытала пра Церішыху, чаго іна толька ні прідумывыла! Пакуля яны атлыскацелі, мы пы карзінкі грібоў ныбралі.*

**Атлаяць** *зак.* Налаяць. *Атлаіла ёй бакі, будзіць знаць, як пыдбряхывыць ну другіх.* **Атлаяный** *дзеепрым.* *Мне каб толька устреціць яго айдзе, ды каб прі людзях, пашоў ба ён атлаіный.*

**Атлепятаць** *зак. метаф.* Перастаць гаварыць, змоўкнуць, памерці (пра дзіця). *Атліпітала мыя крошычка, мыя любыя, большы я теайго голысу ні пачую, тваіх вочык ня ўвіджу.*

**Атлётаць** *зак. перан.* Набегацца. *Сколька яны атлётылі пы вічарінкых! — бувала, у сваёй дзяреўні гуляюць, а яны сыбраліся ўтраіх і кытанулі.*

**Атлодарнічаць, атлодарнічацца** *зак.* Нагультаявацца. *Ці ты зьбіраісься столька атлодырнічыць, як Паўлюк Сызанёнкый летыся? Сколька ж яны атлодырнічыліся!*

**Атлупасіць** *зак.* Адлупцаваць, пабіць адчувальна. *Чаго ты ні пыхвáлісься, за што цябе атлупáсілі ны вічарінкі, ці ні хацеў ты прывадзіць Томычку?* **Атлупашаный** *дзеепрым. Я то знаю, за што ён атлупáшыный, ніхай сам скажыць.*

**Атлупечыць** *зак.* Балюча адлупцаваць. *Дыбярецца ды цябе хто-небудзь, атлупечыць, ны табе ўжо рогі пырасьлі большы некуды.* **Атлупечаный** *дзеепрым. Рю́мзыў учора атлупечыный, і сяньня тоя самыя будзіць.*

**Атлухціць** *зак. неадабр.* Скончыць плявузганне. *Калі яны тама свае трілюды атлухця́ць?* **Атлухцёмшы** *дзеепрысл. Ніхай ба ўжо атлухцёмшы пашоў, дык не ж, будзіць сядзець, яшчэ прідумывыць.*

**Атлыхаць, атлыхацца** *зак.* Набегацца попусту. *Ета ж нада столька ўремя атлы́хыць бяс толку! Калі іна атлы́хыіцца, во німа бабі спакою!*

**Атмазкатаць** *зак.* 1. Перастаць ляскаць, грукаць. *Калі вы атмазкочыця, спаць нада, так вам прісьпічыла, каб абізацільна ў поўныч узнімаць грюкыт.* 2 *перан.* Пабіць. *Цябе тама калі-небудзь атмазкочуць, дабегыісься.* **Атмазкатацца** *зак.* Нагрукацца. *Слава богу, атмызкытáліся, надзелылі стукыту большы, як у кузьні.* **Атмазкатаный** *дзеепрым.* Пабіты. *Ты глядзі, скарей сам атмызкытáный біз аглядкі пыляціш.*

**Атмаліцца** *зак.* Перастаць прыкідвацца малым. *Аўдзеіхін ужо атмáліўся, у свáты сыбіраіцца, ато ж усё ў малютычкых хадзіў: чаго вы майго трогыіця, ён саўсім мáлінькій.*

**Атмамыліцца, атмамырыцца** *зак.* Перастаць дзьмуцца, капрызнічаць. *Віджу, што нешта хочыць скызаць і сядзіць, нічога ні гаворіць, доўга ждала, пакуля ён атмамы́ліцца, рызьвяжыць губы. Такей-то пан, жджы, пакуль ён атмамы́ріцца, ніхай сядзіць, ці мы бізь яго дарогі ні знаім.*

**Атмаркатаць** *зак.* Скончыць бурчанне, мармытанне. *Атмыркытáў мáлый, сьпіць, доўга бурчэў, тады сам сабе нешта рысказывыў. Атмыркытáла аўца, ня чутна.*

**Атмармытаць, атмармытацца** *зак.* Скончыць мармытанне. *Мой учора ладна быў пыч чаркыю, пычаў пры паездку рысказывыць, доўга нешта вёрз, я ўжо і ня чула, калі ён атмырмытáў. Калі ты ўжо тама атмармы́чысься, ты ім рысказывый, а ня мне.*

**Атмарудзіць, атмарудзіцца** *зак.* Скончыць цяганіну. *Сколька яны атмару́дзілі мяне зь естыю каровыю: сянь-*

*ня бяруць, нызаўтріга ні бяруць, тады ўзноў думыюць, я пывіла б ны бызар,— не, ні вядзі, мы возьмім. Мы многа атмарўдзіліся із-зу Кузьмовых, ён усё зьбірайся паехыць, а тады дос, ні паеду.*

**Атмасліць** *зак.* Адштукаваць, патраціўшы шмат часу і ўвагі. *Калі ты ўжо ету карзіну атмáсьліш, яе ж ні на выстыўку везьць. Атмáсьліў граблі, два дні зь імі вазіўся.* **Атмасліцца** *зак.* 1. Адштукаваць, патраціўшы шмат часу і ўвагі. *Ну й атмáсьліўся с санкымі, дывадзіў і вязкі, і кыпылы́, і наклісычкі, як лялька зьдзелыў.* 2. Сапсаваць узаемаадносіны. *Васіль с Антоным атмáсьліліся, нешта дайжа і ні глідзяць адзін ну другога.*

**Атмасоліць** *зак.* Зжаваць, забрудзіць. *Рубашычкі дзецкія віселі ны прясілкі, вецір ськінуў, дык так іх атмасолілі пырысяткі, усе чыста зыгадзілі, узноў пірі-пылáскывый.* **Атмасоліцца** *зак.* Перастаць жаваць. *Дыла я ім пу кусочыку сала, ніхай пысідзяць ціш эй, пакуля атмасолюцца, ато ж нічым ні зыбавюцца.*

**Атмасцярыць** *зак.* Адштукаваць. *Есьлі захочыць, ён атмысьцяріць луччы некуды, ні захочыць — шулды-булды зьдзелыіць.*

**Атмататорыцца** *зак.* Накешкацца. *Атмытаторіўся зь естым рімонтым, ныдаела, луччы б я новыя граблі зьдзелыў, скарей ба було дзела.*

**Атматацца** *зак. перан.* Намучыцца, бегаючы ў розныя месцы. *Я ўжо так зы нядзелю атмытайся, мне аднае мінуты дыхнуць ні було.*

**Атмацюкаць** *зак.* Налаяць матам. *Ён нывышапрўдзіцца, што атмуцюкáюць як пасьледніга дурука і пойдзіць сагнуўшы гылаву двору.* **Атмацюкацца** *зак.* Налаяцца матам. *Толька к каню пыдыйшоў ці зы хамут узяўся, і жджы, пакуля атмуцюкáіцца,— што ета зы акыянныя натура ў чылавека!* **Атмацюканый** *дзеепрым. Есьлі ня хочыць дзелыць, як усе людзі, пойдзіць атмуцюкáный.*

**Атмаякацца** *зак.* Адгаварыцца, адмовіцца любымі сродкамі. *Іван ува ўсём прізнайся, а етый атмыя́кыўся: я тама ня быў, нічога ня відзіў і ні чапіціся ка мне.*

**Атмурыжыць** *зак.* Нагрызці, набэсціць. *Як атмуры́жуць яго ўтрёх, тады ходзіць сярдзітый, ні глядзіць ні на кога.* **Атмурыжаный** *дзеепрым. Сяньня Мітрыхван атмуры́жыный прідзіць, ты пыглядзіш, якей у яго від будзіць.*

**Атмыкаць** *зак.* Перастаць часаць лён. *Мы сваё атмы́кылі, а цяперішнія дзеўкі і мы́чкі ў руках ні дзіржалі, ні знаюць, як гребінь у лаўку ўторнуць.* **Атмыкацца** *зак.*

1. Скончыць часанне льну. *Атмыкылыся я зь естым лёным, поўныя лубка мычык, нада скарей прясьць.* 2 *перан.* Напакутавацца ў бадзянні. *Па сьвету атмыкыіцца, пызнаіць жысьць, другім чылавекым станіць.*

**Атмякаць** *зак.* Пабіць без злосці, жартам. *Пыдажджы, пастой трошычку, я цябе січас злаўлю і атмякыю.* **Атмяканый** *дзеепрым. Па-мойму, ты атмякыный ідзеш.*

**Атмяклый, атмякшый** *дзеепрым.* Такі, які загінуў ад празмернай вільгаці (пра пасевы). *Атмяклыя прідзіцца пірісівацъ. Горя атмякшыя пасевы, урыжай прыпашчый.*

**Атнукаць** *зак.* Перастаць пабуджаць. *Усё іх Стыхван пыдгыняў: ну-ка, хлопцы, ну-ка, будзім дзелыць, а во й ён атнукыў.*

**Атрава, атрута** *м.* і *ж. перан.* Невыносная асоба. *Я б с такім атравыю аднаго б дня ні жыла. Атрава баба, іна ўсе кішкі піряела Вукулёнку. Мікілай длі Ганны цяперя ныстыяшчыя атрута. Ікая ж іна атрута, духі вымітывыіць у яго. Павеліч.* **атруцішча.** *Коля — атруцішча!*

**Атражацца** *незак. перан.* Паўтарацца. *Рожа ў другога пройдзіць і ўсё, а ў другога па нескылька разоў атрыжаіцца.* **Атразіцца** *зак.* Паўтарыцца. *Ці ні атразілыся ў яго ізноў язва жалудка?*

**Атрапярціць** *зак.* Падрыхтаваць. *Крепка атріпярцілі Сямёнывыга, ён думыў, што тута будзіць ніізьвесна што.* **Атрапярціцца** *зак.* 1. Падрыхтавацца. *Сколька яны атріпярціліся: воць сяньня пад'едуць, водз заўтря, а тых усё німа і німа.* 2. Перастаць рыхтавацца. *Мы сваё атріпярціліся, нам ужо ні ды ріпярчэньня.* **Атрапярчоный** *дзеепрым.* Падрыхтаваны. *Разьві ты ні пынімаіш, длі чаго яны атріпярчоныя: ета каб ны Кацю ываліцца, калі іна проця Гыўрілёнка што-небудзь скажыць.* **Атрапярцёмшы** *дзеепрысл. Атріпярцёмшы, ждалі сваіх сватоў.*

**Атрахнуцца** *зак. перан.* Абжыцца. *Зы пасьледнія гады кырыбчані крепка атряхнуліся.*

**Атрывушыць** *зак.* Ударыць у вуха. *Доўга зь ім ні рызгыварівылі, раз атрівушылі і ўняўся, нячутна стала.*

**Атрыгаць** *зак.* 1. Перастаць скрыпець. *Яны січас атрыгыюць, як хлыбазіну вазьму, дам ім дзьвері,— гульні сабе большы ні найдуць.* 2 *перан.* Наплакацца ўсхліпваючы. *Штоб столька атрыгыць з-зы ірунды, найдуцца твае піршчаткі, а ні найдуцца — пойдзіш ды другея купіш.*

**Атрыпаць** *зак.* Скончыць ігру на гармоніку. *Айт, зь*

*яго такей гырманіст, вот толька каб атріпыць, ну а як німа луччыга, і за ім ідуць.*

**Атурмачыванне** *н.* Задурванне. *Мне ўжо так ета атурма́чывыньня ныдаела, што, кажыцца б, зьбегла куды хуць сяньня.*

**Атурмачываць** *незак.* Задурваць, рабіць бяздумным. *Яны ўмелі атурма́чывыць луччы некуды.* **Атурмачывацца** *незак.* Задурвацца, рабіцца бяздумным. *Ні хачу я большы тута з вамі атурма́чывыцца, самі глядзіця ма́лых.* **Атурмачыцца** *зак.* Задурыцца, зрабіцца бяздумным. *Я ўжо так атурма́чылыся, што ні знаю дайжа, якей сяньня дзень.* **Атурмачаный** *дзеепрым. Нейкій атурма́чыный ён ходзіць каторый дзень.*

**Атучываць** *незак.* Абкладваць хмарамі. *Дывайця, хлопцы, жывей вурушыцца, ату́чывыіць, як і ўчора, пыжалый, узноў пальлець.* **Атучывацца** *незак.* Абкладвацца хмарамі. *Яно так і ў пынядзелык ату́чывылыся, і ўчора, тады выдзіржыла, а сяньня хто ж яго знаіць.* **Атучыць** *зак.* Абкласці хмарамі. *Піряд вечырым як ату́чыла, я думыла, зальлець і затопіць,— не, пыгрімела, пастукыла, пыка́пыў троху дождж, веціp пыдняўся, рызыгнала.* **Атучыцца** *зак.* Абкласціся хмарамі. *Ай-я-яй, узноў ату́чылыся, дождж хляніць, да нізу праб'ець капёшкі, а хочыш — ішчэ ветрым пу кустах пырызьнясець.* **Атучаный** *дзеепрым. Ураньні дужа було кругом ату́чына, а во сонца ўзыйшло, нічога, уродзі ны пагоду пыказыіць.*

**Ат'якатаць** *зак.* Наенчыцца. *Абухым стукнуў пы калену, ладна ат'ікыта́ў. Ат'якочыць і ўзноў зы балыўства, што зы праціўный хлопіц.*

**Аўсіна** *ж.* Адно каліва аўса (зерне ці расліна). *Калі многа, дык авёс, а як адна — ета аўсі́на. Тарчыць адна аўсі́на між морквы. Памянш.* **аўсінка, аўсіначка.** *Айдзе я табе вазьму, калі ў мяне ні аўсі́нкі німа. Вык харошый, а аўсі́нкі тырчаць кой-айдзе. Узыйшло нескылька аўсі́нычык.*

**Ахадзіцца** *зак.* Пачаць спакойна пасвіцца (пра жывёлу). *Зыгані ны Гырбацкій лог, атава тамыцька харошыя, аходзюцца каровы і будуць скусьць, а большы травы дужа ніійдзе німа.*

**Ахамутаць** *зак. метаф.* Узяць пад сваю ўладу. *Ахумута́ць яны ўмеюць, так пупадзеш у рукі, што ні замеціш калі.* **Ахамутацца** *зак.* Трапіць у залежнасць. *Каб гылыва ны плічах была, так ба ні ахумута́ўся, нашто яму была баба з дваімі дзіцёнкымі, ці яму дзевык ні хвыта-*

*ла.* **Ахамутаный** *дзеепрым. Я знаіш па чом пызнаў, што ён ахумута́ный? — як ён пычаў Бырысёнка зышчышчаць.*

**Ахламонка** *ж. іран.* Неахайная жанчына. *Трудна ахламонкі дайжа прічысацца, ходзіць — на пу́жыла пахожа.*

**Ахламонне** *н. зб. іран.* Неарганізаваныя, неахайныя людзі. *Пывіла кума сваё ахламоньня ны вічарінку. Сыбярецца ахламоньня і сядзі ты тамыцька, турлы́цься.*

**Ахмістрыня** *ж. іран.* Уладалюбная, рашучая гаспадыня. *Любіць быць ахмістрінію, вот ключэй толька німа насіць. Што, мыя ахмі́стріня, ці ўсё дагледзіла? Памянш.* **ахмістрынька.** *А можа біс тваее ахмістрінькі як-небудзь абойдзімся?*

**Ахмуранне, ахмурыванне** *н. жарг.* Падманванне. *Яно і відна, тваё ахмуря́ньня, зразу цябе рызгыдалі. Ня бойся, мне іхнія ахму́рівыньня ня дужа страшна.*

**Ахмураннік** *м. жарг.* Той, хто падманвае. *Я б турну́ла етыга ахмуря́ньніка, што ляцеў ба — ні глідаўся.* **Ахмуранніца** *ж. Тожа ныйшлася мне ахмуря́ньніца, як нухмуря́ю, да новых венікыў ні забудзіш.*

**Ахмураць, ахмурываць** *незак. жарг.* Падманваць. *Толік даўно Машку ахмуря́іць, толька іна, відна, ня веріць яму нісколька. Во быў атлёціна, во ўмеў дзевык ахму́рівыць, як зыработыіць ізыком, што ў яго аткуль брлыся.* **Ахмурыць** *зак.* Падмануць. *Яны чорта ахму́рюць, а ня то рытызя́ва еткыга.* **Ахмураный, ахмуроный** *дзеепрым. Ета ты ўзноў ахму́ріный? Ня трогый, ён і так ахмурёный.* **Ахмуромшы** *дзеепрысл. Ня бойся, я ні Мітрыхванька, самі пойдуць ахмурёмшы.*

**Ахнуць** *зак. перан.* Знікнуць, згінуць, змарнатравіцца. *Жалка, што було такоя хызяйства і рыспырядзіцца па-людзку ні сумелі, усё а́хнула.* **Ахнуцца** *зак.* Выцяцца, ударыцца. *Каб ты відзіла, як ён а́хнуўся умесьці с сукым, як яго костычкі ні рассы́пыліся.*

**Аціхаміріць** *зак.* Суняць, супакоіць. *Каб було каму цябе аціхамі́ріць разым с тваёю швагренію, ды вот ніхто ні находзіцца.*

**Аціяліцца** *зак.* 1. Прывесці цяля. 2. Нарадзіцца (пра цяля). *Красівыя цёлычка аця́лілыся, калі будзіць троху змыга́, кіну сабе гудуваць, мыя карова ста́ра.* **Ацялёмшы** *дзеепрысл. Ён пріiжджаў, як наша карова ўжо была ацялёмшы.*

**Ачурацца, ацурацца** *зак.* Адрачыся, рашуча адмовіцца. *Ат яго ўжо, знаць, і бог ачура́ўся, і людзі атрякліся.*

*Ацурайся ты ат усяго, каб толька ні зьвязывыцца с такімі людзямі.*

**Ашмётак** *м.* 1. Растаптаны лапаць. *Ці знаіш, як мы жылі? — бацька памёр, глядзець зы намі було некыму, матка хворыя ліжала, а на вуліцу хочыцца, мы ашмёткі якея найдзім, прібуім і бягім куўзацца.* 2 *перан.* Бяссільная асоба (звыч. хлапчук). *Ашмётык ты, а йшчэ бяресься са мною боріцца. Памянш.* **ашмётачак.** *Нейкій ашмётычык на сенцых выляіцца.*

**Ашывацца** *незак. метаф.* Знаходзіцца, прысутнічаць. *Табе б тама саўсім нечыга ашывацца.*

## Б

**Бабленне** *н.* Прыманне дзяцей у час родаў. *А ты, кажыцца, любіла бабліньня, тамыцька і чарычку пыднасілі.*

**Бабленый** *дзеепрым.* Прыняты ў час родаў. *Ну чаго ж, мае ўсе бабліныя, Васіль кажын раз бегыў зы старыю Віктыріхыю.*

**Балатуха** *ж. неадабр.* Балбатуха. *Ён відзіць, што іна былатуха, свае ўхваткі ні кідаіць.*

**Балдзіць** *незак. неадабр.* Гаварыць няпэўнае, пустое. *Балдзілі, што Андрей зьбірайся пріехыць, толька ныўряд, каб ён пыкызаў калі-небудзь сюда свае бясстыжыя вочы. Доўга сядзеў сы стырікамі, нешта балдзіў ім.*

**Бамбіза** *м.* Бамбіза. *Узмацн.* **бамбізіна.** *Такей бамбізіна валочыцца як сьвет пыціряўшы, ён ба ж мог варочыць зы траіх. Павеліч.* **бамбізішча.** *Чаго ты сваіх бамбізішч ґ дзелу ні прівучывыіш, ці яны цэлый век ны тваіх плічах сядзець будуць?*

**Бараковішча** *н.* Месца, дзе раслі буракі. *Скот ходзіць пы быраковішчу, айдзе лісьця, а айдзе, можа, і бырачок астайся.*

**Барахленне, барахольнічанне, барахольства** *н. перан. неадабр.* Балбатня, выхвалянне. *Пірістаньця вы сы сваім быраxленьнім, ня столька вы чаго відзілі, сколька самі прідумывыіця. Я б ні мінуты ні стала іхныга быраxольнічыньня слухыць. Са шпунт таго чылавека, а сколька быраxольства ў ём!*

**Басяччо** *н. зб.* Басякі. *Тама було многа бысіччá, ні адгыварівыйся. Бысяччо ўместа сыбралыся,— во хто ета.*

Бахар: **бахара жаніць.** Гульня моладзі на вечарынцы:

дзяўчыну жартам секлі рамянём і прымушалі сесці побач з хлопцам, якому яна падабалася. *Коля дужа любіў бáхыря жаніць. Каторыю ремнім толька пыгладзюць, а каторыю і ладна ушпільнýць — так і жэнюць бáхыря.*

**Башкавіна** *ж. экспр.* Галава. *Бышкавіна ў яго варіць, другей ба тута ні сыбразіў, а ён выкруціўся.*

**Бежанстваваць** *незак.* Выязджаць у бежанства. *Ішчэ ў сорык другім гаду сы Смаленшчыны бежынствывылі людзі, немцы выгынялі. Мы ў первыя дні вайны сыбіраліся бежынствывыць.*

**Безгарбузіе** *н. жарт.* Непарадак. *На месьці відна: бізгарбýзія ў вас тваріцца.*

**Безгарбузый** *прым. жарт.* Нязграбны. *Нейкій ты бізгарбýзый хлопіц і дзеўкі ў руках ня ўдзержыш. Памянш.* **безгарбузенькій.** *Былі ў нас дзьве бізгарбýзінькія дзяўчонкі, і іх жыніхі найшліся.*

**Безгрыбоўный** *прым.* Не грыбны. *Буваіць, зыдасца бізгрібоўный год, гріба ў вочы ня ўвідзіш.*

**Беспанятлівый** *прым.* Недалёкі, някемлівы, разумова абмежаваны. *Ці ён усігда такей біспынятлівый, ці толька сяньня?*

**Беспарадзіца** *ж.* Непарадак. *У дваре нісколька ні шчыріць, у хызяйстві біспырядзіца.*

**Бітушка** *ж.* Паламаныя калёсы, сані. *Сёліта хвырасьцінык мала, худзь ба ў етый бітýшкі прівезьць. Памянш.* **бітушачка.** *Бітýшычка стаіць лі Пынасывых, зыпрягі, кылі хочыш.*

**Бічаўнік** *м.* Паласа адчужэння. *Нада касіць етыя бічыўнікі. Як ударілі касіць бічаўнік, ныпірягонкі.*

**Бліз** *м.* Невялікая адлегласць, блізкасць. *Тут лі блізу нейкыя дзяўчонка ў Мінску, іна знаіць Пітрыка.*

**Блудзенства** *н.* Распуснасць. *Што, кылі йна і матку ні пынімаіць, у яе блудзенства на ўме.*

**Босць** *незак. перан.* Турбаваць, непакоіць. *Мяне ўсё бало, каб хто етыя кілбаскі ні пызьнімаў. Цябе нічога ні бадзець, ты спакоін.*

**Брадзяга** *м.*, рэдка *ж.* Валацуга. *Узмацн.* **брадзяжына.** *Брыдзяжына ты, брыдзяжына, хто цябе хлебым карміць будзіць? Павеліч.* **брадзяжышча.** *Брыдзяжышча быў чылавек, жонка ат яго ныцярьпелыся.*

**Бразкаўка** *ж.* 1. Бразготка. *І твой мáлый ужо зь нейкыю брязкыўкыю бегыіць.* 2 *перан. неадабр.* Балбатуха. *Дайжа ні прідумыіш, па ком іна зыдылася, брязкыўка тыкая.*

**Брайна** *ж. асудж.* Легкадумная жанчына. *У брайны ўсігда вецір у гылаве гуляіць.*

**Браць** *незак. перан.* 1. Старанна працаваць. *Цесьць ня дужа пытхвáтный, усігда с прыхлáццыю, а зяць крепка бярець, стыряіцца.* 2. Спраўляцца. *Етый конь любый воз бярець, сколька ня ўзложыш.* **Браный** *дзеепрым.* 1. Браны, кратаны. *Нічога тута ні брáна, усё як ліжала, так і ляжыць. Разьві ты ня ·відзіш, што дровы брáныя.* 2. Нараджаны. *Брáныя пасьцілкі.*

**Брыгадзёр** *м. жарт.* Брыгадзір. *Некуды наш брігадзёр сыбраўся: гыліхве надзеў, боты начысьціў, ныстыяшчым хрантым нырядзіўся.* **Брыгадзёрка, брыгадзёрша, брыгадзёршая** *ж.* Жанчына-брыгадзір або жонка брыгадзіра. *Джоґыя брігадзёрка, ні глядзі, што мылыдая, рыспырыджацца ўмеіць і ў зямле троху пынімаіць. Нічога ў нашыя брігадзёршы ні пулучаіцца, іна гырыдзкая, у дзірявенскім хызяйстві ні рызьбіраіцца. Як жа брігадзёршы іціць гной нықідаць, іна цяперя нычальніца, ёй нада лёхкыя работа. Крепка аччытаў старшына брігадзёршыю, што ні пыслала нікога бульбу ныкрываць. Ета ён ні сам, ета брігадзёршыя рыспырядзілыся, іна стала большыя гылыва зу мужука.*

**Брызжачок** *м.* Адборнае зерне. *Брыжжачок усігда адзьдзельна зьбіралі ны зáсіў.*

**Брызканнік** *м.* Той, хто пырскае, пырскаецца. *Як пірицягну вярёўкыю пы плічах аднаго ды другога, во етыя брызкыньнікі ўнімуцца.* **Брызканніца** *ж.* *Рызыйшлáся брызкыньніца, ніяк ні асядзіцца.*

**Брызнуцца** *зак.* Пырснуцца. *Нямножка брызнулыся кіпятком ну руку, баліць цяперя.*

**Бузаненне** *н.* 1. Бузаванне. *Хочыш ты, каб посьлі такога бузáніньня адзежына ны адзежыну была пахожа.* 2 *перан.* Ганьбаванне, зневажанне. *Як ён церьпіць іхнія бузáніньня, усё ўремя маўчыць.*

**Бузаніць** *незак.* 1. Бузаваць. *Нашто ж табе новый касьцюм бузаніць, у цябе ны работу ёсьць стáрыя адзежы пырядышна.* 2. Ганьбіць, зневажаць. *Бузáнюць чылавека ўсігда, а ён ім маўчыць, нем як рыба.* **Бузаніцца** *незак.* Бузавацца, заношвацца. *Калі ні біряғеш, усякыя адзежына будзіць бузáніцца.* **Бузаненый** *дзеепрым.* Бузаваны. *Такую бузáніныю куртку ныдзівацць некуды.*

**Булдыханне** *н.* Гучнае боўтанне ў вадзе, падание ў ваду. *Я ні знала, якоя тама булдыхыньня, думыла, дзеці купаюцца.*

**Бульбянік** *м. жарт.* Ахвотнік да бульбы. *Мае бульбянікі ўжо шавелюцца, січас паднімуцца: мам, ці зварıліся гáлычкі.*

**Бурчалівый** *прым.* Бурклівы. *Ён бурчаліў, ну тады нікога ні чыпаў, прамоўчыў.*

**Бушавала** *м. экспр.* Буян, скандаліст. *Такей бушувáла быў, што ні прідумыць, вічарінкі рызгыняў.*

**Буяннічаць** *незак.* Буяніць. *Зяць харошый, нільзя згўніць, ня п'ець, ні буяньнічыць.*

**Бэйсанне** *н. неадабр.* Таптанне; гойсанне. *Калі ні ўгамўіціся зь естым бэйсыньнім, я вас угамўю січас, шаўковымі станіця.*

**Бэйсаць** *незак. неадабр.* Таптаць. *Бэйсыюць пасьцель, а ты і ў тэй бок ні глядзіш, пільнуў ба, каб сеў каторый.* **Бэйсацца** *незак.* Таптацца; гойсацца. *Па сені бэйсыюцца твае спакойнінькія, пірıталўюць, што скот есьць ня будзіць.*

**Бязуленне** *н.* Гультаяванне. *Выгыняць нада бязўліньня, інычы зблукуняіцца, якей зь яго чылавек палучыцца на сьвеці жыць.*

**Бязульный** *прым.* Гультаяваты, абыякавы да спраў. *Ні нада ёй рысказывыць, у яе ў сымае такей бязўльный хлопіц быў, памучылыся зь ім.*

**Бялосліўка** *ж.* Сліва з белымі пладамі і плады з гэтага дрэва. *Кылы плітня усьцяж ад дарогі нысадзіў бялосьлівык. Сёліта бялосьліўкі нічога, можна есьць. Памянш.* **бялослівачка.** *Тута ў мяне бялосьлівычкі растуць, ішчэ маліънкія. Папробый-ка маіх бялосьлівычык, ці пыныравюцца табе.*

# В

**Вад, вод** *м.* Штосьці незразумелае, звышнатуральнае (звыч. з дзеясл. вадзіць). *Чаго цябе вад вадзіў па тых кустах? А можа ён ні сам, можа яго вад водзіць. Вод іх тама водзіць, крікні, каб скарей ішлі, січас паедзім.*

**Важджанне** *н.* Прывязванне лейцаў да аброці запрэжанага каня. *Я дзікўюся ны яго выжджáньня: гадоў шыснаццыць мальцу, а ня можыць сыбразіць, куды вожку прыцягнуць.*

**Вазграчанне** *н.* Пэцканне. *Ты пыглядзі-ка ны яго вызґрячыньня, ета ж нада прідумыць етык мазыцца!*

**Вакеншчыца** *ж.* Ахвотніца сядзець каля акна. *Твыя*

*вакеншчыца ці ні жыніхоў жджэць, нешта ат выкна ні атарвецца.*

**Валетам, вальтом** *прысл.* Галовамі ў розныя бакі (ляжаць у ложку). *Зываліліся валетым ны крывconfigurationаць і спалі. Я іх валетым пыкладу і адзіялым накрыю. Ты, знаць, і ж жонкыю вальтом спаў?*

**Валнаванне, валнаваніе** *н.* Хваляванне. *Ікая ў Машкі жызьня, кылі вулнува́ньня і вулнуваньня, усё ну душэ ніспакойна. Пры́шла дужа рыздысáдывыныя, ат вулнувáнія дажа есьць ні стала, пірядзелыся і пабегла ў горыд.*

**Валнована** *прысл.* Усхвалявана. *Трошку зыікаіцца, як спакойный, нічога, а як гаворіць валновына, чуць рызьбяреш тады.*

**Валнованый** *прым.* Усхваляваны. *З Валоўнікыў бегла Аксіньніна дычка што-то валновыныя.*

**Вантроб'е** *н. зб.* Вантробы. *Нада пірібраць вантроб'я і дужа зымарілыся сяньня лі кыбына. Вантроб'я пыдбіваіш, кылі яшчэ раз так гнітанесься.*

**Вапрукоў** *прым.* Прызначаны для вепрука або мае да яго адносіны. *Вупрюкова карыта пірівярні, яно чыстыя будзіць. Памянш.* **вапручкоў, вапронкаў.** *Во глядзі: вупрючкова іда ў вядре стаіць, у абеды зынясеш яму і выльліш. У вапрёнкыва цеста вады ні пыдлівай.*

**Ваўкаедка** *ж.* Жывёліна, пакусаная воўкам (звыч. кабыла). *Добря, што ета выўкаедка ўцікла, дык ці іна ны дабро ўцікла. Вуўкаедка рузлумала прясла і пырьхнула, іх жа столька пыгналі ў Мугулёў.*

**Ваўчэць** *незак. метаф.* Рабіцца нелюдзімым. *Ён жа мыладым нічога чылавек быў, а стареіць, дык ваўчэіць.*

**Вашыўка** *ж. груб.* Нягодніца. *Вот вашыўка, сколька ў яе зыдывáньня! С тваёю вашыўкыю знацца ніхто ня хочыць.*

**Ваяваннік** *м. іран.* Ваяка. *Сь цябе ні абы-якей вуювáньнік, ты німала пірівуювáў.* **Ваяванніца** *ж. Рызыйшлася вуювáньніца, што ні пытхадзі к ёй.*

**Вінаходзіць** *незак.* Кружыцца, насіцца. *Цэлыя раньня пуд рукамі вінаходзюць, я ўжо іх сеч прутым хацела.*

**Вінаходства** *н.* Свавольства з беганінай. *Ні прідумыіш, ці найдзіцца хто-небудзь уняць іхныя вінаходства, самі яны ні ўспакоюцца.*

**Вісець** *незак. перан.* Заставацца, быць прадметам клопату. *Кусочык ячменю вісіць у самым заду, снапоў на дзесіць, нада б як-нібудзь дырвáць.*

**Вітка** *ж.* Галінка для абазначэння мяжы, краю. *Віткі торкыюць, каб сьлед намеціць, ну лугу ставюць, як косюць. Ета дзеці балывыліся, пынаторкылі вітык.*

**Вогірыць** *незак.* Задавацца. *Ці ня дос-ка табе воґіріць, хлюст найшоўся такей-то.*

**Воджаный** *дзеепрым.* Такі, якога водзяць (звыч. пра каня). *Калі конь воджын, і грядкі раўнейшыя, і бульба ні так пацёрта.*

**Вожаный** *дзеепрым.* Прывезены, перавезены. *А што ты думыіш, у мяне сена вожына? Вожыный хворыст ні звыляіцца, пысякецца.*

**Вопух** *м.* Пухліна. *Каторыя ўремя дзяржыцца вопух у калені і ні праходзіць.*

**Вотліг** *м.* Адліга. *Вотлігі — ета ня дужа хырашо, посьлі зымірзаіць, пы лашчы́ных выда сыбіраіцца, длі пасевыў уредна.*

**Вошчуп'ем** *прысл.* Вобмацкам. *Якоя шуканьня вошчуп'ім, узатрі сьпічку ды пыглядзі, айдзе тэя вязёнкі.*

**Вумственна** *прысл.* Разумна. *Ён ву́мствінна гаворіць, ня то што ты ўсякыю лухту преш.*

**Вурзнутый** *дзеепрысл.* Моцна ўдараны (звыч. аб зямлю). *Не, доўга ён тут ні пывінаходзіў, ву́рзнутый пыцягнуўся хвост пыджжаўшы.*

**Вушат** *м.* Шайка. *Нада будзіць купіць вуша́т, етый саўсім старінік, чуць дзяржыцца. Памянш.* **вушацік.** *Купілі нібальшэй вуша́цік, дужа бальшэй ны днаго пырасёнка ні нада.*

**Выбіваць** *незак. перан.* Выкошваць сенажаць або рэшткі травы на пашы. *Німа там нічога выбіва́ць, ужо Сямёнька с касою пыхадзіў.* **Выбіць** *зак.* Выкасіць сенажаць або рэшткі травы на пашы. *Між кусьцікыў ішчэ можна вы́біць, містамі харошыя маць-мачыха, а лясноя сена дужа ядомыя.* **Выбітый** *дзеепрым.* 1. Выкашаны шчыльна. *Прайшоў я — лашчынкі ўсе вы́бітыя, нійдзе ні клычка ні кышанеш.* 2. Стомлены, абяссілены. *Мы такея вы́бітыя пріехылі, што коні чуць пырыспряглі, дужа ў лесі нубузува́ліся.*

**Выбуркывацца** *незак.* Прагаворвацца; гаварыць з намёкам. *Мыкарёнык ні станіць выбу́ркывыцца, зь яго ты слова ня выцігніш .*

**Вываpачыванне** *н. перан.* Выкручванне (са становішча). *Як пупадзецца, тады будзіць яму вывырачывыньня.*

**Выгружанне** *н.* Выгрузка. *Посьлі выгружа́ньня ладна плечы ныюць, нубуйтува́ліся.*

**Выгружаннік, выгружываннік** *м.* Той, хто выгружае. *Нешта выгружáньнікі нашы крівюцца, каб другей раз у анбар іціць. Сяньня нашы выгрýжывыньнікі зымаріліся.* **Выгружанніца, выгружыванніца** *ж. Во вам на помышч яшчэ адна выгружáньніца. Бярісь-ка кряпчэй, выгрýжывыньніца.*

**Выгуліваць** *незак.* 1. Выйграваць. *Любіш ты выгýлівыць, ды ні ўсігда ў цябе пулучаіцца.* 2 *іран.* Набываць гуляючы, нічога не робячы. *Не, мой сынок, хлеб ні выгýлівыюць, яго потым зырыбляюць.* **Выгуліць** *зак.* 1. Выйграць. *Ты сяньня, знаць, многа капеік вы́гуліў, можа, мне троху дасі?* 2. Набыць гуляючы, нічога не робячы. *Ага, вы́гулііць за лета і ны сябе, і ў сябе, заробіць, лежучы ны баку.* **Выгуленый** *дзеепрым.* 1. Адпачыўшы. *Вы́гуліныя коні, можна запрігаць.* 2. Набыты гуляючы, нічога не робячы. *Ну як, ці смашын вы́гуліный хлеб?*

**Выдзелшчык** *м.* Спецыяліст па вырабу скур. *Вы́дзілшчыкі пырядышна зырыбатывылі, ім нясьлі аўчыны і нясьлі.*

**Выдзелываннік** *м.* 1. Спецыяліст па вырабу скур. *Цяперя ўжо ці ёсьць айдзе тэя выдзелывыньнікі?* 2. Штукар. *Ты пыглядзі, што зь етыга выдзелывыньніка тваріцца!* **Выдзелыванніца** *ж.* Штукарка. *Нада ж зыдацца такой выдзелывыньніцы!*

**Выдзыгаць** *зак. асудж.* Выбегаць, абабегаць. *Тыкая праны́ріна ўсюдых вы́дзыгыіць, бізь яе нійдзе ні абойдзіцца.*

**Выдудаліць** *зак.* Выпіць, выцмактаць. *Адну бутылычку ўжо вы́дудыліў, нылівай яшчэ, ён як бычок смокчыць.*

**Выждаць** *зак.* Дачакацца. *Ну што яны вы́ждылі, кылі прысядзелі дзьве нядзелі лішніх?*

**Выжмаць** *зак.* Выціснуць. *Вы́жмыць бяльлё нада, толька дужа ні пірякручывый, каб ні пырвалыся.* **Выжмацца** *зак.* Выціснуцца. *Ты ўсё пыпыласьні, пыпыласьні, а посьлі вы́жміцца.*

**Выкалантырыцца** *зак.* Набегацца, абабегчы ўсё наваколле. *Яны ўжо так сяньня вы́кылынтыріліся, што чуць жывэя прібеглі, пы стыкану мылыка зьелі і ў пасьцель.*

**Выквакліванне** *н.* Вымазванне, заквэцванне. *За што — за што, а зы выквáклівыньня дам пу руках.*

**Выквакліваць** *незак.* Вымазваць, заквэцваць. *Штоб большы ні выквáклівыў мне адзёжы, ато саўсім ні пушчу на вуліцу, будзіш у хаці сядзець.* **Выквакліванца** *незак.* Вымазваца, заквэцваца. *Ты нысварілыся, а ён січас*

*узноў пойдзіць выкваклівыцца.* **Выквакліць** *зак.* Вымазаць, заквэцаць. *Дзіхцярку пупаў і дывай вылачыць, выквыкліў у дзёгыць і штанёнкі, і рубашычку, і ліцо пызадзелывыў.* **Выквакліцца** *зак.* Вымазацца, заквэцацца. *У што йта етый маліц выквыкліўся, ці ета масла нейкыя, ці яшчэ што — ні пайму.* **Выквакленый** *дзеепрым.* *Як прішоў, як глянула, і спужалыся: увесь выквыкліный з ног ды гылавы ў грязішчы.*

**Выкладаннік, выкладываннік** *м.* Той, хто выкладвае. *Шустрей дыстывай, выклыдáньнік, людзі ждуць. Відзіш, якей выклáдывыньнік: канхвету на стол, а дзьве ў кырман.* **Выкладанніца, выкладыванніца** *ж.* *Ты глянь, чым у етыя выклыдáньніцы сундук набіт. Во калі што-небудзь выклыдаіць, тады скажуць выклáдывыньніца.*

**Вымістая** *прым.* З вялікім вымем. *Ні знаю, ікая карова палучыцца сь цёлычкі, ну матка яе вымістыя была і мылыка нядренна дывала.*

**Выпаліванне** *н. метаф.* Атрымліванне, удача. *Якоя ж у выранёнка можыць пулучыцца выпáлівыньня?*

**Выпаліваць** *незак. метаф.* Атрымлівацца, выходзіць. *Сенька даўно зьбіраўся паехыць, ды нешта ў яго нічога ні выпáлівыіць с паездкыю.*

**Выпіваннік** *м.* Выпівака. *Ты часьцей станоў етым выпівáньнікым, яны атказывыцца ня будуць.* **Выпіванніца** *ж.* *Дык ты й выпіваньніца ніплыхая?*

**Выпрямляннік** *м.* Той, хто выпрамляе. *Сь цябе такей і выпрімля́ньнік, пальцы пыдбіваіш, во табе й гвызьдзячкі будуць.* **Выпрамлянніца** *ж.* *Пылажы-ка ты, выпрімля́ньніца, мылаток на места.*

**Выпраўка** *ж.* Праводзіны. *Мікітывыму посьлізаўтріга ў армію іціць, выпрыўку спруўляюць быгатыю.*

**Выпугываць, выпужываць** *незак.* Палохаць. *Ты мне ня будзіш дзяцей выпýгывыць, я цябе атаўчу ат етыга. У іх быў дужа злэй сыбака, многіх выпýжывыў.* **Выпугывацца, выпужывацца** *незак.* Палохацца. *Дзеці як выпýгывыюцца, тады яны ні сьпяць, кідыюцца ўва сьне. Мой мáлый ні раз выпýжывыўся, сыбакі пужалі, адзін раз ат лісіцы ўцікаў.*

**Вырабатываць** *незак.* Апрацоўваць (глебу). *Нашы ўсігда хырашо вырыбáтывылі зямлю.* **Вырабатывацца** *незак.* 1. Апрацоўвацца (пра глебу). *Зімля калі вырыбатывыіцца, тады й родзіць, ну нада і гною ўлажыць.* 2. Траціць сілу ў цяжкай працы. *Ня думыю я, што Нісьцярёнык захочыць на іх вырыбáтывыцца.* **Вырабатаць**

*зак.* Апрацаваць (глебу). *Ляда рыспыхалі, вы́рыбытылі хыраШо, дык усё радзіла.* **Вырабатацца** *зак.* 1. Апрацавацца (пра глебу). *Зімля як вы́рыбытыіцца, дык нябось ты, зародзіць.* 2. Страціць сілу ў цяжкай працы. *Мой ужо вы́рыбытыўся, хваціць яму тріпацца.* **Вырабатаный** *дзеепрым.* 1. Апрацаваны (пра глебу). *У вы́рыбытынаю зямлю што ня ўкініш, вырысьціць, а ны камлыжжы нічога ні сыбяреш.* 2. Стомлены ў цяжкай працы. *Вы́рыбытыный конь. Ён саўсім вы́рыбытыный.*

**Вырушнасць** *ж.* Выгода, прыбытак. *Ікая ж мне вырушнысьць тріпацца пяшком, кылі я час пыдажду і пад'еду.*

**Вырываць** *незак. перан.* Знаходзіць, выдзяляць з цяжкасцю (пра час). *Я ўсігда, усігда зынятыя, пряма дыхнуць некылі, вырыва́ю калі мінутку якую, зыхаджу к ёй.* **Вырваць** *зак.* Знайсці, выдзеліць з цяжкасцю (пра час). *Можна було б табе ўжо вы́рвыць трошку ўремя, хуць нінадоўга пыдыйціць к нам.*

**Высмаргыванне, высморгыванне** *н.* Выцягванне, вырыванне сморганнем. *Вазьмі зразу пучок, якоя ж высма́ргывыньня пы адной нітκі. Пупадзець табе за ета высмо́ргывыньня.*

**Высмаргываць, высморгываць** *незак.* Выцягваць, вырываць сморгаючы. *Айдзе такея доўгія выласінкі, дык я іх высма́ргывыю. Высморгывый мылычай, ні дывай яму рыспла́джывыцца.* **Высмаргывацца, высморгывацца** *незак.* Выцягвацца, вырывацца пры сморганні. *Зь естыга боку сувайкі высма́ргывыюцца, на во, бярі. Крепка ляжыць, ні высморгывыіцца палка, пыдваж бярно колым.* **Высмаргнуць** *зак.* Выцягнуць, вырваць сморгаючы. *Вы́смыргні хвырасьці́ны с-паць сена, яны большы ні нада.* **Высмаргнуцца** *зак.* Выцягнуцца, вырвацца пры сморганні. *А вы́смыргнуцца твае каноплі, дужа ты зыбідувалыся.* **Высмаргываный, высморгываный, высмаргнутый** *дзеепрым.* *У іх ішчэ поскыньні ні высма́ргывыны, што яны самі сабе думыюць. Бярі высморгывыныя канцы, хваціць сь цябе. Вы́смыргнутый лён пыстаў у бабычкі, яго скора ґ гумну пывязуць біць.*

**Высцябываць** *незак.* Збіваць, выбіваць сцябаннем. *Нашто табе высьця́бывыць траву? Ах ты, распусьнік, ён будзіць вочы высьця́бывыць!*

**Вытаваць** *незак.* Выступаць з-пад снегу пры яго раставанні. *Яго бярьвеньня пычало вытыва́ць, ладныга ныцігаў зы зіму.* **Вытаяць** *зак.* Выступіць з-пад снегу пры

яго раставанні. *Нічога ні нада высікаць, во сонца прігреіць — і само ўсё вы́тыіць.*

**Вытраханнік, вытрахываннік** *м.* Той, хто вытрасае. *Харошый вытріха́ньнік: трёс, трёс пасьцілку, а тады ў грязь. Вытря́хывыньнік яшчэ адзін падбег, січас работа зыкіпіць.* **Вытраханніца, вытрахыванніца** *ж. Толька пыл стаўбом ат мяшкоў у тваіх вытріханьніц. Глядзі, вытря́хывыньніца, вочы сыма сабе засыпіш.*

**Выхітранне, выхітрыванне** *н.* Хітраванне. *Ніякыя яму выхітря́ньня ніскольк ні паможыць, ніхай ня думыіць. Во што пулучылыся зь яго выхітрівыньня!*

**Выхітраць, выхітрываць** *незак.* Дабівацца хітрыкамі. *Доўга выхітря́лі, усё пыд'іжджалі г' брігадзіру, ды нічога ў іх ня вы́пыліла. Нечыга выхітрівыць, нада чэсна ўсё дзелыць.*

**Вычысціцца** *зак. перан.* Зрабіць аборт. *А ці ні былі такея случыі: вы́чысьціцца ў бабкі і пойдзіць на тэй сьвет?*

**Вышмаровыванне** *н.* Моцнае зашмальцоўванне. *Каму ж ба пыныравілыся такоя вышмаровывыньня, цяперя пінжачок нікуды ні надзеніш, а ён пасьці новый.*

**Вышмаровываць** *незак.* Зашмальцоўваць шараваннем. *Хваціць вышмаровывыць куртку, іна ўжо і так нікуды ня годна.* **Вышмаровывацца** *незак.* Зашмальцоўвацца шараваннем. *Ахотычка яму вышмаровывыцца, увесь пірімазыўся, зубы толька блішчаць.*

**Выясняннік, выясняльнік, выясняльшчык** *м.* Той, хто высвятляе. *Якей з ма́лыга выісьня́ньнік, ні нада було яго пускаць. Пысядзі-ка ты, выісьня́льнік, у дваре, дык луччы будзіць. Яны кругом пальца абвядуць выісьня́льшчыка такога.* **Выяснянніца, выясняльніца, выясьняльшчыца** *ж. Нічога іна ні рызьбярецца, ета выісьня́ньніца. Пабегла выісьня́льніца, січас усё пыставіць на места. Во як патурюць етых выісьня́льшчыц, во будзіць стыдна! Хадзі сюда, выісьняльшчыца, паслухый, што гаворюць.*

**Вязаннік** *м.* Той, хто вяжа, звязвае, вязальшчык. *Нешта бурчыць твой віза́ньнік: суваі ірвуцца, ня можыць зьвізаць веніка.* **Вязанніца** *ж. Ікая ні віза́ньніца, а мяцёлку троху скруціла, хуць двор падмесьць будзіць.*

**Вярцяшчый** *прым.* 1. Непаседлівы, вяртлявы. *Ні мінуты спакойна ні пабудзіць, дужа вірця́шчый дзіцёнык.* 2. Распусны (звыч. пра жанчыну). *Матка была спакойныя, строгыя, а дычка вірця́шчыя.*

**Вяршэннік** *м.* Той, хто вяршыць стагі. *Каб етый вяр-*

*шэньнік ні пыкаціўся сы стыжка, ці доўга да случыя.* **Вяршэнніца** *ж. Ты можыш быць вяршэньніцыю лу́ччы зы Ільлю.*

# Г

**Гаварыла, гаварылка** *м.* Гаварлівы чалавек, балбатун. *Ішоў тут нідаўна Сірьгяёнкыў сват, сядзеў з намі ны бярьвеньні, ну й гываріла: ні ны мінуту ні сьціхаіць, аткуля ў яго што бярецца. Такей жа гыварілка меншый Антоныў, усё што-небудзь рысказывыіць, а большый маўчун.*

**Галалёддзе** *н.* Галалёдзіца. *Пы гылалёдзьдзю няковыныга кыня рызыдраць можна.*

**Галацупік** *м.* Гарэза. *Гылацу́пікыў повін двор, квілу хвытаіць кажын дзень. Памянш.* **галацупічак.** *Во рызыйшоўся гылацу́пічык, паспробый ты яго ўняць.* **Галацупка** *ж. Як мальчонка якей, гылацу́пка, іна табе мінуты ціха ні пысядзіць.*

**Гамаваннік** *м.* Той, хто сунімае. *Ны вас харошыга гумува́ньніка нада, ды с крепкім бізуном.* **Гамаванніца** *ж. Вас каб дзьве гумува́ньніцы, можа б, ныв́ялі пырядык.*

**Гаманне, гамканне** *н.* Яда, ужыванне ежы (у размове з дзецьмі). *Нада ўсё зьесьць, а посьлі га́мыньня ў ягыдкі пойдзім. Не, галубчык, толька посьлі га́мкыньня пыбягіш.*

**Гамурыста** *прысл.* Ганарліва. *Дужа гумурі́ста вядзець сябе, ні прідумыіш, сколька зыдач.*

**Гамурыстасць** *ж.* Ганарлівасць. *А хвытаіць гумурі́стысьці, што ты мне пра іх талкуіш.*

**Гамурыстый** *прым.* Ганарлівы. *Пы мамі гумурі́стыя, к той тожа було ні пытхадзі.*

**Гарадзіцца** *незак.* Абгароджваць, абгароджвацца. *Як скот пытыптаў кусок, ён узяўся гырадзі́цца. Што ты тут гародзісься, тады с канём ні праедзіш.*

**Гараднічый** *м. метаф. гумар.* Ахвотнік хадзіць у горад. *Січас мой гырадні́чый прімчыцца, пабег з мульчуганымі празьнік глядзець. Глядзі, гырадні́чыя, застыніш у сваіх тра́ньцікых.*

**Гарачылка** *м. экспр.* Нявытрыманая асоба. *Ён усігда такей гырячы́лка. Гырячы́лку пысылаць нілізя, тама нада спакойна пыгыварі́ць.*

**Гарбузоўнік** *м.* 1. Гарбузнік. *Гурбузоўнік па ўсёй бульбі ат мяжы, нада пысьцягывыць, с плугым ні пра-*

*едзіш, ні атпашыш.* 2 *жарт.* Ахвотнік да гарбузовай кашы. *Січас іду, ты пыдажджы, ныкармлю сваіх гурбузоўнікыў.* **Гарбузоўніца** *ж.* Ахвотніца да гарбузовай кашы. *І сяреднія, і меншыя дужа гурбузоўніцы бальшэя, каб ім кажный дзень варіў, і елі б.*

**Гаркач** *м.* Пустазелле, вельмі горкае на смак, гарчак. *Пашоў пы ячменю гырькáч, яго нада зразу вырываць, а як зысядзіць, тады зь ім дужа трудна. Памянш.* **гаркачык.** *Гырькáчык прыбівáіцца ў пышаніцы, раншы яго ні було.*

**Гарнізаваць** *незак., зак.* Аб'ядноўваць, ствараць, гуртаваць. *Доўга ён гырнізувáў сваю кынпанію. Некыму вас гырнізувáць, каб Верка была, тая быйстра б дзела апцяпыла. Васіль Вукулёнык у нас гырнізувáў камуну, матрос быў.* **Гарнізавацца** *незак., зак.* Аб'ядноўвацца, стварацца, гуртавацца. *Дайно яны гырнізувáліся, ды рыспалыся іхныя гырнізáцыя. Вам нада крепка гырнізувáцца і прутуріць яго. У нашый дзярейні сьпірва камуна гырнізувáлыся, а посьлі калхоз стаў.* **Гарнізаваный** *дзеепрым. Айдзе людзі гырнізувáныя, тама ніхто пыіжджаць ні станіць, дадуць атпор.*

**Гарнізатар** *м.* Арганізатар, стваральнік. *Мой быў гырнізáтыр луччы некуды, дужа кынпаніі любіў, чарку возьміць, тады ўжо вясёлый, гамоніць.* **Гырнізатарка, гарнізатарша, гарнізатаршая** *ж. У іх зы гырнізáтырку Прося, што іна скажыць, то й дзелыюць. Узілася ўжо гырнізáтырша зы работу, пы хатых бегыіць. Не, сь цябе дренныя гырнізáтыршыя, ты ня ўмеіш пытхадзіць, як Лісяёнык.*

**Гарнізацыя** *ж.* Арганізаванасць. *Кылі харошыя гырнізáцыя ў людзей, то ніякыга дзела ні страшна.*

**Гасіць** *незак. метаф.* Важка біць. *Дывай гасíць дайбнёю пу кулунý. Як сталі яго гасíць, дык ён чуць выкруціўся ат іх.*

**Гатоўля** *ж.* Прыгатаванне. *Калі іна ўправіцца іс сваёю гатоўлію? Ні дажджэсься яе гатоўлі.*

**Гваздадзёр** *м.* Прылада для выцягвання цвікоў. *Харошый у мяне быў гвыздадзёр, а во зывыляўся, німа й німа.*

**Гваздзяк** *м.* Цвік. *Тута адзін гвызьдзя́к зыгані і будзіць дзіржацца. Памянш.* **гваздзячок, гваздзячочак.** *Пыдай-ка мне сюда пару гвызьдзячкоў, я пыдаб'ю жэрдку, каб крячэй дзіржалыся. Во яшчэ адзін гвызьдзячочык выляіцца.*

**Генеральнічаць** *незак. іран.* Уладарыць. *Што йна за-*

*хочыць гінірáльнічыць, ета мне і ні брыдзіць, што скажу, то й будзіць дзелыць.*

**Гідота** 1 *ж.* Тое, што выклікае агіду, грэблівасць. *Ты зайдзі к ёй у хату — тама гідота, няўжэлі іна пырядку навесьць ня можыць.* 2 *м* і *ж.* Асоба, якая выклікае агіду, грэблівасць. *Я с такім гідотыю і рызгыварівыць ні хачу. Павеліч.* **гідоцішча.** *Якей ён гідоцішча!*

**Гіморнічаннік** *м.* Капрызнік. *Ат вашыга ґіморнічыньніка ўсяго можна дыждацца.* **Гіморнічанніца** *ж. Каб ні была такою ґіморнічыньніцыю, дык ба даўно жыла сям'ёю,— еткій хлопіц ныхадзіўся, сватыў — носым зукруціла.*

**Гіморства** *н.,* **гімарыкі** *мн.* Капрызы. *Мыя матка, бувала, дужа ні любіла ґіморства, на большыю дачку як крікніць, тая зразу ўніміцца. Ня дужа каму тваe ґімырыкі ныравюцца, луччы пріціхні.*

**Гладамір** *м.* Пераборлівы ў ядзе чалавек. *Хто ні пыдбярець сабе зьесьць нічога, тэй і глыдамір. Узмацн.* **гладамірына.** *Глыдамíріна сам ні знаіць, чаго яму хочыцца. Павеліч.* **гладамірышча.** *Ого быў глыдамíрішча, ныўгыждала яму Алёнка.* **Гладамірка** *ж. Сыма ні знаіць, што б іна зьела, глыдамíрка ета.*

**Глінянка** *ж.* Гліняная пабудова (звыч. хата). *Посьлі вайны, як пыгарелі, некаторыя пробывылі ляпіць глінянкі, халодна ў іх. Памянш.* **гліняначка.** *А во ў Нінкі была глінянычка, зьляпіла за лета, мушчыны крышу прыізьвялí, зімы чатырі зімувала.*

**Гнаястый** *прым.* Гнойны. *У стáрыя каровы па лёхкіх такея бурдулькі гныястыя былі.*

**Гойзанне** *н. неадабр.* Таптанне, бузаванне. *Вы ў мяне палучыцця зы сваё гойзыньня, ета ж прідумылі — усю саку путулувалі.*

**Гойзаць** *незак. неадабр.* Таптаць, бузаваць бегаючы, дурэючы. *Ну й балыўнікі сталі, гойзыюць пы саломі, пірятруць усю чыста.* **Гойзацца** *незак.* Таптацца, бузавацца. *Ды самыга пацёмку гойзыліся, вішчэлі, сквіл ны вярсту стыяў.*

**Гопанне, гопканне** *н.* Падскокі, скачкі. *Пірістаньця вы з гопыньнім, пысядзіця ціха. Бяз гопкыньня мінуты ні пысідзяць, усё прыгыюць.*

**Гразнух** *м.* Неахайны чалавек. *Якей ён грязнýх! — стыдна такім ніахáйнікым хадзіць.*

**Гранок** *м.* 1. Берагавая ластаўка. *Пы Сажу ў бірігах гранкі вядуцца, як косім, усё літаюць.* 2 *перан.* Някемлі-

вае дзіця. *Ныстыяшчый гранок, такея ірунды ня можыш сыбразіць.*

**Грубенне** *н.* 1. Паўната. *Ні хацеў ба я такога грубеньня, ета ніздарова, што ходзіць і ня спышыцца, серца ні спруўляіцца работыць.* 2. Цяжарнасць. *Грубеньня зу грубеньнім, іна зыкыпáіцца зь дзіцямі, што ня вылізіць, а маткі ж німа, ня прідзіць ні паможыць.*

**Грудзістый** *прым.* Грудасты. *Хлопіц яго служыў на хлоці, росту нібальшога, ну грудзістый, крепкій.*

**Грыцацуй** *м. неадабр.* Няўдаліца. *Во яшчэ гріцацýй пы зямле ходзіць, за што ня возьміцца, усё ў яго з рук валіцца. Узмацн.* **грыцацуіна.** *Ну што ты зьдзелыіш, раз гріцацýіна зыдаўся, то сколька ні гывroutе, нічога ні паможыш. Павеліч.* **грыцацуішча.** *Вырыс гріцацýішча ні к калу ні ґ двару, хуць зу руку яго вадзі.* **Грыцацуйка** *ж. Пупаў гріцацýйку, во што буваіць з бальшога выбыру.*

**Гузіна, гузячына** *ж.* Гузяк. *Гузíну сабе наб'еш, во што будзіць, як плясьнісься ап каменьня. Ладныя гузя́чына ўскачыла, халодным лісьцім пріклыдаў, каб паменшыла. Памянш.* **гузінка, гузячынка.** *Усьміхайся, гузíнка ўскачыла, насі цяперя. Відна, што гузя́чынка сядзіць, дней пяць паносіш.*

**Гутануць** *зак.* Гушкануць. *Як гутанець яго, вышы балькі пыдляцеў.* **Гутануцца** *зак.* Гушкануцца. *Ты так ні гутанесься, як я, ты пыбаісься.*

**Гушчаный** *дзеепрым.* Зроблены больш густым. *Нейкыя густля́вых мылако, усё дно як яно гýшчыныя.*

**Гырканнік** *м. неадабр.* Бурклівы, злосны чалавек. *Ты свайго дужа ні хвалі, гы́ркыньнік яшчэ луччый за Сеньку.* **Гырканніца** *ж. Есьлі ўжо зырадзілыся гы́ркыньніца, то яе ніхто на сьвеці ні піряўчыць і зьвякуіць такою.*

# Д

**Даабедываць** *незак.* Заканчваць абед пасля перапынку. *Ідзі дыабедывый, усё ны стале стыніць, прібіраць нада.*

**Даабрузаць** *зак. груб.* Даспаць. *Дыабрюзáюць, гультайё, ета ж нада, зылытая пагода, толька якую травіну высушыць, а яны вылежыюцца.*

**Дааканоміць, дааканомнічаць, дааканоміцца, дааканомнічацца** *зак.* Шмат эканомячы, нашкодзіць сабе. *Дыаканомілі, што сала пыялчэла, ніхто ў рот браць ня*

*хочыць. Дыаканомнічыіш ты зь естымі крошкымі, што будзіш выкідаць. І ты дыаканомілыся, як Хадоска: бірігла, бірігла бульбу, а як ужо нікому ні нада стала, тады айкыіць: нашто ж я бірігла. Нашто табе ўсяго ўсякыга ныкря́тывыць, купіла, знасіла і ладна, а так дыаканомнічыісься, што ўсё астаніцца.*

**Даартамоніць, даартамоннічаць, даартамоніцца** *зак.* Нашкодзіць сабе разявацтвам. *Што, дыртамоніў, трецьцій час ужо, а машына пышла кыла двух, табе ж гыва́рілі: бягі. Дыартамоньнічылі, што прішлося пяшком цягнуцца з горыда: дужа ж усё кругом аньціресна було. Дыартамонісься, што ўсе ацьсеюць усядзьбы, а ты будзіш сеіць, як у людзей бульбы паўсходзюць.*

**Дабазарыць, дабазарыцца** *зак.* 1. Дабалбатацца. *А вам жа Андрей гывaріў, што дыбыза́ріця, пакуля скот нейдзі будзіць шукаць. Ды чаго вы дыбыза́ріціся, ці відзіця, што вечыр ны дваре, а поліва ішчэ нівісь сколька.* 2. Неашчадна трацячы, выдаткуючы, нашкодзіць сабе. *Дыбыза́ріў сянцо, нечыга клыка сваёй карові паткінуць, усё хвастыўся: у мяне кырма на дзьве зімы ныгатоўліна,— во табе дзьві зімы. Скажы, што дыбыза́ріцца з бульбыю: у быразну ўкінуць ні аднае ні астá́ніцца.*

**Дабасятнічаць, дабасятнічацца** *зак.* Пастулаючы асуджальна, нашкодзіць сабе. *Дыбысятнічыіць, што куска хлеба ў рот улажыць ня будзіць, ну ка мне ніхай ня йдзець, дайжа ні пыказыіцца. Нічога зь яго толку ня будзіць, ён ужо дыбыся́тнічыўся, што пасьледній пінжачышка прыдаць гатоў.*

**Даблажэнстваваць, даблажэнстввацца** *зак.* У выніку бяздумнага жыцця нашкодзіць сабе. *Яны дыблажэнствыюць, што Аўдотка пратуріць іх с хаты, скажыць, едзьця, айдзе былі, ці ета ёй ёсьць урамя ну кускі іравацца, ны работу нада бежч, такоя гырячыя ўремя, а тута зь імі трахтуйся. Ладна дыблажэнствывыліся, ходзюць, просюць, каб хто пазычыў бульбы ўсядзьбіну пасеіць.*

**Дабожкаць, дабожкацца** *зак.* Дапамагчы сабе божканнем. *Тута бярі за ногі ды цягні з двыра, а божкыць — нічога ні дабожкыіш. Зьбівай агонь хвырасьцінью, ато дабожкыісься, што кыпа апхваціцца.*

**Даборкі** *мн.* 1. Каноплі горшай якасці, якія вырываюцца ў апошнюю чаргу. *Даборкі ні даборкі, а нада нымачыць, вярёўка саўецца, ладны будуць, сёліта кынапель мулувата. Памянш.* **даборачкі.** *Даборычык нямнога, трі пучочкі зьвізала, пыць сьцяною пыставіла лі вугла ад*

*дарогі.* 2 *жарт.* Святкаванне пасля цераблення ільну. *Ці ні даборкі вы ўчора спруўлялі?*

**Дабрадушнік** *м.* Лагодны чалавек. *Мы знаім, якей дыбрадўшнік ваш Пуўлючоныік, паслухыйця, што пры яго людзі гаворюць.* **Дабрадушніца** *ж. Ста́рыя была скупая, ета тыкая дыбрадўшніца, дужа ім дзед пыдыйшоў пуд руку, куды яго ні пашлюць, ён зьдзелыіць.*

**Дабрацца** *зак.* Шмат беручы, нашкодзіць сабе. *Пыдажджы, пыдажджы, дыбяресься і дыхвыта́ісься, кылі ўсяго сь цябе мала, нысытацца ня можыш.*

**Дабрындаць, дабрындавусіць, дабрындацца, дабрындавусіцца** *зак.* Дашвэндацца, нашкодзіць сабе швэнданнем. *Хто ж калі ды харошыга дабры́ндыў, хлеб сам на стол ні пріходзіць, над ім пыпацець нада. Ды чаго етый гультай дыбрындавўсіць, людзі стыряюцца, каб ґ зіме прізыпасіць што, а ён толька знаіць рысхаджывыцца. Дабры́ндыіцца, што пасьледнія рубашка с плеч зваліцца, тады, можа, за розум трошку возьміцца. У нас пу кустах травы можна нызьбірацьсколька хочыш, каб толька рукі, а яны дыбрындавўсіліся, што карову нада весьць ны бызар.*

**Дабрынкаць** *зак.* Дакасіць (рэдкае або абы-як). *Ні хацелі нызаўтря кідаць, узноў с косымі валоцца, трошку пріпазьніліся, ну дабры́нкылі.* **Дабрынкацца** *зак.* Дакасіцца (пра рэдкае або абы-як). *Ніхай астаецца, ураньні з расою дабры́нкыіцца, січас ужо кыса пы макушкых куўзаіцца.* **Дабрынканый** *дзеепрым. Пыдыйдзі к самый хыдасоўскый граніцы, можа, што найдзіш трошку, а тута кругом дабры́нкына, клыка ні кышанеш.*

**Дабрыць** *незак.* Затаўкаць. *Дывай-ка быранчыка заўтря зарежым, нечым ужо капусту дабріць, пасьледнія крошкі сяньня ўкінула.* **Дабрыцца** *незак.* Выстаўляцца добрым. *Не ч чыга мне дабріцца піріт Кузьмою, ета ён січас хвастом віль-віль піріт кажным, а сколька мы ныцярьпеліся ат яго.*

**Дабушмаціць, дабушмачыць** *зак. экспр.* Даплявузгаць. *І ты дубушма́ціш, як Зыхарёнык, тэй тожа ўсякія трілюды рысказывыў, дык Аўсей спрашыіць: а ці ты там быў, што вярзеш пустоя. Дубушма́чыш, што кума цябе прыздравіць лучны некуды.*

**Дабытнэй, дабытный** *прым.* Клапатлівы, прабіўны. *Ён табе лішнія мінуты і ні прысядзіць, і ні прыляжыць, усюдых дойдзіць і праб'ецца, дыбытнэй мужык, шчасьця бабі само пупалыся, у рукі прішло. Стыряцца ты, канеш-*

*ня, стыряісься, ну ты ні такій дыбытный, як Сямён, ён у ноч у поўныч бягіць усюдых.*

**Дабязуліць, дабязульнічаць, дабязуліцца, дабязульнічацца** *зак.* Лодарнічаючы, нашкодзіць сабе. *Вы дыбязу́ліця, што я вас прутурю ат'етуля біз аглядкі, мне гультаёў нечыга карміць. Ну што, дыбязу́льнічыў, можа б, цябе пірыгамі ныкарміць ай скарінкі сухея глыданеш? Відзіш, ды чаго Максім дыбязу́ліўся, і табе ета самыя будзіць. Бязу́льства ґ дабру ішчэ нікога ні прівадзіла, і Аўсяёнык дыбязу́льнічыўся, што хуць пасьледній хвост цягні з двыра, карміць нечым.*

**Дабялендзіць, дабялендзіцца** *зак.* Дабалбатацца. *Вы дыбяленьдзіця, што Лаўрін адзін паедзіць, ён вас доўга ждаць ні станіць. Якыў расьсердзіцца, як шурнець іх с хаты, во ды чаго яны дыбяленьдзюцца.*

**Давазголіць, давазголіцца** *зак.* Трапіць у непрыемнасць у выніку квэцання, пэцкання. *Дывазґоліць, што пу руках ныдаю, ці ета мне ёсьць урэмя хадзіць усьлед за ім с тряпкыю ды пыцьціраць. Глянь-ка, як ты дывазґолілыся: пырысяты аткінулі дзьверцы і сідзяць усёю аравыю ны грядзе, ваюющца.*

**Даваннік** *м.* Той, хто дае, падае. *Ты ж пыдыйдзі і ў рукі пыдай, дыва́ньнік, ці дзед к табе будзіць пыднімацца. Памянш.* **даваннічак.** *Спасіба, дыва́ньнічык мой маленькій.* **Даванніца** *ж. Іна тыкая дыва́ньніца: даець, ды з рук ні выпускаіць.*

**Давіхлець, давіхлецца** *зак.* Дамагчыся прагнучы. *Прідзіць, ся́дзіць, будзіць сядзець і сядзець, пакуля дывіхліць чаго-небудзь, ці адно, ці другоя торнуць у руку. Дывіхліцёся, што я вас тряпкыю на печ зыганю,— дыпякуцца бліны і будзім усе разым заўтрікыць.*

**Давогірыць** *зак.* Трапіць у непрыемнасць з-за задавання. *Давоґірілі, моўчынька ўселіся, іх ба даўно нада так унясць.*

**Давольнасць** *ж.* Здаволенасць, задавальненне. *Гусь зарежыць, апскубець і ны бызар: трэбі, ніхто ня есьць; як возьміць ладна, тады давольнысьць у яе, грошы нясець хуваць.*

**Давухрыць** *зак.* Давучыць, дападбухторваць. *Каб яны меншы верілі Домні, куды луччы було б, ато іна дувухріць, дывядзець ды дыбра, што будзіць стыдна людзям у вочы глянуць.*

**Давыкамырываць, давыкамырнічаць, давыкамырыць, давыкамырывацца, давыкамырнічацца, давыкамырыцца**

*зак.* Давычвараць. *Во ты січас пыглядзіш, як ён дывыкамы́рівыіць у Асташонка, тэй доўга чыкрініцца ні станіць, жыва ўнімiць. Будзіць пысьміхацца, пакуля ні ныдыясьцё яму, а тады дывыкамы́рнічыіця, што пратуріць ат'етуля. Дывыкамы́рілі тама ны бірягу, усё выкручывыліся, што адзін пыляцеў у ямку як сноп, а ў ямкі грязі пы калена, ды тыкая, што ня дужа аччышчаіцца. Не ўжо, мальцы, ды дыбра вы ні дывыкамырівыіціся, нейкыя пірялома ны вас выскычыць з дура́чыньнім з вашым. Ці ты ні знаіш, як можыш дывыкамы́рнічыцца? — Трахім паслухыіць, паслухыіць, а тады цірісьсядзельнік схваціць с крючка ды так пы плічах пыцягніць, ажно задзівісься, што й аткуля ўляцела. Нешта цябе сяньня рызьбіраіць ня тоя, ні знаю, ды чаго ты дывыкамы́рісься, ну ды дыбра ў цябе ні дайдзіць.*

**Давылангацца** *зак.* Атрымаць непрыемнасці, вылежваючыся. *Я чужбіны нічые ні спыжываю, а ты дывылынґаісься, так даждэсься, што пірімяніцца тряпіны ня будзіць.*

**Дагаджыванне** *н.* Дагаджанне. *Во ўскачыла ў замуж, во прішлося ёй, ніякыя дыга́джывыньня ні пымыгаіць, усё ні так, усё ні пы сьвякрові.*

**Дагадчыватый, дагадчывый** *прым.* Здагадлівы. *Ну хто ж ні знаіць, што вы ціряшчур дыга́ччывытыя, вы дайжа дыгыдаліся няпоіныю карову зыгнаць у пуню. Дыга́ччывый чылавек, знаіць, што ўсюдых тут поўна іх, слова ня пікніць, а каб ні було, уго б рузуряўся.*

**Дагайдамачыць, дагайдачыць, дагайдамачыцца, дагайдачыцца** *зак.* Змарнатравіць. *Мы даўно знаім, ікая зь яе хызяйка: як заб'юць пыцьсьвінка, у яе пір гарою, а як дыгыйдыма́чыць крошкі, тады сім'я шчыха́іць. Самі ішчэ ніізьвесна як заробюць, а бацькіна скора дыгыйда́чуць. Глядзі, баба, дыгыйдыма́чысься, к лету ні пранца ні аста́ніцца, у самыю работу будзіш аб нішчымніцы пуза пацьцісну́ўшы хадзіць. Сьпірва так шурока паехыў: са мною ніхто ні зруўняіцца, у мяне грошы нывалым, а тады дыгыйда́чыўся, што пашоў к цёткі ны дарогу прасіць.*

**Дагарлаць, дагарлацца** *зак. груб.* Дакрычацца. *Дыгырла́іць калі-небудзь, што ёй успакоюць ета горла, куды ня пойдзіць, нійдзе ёй ціхаміру німа. А так дыгырла́ісься, што пашлюць куды нада, ты й сьціхніш, кріку твайго доўга цярьпець ня будуць.*

**Дагыцаць** *зак. неадабр.* Даездзіцца, дабегацца. *Да-*

*гыцыюць, што біс капейкі ў кырмані абырваныміі зывяюцца к маткі: карміі іх.*

**Дадзогаць, дадзугаць, дадзыгаць, дадзогацца, дадзугацца, дадзыгацца** *зак.* Дапрыгацца, дабегацца, дурэючы, сваволячы. *Яны дадзогыюць у мяне, як дам баню, што цішэй ціхыга лета станиць, уміг асядуцца. Ты зірніка, што яны с саломыю зьдзелылі, ны аторю пірітулувалі ўсё чыста, ну дадзўгыюць, палучуць лупку. Каб ты віідзіла, як яны капёшкі разьбілі, рустулувалі, дажджы пойдуць і прыпадзець сена, ну другей раз я іх дадзыгыю. Дадзогыіціся вы ў мяне, ні салома, а аторя стала, карова яе і ні нюхнець, ны пацьсьцілку толька. Нійдзе ім німа спакою худзь ба ны мінуту, як толька ны гылывах ня ходзюць, ну дадзўгыюцца, німалыю лупку палучуць. Дадзыгыіціся ў мяне, што лазіна пы вас паходзіць, ды ні абы-ікая лазіна, нада еткыю шкоду дзелыць, вазы рызьбіваць.*

**Дадзяжыць** *зак.* Бадзёра дабегчы, дайсці. *Толька яму пымяніця, што ў Сьлёзкых ждуць, зы мінуту дыдзяжыць, пыдгыняць ні нада.*

**Дадзячыць** *зак. экспр.* 1. Дагаварыць. *Пакуль ні дыдзячыць сваіх трілюд, ня пойдзіць.* 2. У выніку балбатання набыць непрыемнасці. *Дыдзячуць яны ў мяне лухту, што пыпрашу вежліва.*

**Дадрынкаць, дадрынкацца** *зак.* 1. Атрымаць непрыемнасці ў выніку ляскання. *Адбярі жылізячча ды пызыкідай, дадрынкыюць, што пальцы пыдбіваюць. Тама краі войстрыя, дадрынкыісься — пальцы парежыш, во табе й дрынкыньня будзіць.* 2. Дашвэндацца. *Ізьвесна ды чаго дадрынкыюць: зіма зыляжыць, а ў іх карміны ні клычка ня будзіць. Калі табе ўсё роўна, ніхай, а ў мяне б ён жыва дадрынкыўся — зы хвастом цігаіцца як малютычка.*

**Дадубець, дадубянець, дадубецца** *зак.* Намерзнуцца да здранцвення. *Дудубеюць, усякія хваробы пытхвацюць, тады будуць кавэнчыцца,— во што зь іхніх пріборыў палучыцца, с пляхоцьціка зь естыга. Ні ныдзівайся, ні ныдзівайся, ты ўжо два разы курчыгыю ўкачывыўся ў хату, а калі-небудзь саўсім дудубянеіш на полі. Ты б сам пылядзеў, як яны дудубеліся: пысінелі ўсе чыста, трясуцца, зуб на зуб ні пупыдаіць; каб агонь харошый, атагреліся б, ато мокрыя сырьё толька дыміць.*

**Дадурачыцца** *зак.* Сваволячы атрымаць непрыемнасць. *Скажы, каб уняўся, ато дудурачыцца, што вярёўкі палучыць, тады ніхай ні скліміць.*

**Дадыхаць** *зак. метаф.* Дажыць. *Каб дадыхыць ды вясны, тады можна і ны спакой, а зімою дужа ні хачу пыміраць, ну яе, халодна, засыплюць мёрзлыю зямлёю і ляжы.*

**Даеджаный, даетый** *дзеепрым.* Даедзены. *Чмыхыла, чмыхыла носым карова ўвечырі, ні хацела есьць струшынкі, а січас глянула — усё даеджына. Ты глянь, кылі тама ўсё даетыя, лі пряма ў карыцца.*

**Даеннік** *м.* Даяр. *Якей ужо з мушчыны даеньнік, ён жа ні сумеіць выдыіць як нада.* **Даенніца** *ж. Тая даеньніца усё ў спросых: хто яго рузуверіў, хто яго пудучыў, чаго ён у сваты ні пашоў к Мархві.*

**Даетуль, даетуля, даетуліцька** *прысл.* 1. Да гэтага часу. *Даетуль я цярьпеў твае дуры, а большы ня буду. Айдзе ж ты быў даетуля, ці ня посьлі ўрокыў сядзеў? І ты даетуліцька нічога ні знаіш?* 2. Да гэтага месца. *Даетуль можна сьмела аьсікáць. Луччы було б даетуля атрезыць. Ты даетуліцька ні дыбягіш, ты слубуват.*

**Даёрзаць, даёрзацца** *зак.* Атрымаць непрыемнасць з-за непаседлівасці. *Даёрзыіця вы сяньня ў мяне, найду я вам і спакой, і места, уніміціся і будзіця сядзець як клапы ў шчэліне. Скажы, каб успакоілісь, ні рызьбівалі сяньнік, ато даёрзыюцца ў мяне, як хвачу ціріcьсядзельнік.*

**Дажвянькаць, дажвянькацца** *зак.* Атрымаць непрыемнасць з-за балбатні, пляткарства. *Адна дыжвянькыла: нылаілі, нылаілі і ў хату ні пусьцілі, хырашо було б, каб і другая пулучыла ета. Дыжвянькыўся, маўчыць: Мікіцёнык яго устреціў пысярёд дзяреўні, нупушыў, нупушыў, таму вочы некуды було дзівацъ.*

**Дажджыцца** *незак.* Ісці працяглы час (пра дождж). *Нада пры сінакос думыць, трыва ну лугах узілася харошыя, а тута дажджыцца і пы радзіву пагоды ні бішчаюць.*

**Дазызнуць, дазызнуцца** *зак.* Намерзнуцца, накалецца. *Адзін ужо ніхай як-небудзь пысядзіць, а другей зьбегый ды ныпряткі якея вазьмі, вы ж тута дазызьніця, што жывэя ў хату ня ўкоціціся. Ці я ні гываріла вам, што дазызьніціся, будзіця ліжаць, дык ні паслухылі і цяперя кычаіціся,— сы здароўім шуціць нечыга.*

**Даімшыць** *зак.* Закончыць імшэнне. *Дыімшы ды класьць будзім, ета бярно далжно хырашо сесьць у чашкых, яно ладна пріпўшчына.* **Даімшыцца** *зак.* 1. Дайсці да пэўнай мяжы пры імшэнні. *Ты ду сукоў скарей дым-*

*шысься.* 2. Закончыцца (пра імшэнне). *Калі дыімшыцца, тады й ладна.* **Даімшоный** *дзеепрым. Усё дамшона, пыкладзём ды пойдзім абедыць.* **Даімшомшы** *дзеепрысл. Дыімшомшы пірідыхнём, дывайця ўжо кончым.*

**Дакабызіцца** *зак.* Атрымаць непрыемнасць з-за капрызаў. *Пастой-ка ты, у мяне ён січас дыкыбызіцца: ні хачу таго, дай яму другога,— вун мутузоў палучыць, дык айдзе яго кыбыжэньня дзеніцца.*

**Дакавэнчыцца** *зак.* Дачакацца горшага пакутуючы. *Хто табе тута паможыць, ну парій, грей, раз ні пымыгаіць, нада ґ дыктырам ехыць, ато дыкавэнчысься, што прідзіцца ны пірацыю лажыцца, а там хто яе знаіць, як абойдзіцца.*

**Дакавярзаць** *зак.* Даплесці абы-як, няўмела. *Раз узяўся, нада як-небудзь дыкывірзáць карзінку, тут нямнога асталыся дно задзелыць.* **Дакавярзаный** *дзеепрым. Толька што дыкывірзáныя, бульбы ўсыпіш, дык, хочыш, дно ацскочыць, нада кряпчэй зыплітаць.*

**Даказ** *м.* Доказ, пацвярджэнне. *Твой дыкáз нічога ні значыць, етыга ніхто ні пыцьцьвярдзіць.*

**Даказыванне** *н. метаф.* Лаянка. *А ну яе с такім дыкáзывыньнім, слухыць стыдна було.*

**Даказываць** *незак. метаф.* Лаяць, бэсціць. *Як стала ны яго дыкáзывыць, пёрла, што нá рыт лезла.* **Даказаць** *зак.* Аблаяць, збэсціць. *Толька ён мяне затроніць другей раз, дыкажý дык дыкажу.*

**Дакальжэць, дакальчэць, дакальжэцца, дакальчэцца** *зак.* Намерзнуцца, накалецца да здранцвення. *Дыкальжэіш ну буішчы, увесь застудзісься і будзіш хырліць, як старый Дзім'ян. Дыкальчэюць, застудзюцца і будуць выляцца, як гылавешкі, прастуды пытхваціць нядоўга, а выгыняць яе дужа цяжола. Дыкальжэўся, схваціў успаленія, дзьве нядзелі пралежыў у бальніцы, а тады яшчэ у дваре кычаўся. Ні ныдзівайся: ай, цёпла, дыкальчэўся, жылья зустудзіў — цяперя ляжыць, вазіся зь ім пы дыктырах, лячы яго, а ці ета ўремя дужа ёсьць рызыйжджацца.* **Дакальжэлый, дакальчэлый** *дзеепрым. Укаціўся ў хату дыкальжэлый, чуць жывэй, я ны яго: лезь скарей на печ, пріпадзі к поду, атагрейся кыпілінычку. Айдзе-то цігаюцца, прівылáкыюцца пірястылыя, дыкальчэлыя, што кажныя костычка на іх пірямёрзьніць.*

**Даканархаць** *зак.* Атрымаць пакаранне за надакучванне. *Дыкынáрхыіш, што ремня палучыш,— якей ныдыядлый дзіцёнык.*

**Даканіцеліць, даканіцеліцца** *зак.* Нашкодзіць сабе, каніцелячы. *А во ды чаго яны дыкыніцелюць з бумажкымі: Лаўрінывы паедуць, а ты адна астанісься. Нашто вам було такую кыніцель рызвадзіць, вы зналі хырашо, што ўремя німа, цяперя дыкыніцеліціся — усе паедуць, а вы пяшком пыбігіцё.*

**Даканькаць, даканькацца** *зак.* Атрымаць пакаранне за надакучлівае ныццё. *Ніхай пыпішчыць яшчэ троху, ён у мяне дыка́нькыіць. Ды чаго вы там дыка́нькыліся, ні прутурілі вас мятлою?*

**Дакаравіць, дакаравіцца** *зак. метаф.* Нашкодзіць сабе лаянкай, бэшчаннем. *Дыкыря́віць іна, дывядзець Максіма, будзіць цярьпець, цярьпець, а тады здачы дасьць. Што далеіць, то рузумнеіць, і што толька ў кысьцях яе зывіряіцца: прець, нясець ны чылавека што зря, ну дыкыря́віцца, я ўжо ёй ня ўмоўчу.*

**Дакарацца** *незак.* Дакучаць. *Што ні пыпрасі паможч, не-а, ня будзіць, здохні, ня будзіць, пычанець дыкыря́цца, кріўляцца, што йта зы халера ўрадзілыся!* **Дакарыцца** *зак.* Надакучыць. *Як яны мне сяньня дыкаріліся, кажыцца, ні знаю, што б зь імі зьдзелыла, а сеч неік жалка.*

**Дакарожыцца** *зак.* Атрымаць непрыемнасць з-за капрызаў. *Чаго табе сну німа, лёг, дык ляжы ціхінька, ато дыкарёжысься, буду с табою вазіцца, як з малю́тычкыю.*

**Дакарстваваць** *зак.* Дапакутаваць, дамучыцца. *Нада дыка́рствывыць ды свайго дня.*

**Дакархаць** *зак. перан.* Дажыць да канца. *Можа-можа, етый месіц дыкархыіць, ён ужо с крываці ні пыднімаіцца і від пряма сьмярётный. Дыка́рхыў Мільлянёнык, на той нядзелі схувалі.*

**Дакахліць** *зак.* Напаліць звыш меры, да небяспекі. *Нада ж, ікая дурная прівычка ў людзей: дроў ныкладуць, ныкладуць, зыпалюць і пашлі, так во, рысказывылі, быў случый: дыка́хлілі грубку, што чуць хату ні спалілі.* **Дакахліцца** *зак.* Напаліцца звыш меры, да небяспекі. *Нілізя так ныпалівыць, што каменьня пышыць, калі-небудзь дыка́хліцца, што рызваліцца і пыжару надзелыіць.*

**Дакаць** *незак.* Паддакваць. *Што ты мне да́кыіш, ета пылаценца там яму куплялі, нешта рублі чатырі зыплаціli.*

**Даквакліць** *зак.* Дапэцкаць. *Прібярі ты ету місычку, ато ён дыква́кліць і тубурецік, і скамеічку, што ні да-*

*мыісься посьлі.* **Даквакліцца** *зак.* Дапэцкацца. *Дыква́кліўся зь дзёхцім, штанёнкі сьперіду пызадзелыў, яго ж ні аччысьціш; нашто було несмысьля пускаць ґ дзіхцяркі.*

**Дакладанне, дакладыванне** *н. перан.* Рэўнасць, раўнаванне. *Я ўжо ні брышчаю ўніманія ны яго дыклыда́ньня, ныдаеў ён мне. Ніхай дыклыдаюць, каго хочуць, мне іхныя дыкла́дывыньня ня дужа страшна.*

**Дакопкі** *мн.* Завяршэнне капання бульбы. *Пыра ўжо дакопкі спруўляць, а ў цябе ўсё лі гряд хвост вісіць і вісіць. Памянш.* **дакопачкі.** *Я віджу, у вас дакопычкі скора.*

**Дакрындзядзюліць, дакрындзядзюліцца** *зак. неадабр.* Атрымаць непрыемнасць з-за капрызаў. *Дыкріньдзядзю́ліця, што каровы січас у клевірі ачынуцца. А так дыкріньдзядзю́ліціся, што Цімка паедзіць січас, хто йта вас будзіць два часы ждаць, яму тожа ўремя німа.*

**Дакторшая** *ж.* Доктарка. *Яе дычка выўчылыся ны дакторшыю. У нас дакторшыя дужа пынімаюшчыя.*

**Дакука** *м.* і *ж. перан.* Дакучлівая асоба. *Старэй быў даку́ка, усё бурчэў, ні за тоя, дык за тоя прічэпку найдзіць.*

**Дакукобіць, дакукобіцца** *зак.* Даваждацца да непрыемных вынікаў. *Адна сваіх дукукобіла, усё ў яе былі маліݨькія, слабінькія, цяперя лабрэты разбухыліся, а ны матку ня дужа узглянуць хочуць. Скажы маім словым, каб ні аткладывыў ні мінуты, а заўтря ж ехыў у бальніцу, ён дукукобіцца з рукою, што резыць прідзіцца, ды ні абы-як резыць.*

**Дакуксіцца** *зак.* Накрыўляцца, нахныкацца. *Даку́ксіціся ў мяне, што апсяку абоіх, сырадою выпіця і лажыціся,— буду я січас печ рыстаплівыць, галычкі варіць, як вы зыгадыіця.*

**Дакулажыць** *зак.* Дахмарыцца. *Ды дыбра ні дукула́жыць, пыхма́ріць, пыхмаріць і пойдзіць, а ён ба так січас ні нада быў, худзь ба нядзельку пыдзіржала.* **Дакулажыцца** *зак.* 1. Дахмарыцца. *Мала што ўчора було, ты ні глядзі ны ўчырашнія, а во дукула́жыцца, што пойдзіць дождж, ідзі і згарнывый у кучу, хуць накрыіш, як зыка́пыіць.* 2 *перан.* Накрыўляцца, нахныкацца. *Калі ты нукула́жысься, ніґіґляцьцё маё?*

**Дакуліцька** *прысл.* Дакуль. *Даку́ліцька вы пасьпелі дайціць ды даждҗу? Даку́ліцька яны будуць ёй так ныдыідаць?*

**Дакырхаць, дакэрхаць** *зак.* Дажыць. *Калі-небудзь*

*абрузумісься, дакы́рхыіш, хвацісься ў пустэй сьлед лячыцца, ды позна будзіць, ніякыю балезьню ні зупускай, асобінна лёхкія. Ні знаю, айдзе я дакэрхыю, старшыя дычка завець к сабе, а мне сы сваe дзярэўні ехыць ня хочыцца, прівыкла тут.*

**Далапатаць** *зак. неадабр.* Дабалбатаць. *Яны дылапочуць, што пойдзіць Пілiпёнык, як пасьледніх дур нылаіць, нылаіць, тады яны пувумнеюць.* **Дала́патацца** *зак.* Дабалбатацца. *Аксюціна дылыпыта́лыся, маўчыць і табе тоя будзіць, калі ня ўніміш троху язык свой.*

**Далапачываць** *незак.* Заканчваць веянне ўручную. *Ты астывайся дулупа́чывыць, а мы пыбягім снапкі ў копы хвытаць, дождж можыць хля́нуць як зь відра.* **Далапаціць** *зак.* Закончыць веянне ўручную. *Пакуля дулупа́ціш, увесь запылісься, тут усігда садзісься, каб віцярок ны цябе цягнуў.* **Далапаціцца** *зак. Зал.-бессуб'ект. ад* далапаціць. *Пабедыім, а тады дулупа́ціцца, урemя ішчэ ёсьць, прібярём.* **Далапачаный** *дзеепрым. Сяньня ты ладныю кучу змог, усё дулупа́чына, можна аддыхаць.*

**Далаплiваць** *незак.* Заканчваць латанне. *Ты, знаць, ці ні чацьвёртый дзень пінжак дыла́плівыіш, усё ён у цябе сы голкыю выляіцца.* **Далапіць** *зак.* Закончыць латанне. *Ні кідай, дыла́п, дык будзіш знаць, што дзела зьдзелына.* **Далапіцца** *зак.* 1. *Зал.-бессуб'ект. ад* далапіць. *Вы́гынь скот, посьлі дыла́піцца, ато будзіш дыгыняць ніізьвесна сколька.* 2. Выдаткаваць латаючы ўвесь матэрыял. *Я дыла́пілыся, што ні кусочыка лапічка ні асталыся.* **Далапленый** *дзеепрым. Дыла́пліныя мяшкі пыкладзі адзьдзельна, я іх заўтря зразу ны калёсы ўськіну, каб ні забыць.*

**Далахаць, далахацца** *зак.* 1. Дабалбатацца. *Адна дыла́хыла, заціхла і зумурува́лыся, як саўсім другая баба стала. Так дыла́хыісься, што цябе к хаці ніхто путпускаць ні захочыць, нашто табе ўсякія трілюды рызнасіць.* 2. Дабегацца. *Дыла́хыіць, што куска хлеба ны сталe ні астаніцца,— іна будзіць лётыць, а яе карміць нехта станіць? — не. Дыла́хылыся, урemя ўпусьціла, дажджы лінулі, і стаіць кусочык ячменю нідыжатый.*

**Далікатнічанне, далікацтва** *н.* Далікатнасць. *Мы наглeдзіліся на іхныя дыліка́тнічыньня, усё дно як паны якея адзін піріда дным: вазьміця, пыжалыста. Яны ні гырадзкея, неткуль наeжджыя, відзіш, якоя дыліка́ства, у нас так ня ўмеюць.*

**Далоўкі, далоўку** *прысл.* Далоў, уніз. *Сыгрібла тую*

*кніжку, абеімі рукамі пріжала к сабе, ні тпускаіць і просіцца далоўкі. Пусьці ты яго далоўку, ніхай трошку пабегыіць, крупеня прастыніць, гырячыга ж ні пыдапреш дзіцёнку.*

**Далубяніваць** *незак.* Высыхаць, ссыхацца. *Кінуў шкурбаціну на сонцы дулубя́нівыць, цяперя нікуды нягодныя.* **Далубянець, далубець** *зак.* Высахнуць, ссохнуцца. *Пылатычку пыц стряху ні прібралі, іна посьлі дыжджа саўсім дулубянела на сонцы. Ні бірягеш пулушубычка, дулубеіць, што ня ўзьдзеніш.* **Далубянелый, далубелый** *дзеепрым. Дулубянелыя боты, іх і ны нагу ня ўссуніш. Відзіш, якей дулубелый плашчык, ніхай будзіць, сена калі ад дыжджа накрыць.*

**Далухціць, далухцець, далухціцца, далухцецца** *зак.* Даплявузгацца; скончыць плявузганне. *Ці дулухцілі яны свае трілюды, во пустазвоны сыбраліся, як толька іхныя ізыкі ні зыбыляць. Ты можыш дулухцець, што цябе патурюць аттуля. Дулухцісься, што ныт табою сьміяцца будуць, сядзіш і сам ні знаіш што трілюдзіш. Дулухцеліся, муўчаць як вады ў рот ныбраўшы.*

**Далыкаць** *зак.* Дахлябтаць. *Гывbooарыў ты, што шчанок ня ўмеіць мылыка есьць,— усё далы́кыў і місычку вылізыў.*

**Далындаць, далындацца** *неадабр.* Дашвэндацца. *Пыглідзіцё, далы́ндыіця, што бульба пацць сьнегым зыляжыць. Далы́ндыўся, прапы́тывыіць, ці ні прыдаець хто сена, хацеў ба купіць пару возікыў.*

**Далыхаць, далыхацца** *зак.* Дабегацца. *Ага, далы́хыла, трецьцій дзень сядзіць у хаці і ні пыказыіцца, во прыздравіла яе Кузьмоўна. Далы́хыіціся, што бізь нічога ў зіму астаніціся, ці вы ня можыця лазы нарезыць, старэй ба скывірзаў карзіну, і дроў можна насеч, прівезьць ёсьць на чым.*

**Даляганне** *н.* Стан здароўя. *Якоя ж тута дылігáньня, кылі я чуць жывая хаджу.*

**Далягаць** *незак.* Быць (пра здароўе). *Каб жа тут троху дылігáла, я б сам ні сядзеў у хаці, дык ня дужа ж яно дылігаіць.*

**Дамазкатаць** *зак.* 1. Дастукаць. *Дымазкочыш, што піряб'еш увесь посыд.* 2. Дабіць, моцна ўдарыць. *Глядзі мальца, каб ня біўся, ато дымазкочыць гылавёнку, будзіць балець, ён жа трі шагі ступіць і гак аб мост.* **Дамазкатацца** *зак.* 1. Дастукацца. *Дымызкытáліся мáлыя, путуріла іх Ганна ат пыдваконьня.* 2. Моцна ўда-

раючыся, нашкодзіць сабе. *Дымазкочыцца, калі-нібудзь саўсім заб'ецца.* **Дамазкатаный** *дзеепрым.* Дабіты, пабіты. *Цяльпух зваліўся, тама ўсе бутылкі дымызкытáны, нічога цэлыга німа.*

**Дамаліць** *зак.* Лічачы малым, атрымаць непрыемнасці. *Дымáлюць свайго Іванічку, пакуля стáрыга зы быраду станіць браць.* **Дымаліцца** *зак.* Лічачы сябе малым, атрымаць непрыемнасці. *Дымáлісься, што єь цябе людзі будуць сьміяцца, табе ж шыснаццытый год, а ты з маленькімі зы катком бегыіш.*

**Дамантачыць, дамантачыцца** *зак.* Растраціць, растранжырыць. *Пуньку прыдаў — ужо німа ні капеічкі, і каройку скора дымынтáчыць, айдзе ж у яго капейчына зацэліць, кылі друзей дужа многа і кажный глядзіць, каб ны дырмаўшчынку праехыць. Думылі, ны бацькывый шыі прысідзяць, а ў таго сымаго ня дужа коціцца, дык дымынтáчыліся, што і на хлеб нада пызычаць.*

**Даматалыжыць, даматалыжнічаць, даматалыжыцца, даматалыжнічацца** *зак.* Займаючыся круцельствам, атрымаць непрыемнасці. *Табе дайно гыварілі, што ён дымыталы́жыць, дык ты ўсё яго мáліла, чуць ну руках ні насіла. Калі яго січас у рукі ні ўзяць, дымыталы́жнічыіць, прыпашчый чылавек. Дымыталы́жыўся, пришлося зу лупату брацца. А ці хто-небудзь ды дыбра дымыталы́жнічыўся, раз пашоў пы крівой дарожкі, ня жджы пуця.*

**Дамататорыцца** *зак.* Дакешкацца. *Што, дымытаторіліся?— хырашо було б пад'ехыць, а тута нада пяшком бежч.*

**Дамашараваць, дамашаравацца** *зак.* Бесцырымонна распараджаючыся, атрымаць непрыемнасці. *Дымышарýіш, воґірь, дадуць табе спакой, кылі ніідзе места найціць ня можыш. Антонывы хлопцы пыдыйшлі, зáгрудкі тріханулі — во думушурувáўся.*

**Дамлець, дамлецца** *зак. перан.* Выражаючы нецярпенне, атрымаць непрыемнасці. *Ну, дамлей, бярі, еж, чаго ты ацсовывыісься,— кылі вазьму ремінь, я цябе ныкармлю. Усё млела: хачу плацьця ў яркія цьвецікі, дамлелыся, купілі, адзін раз надзела — носым круціць, ні ныравіцца, другоя спруўляйця.*

**Дамурыжыць, дамурыжыцца** *зак.* Дабэсціць, дыгрызці. *Што ты нам рысказыіш, ці мы самі ні знаім, якея яны: Зьмітрыка думуры́жылі, што стыяў пат пунію і плакыў. Мітрыхваный ні такей, троху пацерьпіць, а тады думу-*

*рыжуцца — як возьміцца іх гыняць, самі ня будуць знаць, куды ляцець і як ляцець.*

**Дамыкаць** *зак.* Закончыць мыкаць. *Трошку ныдгарелі дровы, пакуль дамы́кыла, тады чугунок пырысятым пыставіла, сабе бульбін пяць сыскабліла.* **Дамыкацца** *зак. Зал.-бессуб'ект. ад* дамыкаць. *Тута нямножка асталыся, калі дамы́кыіцца, тады й ладна, мы́чык многа, на цэлыю нядзелю хваціць.* **Дамыканый** *дзеепрым. У мяне ўсё дамы́кына, вун у вуглу мычкі складжыны, нада садзіцца прясьць.*

**Дамягнуць** *зак.* Знясілець ад спякоты. *Скот такою жарою дымя́гніць біз вады, нада було б к калодзіжу прігнаць, вады ў кымя́гу наліць.*

**Даміжджуліць** *зак. неадабр.* Даесці. *Хунты трі ліжаў краіц хлеба, посьлі вячэрі астаўся, дымяжджу́ліў увесь, ішчэ ладный кусок сала ўмяў, і айдзе толька ў ім што дзяецца.*

**Данюндзіць, данюндзіцца** *зак.* Атрымаць непрыемнасці ў выніку ныцця. *А што ёй другоя дзелыць, пріцягніцца, рысьсядзіцца як у сябе і пычыла адно, другоя, трецьція, ну даню́ньдзіць калі-небудзь. Ты ікраз так даню́ньдзісься, як Гапка ў Праскоўі: тая слухыла, слухыла, а тады гаворіць: ідзі-ка ты, баба, двору сы сваімі трілюдымі.*

**Дапавалу** *прысл.* Дарэшты, да канца. *Вядома дзела, будуць біць чужую куріцу дыпыва́лу, хочыш — саўсім зыдзяўбуць.*

**Дапаліваць, дапаліваццa** *зак.* Празмерна паліваючы, нанесці шкоду раслінам. *Дыпылівáў, што кареньня пыгніло, етыя цьвяты многа вады ня любюць. Дыпылівáісься ты іс сваімі дзеріўцымі, яны ня к месту наторкыны.*

**Даперцца** *зак. груб.* 1. Дайсці. *Ета ж толька падумыць, с такея дылічыны́ пы грязішчы дапёрліся сюда, нічога ім ні страшна.* 2 *перан.* Паслаць. *Дапресься ты яго, кылі ён дайжа вухым ні вядзець, што ты гаворіш.*

**Дапетрыць** *зак. іран.* Зразумець. *Лугі косюць дужа паршыва, а ён жа ні дапетріць праверіць, пыт пакосымі пырянýць.*

**Дапраць** *зак.* Даперыць. *Во дыпярý плацьця і пойдзім абедыць, пысядзіця мінутычку.* **Дапраный** *дзеепрым. Кылі ў цябе дыпрáна, пымагі яму сена ўськінуць ны хату.*

**Дапульгаць, дапульгацца** *зак.* Дашпурляцца. *Я іх січас дупульгáю, што яны самі сабе думыюць, шыбы ў вок-*

*ных пывысáджывыць? Дупульгáўся — балонычкі німа, ну й дыбяруся я ды цябе, будзіш ты харош.*

**Дапургаць** *зак. груб.* Даесці. *Ладныга ў чугунку було капусты, усю дапýргыў, як ён толька ні рысьсядзіцца калі зь еткыю ядою.*

**Дапурхаць, дапурхацца** *зак.* Дабурчацца. *С Сахвеію ты дужа храбір, тая на ўсё прымаўчы́ць, а ў мяне скора дапýрхыіш, палучыш што нада, завернісься і пойдзіш, айдзе й дзеніцца тваё пýрхыньня. Ета ў цябе сколька ні бубніць, ты ўсё маўчыш яму, а ў мяне б дапýрхыўся жыва.*

**Дапыраць, дапырацца** *зак.* Дапоркаць, датурбаваць. *Дыпыря́іш сыбаку, што ён будзіць цярьпець, цярьпець, а тады зубамі як хвáціць. Дыпыря́юцца яны на крышы, што я іх пруцінью путурю.*

**Дапырхываць** *незак.* Дапрыгваць. *Знаіш, дакуля ён дапы́рьхывыіць, во да етыя лініі. Узяліся ны адной наге дапы́рьхывыць ды лазьні, і хто скарей, дык мáлый абыгнаў большых.* **Дапырхаць** *зак.* 1. Дапрыгаць. *Ны адной наге ды кынавы ты ні дапы́рьхыіш.* 2. Дапрыгацца. *Дапы́рьхыюць, што ногі сабе пывыкрýчывыюць, ета ж нада надумыцца, лезьць ны баню, а тады хто дальшы пы́рьхніць.* 3 *перан.* Атрымаць непрыемнасці. *Мы яму ні раз гыварілі: дапы́рьхыіш, хлопіц, чаго ты ны ражон лезіш, далі работу, дык работый.* **Дапырхнуць** *зак.* Дапрыгнуць. *Ціріс кынаву пырьхылі, Броњка ні дапы́рьхнуў ны край і паехыў пузым пы грязі ўніз.* **Дапырхацца** *зак.* 1. Дапрыгацца. *Дапы́рьхыўся, ляжыць у бальніцы, ныга пац столь пыдвязына.* 2. Дайсці да непрыемнасцей. *А дапы́рьхыюцца, найдуцца, што ўнімуць іх як мілінькіх.*

**Дапытный** *прым.* Дапытлівы. *Дужы дапы́тный чылавек, ён пра ўсё рузузнаіць. Ціряшчур дыпытнáя, лезіць, куды б ёй саўсім ні нада було лезьць.*

**Дапярхаць, дапярхацца** *зак.* Моцна кашляючы, атрымаць непрыемныя вынікі. *Едзь у бальніцу, дыктырам пыкажыся, ато дыпірьхáіш у дваре, што лёхкія зыбыляць. Усё ня йшоў: ай, пройдзіць,— дыпірьхáўся, што тута ўжо ні бяруцца лячыць, пысылаюць некуды далёка.*

**Дапяўняцца** *незак.* Дамаўляцца, дабівацца яснасці. *Хадзіў дыпіўня́цца нашчот бані, нешта яны то прыдаюць, то ні прыдаюць.*

**Дараб'ё** *н. зб.* Стары гліняны посуд. *Дыраб'ё быставіла б нацьсенцымі на столь, яно ўжо ці пынáдыбіцца калі.*

**Дараваннік, дарэннік, дарыльшчык** *м.* Той, хто дорыць. *Заві Міхалку, ён харошый друвáньнік, усігда сотню паложыць ны тарелку. Каб усе такея дареньнікі, ого, сколька б нынясьлі ім усяго. Нешта шушукыліся нашы дарíльшчыкі, згыварівыліся пра што-то.* **Дараванніца, дарэнніца, дарыльшчыца** *ж. Друвáньніцы глідзяць адна за дною, хто што паложыць. У етыя дареньніцы ў сымае ня дужа што ёсьць, чаго ж ат яе хацець. Ты сяньня будзіш самыя быгатыя дарíльшчыца ны свадзьбі.*

**Дарагатоў, дарагатоўля** *ж.* Дарагоўля. *Зразу посьлі вайны знаіш ікая была дырыгатоў, трудна було дукупіцца што, якея ж маглі быць пріборы. Як у мыгазіных німа чаго, тады ны бызарі дырыгатоўля, а ў мыгазіны прівязуць — і ны бызарі цэны спыдаюць.*

**Даражба** *ж.* Цэннасць, уменне цаніць. *Ікая ж табе дырыжбá, кылі ты мяне на цэлый дзень у лёд піхаіш.*

**Дарассусоліваць, дарассусоліваца** *зак.* Даразважаць. *Еткыя пагода стыяла, сянцо як порых высыхла, дык друссусолівыў: былачына ныйшла, дождж ладна пыкáпыў, у копы ўжо ні складзеш, пірясушывый. Домніна большыя пасьвіла, стыяла, парола лухту зь нейкыю пудлужаньськыю і друссусолівылыся — каровы ў клевір уваліліся, а стыршына засьпеў,— штрах!*

**Дарвываць** *незак. перан.* Дажынаць. *Мы асталіся хвосьцікі дáрвывыць, думылі, дажнём, а тучка ныйшла, дождж хлянуў — і ўсе зьмяклі.* **Дарваць** *зак.* Дажаць. *Нібальшэй кусочык жыта астывайся, цямнела, я яго дырвáла, ніхай ні буўтаіцца.* **Дарвацца** *зак.* Дажацца. *Ета крошка дарьвецца ў любую мінуту.* **Дарваный** *дзеепрым. У нас усе кусочыкі дырвáныя, поля чыстыя.*

**Дарганупь** *зак.* Ірвануць. *Ціхінька дырганýў, а вярёўка пупылам. Сядзь кряпчэй, конь дырганецъ, і ты пыляціш носым у грязь.* **Дарганупца** *зак.* Ірвануцца. *Калі ціхінька дырганецца, німа нічога, цэла будзіць.*

**Дарзаць** *зак.* Дасвавоціць. *Дырзáў, пулучыў хлыбазіны, нісмашна стала,— уніму ж ніякыга ні було.* **Дарзацца** *зак.* Дасвавоціцца. *Дырзáліся, ціхінькія сталі, харошынькія, лучны і мальчыкыў ні нада,— во як наўчыла.*

**Дармавізна** *ж.* Дармаўшчына. *Чаго ж ты упускала такея хаты, дырмавíзна была ў руках.*

**Дарыванне** *н.* Дакопванне. *Нешта ў цябе няспорныя дырывáньня, так работыўшы, ты і заўтря ня кончыш.*

**Дарываннік** *м.* Той, хто дакопвае. *Віджу, што дырывáньнікі зымаріліся, а работы ішчэ многа.* **Дарыванніца**

*ж. Ідуць нашы дырыва́ньніцы двору, кончылі зь ямкымі.*

**Дарыгаць, дарыгацца** *зак.* 1. Дарыпаць. *Што вы, дары́гылі, пулучылі баню? Ды таго дары́гыіцца, што пруціка зыработыіць.* 2. Даплакацца. *Сядзіць і рыгыіць, нашто Пецьку дыла падушычык, а яму лынпасеньк, дары́гыіць, што і етыя адбяру, іш, хракціp змалку пыказыіць. Дары́гыўся, што ўжо ня можыць зьдзержыцца, ажно зыхліпа́іцца.*

**Дарына** *ж.* Адна дошчачка дору. *Ладныя кучка дору была, а даріна пы даріні ўсё рысьцігалі. Памянш.* **дарынка.** *Нада айдзе на крышы патторнуць, і біз дарінкі ні абойдзісься.*

**Дасадзіць, дасадзіцца** *незак.* Гараваць, бедаваць. *Дужа я буду пы ўсякыму чорту дыса́дзіць, ніхай бягіць, калі яму ні ныравіцца тут. Віду асобінна ні пыказывыіць, ну пы ўсяму заметна, што дужа дыса́дзіцца, іна пряма сыма ні свыя, ні знаіць, к чаму рукі прічаліць.*

**Дасвістаць** *зак.* 1. Дасвістацца. *Уніміся са сьвістым сваім, ато дасьві́шчыш.* 2 *неран.* Дамарнатравіцца. *Пацьцёлычка дысьвіста́ў, цяпеpя гатоў і кароўку за рогі пыцягнуць ны гарелычку.*

**Дасвоіцца** *зак.* Сапсаваць сваяцкія ўзаемаадносіны. *Раншы як устрецюцца, ныгывapіцца ня могуць, на вуха адна другой ду-ду-ду, а тута дасвоіліся, што глядзець адна ну другую ня хочуць.*

**Дасклець, дасклецца** *зак.* Намерзнуцца. *Даскleіць там, што двухстароньнія ўспаленія схваціць і пыцягнуць у бальніцу. Ім жа слова ні скажы, ні ўладзіш, гываріла, цяплей ныдзівайціся, дык ці яны слухыюць, а цяпеpя даскleліся і ліжаць с прастудыю.*

**Дасклімець, дасклімецца** *зак.* Атрымаць пакаранне за хныканне. *Ніхай уніміцца сы сваім піскым, дысклі́міць, што баню палучыць. Што, дысклімеўся?— а чаго було пішчэць, тольки пыдняўся — пыдывай яму ладык, рыстаплівый скарей і пякі.*

**Даскулець, даскуліць, даскулецца, даскуліцца** *зак. асудж.* Надакучыць, дабіцца свайго просьбамі, плачам. *Дускулела, што Мішка аддаў ёй пулушубычык, хадзіла і кажный дзень ныдыідала, ну й аддаў, каб хуць аччапіцца. У мяне б ён жыва дускулі́ў, ся́дзіць і пашоў хны́кыць: ні хачу таго, дайця етыга, а вяpёвычкі ты ня хочыш, во што б я ў такога хлюста спрасіла. Ні знаю, ці ўдасца ёй што-небудзь, ці не, ну надзеіцца дускулецца. Ня дужа ён сызнаець што, твой Косьцік, пакуля Мархва дускулі́лыся*

*машыны, ладна пыхадзіла, яно тыкі праўда, машыны і зыняты ўсігда.*

**Даскусць** *зак.* 1. Даскубці. *Ніхай дускубець кабыла етый клівярок, і січас паедзім. Не, воўну нада абізацільна даскўсьць сяньня, заўтря ранінька пыбягім чысаць.* 2 *перан.* Дапрасці. *Тут ужо нібальшэнькій клачок астаўся, нада даскўсьць.* **Даскусца** *зак.* 1. Даскубсціся. *Тута нямножка асталыся, дускубўцца етыя клачкі ўраньні.* 2. Дапрасціся. *Можна було ўчора кончыць, дык ацставіла прясьліцу: дускубецца пазьней,— а тута сяньня дыхнуць некылі.*

**Дасляпіць** *зак.* 1. Давесці зрок да дрэннага стану. *Усё нат кніжкыю і нат кніжкыю, дасьлепіш ты сябе, аддыхаць нада.* 2 *перан.* Падмануць. *Глядзі, ты іх дасьлепіш, ні такея яны дурачкі, як ты думыіш.* **Дасляпіцца** *зак.* Давесці зрок да дрэннага стану. *Ацьцягый яго ат кніжык, дасьлепіцца, папорціць вочы саўсім с такіх мыладых гадоў, будзіць гурюваць.* **Даслепленый** *дзеепрым.* *У яго вочы саўсім дасьлепліны, што ён увідзіць упацёмкых.* **Дасляпёмшы** *дзеепрысл.* *Ня жыціль ты будзіш, дысьляпёмшы вочы.*

**Дасмаргываць** *незак.* Заканчваць вырыванне. *Ці думыіш ты етыя калівы дысмаргывыць, чаго яны буўтаюцца.* **Дасмаргаць, дасмаргнуць** *зак.* Закончыць вырыванне. *А пайду січас, дысмыргаю каноплі. Нада було дысмаргнўць, каб вочы людзям ні мазолілі етыя кынапелькі.*

**Дасмегавацца** *зак.* Нацярпецца ад нястачы ў ежы. *Дысьмігувáліся біс кыравёнкі, рады б рады, каб стыканок мылыка зьесьць, толька цяперь трошку за розум хваціліся: нада пацьцёлычка купляць.*

**Даснудзіць, даснудзіцца** *зак.* Атрымаць непрыемнасці пры ненадзейным уладкаванні. *Пыстаў як нада, ато даснўдзіш — сам рукавом зачэпіш і ў дребізкі кушунок рассыпіцца. Січас даснўдзіцца з гырлачом, ён як зьляцеў з етыга меха.*

**Даспеліванне** *н.* Даспялянне. *А ну цябе з дасьпелівынькім, каторый сьпелый гарбуз, зварім, а зялёныя сьвіньням спарюцца, усё дно бульбы ні так многа.*

**Даставаннік, даставальшчык** *м.* Той, хто дастае, набывае. *Ты астарожна, дыстывáньнік, паплеціна крэхніць і пыляціш. Сь цябе ўжо дыстывáньнік, будзіш як рызівон стыяць — во й тваё дыстываньня ўсё. Не, с Андрея дыстывáльшчык ніважный, ты б луччы сам схадзіў рузузнаў усё.* **Даставанніца, даставальшчыца** *ж.* *Сам увідзіш,*

*што ета дыстыва́ньніца паедзіць січас умесьці зь лесьвіцыю. Ня слухый ты такую дыстыва́ньніцу, нікога іна нійдзе ні знаіць і нічога ні дыстаніць. Ты знаіш, ікая іна была дыстыва́льшчыца, у яе кругом знакомства було.*

**Дасупаратываць, дасупаратывацца** *зак.* Пасупрацiўляцца жартам. *Я цябе січас дусупура́тыю, я цябе, ета ж нада бабы ня слухыць, ах ты, каток ма́ліңькій. Січас ты ў мяне дусупура́тывыісься, толька я цябе вазьму крепка ў рукі.*

**Дасытаць** *зак. перан. груб.* Здаволіць да канца. *Калі іх дысыта́іць хто на сьвеці, усё б зыгряблі пыць сябе.* **Дасытацца** *зак.* Здаволіцца да канца. *Во як буваіць: усё яму ні хвытала, усё грёб, хвытаў, а тута дысыта́ўся, скажы на — ня возьміць.*

**Дасюля, дасюліцька** *прысл.* 1. Да гэтага месца. *Ускыпаіш дасю́ля, тады можыш бежч. Мы дабеглі дасю́ліцька і сталі.* 2. Да гэтага часу. *Калі дасюля ні прішоў, то ўноччы ён ня пойдзіць. Іна дасю́ліцька надзеіцца на Міцю.*

**Даталаваць** *зак.* Стаптаць, змяць поўнасцю. *Тама з вазок сена аста́лыся адзь зімы, дык яны ўжо яго дутулува́лі, пацёрлі ны аторю.* **Даталавацца** *зак.* Атрымаць непрыемнасці ў выніку таптання, гоцання. *Дыталу́іціся, што палучыця прута, я вас доўга угыварівыць ня буду.* **Даталаваный, даталованый** *дзеепрым. Каб летым падгрёб, пріклаў акуратніңька, дык ба ішчэ ікая сяніна асталыся, а січас усё дутулува́на, нечыга ні глядзець, ні прібіраць. Ета дыталовыныя сьмяцьцё ўжо некуды прібіраць, пыцьсьцялі пырысятым, большы яно нікуды ня годна.*

**Датараніць** *зак. жарт.* Данесці. *Што яму такую клумычку дытыра́ніць, ён ба пяць еткіх узяў і панёс.* **Датараніцца** *зак.* Дайсці. *Ай, ні гывари ты, мне ўжо знаіш як дытыра́ніцца да тых Віхрян, я во пы дзяреўні чуць прайду.* **Датараненый** *дзеепрым. Рызьвязывыйці-ка дытыра́ніңью сьвірепку, будзім сушыць ды на жэрдзя пыт павецьцю цігаць.*

**Датаўмясіць** *зак.* Растаптаць, размясіць ушчэнт. *Другей раз як дытаўмесюць грязь, дык ня то што хадзіць тама, а цыляіш, як ны кані праехыць.* **Датаўмясіцца** *зак. Натаптацца, намясіцца да крайнасці. Усе ўжо так дытыўмясіліся, што вылізьлі грязныя па поіс, туды толька з бальшэя, з бальшэя нужды палезіш.*

**Датаўпясіцца** *зак.* Датаптацца, датаўчыся да край-

насці. *Ці відзіця, ды чаго вы дытыўпясіліся, на што ваша вобуў паходжа стала.*

**Даташнаваць, даташнавацца** *зак.* Дабедаваць, давесці сябе перажываннямі. *Ай, дутушнувáла Анюта саўсім, сыма ні прідумыіць, што ёй дзелыць і куды кінуцца, к сыну паехыла б — баіцца, ці зладзюць зь нявесткыю, і тут нá зіму астывацца ёй дужа трудна. Ні хыця дыташнýісься, кылі ніізьвесна, за што брацца, а мальцы ня дужа пытхвáтныя.*

**Датваранне** *н.* 1. Вычваранне. *Якога толька дытвырáньня зь іх ні було!* 2 *метаф.* Лаянка. *Мы ўволю наслухыліся яе дытвырáньня, усё са сьвету нісла ны Мыксімёнка.*

**Датопак** *м.* Зношаны лапаць, атопак. *Раншы на клеці цэлыя куча датопкыў вылялыся, а цяперя пыглядзі, кылі хочыш. Памянш.* **датопачак.** *Па-мойму, у пуні выляліся датопычкі, толька яны біз аборык.*

**Датрапываць, датропываць, датрапліваць** *незак. перан.* Даношваць. *Етый касьцюмчык дытрáпывыіш, а другей справіць ты ня дужа рупісься. У грязныю работу старейшыя датрёпывый, а чыстыя будзіць урема надзець ны празьнік ці паехыць куды. Пінжачок ішчэ сы свайго сукна шылі, я во дытрáплівыю кылы хаты.* **Датрапывацца, датропывацца, датраплівацца** *незак.* Абношвацца. *Нечыга дытрáпывыцца ды пасьледніга, ты можыш пыгырадзкому справіцца, столька зырыбляючы. Як старіц, я датрёпывыцца ні хачу, нада путнейшыю адзежыну справіць. Пасьледнія тряхольля дытрáплііцца, я дужа ні блюду, многа я жыць ні зыгáдыю.* **Датрапаць** *зак.* 1. Данасіць. *Дытріпáў пінжачок, што ён чуць ні рызвалііцца, а надзець новый ня дужа зыставіш.* 2. Дабалбатаць. *Датрепіш, што яны цябе прыздравюць, як устрецюць.* **Датрапацца** *зак.* 1. Абнасіцца. *Дытріпáўся ты, хлопіц, саўсім.* 2. Дабалбатацца. *Дытріпáліся, што ім ні днаго слова ня веріць.* **Датрапаный, датропаный, датрэпленый** *дзеепрым.* Зношаны ўшчэнт. *У такім дытріпáным касьцюмчыку стыдна на людзі выйіціць. Датрёпыный касьцюмчык нільзя ў Сапрынывічы ныдзіваць, тама ўсе будуць рызадзетыя, прібраныя, а ты, як старіц, зыявісься. Кылі етый датрепліный, дык у цябе новых два касьцюмы вісяць.*

**Датрахтаваць** *зак.* Закончыць частаванне. *Калі ўжо Хвенька дытрахтýіць сваіх гасьцей, адзін за дным усё пыд'іжджаюць і пыд'іжджаюць на зьменку, адны ні*

*пасьпеюць выбрыцца, другея коцюць.* **Датрахтавацца** *зак.* Дасягнуць у чэставанні пэўнай мяжы. *Нілізя быць такою рысыкідною, дытрахтуісься, крошкі расходыіш усе, а летым сыма будзіш бегыць пы бызару, купляць, нада пыдбірігацца троху.*

**Датропкі** *мн. жарт.* Заканчэнне трапання ільну. *А што, калі-то і датрёпкі празьнік быў, знаіш, як уваб'есься кажный дзень, пыстыяўшы с тряпышкыю, рукі аттрясеш.*

**Датрудзіць** *зак.* Навярэдзіць. *Рука ішчэ слабыя, дужа ні хвытайся зы работу, датрудзіш посьлі такіх ран, што ні датронісься ні да чога.* **Датрудзіцца** *зак.* 1. Дапрацавацца да знямогі. *У дзяреўні склаўшы рукі сядзець нілізя, тут датрудзісься, што ні за што ня возьмісься, тады ўжо ляжы.* 2. Дапакутавацца. *Як чылавек датрудзіцца, яно відна: жаўцеіць, вочы зыкатыюцца, толька дышыць, дышыць, саўсім увесь дзелыіцца.*

**Датруняцца** *зак. неадабр.* Дашвэндацца. *Ды чаго етый чылавек дутруняіцца, пряма ні знаіць, куды дзівацца ад гультайства.*

**Датрупехнуць** *зак.* Дагнісці да стану трухі. *Хваціўся я, думыў, с тых палычык выбрыць што-небудзь можна, а яны саўсім дутрупехлі.* **Датрупехлый** *дзеепрым.* *Сыбяріця дутрупехлыя шальлё, айдзе тыпаром цюкніця, айдзе піряломіцца, складзіця паць сьценку, пацсохніць, дык у печ укініцца.*

**Датрылюдзіць** *зак. асудж.* Дайсці ў балбатні да малавераґоднага. *Яны ўжо дытрілюдзілі, што Мікілаіхін сын зьбіраіцца к Танькі ў зяці,— во ізыкі нізыбарсывыныя, якея толька лухты ні прідумыюць.* **Датрылюдзіцца** *зак.* Дабалбатацца. *Ты ўжо сыма ні знаіш, ды чаго дытрілюдзісься с падругымі са сваімі, ці вы былі ў тым Чарнілыві, ці знаіця вы дайжа, айдзе яно.*

**Датрысціць** *зак.* 1. Паламаць да канца. *Сыбакі талуюцца кажный дзень, датрысьцюць кынапелькі, свайго прівяжы, а тых прутурі палкыю.* 2. Дасукаць (ніткі). *Ні кідай, сяньня дытрысьці ніткі, я раніныка ўстану і буду ніт дзелыць.* **Датрысціцца** *зак.* 1. Паламацца да канца. *Прібраць ты ня хочыш, пыд ныгамі датрысьцюцца палычкі, зь іх ба ішчэ можна було на леску выбрыць.* 2. Дасукацца (пра ніткі). *А цэлы будуць твае ніткі, калі пазьней датрысьцюцца.* **Датрышчаный, датрышчоный** *дзеепрым.* 1. Паламаны да канца. *Быў ладный асіньнічык засеў, дык скот пусьцілі, увесь датрышчын. Проса дытрышчона саўсім, нада пызыбівадь тваіх шчанкоў.*

2. Дасуканы. *Датрышчыныя ніткі змытаны, вун клубочык ляжыць.*

**Датукаць** *зак.* Прымусіць пакрыкваннем. *Нічога ты ні датўкыіш, што яму ні скажы, ён слухыць ня хочыць.* **Датукацца** *зак.* Пакрыкваннем дайсці да непажаданых вынікаў. *Куліна датўкылыся, што хлопцы яе пряма ў рязон ні бяруць, што хочуць, то й твыряць.*

**Датумкаць, датумкацца** *зак.* Зразумець, дайсці да разумення. *Што ты ня можыш датўмкыць, ён нымікаіць, што ач чарычкі ні аткызаўся б. Сколька ні гывbooрі, ні б'ісьняй, ніяк ні датўмкыюцца ні ў чом, тупэя нейкія.*

**Датурзаць** *зак.* Датузаць. *Датўрэыў — атырваў вярёўку, цяперя лезь, прівязывый.* **Датурзацца** *зак.* Датузацца. *Датўрзыліся, ґузікі адзін другому пытáрвывылі і пашлі рысхрістáныя.*

**Датуркаць** *зак.* Паслаць, адправіць. *Тыкая ўпоріна дзяўчонка, паспробый-ка яе датўркыць куды-небудзь, гылаву атверніць і ці ты ёй гывbooрі што, ці ні гывоорі, нізашто ні паслухыіць.*

**Датурчэць** *зак.* Льючыся, дасягнуць пэўнай мяжы. *Дутурчыць выда, повін погріб ныхляніць, рызьмякніць усё і сьценкі аб'едуць, во будзіць табе, хызяін.*

**Датурыць** *зак.* Дагнаць, загнаць. *Цёлка ў адзін бок, карова ў другей, а воўцы ззаду астануцца, во й папробый дутурі адзін, карову сь цёлычкыю нада ны вярёўку брацьь.* **Датурыцца** *зак.* Выправіць, адправіць. *Ны вічарінку дык і пыдгыняць ні нада, самі ліцяць, а с касою папробый дутуріся іх, язык зыбаліць гыварёмшы.*

**Датусмець, датусмецца** *зак.* 1. Знябожыцца, зблажэць. *Варка пы сваіх хлыпцах дутусьмела, ета сколька ўремя пра іх ні слуху ні духу. Ну Вульяніным месьці кажный ба дутусьмеўся ніізьвесна ды чаго, у яе столька піріжываньніў було зы пасьледнія ўремя.* 2. Памерці. *Мне ўжо каб дутусьмець у сваёй хаці, каб ні ныдыідаць нікому.*

**Датынець, датынецца** *зак.* Згнісці ў макрэчы. *Калі ж мы сыбярёмся бочычкі выцігнуць с погріба, яны тама дытынеюць, а пад восінь нада будзіць гуркі класьць, пазьней капусту сеч. Дытынелыся шаічка, прыпала: дно чуць ліпіць, зарубкі ў клёпкых ні дзіржаць нісколька.* **Датынелый** *дзеепрым. З дытынелых палык плоха штонебудзь строіць, яны ліжалі пыт кыплямі, а саломы ныкрятына, яны ні разу ні прысыхалі.*

**Датыхаць, датыхкаць** *зак.* Дастукаць (пра сэрца).

*Як жа так жыць сям'ёю, ежылі ён жыць пы-сямейныму ня хочыць, датыхыіць яе серца, ня выдзіржыць калі-небудзь. Як жывеш — ні жывеш, а будзіш цігацца, пакуля серца датыхкыіць ды кынца.*

**Датэпкацца** *зак.* 1. Закончыць гаспадарчыя справы. *Мне сьпяшыць некуды, к абедым датэпкыюся, прістаўлю гаршчонычык ґ жару і ладна.* 2. Натупацца да зморы. *К вечыру датэпкыўся, толька пысядзець.*

**Даўбалоб** *м.* і *ж.* *жарг. груб.* Дурнаваты або ўпарты чалавек. *Во яшчэ дыўбалоб, хут ты яму кол ны гылаве цяшы, у адно вуха ўляцела, у другоя выліціла. Памяняш.* **даўбалобік.** *А сын такей жа дыўбалобік, адно заўчыў, што пыд яго пыткапыюцца. Узмацн.* **даўбалобіна.** *Ні ў бацьку, ні ў матку, чорт яго ведыіць, у каго тыкая дыўбалобіна ўрадзілыся. Павеліч.* **даўбалобішча.** *Во быў дыўбалобішча: дзядзька, нільзя скот пускаць на жыта, мякка,— ня буду, ня буду,— пашоў і пуні аччыніў: і карова, і цялёнык, і воўцы на жыці, месюцца.* **Даўбалобка** *ж. Абея адзінакывыя дыўбалобкі, зы каторыю ні хвацісь, адна другую ні пірявесюць.*

**Даўбалобый** *прым. жарг. груб.* Дурнаваты або ўпарты. *Нада ж быць такім дыўбалобым, самыга простыга яму ні ўталкуіш.*

**Даўбень, даўбешка** *м.* і *ж. метаф.* Дурань, тупіца. *А ты думыіш, Стыхванок меншый даўбень? Бабі ж нада хут трошку рузумнейшый быць, а ты еткыя самыя даўбень, як і ён. Ты сам ня меншыя даўбешка, што ты другіх гуніш.*

**Даўгаліцый** *прым.* Даўгатвары. *У іх уся прірода дыўгаліцыя, мы ішчэ помнім іхныга прадзіда — тожа такей быў.*

**Даўгамордый** *прым. груб.* Даўгатвары. *Ты луччы свайго дыўгамордыга дыглідай, а я як-небудзь так абыйдуся.*

**Даўганожка** *ж. жарт.* Даўганогая дзяўчына, высокая дзяўчына. *Так улігаіць зы сваёю дыўганожкыю, ні ны шаг ні ацстаець. Дыўганожкі як стануць, куды там матка, ныпылавіну ніжы.*

**Даўгарукій** *прым. перан. іран.* Злодзей. *За тоя пупала, што ціряшчур дыўгарукія былі. Ужо ні знаю, у каго ён такей дуўгарукій урадзіўся, бацька быў чэсный, за ўсю жызьню сяніны чужэя ні ўзяў.*

**Даўжыць** *незак.* Рабіць даўжэйшым. *Куды там даўжыць ету спадніцу, іна і так доўга.*

**Даўродываць, даўроднічаць, даўродывацца, даўроднічацца** *зак.* Наздзекавацца, насамаўпраўнічаць. *Скора даўродыіць, мінецца яму ўроднічыньня, будзіць сядзець як клоп у шчэліні і слова пікнуць пыбаіцца. А прідзіць урем*я, *даўроднічыіць, тады сам пызнаіць, ці смашна, кылі зы нішто ніякыя прікáсыюцца ны кажным шагу. Даўродывыліся, цішэй ціхыга сталі, ну сколька ат іх людзі пыплакылі, ета ім так ні далжно прайціць. Андряёнык каторый дзень ходзіць як у ваду апушчыный, а Кузьміха яму крічыць: «Што, даўроднічыўся, думыў, ні разу гылавы ня зносіш?»*

**Дахадзіць** 1 *незак.* Дабівацца. *Сколька я етыя бумажкі дыхадзіла, сколька пабегыла!* 2 *зак.* Дахадзіцца, стаміцца ходзячы. *Дыхадзіў за дзень, чуць ногі пірідзьвігаю, сы скатом цяжола, здароўя нада.* 3 *незак. жарг.* Канчаткова слабець, паміраць. *Нашто ж так дыбівацца, так дыхадзіць, усё роўна ўсяго ні пірядзелыіш. Старік мой даходзіць, ні сяньня — заўтря памрець.*

**Дахаднэй** *прым.* 1. Прабіўны. *Сьціпанёнык дыхаднэй мушчына, ён і прыпытаіць што нада, і даб'ецца ўсяго.* 2 *жарг.* Канчаткова саслабелы. *Лявон такей дыхаднэй стаў, чуць ногі пірістыўляіць.*

**Дахарахорыцца, дахарахоніцца** *зак.* Дасягнуць пэўнай мяжы ў задаванні. *Ета нада було падумыць, ды чаго б яны дыхырахоріліся, толька як Хведзька зайшоў, тады троху аціхлі. Ты глядзі, ня будзь такей джоґій, ато жыва дыхырахонісься, палучыш пы загріўку.*

**Дахарчыцца** *зак.* 1. Быць на ўтрыманні да пэўнага часу. *Етый месіц дыхырчáцца, а большы я карміць іх ня буду, у мяне змагі німа гутуваць, ніхай вун к Хадоріным ідуць.* 2. Дасягнуць пэўнай мяжы ў спажыванні. *Мы дыхарчыліся, што палезьлі ў погріб, а тама бульбы ні бульбіны.*

**Дахвалянне** *н.* Выхвалянне. *Ета адно дыхвыля́ньня, а што зь яго толку, як быў шлэптух, так і астаўся.*

**Дахвалянніk** *м.* Хвалько. *Ай, ня слухый ты дыхвыля́ньніка еткыга, нікога ў яго тама знакомых німа, трепліць ніізьвесна што.* **Дахвалянніца** *ж.* *Ты тожа тыкая самыя дыхвыля́ньніца, як мама, ці думыў ішчэ тэй лійцінант глянуць ны цябе, а ты ўжо замуж сыбралыся.*

**Дахваляцца** *незак.* Выхваляцца. *Сколька яны дыхвыля́ліся сваім зяцім, ні зяць, а пряма ангіл, а тэй ангіл цярьпеў, цярьпеў, а тады ўзяў дый прутуріў іх дачку.*

**Дахватацца** *зак.* Аказацца ў цяжкім становішчы пры

спешцы. *Дыхвыта́ісься, кініш айдзе зря, а тады пычанеш шукаць, бубнець,— зразу прібірай к месту.*

**Дахітаць** *зак.* Дахістаць. *Бярёзычкі і так някрепка сідзяць, а ма́лыя дыхіта́юць, што ні адна ня пріміцца.* **Дахітацца** *зак.* Стаць няўстойлівым у выніку хістання. *Я ж табе кызаў, што нада патперць саху, відзіш, як дыхіта́лыся, а што, каб па кім-нібудзь ударіла? — на месьці забіла б.*

**Дахлехатаць** *зак. метаф. неадабр.* Скончыць бурна злавацца. *Калі ўжо ён дыхляхочыць сы сваёю злосьцю, калі яго нарьвець, усё ходзіць і бу-бу-бу, усё яму ні так.* **Дахлехатацца** *зак.* Атрымаць непрыемнасці праз бурнае выражэнне злосці. *Дыхляхочысься, чылавек, пакуля цябе Нюшка ня ўстреціла, тая жыва аччысьціць бакі.*

**Дахліпаць, дахліпкаць** *зак.* Атрымаць непрыемнасці за плаксівае ўсхліпванне. *Калі ня ўнімісься, то дахлі́пыіш, што і ныпраўду зырявеш, ійш, німа дзяўчонкі спакою, куклы ёй пыдывай. Дзетычкі маліцькія, хліпкыюць, можа, вам сосычкі купіць, глядзіця, дахлі́пкыіця, я ўмею успыкаівыць.*

**Дахлынкаць, дахлынкацца** *зак.* Дашвэндацца. *Дахлы́нкылі, што бульба ні накопына і хвырастку ні пірясечына, дождж пашоў, усё мокрыя. Дахлы́нкыіцісь, упацёмкых пойдзіця, січас усё к месту склыдайця.*

**Дахлыскаць** *зак.* 1. Дасягнуць непажаданага ў бойцы. *Дахлы́скыіш січас, як сам палучыш.* 2 *метаф.* Дайсці да асуджальнай мяжы ў п'янстве. *З гарелычкыю толку ня будзіць, дахлы́скыіць, што пасьледній хвост сьцягніць з двыра.* **Дахлыскацца** *зак.* 1. Дасягнуць непажаданага ў бойцы. *Як я вазьмуся вас унімаць, тады вы дахлы́скыіціся, як вам ня стыдна, еткім бульшуна́м, дурату тваріць.* 2. Наклікаць непрыемнасці п'янствам. *Дахлы́скыўся, чэшыць гылаву, як выкруціцца.*

**Дахмыліцца** *зак.* Атрымаць лупцоўку за намер укусіць (пра каня). *Дужа гадкій конь, ты патходзіш, кось-кось, а ён ужо вушы склаў, хмы́ліцца, ну як вазьму паплеціну, дахмы́ліцца ён у мяне.*

**Дахныкаць, дахныкацца** *зак.* Атрымаць ушчуванне за наўмысны плач. *Ты ў мяне січас дахны́кыіш, палучыш і яблык, і дулік,— ці ты ні пынімаіш, што яны саўсім зялёныя і есьць іх нільзя. Дахны́кыіцца, яй-богу, дахныкыіцца, як вазьму ремінь, дам хныкыньня, успакоіцца і зыняція найдзіць.*

**Даходлівый, даходный, дахожый** *прым.* Прабіўны.

*Ён быў дужа даходлівый, умеў зь людзьмі абрышчацца, пыстаіць, пыталкуіць і ўсяго дойдзіць. Ніхай сабе што баба, іна большы даходныя, як мушчына, іна ўжо ў Мугулёві ўсё аблазіла. Хто дахожый, таму луччы на сьвеці жывецца, а ты ўсюдых як турык.*

**Даходчыватый** *прым.* 1. Даходлівы. *Ня дужа тваё рызьясьненія дахоччывытыя: ідзі туды, пывярні ўбок, тады піряйдзі,— я нічога ні пыняў.* 2. Прабіўны. *Сямён мушчына дахоччывытый, ён знаіць, як к каму пыдыйціць, усюдых дастукыіцца.*

**Дахрапатаць** *зак. метаф.* Даесці. *Капуста ляжыць, кісла дужа, сьвежынькія гурочыкі дыхрыпытáлі.* **Дахрапатацца** *зак.* Дайсці да непрыемнасці ў ядзе. *Дыхрапочысься яблык, што жывот зыбаліць. Ага, дыхрыпытáўся тхорь, улез у зялезы, гылавою неік пупаў, а яны шчоўкнулі, ато ж узяўся курей шарсьціць, як ноч, так і зьесьць куріцу.*

**Дахрупаць, дахрупкаць** *зак.* Даесці хрумстаючы. *Сена дужа харошыя, лугавоя, пагодлівыя, як чай, пырядышна пылажыў айцам, дахрýпылі і бляюць, каб яшчэ нёс. Бягі ўжо, бягі, пячэнінкі пылажы ў кырман, пы дарогі дахрýпкыіш. Клівярок коні дахрýпкылі, цяперя ім аборкывыга сена ня дужа хочыцца.*

**Дахуркаць, дахуркацца** *зак. неадабр.* Дабурчацца. *Чаго ты яму ўсё церьпіш, у мяне б ён жыва дахýркыў, еткій рыспырядзіціль, я б яму дыгадзіла. Мысяёнык дахýркыўся, Антоніха так яго аччытала, што ён круціўся, круціўся, дывай ужо ўгыварівыць: ну чаго ты, ну чаго ты.*

**Даціняціць, даціняціцца** *зак.* Дацягнуць да пэўнага часу, атрымаць непрыемнасці ад ашчаднасці. *Нада каб як дыціняціць, пакуля заб'ём сьвіньню, а яе зь месіц нада б ішчэ пыгладзіць, і мука троху ёсьць. Канешня, мулувата, ну можа як дыціняцімся. Дыціняцілыся, што ён кінуў ды паехыў, будзіць ён глядзець, што яму атрежуць кусочык ны раз у рот укінуць.*

**Дацмыгаць, дацмыгацца** *зак.* Дабегацца. *Туды цмыг, сюды, каб ёй абізацільна глянуць на двор, пыт паветку, ну дацмы́гыіць калі-небудзь, што прыздравюць чышчы некуды. Што, дацмы́гылыся пы хатых, мы ж самі чулі, як Праскоўя табе крічала: «Каб твыя ныга большы ў маёй хаці ні была!»*

**Дацургаць, дацургацца** *зак.* Раздаць, параздаваць бяздумна. *У цябе свае дзеці растуць, пра іх нада ў пер-*

*выю вочырідзь думыць, а ты дацу́ргыіш тым усё, што сабе нічога ні астаніцца. Дацу́ргыісься, ласку ат іх палучыш, усё тваё зьядуць і табе ну руку ня ўсплюнуць.*

**Дацыгаць, дацыгацца** *зак.* Дажыцца, не думаючы пра будучае. *Як жа так жыць, ежылі што зывялося, каб зы адзін раз руспусьціць, ну распусьціш, а тады за месіц дацы́гыіш — прідзіцца к людзям іціць пыбірацца. Зразу шурока паехылі, а тады дацы́гыліся — німа ні трясцы, жыць саўсім ня ўмеюць, ня думыюць, што ны кажный дзень кусок нада.*

**Дацыркаць** *зак.* 1. Дадаіць. *Січас дацы́ркыю і пріду, тама у вас ні гаріць, а ў печы пыправіць самі ня зломкі.* 2 *метаф.* Выліць невялікімі часткамі. *Ліні зразу, а там дацы́ркыіш стыканым.* **Дацыркацца** *зак.* Выліць невялікімі дозамі. *Дацы́ркыісься ложкыю, вазьмі чугунок тряпкыю ды ліні.*

**Дацюкываць** *незак.* Заканчваць сячы сякерай паціху. *Нада ўсё сучча дацю́кывыць, нашто, каб яно мішала ны праходзі.* **Дацюкаць** *зак.* Закончыць сячы сякерай паціху. *Етый хвырасток дацю́кыю, а тады нада ўзноў думыць, каб пару вазкоў сыбраць.* **Дацюкацца** *зак.* Дасячыся сякерай. *Глядзі, дацю́кыісься, нагу рызваліш, во будзіць балывыньня.* **Дацюканый** *дзеепрым.* *Хлуз якей быў, дацю́кын, а буйныя дровы суруватыя, ня хочуць гарець.*

**Дацюпаць, дацюпацца** *зак.* 1. Дайсці з цяжкасцю. *Дарогі німа, пакуля я туды дацю́пыю, і сьцямнеіць. Як вы сюда дацю́пыліся, дарога саўсім уся, айдзе ні станіш — выда.* 2. Стаміцца зусім. *Дацю́пыла зы пасьледнія паўгода, чуць толька дыхыю, сілы нісколічка німа, адзін шчот, што ны ныгах стаю. Кажыцца, і работа — ікая тут дужа работа, а як дацю́пыісься к вечыру — скарей ба, скарей ускаціцца ны гырячыю печ.*

**Дацяпываць** *незак.* Дасякаць паціху. *Дрыбнаты хлопіц прівёз у скрысеньня два вазкі, дыця́пывыю, а тады ні знаю, як дальшы палучыцца.* **Дацяпаць** *зак.* 1. Зрабіць паціху сякерай. *Ты худзь ба пырасёнку мелі080кыя карыцца дыця́пыў,— рышчаўся і кінуў.* 2. Атрымаць непрыемнасці ў выніку няўважлівага сячэння. *Дыця́пыў, ныбалывыўся, зывязыный ходзіць.* **Дацяпацца** *зак.* 1. Дасячыся паціху. *Дыця́пыіцца хвырасток, тута яго нямнога.* 2. Атрымаць непрыемнасці ў выніку няўважлівага сячэння. *Дыця́пыўся: тапор сьлізкануўся, хырашо — пашоў ныўскысяк, кожу абыдраў, а каб прямей, у косьць ба*

*і ўехыў.* **Дацяпаный** *дзеепрым.* Дасечаны. *Нечыга ўжо нійдзе пыдбіраць, усё дыця́пына, ні пруцінкі ня ўвідзіш.*

**Дачапаць** *зак.* 1. Дайсці з цяжкасцю. *Мне ўжо ў тэя Жыгалкі ні дыча́пыць, а сістра дужа прікызывыла, каб прішла.* 2. Дахадзіцца. *Дыча́пылі мы сы стыріком саўсім, чуць на печ узьлізаім.*

**Дачапурыць, дачапурыцца** *зак.* Атрымаць непажаданыя вынікі ад празмерных убораў. *Ты яе так дучупуріш, што і ні пызнаюць ны вічарінкі, падумыюць, ці ні з-зы граніцы аткуля пріехыла тыкая лялька. Мікілаіва дычка ўжо дучупурілыся: сядзіць у дваре з ма́лым, стала ціхінькыя і спакойнінькыя.*

**Дачарэпывацца** *незак.* Дачэрпваць, дачэрпвацца. *Ні нада дычарепывыцца, што адна грязь у кружку пупыдаіць, ніхай большы найдзіць вады, тады ныбірай.* **Дачарэпаць** *зак.* Дачэрпаць. *У сажылкі дычарепылі ваду, я кружычкыю суды чуць наліў.* **Дачарэпацца** *зак.* Дачэрпаць, дачэрпацца. *Выда віда-віда унікаіць, скора ды дна дычарепыімся. Дычарепыюцца ды грязі, тады стыяць і талкуюць: во каб хто пачысьціў калодзіж.* **Дачарэпаный** *дзеепрым. Усё дычарепына, муту нямножка асталыся.*

**Дачасціць** *зак.* Пачаставаць усіх да апошняга. *Калі ж мы дычасьцім етых Пітраковых друзей, адны с хаты, другея ў хату.* **Дачасціцца** *зак.* Дайсці да пэўнай мяжы ў пачастунках. *Дычасьціўся сы сваімі гысьцямі, што капейкі зу душою ні асталыся, ціряшчур туруватый, кылі што зывялося, усё наця.*

**Дачатніць, дачатніцца** *зак.* Схуднець, змарнець за працяглы час. *Астапёнык дыча́тніў, чуць толька дыхыіць, многа ён ні прыцягніць, а быў жа мушчынішча — крысавіц, як дуб. Есьлі зыбалеў, нада скарей ґ дыктырам кідыцца, ды чаго ты ў дваре дыча́тніісься, а дыктары на ета вучоныя, каб лячыць.*

**Дачахнуць** *зак.* Схуднець, змарнець канчаткова. *Купляй карову, як жа с такою сям'ішчыю біз мылыка, дзеці дыча́хнуць.*

**Дачухацца** *зак. перан.* Дасягнуць пэўнай мяжы ў бяздзейнасці. *Дачу́хыісься, што сьнег вылянець і будзіця дыстывываць салому с-пацьо сьнегу і пірітрісаць.*

**Дачыканіцца** *зак.* 1. Дайсці да непрыемнасці пры важданні, паблажлівасці. *Ты зь імі дычыка́нісься, распусьціш, рызбалыюцца, тады нічога ня зьдзелыіш, січас ні выпускай з рук.* 2. Дасягнуць мяжы ва ўборах. *Дычыка́нілыся, большы ўжо ні прібіраіцца пірід дучча́німі.*

**Дачыкацца** *зак.* Даваждацца. *Яны с табою дачы́кыюцца, зловюць калі-небудзь аднаго і так аччы́сьцюць бакі, што ні пасьпеіш круціцца.*

**Дачыкіляць** *зак.* Дайсці кульгаючы. *Яму дычыкіля́ць многа ўремя нада, ніхай раншы выбіраіцца.*

**Дачышчываць** *незак.* Дачышчаць. *Дачы́шчывый палку дый ідзі заўтрікыць, прастыла ўсё, даўно стаіць.* **Дачышчывацца** *незак.* Дачышчацца. *Паплёт ужо дачышчывыўся, калі яны пыдыйшлі.* **Дачысціць** *зак. перан.* Украсці ўсё. *Антонывых тады саўсім агалілі: на дну ноч карову вывілі, а цірізь нядзелю ўлезьлі скрозь стряху, клець дачы́сьцілі.*

**Дачэгнуць, дачэзнуць** *зак.* Змарнець канчаткова. *Ціпляты дачэгнуць па бульбі, ім кажный дзень зірнят сыпні і сыпні. Асколык у ім сядзіць і гаворюць, нілізя дыстаць, работыць саўсім ня можыць, а як жа ў дзярейні праседзіш, нічога ня дзелыўшы, худэй стаў, відна, саўсім дачэзьніць.*

**Дашабуцець, дашабуцецца** *зак.* Атрымаць непрыемнасці за дрэнныя паводзіны. *Душубуціш, маліц, ой, унімуць цябе, так ны сваіх нарьвесься, што станіш ціпы вады ніжы травы. Яны душубуця́цца ды чаго хочыш, ці ім доўга ўмеючы, адзін раз дзядзька сь пятлі выцігнуў, дык яны другую пролыбку найдуць.*

**Дашалапуціцца** *зак. іран.* Давычвараць. *Тута яму раздольля, унімаць некыму, а ў нас ба жыва дышылапу́ціўся: за шкырку б хлопцы ўзялі, тріханулі хырашэнька, айдзе б у яго што дзелыся.*

**Дашалацца** *зак.* Дашвэндацца да цяжкага становішча. *Ды чаго вы дышыла́іціся, ці вы ня відзіця, што людзі ротым і носым хвытаюць, каб сяніну ссушыць, палку дроў ґ зіме прівезьць.*

**Дашалудзівіць, дашалудзівіцца, дашалудзіцца** *зак. іран.* Атрымаць непрыемнасці за вычваранне, задавацтва. *Дзядзька січас цябе душулудзі́віць, есьлі табе места німа, ён дасьць. Адзін душулудзі́віўся, маўчком сядзіць, тоя самыя і другей палучыць. Калі ўжо Даніла прідзіць, ты душулудзі́сься, ён такіх дужа ўспыкаівыць любіць.*

**Дашарахаць** *зак.* Дашоргаць. *Дышыра́хыіш, пратреш пылатно, дзірька будзіць.* **Дашарахацца** *зак.* Дашоргацца. *Дышыра́хыўся, усе плечы ў нейкім сьмяцьце, аптрясіся.*

**Дашарахоніць, дашарахоніцца** *зак. іран.* Атрымаць непрыемнасці пры актыўнай падрыхтоўцы, зборах. *Ду-*

*жа ты храбрец бальшэй, глядзі, дышырахоніш — будзіш ляцець, ні знаць, у якей бок. Уніміся, маліц, сы сваімі дура́мі, дышырахонісься, такую плюху пыднясуць кылі-небудзь, што сам ня ўвідзіш, аткуля ўляціць.*

**Дашарпываць** *незак.* Зношваць да канца. *Усё старьё дыша́рпывыіць, а новыя бірягець.* **Дашарпывацца** *незак.* Зношвацца да канца. *Пінжак дыша́рпывыіцца, нада було думыць што цяплейшыя ґ зіме купіць.* **Дашарпаць** *зак.* Знасіць да канца. *Дышырпа́ў будзённыю адзёжу кылы пастройкі, разу надзець нечыга, паеду заўтря глядзець што-небудзь на плечы.* **Дашарпацца** *зак.* Знасіцца да канца. *Дышырпа́ліся мае пінжачкі, некуды ныдзіваць.* **Дашарпаный** *дзеепрым. Дышырпа́ныя шырабу́рья на сенцы склаў.*

**Дашарсціць** *зак.* Знішчыць да канца. *Чытырёх куріц лісіца злавіла, а астатніх тхорь дышарсьціў.*

**Дашарудзіць** *зак.* Давесці да непрыемнасцей пры бурнай дзейнасці. *Відзіш, як яны ладна душурудзілі: Сімянок стаіць і чэшыць затылык, айдзе каткі дзівалі-ся,— ён пыц саломыю хуваў.* **Дашарудзіцца** *зак.* Дайсці да непрыемнасцей пры бурнай дзейнасці. *Ці помніш, як Полька гатовілыся сустрюкаць гасьцей, а іх ні було, так і ты душурудзісься: будзіш гатовіцца, гатовіцца, а яны ні пріедуць.*

**Дашвіргаць, дашвіргацца** *зак.* Атрымаць кепскі вынік ад шпурляння. *Глядзі, я цябе дышвірьга́ю, ні ныравіцца мыя купля, сам ідзі зароб і купляй, што табе пы ныраву. Дышвірьга́іціся, як у вакно палкыю пупыдзіцё, балонкі пасыпюцца — ні мала вам будзіць.*

**Дашкумардзіць** *зак. экспр.* Дарваць канчаткова. *Яны ж ні злазюць зь етыга ряшэчыньня, душкума́рдзюць штанёнкі — і пойдзіш купляць новыя, раз унімаць ня хочыш.* **Дашкумардзіцца** *зак.* 1. Дарвацца канчаткова. *За лета ўсё на іх душкума́рдзілыся, паедзім у скрысеньня ў горыд, нада касьцюмчыкі к школі ўзяць і пы парі рубашычык новых купіць.* 2. Абарвацца, абнасіцца. *Душкума́рдзіўся ты, хлопіц, большы некуды.* **Дашкумарджаный** *дзеепрым. Куды ж такоя надзеніш, пінжачок душкума́рджын, што і на бульбу ні пытпрянеш, толька тряпышніку аддаць.*

**Дашкуматаць** *зак.* Пашкуматаць да канца. *Новыга ґ бярьвеньню ні надзеніш, старьё й душкумута́іш — ні жалка, а як новыя зы нядзелю ў тряпку сатреш — ета ня дзела.* **Дашкуматацца** *зак.* Пашкуматацца да канца.

*Куртка ўжо душкумутáлыся, нілізя ныдзівацъ, дык я Іваныў пінжачок ныпряну, пытпіряжуся рімушком і тапчуся дзень лі скыта.* **Дашкуматаный** *дзеепрым. Што ты ірьмяк пымінаіш, ці помніш, калі яго шылі, ён душкумутáный большы некуды, надзень мальцыва пальто старыя і сходзіш.*

**Дашломаць, дашломкаць** *зак. метаф.* 1. Дайсці паволі. *Мне труды куды-небудзь дашломыць, ногі йціць ня хочуць. Пайду зáрыня, можа як дашломкыю.* 2. Дахадзіць (у абутку). *Цяперя мне купляць на ногі нічога ні нада, ды вясны я дашломыю ў етых атопкых пы хаці, а тады, можа, Тыцяна пыдвязець што. У чым дашломкыў лі двыра і ладна.* 3. Знасіць (пра абутак). *Адны дашломыю, другея куплю. Сяньня абізацільна паеду глядзець што-небудзь на ногі, усё ўжо дашломкыла.* **Дашломацца, дашломкацца** *зак.* Абнасіцца канчаткова. *Ты ўжо дашломылыся, што нечыга путнога на ногі уссунуць, скажы, каб купілі тáпкі. Дашломкыіціся, што ногі пыпрастýджыіця і пызыбалеіця.* **Дашломаный, дашломканый** *дзеепрым.* Зношаны. *Як жа ты зьбіраісься ў дашломыных пыўбаціныччкых грязьзю бежч. Усё дашломкыныя я сыбрала, сыбрала ды ў старый погріб.*

**Дашлопаць, дашлопкаць** *зак. метаф.* Дайсці з цяжкасцю. *Ці дашлопыіш ты ў сваім вобуву? Пайду, як-небудзь дашлопкыю к вечыру, раншы мне і ні нада.* **Дашлопацца, дашлопкацца** *зак.* Канчаткова стаміцца тупаючы. *Дашлопыўся ён саўсім, у яго сілы як у кымыра, ніхай хуць высьпіцца. Дашлопкыіцца, тады ўжо садзіцца пут кустамі і аддыхаіць.*

**Дашлындаць, дашлындацца** *зак.* Дасягнуць пэўнай мяжы пры швэнданні. *Дашлы́ндыюць, што біс палкі ў зіму астануцца, ета ж два такія хлапцы ня могуць дроў нывазіць. Дашлы́ндыўся, не ш чым у горыд схадзіць, глядзіць, каб стáрыя дыла пяцёрку, а ў тае ў сымае трясцы дужа ёсьць.*

**Дашлэмкаць** *зак. метаф.* Датэпаць. *Дашлэмкыю я ў етых старёнкых, скора пыцяплеіць, нада што-небудзь новыя думыць.* **Дашлэмкацца** *зак.* Нахадзіцца да пэўнай мяжы. *Кажыцца, дужа нічога і ня дзелыю, а як дашлэмкыюся к вечыру, толька каб скарей на печ ускаціцца.*

**Дашлэпкаць, дашлэпкацца** *зак.* 1. Дайсці з цяжкасцю. *Схадзіла б ты адна, пакуля я дашлэпкыю да тых Сьлёзык, і ці дашлэпкыю ішчэ. Пашоў, ці дашлэпкыіцца ён, ці не, дарогі саўсім німа, чуць-чуць прімарозіла.* 2. Наха-

дзіцца да поўнай стомы. *Дашлэпкыў, што ні магу пувурушыцца. Дашлэпкылыся я сяньня, худзь ба скарей ны ліжанку узьлезьць.*

**Дашмуляваць, дашмараваць** *зак.* Зашмальцаваць ушчэнт. *Ты ўжо душмулюва́ла лі загнету, лі посыду кохту, што ні дамыісься. Як яны душмурува́лі свае куртычкі, каб ты толька зірнуў, на што яны пахожы.* **Дашмуляваца, дашмараваца** *зак.* Зашмальцаваца ўшчэнт. *На ём і так усё грязныя, а ўжо як пылазіць лі кузьні, як душмулю́іцца, дык хуць зразу бярі і выкідай усё. Ета ж нада так душмурува́цца: ці етыя штанёнкі на ём чорныя, ці карішнівінькія — ні рызьбяреш.* **Дашмуляваный, дашмараваный** *дзеепрым. Пыдзівіся сам, ды чаго тваe рукаўкі душмулюва́ны. Душмурува́ны полы, бліщчаць як адзь дзёхцю.*

**Дашмыгаць, дашмыгацца** *зак.* 1. Атрымаць непрыемнасці ад шнырання. *Вот падумый ты сам, што бабі нада лі чужых двароў, дашмы́гыіць калі-небудзь, што прыздраўлю, луччы некуды як прыздраўлю. Дашмы́гыўся лі чужых вакон, Праскоўя ныстраміла яго сяньня сколька ўлезіць.* 2 *перан.* Растраціць да канца. *Зы кароўку ён даўно грошыкі дашмы́гыў, і пунчыну прыдасьць — тоя самыя будзіць. Ня верь ты ім, дашмы́гыліся — капейкі зу душою німа, можа піріхвацілі ў каго дзісятку.*

**Дашмыкаць, дашмыкацца** *зак. метаф.* Растраціць да канца па дробязі. *У іх дужа ні було, а што й було, дашмы́кылі, нада ім було спруўляць абеды, сызываць народ,— нічагенічка ні асталыся. Хто ўмеіць жыць, пыдбірігаіць троху, а дашмы́кыцца нядоўга, туды, туды расторкыюць і самім нічагенька німа.*

**Дашныхарыць, дашныпарыць, дашныраць, дашныхарыцца, дашныпарыцца, дашныраццa** *зак.* Атрымаць непрыемнасці за актыўнае шныранне. *Я ім дашны́хырю, ніхай толька пупаду тут другей раз. Ты дахны́пыріш сы сваёю ўхваткыю, чаго табе лезьць, чаго выглідаць, ці тама ты клаў што-небудзь ай бацька твой лажыў? Дышныря́іш пу чужых двырах, што табе ў якой дзірькі нос прішчэмюць. Ніхай Высілёнык зыхваціць вас ну гумне, дашны́хыріціся,— нашто вам пыднімаць пыдваротніцу, лезьць туды, што вы там забылі. Дужа быў любапыцін, дык во дашны́пыріўся: пулучыў мокрыя тряпкі з-зу вугла і ладна, ніхай ня суніць нос, куды ня просюць. Дышныря́ўся, пулучыў ат Хрісьцінкі ныхлабучку. Дашны́рііцца ён, палучыць сваё як нада.*

**Дашпуляць, дашпуляцца** *зак.* Атрымаць непрыемнасці ад шпурляння. *Ладна душпуля́лі: трі дзірькі ў шыхвірі зьдзелылі, як цяперя ету крышу пыправіш, дождж пойдзіць і пальлецца ручаём па ўсёй хаці. Якея ж балыўныя мульчуганы, душпуля́юцца, што вока выб'юць каторыму, гарюй тады бацька з маткыю.*

**Даштыраць, даштырыць, даштырацца, даштырыцца** *зак.* Атрымаць непрыемны вынік пры падколванні. *Зьмітрок і цірьпялівый, і дужа выносьлівый, ну дыштыря́юць, што і ў яго кончыцца цярьпеньня, зь імі жыць хуць хто ці выдзіржыць. Ён цябе калі нылаіць, нылаіць і пойдзіць, во як ты дашты́ріш, тады й штыряньня тваё айдзе дзеніцца. Аўдоткіна думыла, як мама будзіць уроднічыць, ды ні ны таго пупала — дыштыря́лыся, што кінуў і пашоў, у горыдзі ў нейкія ўдавы жывець. Ты дашты́рісься, думыіш, Анюта цябе доўга цярьпець станіць,— жыва атвучыць кымандывыць.*

**Дашураць** *зак.* Займець клопат у выніку бурнага ганяння. *Душуря́іш авец, што яны блізка ґ двару ня пойдуць, нашто табе гыняць іх па пуні.*

**Дашурхаць, дашурхацца** *зак.* Займець непрыемнасць у адказ на злоснае пакрыкванне. *Я шу́рхыньня дужа ні баюся, раз шурхніць, другей, а тады так дашу́рхыіць, што забудзіць і на шурхыньня, і на пу́рхыньня. Ты свайму увыжаіш, маўчыш, ён і бушуіць, а ў Пылагеі дашу́рхыўся: пыцярьпела троху, а тады ўсё яму ў рукі: я дрэнна дзелыю, дык на, дзелый сам хырашо.*

**Дашчасціць** *зак.* Дайсці да заканчэння (пра шанцаванне). *Во дакуля яму дышчасьціла, і праўда, усігда ўдывалыся, а тута ні пывязло.*

**Дворышча** *н.* Месца, дзе стаяў двор. *Усе дворішчы пырыспыха́лі, ні знаўшы, дык і ні апрідзяліш, хто айдзе жыў.*

**Джмыханне** *н.* 1. Чмыханне. *Глядзі, дам джмы́хыньня, такоя харошыя сена, а ты поріш носым.* 2 *метаф.* Імклівая скрытная беганіна. *Ніяк ня ўніміцца сы сваім джмы́хыньнім, усё ўремя носіцца.*

**Джмыхаць** *незак.* 1. Чмыхаць. *Усігда піла поіла, а сяньня джмы́хыіць нешта, чаго-то ні ныравіцца.* 2 *метаф.* Бегаць імкліва, скрытна. *Мы рана прішлі ў лес, а Прося ўжо джмы́хыіць пу кустах, во праворныя.*

**Джмыхлівый** *прым. іран.* Непаседлівы. *Ты тыкая самыя джмыхлі́выя, як твыя цётка была, усё на месьці ні пысядзіш.*

**Дзвінуць** *перан.* 1 *незак.* Ісці натоўпам, грамадой. *Дзьвінулі із-за ўзгорка цэлыю кучыю, я ўжо думыю, што тама случылыся.* 2 *зак.* Пайсці натоўпам, грамадой. *Ну што, дзьвінім? Усе дзьвінулі туды кучыю біз астаноўкі, а Пёклін сын забег к цёткі, цяперя пабег дыгыняць.*

**Дзенчанне** *н.* Удзячнасць. *Паслухый і Сямёныва дзенчыньня, ён дужа даволін астаўся пацьцёлкым.*

**Дзенчыць** *незак. гумар., іран.* Дзякаваць. *А як жа, цяперя іна доўга будзіць Кандыбывым дзенчыць. Відзіш, як іна за ўсю іх ласку дзенчыць Пракопывым мальцым.*

**Дзеўбачына** 1 *ж.* Завостраны прадмет. *Ты астыражней тут хадзі, узаб'есься ны якую-небудзь дзіўбачыну, тады будзіць.* 2 *м.* і *ж. перан.* Тупіца, дурань. *Як уродзіцца дзіўбачына, ты яму хуць кол ны гылаве цяшы, нічога ў мазкі ні ўкладзеш.*

**Дзёрка** *ж.* Тарка. *Ці ні ма́лый куды-то зыцягнуў дзёрку, ён ета ўмеіць. Памянш.* **дзёрачка**. *Нада купіць новыю дзёрычку, ета ні к чорту годна.*

**Дзёўбала** *м.* і *ж. абразл.* Дурань. *Хочыш ты зь дзёўбылыю толку найціць. Ні пысылай дзёўбылу, луччы сам схадзі ды рыспрасі.*

**Дзёўбць** *незак.* 1. Кляваць. *Учора пятух нічога ня еў, а сяньня стаў дзёўбць крупы, яго ці ні ўдарій хто.* 2. Стукаць вострым. *Пыглядзі стыріка ны дваре, ён тама лёд дзёўб: коўзка дужа хадзіць.* 3 *перан.* Сячы (без ахвоты або тупой сякерай). *Ні знаю, куды ён пашоў, нідаўна бірнушко дзёўб лі пуні.*

**Дзіркаціць** *незак.* Прадзіраўліваць. *Чырьвякі такея зялёныя дзірька́цюць капусту.* **Дзіркаціцца** *незак.* Прадзіраўлівацца. *Нешта дужа скора ета твыя рубашка стала дзірька́ціцца.*

**Дзыганне** *н. неадабр.* Бязмэтная беганіна. *Упяклося мне глядзець ны яе дзы́гыньня,— штоб здаровый бабі стаць такім гультаём!*

**Дзыгаць** *незак. неадабр.* Бязмэтна бегаць. *Што ёй дзелыць? — печ пракуріць і пышла дзы́гыць на цэлый дзень.*

**Дзюбачка** *ж. абразл.* Жанчына з доўгім носам. *Скажы сваёй дзюба́чкі, ніхай уніміцца і ня прець лухты ны хлапцоў, кылі ня хочыць, каб сымаю прыздравілі.*

**Дзюбка** *ж.* 1. Дзюба. *Ні цігай ціплят у руках, у іх і ногі грязныя, і дзю́бкі грязныя. Тарчыць сук як дзюбка.* 2 *перан. іран.* Нос. *У цябе дзюбка дужа любапытныя. Вымызыў дзюбку ў сьмітану і ходзіць. Памянш.* **дзюбач-**

**ка.** 1. Дзюбачка. *Пысьсікай етыя дзю́бычкі, каб ні чыпляцца.* 2. Носік. *А чаго зь дзю́бычкыю торкыцца, у іх сваё дзялы і ніхай самі рызьбіраюцца.*

**Дзяржава** *ж.* Апора, тое, што трымае на сабе. *Зьмітраковы — уся твыя дзіржа́ва, каб ні яны, штоб ты адна дзелыла. Яе дзіржа́ва — Полька, усігда ёй пымыгаіць.*

**Дзяржаннік** *м.* Той, хто трымае. *Прідзержы сыма мінутычку, ато етый дзіржа́ньнік упусьціць, і жыта пасыпіцца ў мякіну.* **Дзяржанніца** *ж.* *Я віджу, ікая сь цябе дзіржа́ньніца, толька і глядзіш, каб на вуліцу кытануць.*

**Дзяржаць, дзяржацца** *незак.* Трымацца, быць у пэўным стане (пра надвор'е). *Летыся доўга зіма дзіржа́ла, к канцу марта стала цёпла. Пакуля дзяржы́ць, нада хвытаць сена, ато як пальлець, можыць пагнісьць усё. А во трецьцію нядзелю марозы дзіржа́цца і дзіржацца, ня меніюць.*

**Драбіна** *ж. перан.* Малая колькасць. *Драбіна солі асталыся ўсяго. Драбіну сена пыт паху ўзяў, кылі браць, дык браў ба ўжо ношку. Памянш.* **драбінка, драбіначка.** *Блюду драбінку пры затыўку, ды кыляд дыцягну, а там заб'ём. Драбінычку цубулі нада було б укінуць, смашней ба було.*

**Драбініна** *ж.* Адно каліва шроту. *Стріляў у курей, адна драбініна пупала ў пітуха і ён зваліўся на месьці. Памянш.* **драбінінка.** *Драбінінкымі пасекла ўсю куртку.*

**Драбініна** *ж.* Бакавая закладка ў возе ў выглядзе вялікай драбіны (для перавозкі сена, саломы, снапоў). *Пы дрябініні праехыў кыткамі, пулумаў усе ля́сычкі, штукі дзьве цэлыя асталіся. Старік дрябініны зьбіваіць пыт паветкыю. Памянш.* **драбінінка.** *Адна дрябінінка ў сяніцы, а другая ні знаю айдзе.*

**Драбяддзё** *н. зб.* Драбяза. *Што дрібядзьдзё сеч, каб ты худзь ба з воз кумлючкоў прівёз зь лесу.*

**Дражненне** *н.* Цвяленне. *Ні пыляджу, што ты бальшун, дам зы дражненьня, ета прідумыць дзяцей дражніць узяўся.*

**Дранка** *ж.* Бабка з цёртай бульбы. *Учырашнію дра́нку нада парезыць ды ны скыўраду с салым, пыджжаріцца, дык дужа смашна.*

**Драць** *незак. перан.* Скубсці старанна, з ахвотай. *Каровы дзя́цільнік дужа любюць, з расою як возьмуцца драць, толька сапуць.* **Драцца** *незак. метаф. неадабр.* Гучна крычаць. *Нешта пачула пры Гаўріка, на ўсю вуліцу дралыся: майму Гаўріку ніхто ў падмёткі ні гадзіцца!*

Другасць: **па другасці.** У другі раз. *Неік па дру́гысьці я зайшоў к Міцю, ён мне тады ўсё ета дзела рыскызаў.*

**Дручча** *н. зб.* Друкі. *А многа ішчэ дрю́чча ў цябе ны дрыватоньні, прібяpі хуць, упыряччы ета.*

**Дрында** *м.* і *ж. неадабр.* Асоба, якая бязмэтна блукае, швэндаецца. *Узноў вылакецца тэй дры́нда, ні найдзіць нійдзе рук зычапіць. Па ком ты тыкая дры́нда ўдылася? Узмацн.* **дрындуля.** *Во ходзіць дрынду́ля, паліц баіцца зымырацъ. Павеліч.* **дрындулішча.** *Чаго ты чыпаіш ету дрынду́лішчу, нашто іна табе?*

**Дрынданне** *н.* Бязмэтнае блуканне, швэнданне. *Ніхто ўжо яго ні атвучыць ат такога дры́ндыньня.*

**Дрындаць** *незак.* Блукаць, швэндацца. *Работыць ня хочыць, дры́ндыіць як сьвет пыціряўшы.* **Дрындацца** *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* дрындаць. *Ну як табе дры́ндыіцца посьлі Мыланкіныя узбучкі?*

**Дрынкала** *м.* і *ж. неадабр.* Асоба, якая бязмэтна блукае. *Во яшчэ дры́нкыла цігаіцца, ніяк сабе зыняція ні найдзіць.*

**Дудоленне** *н.* Прагнае ссанне. *Такей бальшун, а ўсё с соскыю ходзіць, я б яго жыва атаўчыла ат такога дудоліньня.*

**Дурлап'ян** *м.* Травяністая расліна, балігалоў. *Дурлуп'я́ну як нанюхыісься, гылыва баліць. Ці ты дурлуп'я́ну, чылавек, аб'еўся, што вярзеш трілюду?*

**Дурона** *прысл.* Бяздумна, здзіўляюча незвычайна. *Нада сьпірва мызкамі пышывяліць, а ня дзелыць так дурёна.*

**Дуроный** *прым.* Празмерны, здзіўляюча незвычайны. *Летыся была дурёныя трыва пу лугах, ёй нешта дужа пыпріяла.*

**Дырканне** *н.* Трэск, дробны перастук. *Якоя там дырканьня, верна, дзеці балыюцца кылы прясла.*

**Дыркаць** *незак.* Трашчаць, дрынкаць. *Пірістань дыркыць, у вушах тряшчыць ат твайго ба́лыўства.*

**Дыхля** *м.* і *ж.* Недалужная асоба. *Калі ды́хля ўродзіцца, нічым такому ні паможыш. Твыя ды́хля ціряшчур прыспаліта стала.*

# Е

**Есцькі, естачкі** *незак.* Есці (у размове з дзецьмі). *Січас дадзім есьцькі харошынькыму, ні нада крівіцца. Ма́ліцькыя естычкі зыхацела, кашка січас пыдагреіцца.*

**Еткій** *займ.* Гэтакі. *Еткій дзень састоіць ну буішчы нада крепкыя здароўя. Я сабе еткыю самыю рубашку купіў. У яго ўжо во еткія каноплі, ён рана пасеіў.* Памянш. **еткінькій, еткінічкій.** *Ат еткінькыга ат аднаго горя цяпніш. Іна во еткінькіх бырывічкоў нукулупала. Во еткінічкыя скабычка, а так балела.*

**Етый** *займ.* Гэты. *На етый раз я табе прышчаю, а большы ні прашчу. Ета дзяўчонка цябе кругом апшчыґіляіць. Ета вакно я ні пасьпела памыць. Нашто мне етыя вілкі, мае луччыя.* Памянш. **етачкій, етанькій.** *Іна к нам яго во етычкыга прівазіла. Я ішчэ саўсім етычкыя была, а тую зіму хырашо помню. Во етынькія мошкі, ну спакою ат іх німа.*

## Ж

**Жаднюшчый** *прым.* Празмерна сквапны. *Буваюць жа скна́ры, ну такога жаднюшчыга я ішчэ ня відзіла, у сьвеці, знаць, ні було.*

**Жалелка** *ж.* Спагадлівая жанчына. *Ікая ня будзь жалелка, усіх ні ныжалеісься.*

**Жаленне** *н.* Скарджанне. *Бягіць сы сваім жа́ліньнім: а ён у мяне такей, а ён у мяне сякей,— ідзі ты к чорту, ці ты яго раншы ні знала.*

**Жаленнік** *м.* Той, хто скардзіцца. *Пабеглі жа́ліньнікі к маткі, абідзілі іх, ні пусьцілі гарод выцірраць.* **Жаленніца** *ж. Я дужа ні люблю жа́ліньніц еткіх, сьпірва самі лезуць асою, а тады бігаць жаліцца.*

**Жалязячча** *н. зб.* Металічныя дэталі, лом. *У яго ны дваре быльшая куча жылізя́чча, можна выбрыць пытхыдзяшчыя. Нада пірідаць, каб пріехылі ды зыбралі жылізя́чча, хуць двор пысвыбаднеіць, ато пывярнуцца нейдзі.*

**Жалязячына** *ж.* Металічная прылада, кавалак металу. *Прікладзі хворыст жылізя́чыныю якою: пыднімаіцца буря, пырызьнясець айдзе хочыш.*

**Жаніханне** *н. іран.* Заляцанне. *Я б яму дыла жыніха́ньня, кывалеру еткыму, ніхай вун за кніжкі бярецца, скора іспы́ты здываць.*

**Жаранка** *ж.* Смажаніна. *Пыставіла нам скыўраду жа́рінкі, ежця, хуць пузы рысьпіряжыця, смашна прігатоўліна.*

**Жаранне** *н.* 1. Смажанне. *Во ў мяне раз було жа́ріньня: іна зыбалела, ляжыць, нада везьць у горыд, я скарей*

*сала ны скыўраду, нарезыў, а мароз, мароз, скыўраду к агню, дровы — смылякі, жарка гарелі, агонь ны скыўраду, пыгарела сала, я выхвыціў, паспробывыў есьць, а ў сірядзіні мёрзлыя.* 2. Смажаніна. *Усё жӑріньня ны сталe, садзіціся і ежця, нечыга дыжыдаць.*

**Жараннік** *м.* Той, хто смажыць. *Відзіш, якей сь цябе жӑріньнік, пыпаліў сала, хуць сыбакым выкідай.* **Жаранніца** *ж. Што ты, жӑріньніца, стаіш, ці відзіш, блін дыміцца ўжо, зы былбатнёю некылі ў печ глянуць.*

**Жарастый** *прым.* Добра засмажаны. *Бліны з маслым пыставіла, такея жӑрістыя, смашныя-смашныя.*

**Жаркінька** *прысл.* Горача, з полымем. *Дровы сухенічкія, жӑркінька гыряць, асобінна ны хвырастку.*

**Жаркінькій** *прым.* Гарачы, такі, які дае шмат цяпла. *Печ жӑркінькыя, так жа хырашо пыліжаць. Ета табе ні асіна, яловыя дровы жӑркінькія.*

**Жарыць** *незак. перан.* 1. Шпарка ісці, бегчы. *А мы думылі, чаго йта яны жӑрюць у Лібісы.* 2. Моцна біць. *Як узяўся яго жаріць, столька нулупіў, што большы некуды.* **Жарануць** *зак.* 1. Шпарка пайсці, пабегчы. *Учыцьвярых жырянӯлі некуды ў тэй бок, пыд Мазылыва.* 2. Моцна ўдарыць. *Ён дужа цырімоніцца с табою ні станіць, жырянець і зьнясеш, во што будзіць.*

**Жаўтавіць** *незак.* Быць ледзь прыкметна жоўтым, рабіць уражанне жоўтага. *Во прігледзься, етый бок большы жуўтӑвіць, так яно дайжа крысівей.*

**Жаўтароцік** *м.* і *ж.* Падростак. *Ні пускай етыга жуўтароціка, вічарінышнік найшоўся. Якея ў іх хлопцы, адны жуўтароцікі.*

**Жаўцяк, жаўтляк** *м.* Жоўты агурок. *Жыўцякі нада сыбраць у карзінку ды аддаць ёй, ніхай сьвіньням пыпаріць. Жыўтляк выляіцца.*

**Жвяньканнік** *м. метаф. неадабр.* Пляткар, пустамеля. *Такей самый жвянькыньнік, як мама была, той, бувала, усё што-нібудзь ні ныравіцца.* **Жвяньканніца** *ж. Харошыя жвянькыньніцы абея, зы каторыю ні хвацісь, што ні пупадуць ны язык, няскора спусьцюць.*

**Жманне** *н.* Цісканіна. *Я б іх атучыў адж жмӑньня, я б іх выхывыў. Такоя було жмӑньня, дыхнуць нечым, столька людзей набурхылыся.*

**Жратый** *дзеепрым. груб.* Часткова з'едзены, не даедзены. *Во айдзе яны, пыд яблыныю гусьцювӑліся, сьцюдзінь жрӑтый кінулі ў міскі, агрызкі хлеба выляюцца.*

**Жудра, жудрак** *м. жарт. адзінк.* Сябра. *Як ты, жӯдра*

*мой, там устроїйся ў горыдзі, ці луччы табе, чым у дзярэўні. Зыхадзіў учора твой жудряк, сколька ета зь ім ня відзіліся, ці ні ац скрысеньня. Узмацн.* **жудрачына.** *Ой, глядзі, жудрячына, пупадзесься к ім у лапы, яны цябе ня выпусьцюць так, наезьдзюцца. Павеліч.* **жудрачышча.** *Вун куды жудрячышча ваш выпрывіўся, нешта яго цягніць туды ціряшчур.* **Жудрачыха** *ж. Пысядзі ўжо троху, пысядзі, січас твыя жудрячыха падойдзіць і разым пыбігіцё.*

**Жупан** *м.* Пінжак. *Памянш.* **жупанок, жупанік, жупанчык.** *Я свайму пашыла ў крыўца жупанок, нічога пулучыўся, і восінь цігаў, і ны вясну яшчэ будзіць. Хто йта вам такея жупанікі справіў, ох, харошыя. Ты ні кідай жупанчык айдзе зря, прішоў, разьдзенься, павесь акуратнінька ну крючок.*

**Жучанок** *м.* Жучаня, маленькі жук. *Во там бяды, нейкій жучанок поўзыіць, ськінь ны зямлю і ўсё па ўсём. Памянш.* **жучаночак.** *Жучаночыкі ў шчэлкі пыўбіваліся, ат холыду хуваюцца.*

**Жыдчэйшый** *прым.* 1. Больш рэдкі. *Сяньня твыя крупеня жыччэйшыя, чым учора.* 2 *перан.* Слабейшы. *Бацька іхный як зьверь быў мушчына, пы дзьвінаццыць пудоў насіў ны плічах, а сыны жыччэйшыя, пы маткіный пріродзі пайшлі.* 3. Больш тонкі, гнуткі. *У мяне ёсьць і жыччэйшый пруцік, усё роўна ён пы табе паходзіць, як пупадзесься ў рукі.*

**Жытуха** *ж. жарг.* Несамавітае жыццё. *Мыя жытуха абычайныя: скарінку грызнуў ды на печ. Як твыя жытуха, старэй, кызалі, кылы мыладых дзевык пыхаджыіш.*

**Жэгва** *м.* і *ж.* Распуснік, балаўнік. *Жэгва, ну хто жэгва, балыўнік, во хто ён. Быў у нас мальчонка, тута яго дражнілі: гіч, гіч, сібірскыя жэгва.*

# З

**Зааблажываць, зааблажывацца** *незак.* Дзірванець. *Пірід гумном раншы пыхалі, а цяперя пірісталі, зыаблажывыіць. Ладный кусок поля ат кустоў зыаблажывыіцца.* **Заабложыць, заабложыцца** *зак.* Задзірванець. *Зы вайну многа чаго зыаблажыла, а пазьней пырыспахывылі. Заабложылыся нізінка, раншы жыта на ёй нядренна расло.* **Зааблажаный** *дзеепрым. Зыаблажыный кусок пычаў лесым зырыстаць.*

**Забалдзіць** *зак. неадабр.* Пачаць гаварыць пустое. *У чарку нюхнець і зыбалдзіць пры сваё гіройства, як ён дужа храбра ўцікаў.*

**Забарахцець, забарахціць** *зак. неадабр.* Забурчаць, забалбатаць. *Ты паспрóбый-ка што-небудзь ні па ём зьдзелый, як зыбырахціць! Аднаго було мала, удваіх зыбырахцілі.*

**Забіваннік** *м.* 1. Той, хто ўбівае. *Трýдзіцца зыбівáньнік, тупоя кольля б'ець сколька змагі.* 2. Той, хто пагражае забіць. *Узяў ба етыга зыбівáньніка зы хахольля, трі-хануў ба, каб зь яго шмáцьця пасыпылыся, ён ба зразу пріціх.* **Забіванніца** *ж.* 1. Тая, што ўбівае. *Сілы ў зыбівáньніцы мала еткій кол увыгнаць.* 2. Тая, што пагражае забіць. *Ты бірягіся: ета зыбівáньніца цябе адным махым ухайдошыць.*

**Забіджываць** *незак.* Моцна крыўдзіць. *Ніхто цябе ня думыў забіджывыць, ты сам усё ета прідумывыіш ніізьвесна нашто.*

**Заблажэнстваваць, заблажэнстваваца** *зак.* Пачаць жыць прывольна, бесклапотна. *Ты думыіш, калі яны паедуць, Іван зыблажэнствыіць. Каця с прошлыга года зыблажэнствывылыся, ёй цяперь і пыміраць ні нада.*

**Забрыляцца** *зак.* Забаранавацца абы-як. *Праедзь-ка ты і мне борынымі хуць пару разоў туды-нызад, ніхай ба нямножка зыбрылялыся.*

**Забучываць** *незак.* Засыпаць, закідваць зямлёй, камянямі. *Пычалі забýчывыць і ня кончылі.* **Забучывацца** *незак.* Засыпацца, закідвацца зямлёй, камянямі. *Відна, доўга, так работыўшы, будзіць забучывыцца.* **Забуціць** *зак.* Засыпаць, закідаць зямлёй, камянямі. *Кынаву ны балоці зубуцілі, дык езьдзім пряма, ато нада було чорт знаіць куды аб'іжджаць.* **Забуціцца** *зак.* Засыпацца, закідацца зямлёй, камянямі. *Прідзіць урemя і тут забýцііц-ца.* **Забучаный** *дзеепрым.* *Пы забýчыныму піряехылі с трудом.*

**Забягайлаўка** *ж. жарг. неадабр.* Хата, куды заходзяць без патрэбы. *Айдзе ж іх іскаць, у той зыбігáйлыўцы глядзі. Тама ні хата, а зыбігáйлыўка, хто аткуль ня йдзець, усе туды.*

**Забялянка** *ж.* Страва, забеленая малаком. *Нада, знаць, зыбілянкі зваріць, с ахоткі зьелі б. Памянш.* **забяляначка.** *Нясі-ка сваю зыбілянычку, пыглядзім, якей сь цябе повыр пулучыўся.*

**Заваднэй** *прым. перан.* Такі, які хутка ўзбуджаецца.

*Дужа зываднэй быў чылавек, чуць адно слова ні пы яго, січас узгаріцца.*

**Завальніць** *зак.* Забараніць. *А хто яму зывальніць паехыць? — ён вольныя птушка, куды зыхацеў, туды й пыляцеў.*

**Завідлівасць** *ж.* Зайздрасць. *У цябе завідлівысьці дужа многа. Як ён с такою завідлівысьцю жыць будзіць.*

**Завідываннік** *м.* Зайздроснік. *Што я зьдзелыю, кылі ён такей завідывыньнік урадзіўся.* **Завідываніца** *ж. А ты ўсігда была завідывыньніца, як мама.*

**Загнецце** *н.* Загнет. *Усё загнецьця зыляпына нейкім цестым. Пыдмітай абрезкі пыдз загнецьця, укінуцца ў печ. Памянш.* **загнеццікa.** *Прібраць нада загнецьціка, к яму ні пыдыйціць і ў печ ні пыставіць нічога.*

**Заграбляць** *незак.* Губіць. *Нейкыя нічылавечыскыя натура была ў Хадоські, іна пряма зыгрыбляла сваіх нявестык.*

**Задавастый** *прым.* Такі, які любіць выхваляцца. *Каб ня быў такей зыдывастый, і Танька аць цябе ні атвырачывылысь ба.*

**Задрынчэць** *зак.* 1. Рэзка забразгаць. *Хто там у сенцых лазіць, вёдры зыдрынчэлі ці што?* 2 *метаф. груб.* Пайсці, пабегчы без аглядкі. *Кылі хвачу кол, кылі путурю, ты ў мяне зыдрынчыш біз аглядкі, будуць табе і зяці, і свадзьба, і ксьціны разым палучыш.*

**Зады** *мн.* Самая далёкая частка палёў. *У зады гной вазіць далёка, тама ўсігда ўрыжаі нібальшэя.*

**Зажаць** *зак. перан. жарг.* Прысвоіць, утаіць, праявіць скваапнасць. *Ён мой ножычык найшоў і зыжаў. Глядзі, пупадзець ім у рукі, такім зыжаць нядоўга.* **Зажацца** *зак.* Прыбядніцца, праявіць скваапнасць. *Ці ў іх німа за што харошыю апстаноўку купіць, зыжаліся, іна дрыжыць ныт кажныю капейкыю.*

**Зажмаць** *зак.* 1. Заціснуць. *Тут во нада б кряпчэй зыжмаць, упоріны шытаюцца. Як зажмець пальцы, тады пыпішчыш.* 2 *перан. жарг.* Прысвоіць, утаіць. *Ён скуп, як бацька, зажмець, ат яго ты нічога ні палучыш.* **Зажмацца** *зак.* 1. Заціснуцца. *Я ж табе зразу гыварію, што зажмецца і нікуды ні паверніцца.* 2. Прыбядніцца, праявіць скваапнасць. *Столька ўсяго ныкрятына, а зыжмаўся, ні пазычыў дзісяткі.* **Зажматый** *дзеепрым.* Заціснуты. *Ого, тута зыжмата дужа крепка, пыдвырачывыць нада вагою.*

**Зазліць** *зак.* Раззлаваць, выклікаць злосць. *Ныпрасна*

*ты зазьліў Сірьгяёнка, усё ўремя будзіць прістывацъ, чыпляцца, у яго хракцір дужа паскудный.* **Зазлёный** *дзеепрым. Ну есьлі зазьлёный, дык што ён мне зьдзелыіць.*

**Зазыванні́к** *м.* Той, хто запрашае. *Хырашо зызыва́ньнік пяець, пыглядзім, як ён карміць станіць. Памяниш.* **зазыванні́чак.** *Ладный зызыва́ньнічык, нечыга скызаць.* **Зазыванні́ца** *ж. Зызыва́ньніца сь цябе дужа харошыя, ці многа толька ты бліноў ныпікла.*

**Закалачыванне** *н.* 1. Забіванне наглуха, надоўга (дошкамі). *Ну вас із вашым зыкыла́чывыньнім, толька грю́кыту надзелылі, што ў вушах стукыіць.* 2. Развядзенне (цеста). *Ніхай твыя бочка пыдажджэць, а чаго йта маё зыкыла́чывыньня будзіць ждаць, як ныпяку бліноў, і сымаго ні сарьвець.*

**Закалдыбаць** *зак.* 1. Пачаць кульгаць. *Посьлі пустуха карова зыкалды́была, ці прабіла нагу, ці ўдаріў хто.* 2. Пайсці кульгаючы. *Некуды твыя ста́рыя зыкылдыба́ла, ці ні пышла Ісачонка атведывыць.* **Закалдыбацца** *зак.* Стаміцца кульгаючы. *Зыкалды́быюся я, пакуля ды таго Жыріціна дыплятуся.*

**Закалупываць** *незак. перан.* 1. Закранаць за жывое. *Домна ўмела яго зыкалу́пывыць, што-небудзь нымякнець, ён пырьх — чаго ты лезіш ні ў сваё дзела.* 2. Набываць не зусім сумленна. *І пеньсію пулучаіць, і яшчэ тамсям зыкалу́пывыіць.* **Закалупаць** *зак. метаф.* 1. Закапаць, пахаваць. *Зукулупа́лі і ніхай ляжыць з богым, ён сваё аджжыў.* 2. Зарабіць не зусім сумленна. *Мала што ён прібідняіцца, ён ладна грошы зукулупа́ў, а траціць — айдзе ён іх траціў.* **Закалупацца** *зак.* Запоркацца. *Ныхвыта́лі лёну, ой, ніхай большы, зы яго хырашо плоцюць, а тады зукулупа́ліся зь ім.* **Закалупаный** *дзеепрым.* Набыты не зусім сумленна. *Жыць умеіць, у яго зукулупа́ных грошы пуўмішка.*

**Закалянець, закалянецца** *зак.* Зацвярдзець да ломкасці, застыць. *Бульбу гырячыю таўкі, зыкылянеіць, нічога зь ёю ня зьдзелыіш. Ніхай ты зыкылянеіш сы сваім быгаствым. Гліна зыкылянелыся, хуць сякі тыпаром, нада на́нывa ліць ваду і мішаць.* **Закалянелый** *дзеепрым. Вун твыя бульба жыдкыя, зыкылянелыя стаіць на ўслоні, ці йна будзіць цябе дыжыдаць. Найшлі зыкылянелыга ў сьнягу, туды яму і дарога.*

**Закапыціць** *зак. жарт.* Пабегчы шпарка, імкліва. *Зыкапы́цілі ў тэй бок, у мячыка там гуляюць.*

**Закаютак** *м.* Куток, зацішная мясціна. *Быў нічога зыкаютык зы Мшарыю, скот усігда на́ дзінь ставілі. Памянш.* **закаютачак.** *Прістоілі ў зыкаютычку, доўга ні стыялі.*

**Заквактываць** *незак.* Пачынаць квактаць. *Чма́рінькыя зыква́ктывыіць, яе можна будзіць пысадзіць ны яйцы.*

**Заквохацца** *зак. перан.* Заенчыцца, змучыцца ад енкаў. *Адарка заквохылыся сы сваімі ныгамі, быляць, ня можыць ступіць, а дзелыць хуць пы хаці нада.*

**Закепнуць** *зак.* Заняпасці канчаткова. *І засьлеп, і закеп, ні жыціль ні радзіціль, толька што душа ў целі ішчэ тряпечыцца.*

**Закормленый** *дзеепрым.* 1. Вельмі сыты, тлусты. *Хто з мыладых гадоў закормліный, таму і ў старысьці нічога ні прістаець.* 2. Худы, высахлы ад дрэннага харчавання. *А чаго ж ён у цябе такей закормліный?*

**Закроіць** *зак. перан.* Заламаць (цану). *Знаіш, сколька ён закроіў зы свае гнілушычкі?*

**Закрымзазоліць, закрымзазуліць, закрымзазольнічаць, закрымзазульнічаць** *зак.* Пачаць рабіць нязграбна. *Узноў зыкрімзазоліла с цубулію, а ну яе, с такою работыю. Як зыкрімза́зуліць, у тэй ба бок ні глядзеў, кажыцца. Пыдзікуйсь ны яе работу, січас узноў зыкрімзазольнічыіць. Нешта зыкрімза́зульнічыла, во ўжо работка, як у лесі рысла.* **Закрымзазоліцца, закрымзазуліцца, закрымзазольнічацца, закрымзазульнічацца** *зак.* Зашыцца пры нязграбнай рабоце. *Тута й работы столька, умелый ба чылавек скора зьдзелыў, а йна зыкрімзазолілыся. Ты ўжо і з бырыкамі зыкрімза́зулілыся, тута ны два часы работы пачысьціць іх, абрезыць. Ніхай іна хуць у хаці трошку паччысьціць, ато й тут зыкрімзазольнічылыся. Вы тута, знаць, саўсім зыкрімза́зульнічыліся.*

**Закурбокываць** *незак.* Сцягваць (ніткамі). *Ні зукурбокывый дужа, тут лапічык нада, так ні зыцягніш.*

**Закурыцца** *зак.* Закурэцца, закапціцца. *Комін патрошку прады́млівыіць, і зукурілыся столь, нада було б к прызьнікым біляниць.* **Закуромшы** *дзеепрысл.* 1. Закурыўшы. *Яны мінутку пыстыялі зукурёмшы і рызыйшліся.* 2. Закурэўшыся. *Ай, грубычка дыміла, уся хата зукурёмшы.*

**Залалакаць** *зак.* Загаварыць гучна, шпарка і незразумела. *Ну іх к чорту, каб я другей раз пашоў спрашывыць, як зылыла́кыла нешта, я дайжа ні пыняў, ідзі сам, кылі хочыш.*

**Залетаваць** *зак.* Застацца ў лета. *Як жа так дупускацца, каб сані залетывылі пыд аткрытым небым, нада ж у пуню прібраць, ны бalькі ўсьцягнуць можна.*

**Заліваннік** *м.* Той, хто залівае. *Ны катку нашы зыліва́ньнікі, лёд зь вёдзір пыліваюць, самі абліліся, мокрыя кругом.* **Заліванніца** *ж. Сь цябе зыліва́ньніца ніплыхая, пыблівалыся, хуць выкручывый цябе.*

**Залівень** *м.* Праліўны дождж. *Ці відзіш, якей зылівень ліў, зімля споіна большы некуды.*

**Заліпанне** *н.* Зліпанне. *Вот нейкыя зыліпа́ньня ў горлі, я ем, а яно ні глытаіцца, ці ґ доктыру схадзіць, ці што.*

**Замахываць** *незак.* Закідваць (з размаху). *Ай-я-яй, якей балыўнік, ножык зыма́хывыіць у гарод.* **Замахнуць** *зак.* Закінуць (з размаху). *Ны хату зымахну́ў тухлі, а цяперя ні найдзіць у сені.* **Замахнутый** *дзеепрым. Айдзе ж ты зымахну́тыя цацкі найдзіш.*

**Замілаваць** *зак.* Аберагчы. *Пыдажджы, яны цябе замілыюць, як пасьледнія крошкі дыядуць. Ніхай яго бог замі́лыіць і закрыіць ат такея жонкі.*

**Замукрыга** *м.* і *ж.* Недалужная асоба. *Зумукры́га нейкыя, а ні мужык. Айдзе ён пупаў такую зумукры́гу?*

**Замурзачываць** *незак.* Замазваць, вымазваць. *Ты ж еж акуратнінька, каб ні зумурза́чывыць рубашычкі.* **Замурзачывацца** *незак.* Замазвацца, вымазвацца. *Калі будзіш так зумурза́чывыцца, саўсім адбяру міску і пыбягіш ня еўшы.*

**Замутарыць, замутарыцца** *зак.* Зрабіцца непрыемна, дрэнна. *Аўдотычкіна зыйшла, і нешта яго заму́тыріла, зразу зывярцеўся як на шылі і к Шурку: пайдзём, пайдзём. Яму заму́тырілыся, чаго Асташонык сена прівёз.*

**Замяраннік** *м.* Той, хто мерае, замярае. *Сяньня нашы пахырі пыкызалі работу: прыкычаліся пат кусьцім, пакуля зыміра́ньнік прішоў.* **Замяранніца** *ж. Зьбілыся зыміра́ньніца, узноў пабегла ш шыга́лым нызад.*

**Замятанне** *н.* Падмятанне. *Разьві ета зыміта́ньня, што сьмяцьцё кучымі ляжыць кыла сьцен, зымяці як нада.*

**Занасіцца** *незак. метаф.* Празмерна ганарыцца. *Меншы зынасі́ся, ня думый, што ты самыя луччыя ў сьвеці.*

**Заныкаць** *зак.* Замільгаць, пачаць з'яўляцца і знікаць. *Вун яны, відзіш айдзе, голывы пу кустах заны́кылі.* **Заныкацца** *зак.* Стаміцца, часта згінаючыся. *Хужы німа хадзіць зы быраною пыдбіраць бульбу, асобінна калі нячыста выкыпына, заны́кыісься.*

**Запазніваццa** *незак.* Затрымліваццa, спазняццa. *Ты ж дужа ні зыпáзьнівыйся, мінутку пысядзі ды пріхадзі, ато ночы дужа цёмныя.*

**Запаліцца** *зак. метаф.* Моцна загарэць. *Чаму ні зыпáліцца, ён жа пасьці ўвесь дзень прыхадзіў голый, цяпер аблупіцца.* **Запалёмшы** *дзеепрысл.* 1. Запаліўшы. *Зыпалёмшы кінуў салому, а веціp на крышу.* 2. Моцна загарэўшы. *Увесь чыста зыпалёмшы, аж гаріць увесь.*

**Запасвіць, запасцівіць** *зак.* Дрэнна пасучы, давесці да схуднення. *Каўшоўцы і гываpілі: ні бяpіця вы яго ў пустухі, і праўда, зыпáсьвіў скот, ні аднаго дня ні ныкарміў як сьледыіць. Такей апока, як ён толька ногі пы зямле валочыць, скот зыпáсьцівіў, што каровы мылыка ня хочуць дываць.* **Запасвіцца, запасцівіцца** *зак.* Зацягнуць пасьбу ў позні час; стаміцца пасучы. *Зыпáсьвіліся вы сяньня да цёмныга, карову ня відна даіць. Зыпáсьвіўся — чуць ногі вылаку, ні мае гады еткій дзень ны ныгах састоіць. Зыпáсьцівіліся мае пустухі, пыра б ужо гнаць.* **Запасвеный, запасцівеный** *дзеепрым. Ну айца іна айца, там скубнець, там, ёй многа ні нада, а каровы зыпáсьвіныя. Каб ні ляніўся, можна було б прыгнаць табун то зу кусты, то пы быльшаку,— айдзе ж ён прагоніць, зыпáсьцівін скот.*

**Запіраннік** *м.* Той, хто запірае, закрывае. *Выйдзі-ка ты глянь, ато наш зыпірáньнік можыць дзьвері аччынітымі кінуць.* **Запіранніца** *ж. Харошыя зыпірáньніца: пышла, а вароты нáпіта, ідзі скот куды хочыш.*

**Запірхыванне** *н.* Засоўванне. *Палучыш ты ат Івана за ета запíрьхывыньня, хто йта так балыіцца.*

**Запраўлянне** *н.* Заправа для стравы. *Ты ўсё зупруўлáньня прігатоў, каб мне ні лазіць, ні шукаць, а тады бягі.*

**Запраўляннік** *м.* Той, хто запраўляе (страву). *Зірні, тэй зупруўлáньнік можыць наперць солі, што ў рот куляшу ня возьміш.* **Запраўлянніца** *ж. Ой, зупруўлáньніца сь цябе, січас накорміш!*

**Запуздрачыць, запуздрычыць** *зак. экспр.* 1. Пры гульні моцным ударам адбіць мяч вельмі далёка. *Ежылі Грішка зупуздрáчыць, вы вун у грязь палезіця зы мячыкым. Во глядзі, як я зупуздрíчу, лаві горку!* 2. Моцна ўдарыць размахнуўшыся. *Табе каб раз во навотмыш зупуздрáчыў, ты б сюда і носа ні пыказывыў. А я падумыў, што Іван ні с таго ні сь сякыга зупуздрíчыў яму.*

**Запуздрыць** *зак. экспр.* Пры гульні адбіць мяч вельмі

далёка. *Мы ў мячыка крепка гулялі, я, бувала, як зупуздрю мячык, дык тэя, што пыд нізом, бегыюць, бегыюць.* **Запуздромшы** *дзеепрысл. Хырашэнька зупуздрёмшы мячык, лёхка зьбегыіш ды мяжы і нызад вернісься.*

**Запузырыць** *зак. экспр.* Падбіць мяч вельмі высока. *Бувала, дурачыліся мушчыны, гулялі ў мячыка з ма́лымі, каторый як зупузы́ріць мячык, што ён чуць відзін.* **Запузыраный** *дзеепрым. Ай-я-яй, ты глянь-ка, куды мячык зупузы́рін, пыц самыя неба.*

**Запыкываць** *незак.* Замоўчваць, скрываць. *Зяць скызаў: я ня буду запы́кывыць, стыра́я сыма зынісла атравы, іна хацела атравіць крыс, а пытравіла сьвіньней.* **Запыкаць** *зак.* 1. Пачаць чытаць невыразна, гаварыць збянтэжана. *Я паслухыла, як яны чытаюць, запы́кылі нешта, ішчэ буквы ці ўсе выўчылі. Што ён скажыць,— запы́кыў, пычаў апраўдывыцца.* 2. Перабіць, не даць выказацца. *Запы́кылі яго, ён і атыйшоў убок.*

**Запялёхываць, запялёхкываць** *незак.* Моцна намочваць, плешчучыся ў вадзе. *Ма́лыя любюць ваду, ну й адзежу зыпялёхывыюць па лужых. Ні зыпялёхкывый новінькія рубашычкі, пыткысай рукавы.* **Запялёхывацца, запялёхкывацца** *незак.* Моцна намочвацца, плешчучыся ў вадзе. *Кажный дзень зыпялёхывыюцца ў сажылкых, з раньня да вечыра ні вылізаюць. Ахота ж табе зыпялёхкывыцца ў етый лужыні!* **Запялёхаць, запялёхкаць** *зак.* Моцна намачыць, плешчучыся ў вадзе. *Пакуля пылыскала ў нычвах, увесь перід зыпялёхыла. Ішоў ужо біз дарогі, штаны зыпялёхкыў вышы кален.* **Запялёхкацца** *зак.* Моцна намачыцца, плешчучыся ў вадзе. *Сходзіця вы заўтря ў лес, сяньня там зыпялёхкыіціся.* **Запялёханый, запялёхканый** *дзеепрым. Дождж іх у кустах пупаў, дык прішлі зыпялёхыныя. Сь цябе ж кругом плувець, ты такей зыпялёхкыный хуць у чыстыю хату ня йдзі, у сенцых разьдзенься.*

**Запячкурыць** *зак. жарт.* Зарабіць, кладучы або рамантуючы печы. *Сколька ты ў Проські зыпячку́ріў, прізнывайся.* **Запячкурыцца** *зак.* Запрацавацца, кладучы або рамантуючы печы. *Зыпячку́ріліся мушчыны, што й пры абед забылі, гукні, ніхай мыюцца, ато налітыя пызыстыва́іць у міскых.*

**Зарабліваць, зарobліваць** *незак.* Зарабляць. *Работа ў яго харошыя, ён многа зыра́блівыіць. Якей толк, што па трі сотні зароблівыў, зароблівыў па трі, а пускаў на веціp пы чатырі.*

**Заразанне** *н.* 1. Прарэз. *Реж як нада, ны такім зыріза́ньні пірядоўка ня ўдзержыцца.* 2. Моцнае кусанне (пра мух, аваднёў і інш.). *Жарёбка мылыдая, адз зырізáньня кідыіцца, ажно скачыць.*

**Заразаннік** *м.* Той, хто робіць прарэз. *Ты ж, зырізáньнік, ня реж удоўж, глядзі, каб прямінька піла хадзіла, ато будзіш зырізаць, зырізаць дый выкініш.* **Заразанніца** *ж. Зь мяне тыкая зырізáньніца: айдзе ні дарежу, айдзе піряpежу, ці я калі дужа тую пілу ў руках дзіржала.*

**Заразаць** *незак. перан.* Бесперапынна кусаць (пра мух, аваднёў і інш.). *Мухі жарішчыю зырізáюць скот, каровы нійдзе места сабе ні находзюць, цілятκі у ваду ўлезуць, толька голывы тырчаць.* **Заразацца** *незак. метаф.* Моцна сварыцца. *Як жылі разым, яны зырізáліся, зраньня хата пычынала ат кріку тряшчэць.* **Зарэзаць** *зак.* Нясцерпна пакусаць (пра мух, аваднёў і інш.). *Ідзі ў пуню на сена ці лезь ны хату пыляжы, тута цябе мухі зарежуць.* **Зарэзацца** *зак.* Пачаць моцна сварыцца. *Сыбярі дзьвюх такіх у хату, яны ж зарежуцца, і адна хырыша, і другая ні ў чом ня ўступіць.*

**Засвістаць** *зак. перан.* Пацячы моцным, бурным струменем. *Летыся як зысьвістáла выда ў погріб, дык мы ні знàлі, што дзелыць.*

**Засняжыць** *зак.* Абсыпаць снегам. *Я зысьняжў ногі, тады буду пішчэць яшчэ болі.* **Засняжыцца** *зак.* Абсыпацца снегам. *У цябе каўнерь зысьняжы́ўся, верна, с пуд сьнегу.* **Заснежаный** *дзеепрым. Якей ты ўвесь засьнежыный, аптрясіся троху.*

**Застаўлянне** *н.* Прымушанне. *Ня хочыць ён ніякыга зыстыўля́ньня слухыць, што йта зы маліц урадзіўся, ніпуцьцё, а ні маліц.*

**Застругыванне** *н.* Завострыванне. *Абрезыў кончык абы-як, разьві ета застру́гывыньня, такей кылячок у зямлю ні палезіць.*

**Застрэшываць** *незак.* Умацоўваць снапкамі край страхі пры пакрыцці. *Ён сяньня хацеў застрешывыць, а тады пашоў с касою ў аборкі.* **Застрэшывацца** *незак.* Узводзіцца (пра край страхі). *Ды я віджу, што само ні застрешывыіцца, а брацца табе ня дужа хочыцца.*

**Затаптываць** *незак. перан.* 1. Вельмі прыніжаць, пазбаўляць чалавечай годнасці. *Што ж вы зытáптывыіця чылавека, ні ўва што яго ні ставіця.* 2 *метаф.* Хаваць (нябожчыка). *Рана ты сыбіраісься мяне зытáптывыць.* **Затаптаць** *зак.* 1. Вельмі прынізіць, пазбавіць чалавечай

годнасці. *Яны затопчуць чылавека, зьдзелыюць кырявей анучы.* 2. Пахаваць. *Як затопчуць, тады нічога ні нада будзіць, а жывэй усігда пры жывоя дбаіць.* **Затаптацца** *зак.* 1 *метаф.* Паказаць, выявіць збянтэжанасць. *Аліксандрёнык бізь нічога ніякыга пымянуў, а тэй зразу зытыптáўся: я тама ня быў, нікога ня відзіў.* 2. Пахавацца (пра нябожчыка). *Як памрець, затопчыцца, тады зь яго нічога ня спросіш, ні ён нікому ня должын, ні яму ніхто.* **Затаптаный** *дзеепрым.* 1. Вельмі прыніжаны. *Кыныстрацёнык у іх усігда быў зытыптáный, ня с тэя пріроды яны хацелі зяця.* 2. Пахаваны (пра нябожчыка). *Калі зытыптáн чылавек, ніякіх яму ні забот ні клапот, ляжы спакойна і ні пра што ня думый.*

**Зататакаць** *зак.* Пачаць нягучна стукаць. *Зірні, чым ён тама зытытáкыў, каб пальцыў ні пыдбівай.* **Зататакацца** *зак.* Засяродзіць увагу на стуканні. *Зытытáкыўся — ня чуіць, што ты яму гаворіш, грамчэй скажы.*

**Затаўморываць** *незак.* Затлумліваць, задурманьваць. *Хваціць зытаўморівыць чылавека, дай хуць якую пірядышку ды пырысят ныкармі.* **Затаўморывацца** *незак.* Затлумлівацца, задурманьвацца. *Ні пайду я зь імі сядзець, зытаўморівыцца.*

**Затаўпорываць** *незак.* Запіхваць, засоўваць. *Што ён тама зытаўпорівыіць зы крываць, скажы-ка, каб пірістаў дурачыцца.*

**Затваранне** *н.* Зачынянне. *Якоя тваё зытвырáньня, вароты рызьзяпіліся і стыялі пáсьцю цэлыю ноч.*

**Заткнутый** *дзеепрым.* Забаронены (пры дапамозе загнутай галіны). *Ны заткнýтый луг скот нілізя пускаць. Балота заткнýта, відна, атаву будуць гудуваць.*

**Затопішча** *ж.* Непралазная гразь. *Я ўжо такою затопішчыю нікуды ні палезла б, ніхай ба бяс крошкі хлеба сядзела.*

**Затраўліванне** *н.* 1. Пратручванне. *Гаворюць, што зытрáўлівыньня ны ўрыжай хырашо уліяіць.* 2. Пашкоджанне лекамі. *Ат лікарствыў на серцы плоха буваіць, пулучаіцца зытрáўлівыньня.*

**Затраўліваць** *незак.* 1. Пратручваць. *Сімяно зытрáўлівыюць, гаворюць, усходзіць луччы і расьцець скарей.* 2. Пашкоджваць лекамі. *Ты сам сябе зытрáўлівыіш і хужы дзелыіш, лікарствы бальшога здароўя ні даюць.* **Затраўлівацца** *незак.* 1. Пратручвацца. *Ячмень зытрáўлівыіцца, заўтря сеіць будуць.* 2. Пашкоджвацца лекамі. *Січас ты ня чуствыіш, а арганізм зытрáўлівыіцца, і посьлі атрыг-*

*неццa.* **Затравіць** *зак.* Пашкодзіць лекамі. *Многа пырашкоў, усякыга лікарства прінімаць ніздарова, зытрáвіш арганізму, тады ат лікарства нада лячыцца.* **Затравіцца** *зак.* Пашкодзіць сабе лекамі. *Усякыю дурату хвытаў, зытравіўся, цяперя яшчэ хужы стала,— зыбалела што, дык ґ доктыру ідзі, ато налечысься сам.* **Затраўлены́й** *дзеепрым. І лячэньнім зытрáўліный, а тута яшчэ чарычка с пуця зводзіць, адно кы днаму, аняло бізздароўя.*

**Затрывожыць** *зак. перан.* Зрушыць (пра ўнутраныя органы). *Як зытрівожыш у сярёдку што-небудзь, тады плахей жыціль.* **Затрывожаный** *дзеепрым. Есьлі што-небудзь зытрівожына, яно баліць, трудна вылічыць.*

**Затурзаць** *зак.* Затузаць. *Цябе жонычка саўсім затýрзыла, ты ні знаіш, ны якой наге стаць піряд ёю.* **Затурзацца** *зак.* Затузацца. *Каб я знаў, што столька тлуму будзіць, я б нічога ні рыспычынаў, я саўсім затурзыўся.* **Затурзаный** *дзеепрым. Ня бойся, ні такей ён затýрзыный, як табе здаецца.*

**Затыканнік** *м.* Той, хто затыкае дзіркі. *Вы ўдваіх як возьміціся, зытыкáньнікі, у вас работа зугудзіць.* **Затыканніца** *ж. Прідзержы-ка троху лесьвіцу, ато каб ні пыляцела ета зытыкáньніца.*

**Затыркаць** *зак.* 1. Забрынкаць. *Нейкімі жалезінымі як затыркыіць, ажно мароз па кожы. Ета, гаворіць, дзеці затыркылі.* 2. Пачаць стрымліваць каня выгукам тр-р. *Мы ўжо спаць лажыліся, тады ён затыркыў пыд вакном, позна пріехыў.* 3 *перан.* Затузаць. *Яны затыркылі свайго зяця.* **Затыркацца** *зак.* Затузацца. *Бяріся сам ды тапі печ, я ўсігда затыркыюся, а ён сыбярецца, пызаўтрікыіць і пашоў сабе ат усяго гатовінькыга.* **Затырканый** *дзеепрым.* Затузаны. *Я б так ня кідылыся сыма за ўсім усякім, я б яго ўстуріла разым с сонцым, а ты бегыіш затыркыныя язык высылыпіўшы.*

**Затырыць** *зак. жарт.* Занесці. *Ну-ка затырь етыя гуркі ґ бабі, тама ў яе госьці зьбіраліся быць.* **Затыраный** *дзеепрым. Спрашыю, айдзе бязьмен, а ўжо, гаворіць, затырін, зыхацелыся ў дзеда пабыць.*

**Захадзіць** *незак. перан.* Надыходзіць. *Глядзі-ка ты, як урэмя бягіць, ці даўно зьдзьвіжыньня, а ўжо заходзюць підіпыўкі.* **Зайціць** *зак.* Надысці. *А што ж ты думыіш, скора і пост зáйдзіць.*

**Захарахоніцца** *зак. іран.* Пачаць выхваляцца, фанабэрыцца. *Чаго ён зыхырахоніўся, луччы ўсіх шчытаіць сябе ці што?*

**Захвоснік** *м. асудж.* Прыхвасцень, падлізнік. *Ого, якей быў захвосьнік! С такіх во толька і пулучаюцца захвосьнікі.*

**Захрупывацца** *незак.* Есці з асалодай, з храбусценнем. *Я хрустоў ныпяку, пуцсушу трошку ны масьлі, яны захру́пывыюцца.* **Захрупаць** *зак.* Пачаць хрумстаць. *Быранкі яны дужа любюць, у кырман ныкладуць, захру́пылі і пабеглі.* **Захрупацца** *зак.* З'есці з асалодай, з храбусценнем. *Такімі смашнымі пячэнінкымі захру́пыісься, яны самі ў році рыстаюць.*

**Зацалець** *зак.* Уцалець. *Наша дзярэўня неік зыцалела, выйна туды і нызад прыкацілыся.*

**Зацёпа** *м.* і *ж.* Неахайная, неразвітая, затузаная, марудлівая асоба. *Зацёпу нейкыга прівізла с сабою. Каб ны такой зацёпі жаніцца, ну яе. Зацёпыю прыжыла, каб у яе ці адзёжына была ў пырядку, ці ў хаці толк якей нывіла — не.*

**Зацёпістый** *прым.* Неахайны, неразвіты, затузаны. *Ніхай што зацёпістый, рызыбрайся, к чаму дзела йдзець. Іна сыма сабе зацёпістыя, і ня трогый яе.*

**Зацыгаць** *зак.* 1. Запішчаць (пра куранят). *Ціплёнык січас зацы́гыў ці ні ны грідах. 2 перан. неадабр.* Пачаць дакучліва і плаксіва прасіць. *Скора ўзноў зацы́гыіць чаго-небудзь.* **Зацыгацца** *зак.* Напішчацца (пра куранят). *Сыпні горстычку просы ціплятым, яны зацы́гыліся, есьць хочуць.*

**Зацюхкацца** *зак.* Апусціцца, зрабіцца неахайным. *Чаго ты етык зацю́хкылыся, ходзіш, як пасьледнія задріпка.*

**Зацягыванне** *н. перан.* Зашыванне наспех. *Пакуля цябе даждж эсься с тваім зыця́гывыньнім, дык ба грядку бульбы выбрыў.*

**Зацягываць** *незак. перан.* Зашываць наспех рэдкім сцягваннем. *Ну пыдаждж ы мінутычку, іна мяшок зыця́гывыіць, збоку дзірічка.* **Зацягывацца** *незак.* Зашывацца наспех рэдкім сцягваннем. *Кылі рукі пріложыш, дык будзіць зыця́гывыцца.* **Зацягнуць** *зак.* Зашыць наспех рэдкім сцягваннем. *Дзірічкі нібальшэнькія, ну нада зыцягну́ць, каб большы ні рыспрарешывылыся.* **Зацягнуцца** *зак.* Зашыцца наспех рэдкім сцягваннем. *Тута лёхка зыця́гніцца, толька нітку нада ў дзьве редзі, каб дзіржалыся.* **Зацягнутый** *дзеепрым.* *Ну нямножка дзірічкі зыця́гнуты і ладна, кычан ня вы́выліцца.*

**Зацяпываць** *незак.* 1. Зачэсваць, завастраць сякерай.

*Троху вайстрей зыця́пывый, зімля тута ня дужа мяккыя, ня ўгоніш тупэй кол.* 2 *перан.* Затукваць. *Яны Міхалку зыця́пывыюць кругом, пікнуць ні даюць.* **Зацяпывацца** *незак.* Зачэсвацца, завастрацца сякерай. *Як зыця́пывыіцца, так і ладна, скарей цяпый.* **Зацяпаць** *зак.* 1. Зачасаць, завастрыць сякерай. *Зыця́пый троху ды зыбівай, зімля мяккыя, палезіць.* 2. Пачаць цюкаць, ляскаць. *Доўга сядзеў ны калодкі, а тады чую: узноў зыця́пыў. Сыбака здыравушчый, ныстыяшчый воўк, як зыця́пыіць зубамі ды ка мне.* 3. Затукаць. *Зыця́пыла ты свайго стыріка як турка.* **Зацяпацца** *зак.* 1. Зачасацца, завастрыцца сякерай. *Як зыця́пыіцца, так і ладна, цяшы, скарей кончым.* 2. Заважддацца, цюкаючы сякерай. *Зыця́пыўся кылы свайго хворысту, тама ішчэ нядзелі на дзьве будзіць.* **Зацяпаный** *дзеепрым.* 1. Зачасаны, завостраны сякерай. *Аста́лыся два зыця́пыных кылячкі, пыцьцяшы яшчэ.* 2. Затуканы. *Ходзіць нейкій зыця́пыный, усё рыўна як ні ў сабе.*

**Зацясы́ванне** *н.* Зачэсванне. *Чым такоя зыця́сывыньня, дык луччы ні бяры ў рукі і ні гадзь, бісь цябе зьдзелыіцца.*

**Зачвякацца** *зак.* Зачмякаць гучна пад нагамі. *У пуню пыдыйшла выда, зычвя́кылыся пад гноім, нада б раўкі прыкыпаць зы сьцяною.*

**Зачуханый** *прым. метаф.* Заняпалы, брудны. *Быбарёнык нейкій зачу́хыный стаў, айдзе яго джоґысьць дзівалыся. Від у твае мыладэя дужа зачу́хыный, нешта іна ні глядзіць зы сабою.*

**Зачыкрыжыць, зачыкрыніць** *зак. жарт.* Зарэзаць. *Ты дужа ні храбріся, зловіць цябе Мутруноўна і зычыкры́жыць, во тады папрыгыіш. Цябе нада, каб Машка даўно зычыкрініла, толька іна жалысьлівыя, рука ў яе ні падніміцца.* **Зачыкрыжаный, зачыкрынетый** *дзеепрым. Пыбягіш січас зычыкры́жыный, абізацільна дыганю. Пастой трошку, пастой, січас я цябе злаўлю і зычыкрініныга зынясу ґ дзеду.*

**Зачэп** *м.* Зачэпка. *Яму нядоўга найціць зачэп, каб прівізацца, а хочыш, і біс прічыны прісукаіцца.*

**Зашарахываць** *незак.* Абшоргваць, заціраць. *Нада глядзець адзежыну, ні зышыра́хывыць нійдзе. Тады ж, знаіш, смаліць нільзя було, мы ціхінька апсмалілі, я зышыра́хывыю вогнішча, а яны грім кучыю ґ двару.* **Зашарахывацца** *незак.* Абшоргвацца, заціраццa. *Кажыцца, глядзіш, каб акуратней, а яно неік зышыра́хывыіцца,*

*ацьціраць нада.* **Зашарахаць** *зак.* 1. Пачаць шоргаць. *Як зышыра́хыюць нечым пы жылізя́чыні, ажно мароз па кожы ідзець.* 2. Абшоргаць, зацерці. *Увесь чыста левый рукаў зышыра́хыў. Хуць нагою троху зышыра́хый, ніхай ня відна будзіць.* **Зашарахацца** *зак.* Абшоргацца, зацерціся. *Пыдаткні полы, зышыра́хыюцца — нікчомныя стануць. Скрібачом зышыра́хыіцца і ладна будзіць.* **Зашараханый** *дзеепрым. Сьцены нейкія зышыра́хыныя, усё дно як хто сьпіцыяльна нейкыю грязныю мятлою цёр.*

**Зашарудзіць** *зак.* Пачаць турбаваць, катурхаць. *Пыдрыстаюць дзеўкі, віда пыднімаюцца, скора зушурудзя́ць матку: спруўляй новыя пріборы ны кажный вечыр.* **Зашарудзіцца** *зак.* Пачаць актыўна рыхтавацца. *Зушурудзіліся сватоў сустрюкаць, тэя, знаць, цілітрам адбілі, што хочуць пріехыць, ны дзярейню пыглядзець.*

**Зашлэпкацца** *зак.* Затупацца, стаміцца. *Ай, ну вас, мне ні да новысьціў, я зашлэпкылыся за дзень, толька каб аддыхнуць.*

**Заштапорыванне** *н.* 1. Затрымка ў справах. *Узноў у іх зыштапорівыньня, ніяк ні выпа́лівыіць.* 2. Захоп на месцы злачынства. *Ні спужаюцца яны твайго зыштапорівыньня, падглездзюць, як ты пойдзіш куды, і апчысьцюць яблыну.*

**Заштапорываць** *незак.* 1. Затрымліваціа (пра справы). *Думыў, і там устроіцца, і там, і ўсё ў яго зыштапорівыіць.* 2. Лавіць на месцы злачынства. *Каторый раз зьбіраюцца зыштапорівывыць Аўсяёнка, ды ўсё ні пулучаіцца.* **Заштапорывацца** *незак.* Затрымлівацца (пра справы). *Большы ў мяне нічога ні зыштапорівыіцца, скора паедзім.* **Заштапорыць** *зак.* 1. Затрымацца (пра справы). *На етый раз у яго крепка зыштапоріла.* 2. Злавіць на месцы злачынства. *Калі-небудзь яны цябе зыштапорюць у садку.* **Заштапорыцца** *зак.* Затрымацца (пра справы). *Каб тады ні зыштапорілыся ў яго с паездкыю, ён ба даўно быў ны Дынбасі.* **Заштапораный** *дзеепрым.* 1. Затрыманы. *Дзела ў яго саўсім зыштапоріна.* 2. Злоўлены на месцы злачынства. *Ага, цяперя ты зыштапорін, ня выкруцісься.*

**Зашчыта** 1 *ж. Абарона.* 2 *ж.* Загарода, шчыты для загароды. *Сколька ты мудріў, а ня хочыць дзіржацца твыя зашчы́та.* 3 *м.* і *ж.* Абаронца. *Ого, ікая ў цябе зашчы́та, к табе пуцступіцца страшна. Твыя зашчыта іўляіцца, сустрюкай.*

**Зашчычанне** *н.* Заштукоўванне. *Пырысяты рысьцігалі*

*зышчычаньня, яно рызвалілыся, выляіцца, куры топчуцца.*

**Зашчычаннік** *м.* Той, хто заштукоўвае. *У тваіх зышчычáньнікый глядзі, каб большыя дзіркі ў плятне ні пулучыліся, яны ныріманьцірыюць.* **Зашчычанніца** *ж. Сь цябе ўжо зышчычáньніца, вецір дунець і пыляціш, скажы Максіміхіныму хлопцу, прідзіць і задзелыіць як нада.*

**Зашчышчанне** *н.* 1. Абарона. *Я ні ў чыім зышчышчáньні ні нуждаюся, я сам зышчыціцца ўмею.* 2. Заштукоўванне. *Ат курей ніякыя зышчышчáньня ні пымыгаіць, ат іх толька доскымі зыбівайся.*

**Зашчышчаннік** *м.* 1. Абаронца. *Ізыкамі вы ўсе дужа харошыя зышчышчáньнікі, а як касьнецца ґ дзелу — хто куды.* 2. Той, хто заштукоўвае. *Вазіўся, вазіўся зышчышчáньнік цэлый дзень, кылячкі пыўбівай, ыпрівязывый, а сакі ішчэ ні зыклыдай.* **Зашчышчанніца** *ж.* 1. Абаронца. *Цябе, зышчышчáньніца, тожа прыздравюць, што ты ня будзіш знаць, як ляцець.* 2. Тая, што заштукоўвае. *Відзіш, ікая зь мяне зышчышчáньніца, толька атыйшла, і яно ўсё ўсьлед ляціць.*

**Зашчэрбліваццa** *незак.* Надколвацца. *Так ён роўнінькій брусочык, ну с аднаго боку зашчэрблівыіцца, тут нада, каб саўсім гладзінька.* **Зашчарбіцца** *зак.* Надкалоцца. *Стругай з другога боку, ато можыць зышчарбіцца, тады брусок на дровы пойдзіць.*

**Зашывацца** *незак. перан.* 1. Забівацца шчыльна дошкамі. *Ладна ў цябе зышывáіцца: трі доскі прібіў і вецір ува ўсе дзіркі кругом сьвішчыць,— ці дзелый як нада, ці саўсім атыйдзі.* 2. Пакрывацца тлушчам (пра страву). *Ад быраніны капуста зышывáіцца жырым.*

**Заяснянне** *н.* Тлумачэнне. *Дужа яго зыісьня́ньня важна каму, ніхай ён свайму бацьку зыісьняіць, што хочыць.*

**Збалдзіць** *зак. метаф. асудж.* Сказаць. *Адзін збалдзіць, а другей пытхваціць, і пашло гулящь пы дзярейні, што чуць ні прістаўленія сьвету ідзець.*

**Збегаць, збежч** *зак.* Справіцца, быць роўным у бегу. *Ты мыладэй, а я стáрый, мне с табою ня збегыць. Айдзе ж я зьбегыю з мыладымі. Ну што ж ты хочыш, каб я зьбегла з вамі, вам пы дваццыць гадоў, а мне ўжо семдзісят стукыіць.* **Збегацца** *зак.* 1. Справіцца, быць роўным у бегу. *Айдзе ты зь імі зьбегысься, яны як мітульга кытануць, толька ў вочы відзіў. Мне з вамі ня зьбегыцца, вы здаровыя, у самый сілі, а ў мяне ўжо костычка ап*

*костычку стукыіць.* 2. Станіцца бегаючы. *Зьбегыўся пы вічарінкых, выспыцца некылі.* **Збеганый** *дзеепрым.* Стомлены ў беганіне. *І мой такей самый зьбегыный, зу гульнёю пад'есьць некылі. Распусты зьбегыныя, над імі людзі сьмяюцца.*

**Збівацца** *незак. метаф.* 1. Заставацца пэўны час пры адсутнасці чаго-н. *С хлеба зьбіва́цца ні нада, можна раншы рышчыніць.* 2. Не пападаць па мячу пры гульні ў мяч. *Якей зь яго гулец, кылі ён мячык ні разу ні ўдаріў як нада, усё зьбіва́іцца і зьбіва́іцца.* **Збіцца** *зак.* 1. Застацца пэўны час пры адсутнасці чаго-н. *Зьбілыся і зьбілыся с курей, неік ні вядуцца пасьледнія ўремя.* 2. Не папасці па мячу пры гульні ў мяч. *Каб я ня зьбіўся, вы б нізашто наверьх ня выбрыліся, згнілі б пыд нізом.*

**Зbражыць, зbражыцца** *зак.* Закіснуць, перабрадзіць. *Бульба твыя стыяла разьведзіныя, пакуля збра́жыла. Пыставіла быракі ў шкапчык і забыла пра іх, яны збра́жыліся.* **Збражаный** *дзеепрым.* *Збра́жыныга карова ня возьміць, чмыхніць і ўсё, а хочыш — шаічку піряверніць.*

**Зброд** *м.* і *ж.* 1. З дрэннымі звычкамі (пра жывёліну). *Зброд скаціна, кажыцца, ціхінька ходзіць, скубець, тольκа ны мінутку атвярнуўся — глядзіш, хвост зыдрала і ў шкоду.* 2. Распуснік, аматар зрабіць шкоду. *Ого, ішчэ якей зброд ён быў!*

**Збродаваць, зброднічаць** *незак.* 1. Лезці ў шкоду. *Твой цялёнык дужа збродыіць, ты яго ці нывязывый, ці што. Карова ўродзі спакойныя, а зброднічыць любіць.* 2. Распуснічаць, шкодзіць. *Ладна збродывыў, дзеўкі ат яго плакылі. Зразу посьлі вайны была нейкыя шайка, зброднічылі, ну іх скора прібралі.*

**Зброднік** *м.* Распуснік. *Зброднікі ма́льцы, ім і ў гарод нічога ня стоіць злазіць, і яблынку аптрясуць — ні пысьцісьняюцца.*

**Збродный** *прым.* Збродлівы. *Рызбалывыўся скот, каровы збродныя сталі, глядзі і ня ўгледзіш, то ў вык, то ў ячмень, так і пасуць цябе, каб куды пабежч.*

**Збрудзяніць** *зак.* Зрабіць брудным. *Нашто ж табе ў пыл чыстыю рубашку ныдзіваць, збрудзя́ніш — тады ні дамыцца будзіць.* **Збрудзянець, збрудзяніцца, збрудзянецца** *зак.* Зрабіцца брудным. *Усё на ём збрудзянела, усё зыкыржанела, ці ета ёсьць матка на сьвеці, каб родныга дзіцёнка ні даглeдзіць. Абізацільна буду шчолык зыварівыць, бяльлё збрудзя́нілыся за бульбу ў пылі, дужа пыльныя восінь, біз дажджоў. Ны нас уся адзёжа*

*збрудзянелыся, зы работыю бані прукуріць некылі.* **Збрудзянелый, збрудзянеый** *дзеепрым. Твыя куртычка ні грязныя, а збрудзянелыя, іна і ў шчолыку ні атапреіць. Ні нясіця вы ў хату нічога збрудзя́ніныга, толька мост вымылі, ніхай хуць нямножка пабудзіць чыста.*

**Збрыдчэць** *зак.* 1. Абрыднуць. *Каб ты пыжыла зь ім с паўгода, ён ба збрыччэў табе, што ні глянула б.* 2. Падкіснуць. *Такою жарою мылако нада ў халодныю ваду ставіць, іначы к вечыру збрыччэіць, ня вы́стыіць.*

**Збрынканый** *дзеепрым.* Скошаны абы-як. *Што кылі збры́нкына, тама пуд, можа, сыбярецца ўсяго сена.*

**Звадзіцца** *незак. перан.* Пазбаўляцца, страчваць (пра жывёлу). *Я ўжо сы ўсяго зваджу́ся, ні мыя змыга дыглідаць скот. Ну як жа так звадзі́цца, каб нічога ны дваре ні стывалыся.*

**Звадзяніць, звадзяніцца, звадзянецца** *зак.* Набрацца вадой, зрабіцца вадзяным. *Дажджы лілі цэлыя лета, бульба звыдзя́ніла, нісмашненныя стала, есьць нільзя. Атваріныя бульба пыстыяла ў гаршчонычку накрытыя і звыдзя́нілыся, нясі ў вядро. Вун бульба ў чугуночыку стаіць, звыдзянелыся, усё дно як аццадзіць некыму було, трі бабы ў хаці.* **Звадзянеый, звадзянелый** *дзеепрым. Такую звыдзя́ніныю бульбу ніхто есьць ні станіць, высып у шайку, заўтря пырасёнку пытаўкецца. Хто звыдзянелыю бульбу станіць есьць, сып у чугунок с парёнкымі.*

**Звалачыць** *зак.* Счасаць (воўну). *Ідзіці-ка сяньня, выўначоска работыіць, гаворюць, і людзей нямнога, звалочыця воўну — скарей каму аддасца.* **Звалачыцца** *зак.* 1. Схадзіць з цяжкасцю, павольна. *Пашлі ты ма́лыга, ніхай пыдбягіць, пакуля я звылачуся, нівісь айдзе сонца будзіць.* 2. Счасацца (пра воўну). *Ну што ты ўсё: звалочыцца ды звалочыцца, несьць нада, а зіма прідзіць, тады валінкі валіць позна.* **Звалочаный** *дзеепрым.* 1. Сцягнуты, убраны цяганнем. *Там ішчэ суччa ні звалочына, пы ўсяму аборку выляіцца.* 2. Счэсаны (пра воўну). *У мяне і звалочыныя была воўна, асталыся, ні пыпряла.* **Звалачомшы** *дзеепрысл.* Счасаўшы. *Звылачомшы, скарей у дзела пойдзіць.*

**Зваліваць** *незак.* Скідваць. *Чашычку ні зва́лівый, іна рызаб'ецца, мылычка ня будзіць у што ўліць.* **Зваленый** *дзеепрым. Вун яны, твае вязёнкі, зва́ліныя кыла ступы, сам, наверна, клаў, а цяперь шукаіш.*

**Звалочца** *зак.* 1. Сысці (пра валацугу), злезці (пра старога, слабага). *Максім тута доўга ня жыў, пріехыў,*

*пубуўтаўся і ўскорысьці звалокся. Я ўжо і сь печы чуць звылакуся.* 2. Сцягнуцца. *А звылакецца твой бульбоўнік і посьлі, пы марозу, а ўспыхаць нада січас, пакуль суха.*

**Зварзёкываць, зварзёпываць** *незак.* Запэцкваць, вымазваць. *На тоя яны і ма́лыя, што зварзёкывыюць усё пыдряд. Нечыга зварзёпывыць мне стульчык, вун на мост гуляць, тама варзёпыйся сколька хочыш.* **Зварзёкаць, зварзёпаць** *зак.* Запэцкаць, вымазаць. *Дзьвері былі аччыніны, пырысяты ўбеглі, чугункі пірівярнулі, усё чыста зварзёкылі. Чаго ня зьдзелыіць, а зварзёпыць рубашычку ўмеіць.* **Зварзёкацца, зварзёпацца** *зак.* Запэцкацца, вымазацца. *Ты пыглядзі, ны каго ён пахож, ду вушэй зварзёкыўся ў сьмітану, толька вочы трошку бліщчаць. Зыбярі місычку і рукі яму вытрі, зварзёпыіцца як чырцянок якей.* **Зварзёканый, зварзёпаный** *дзеепрым. Кохтычка тыкая ўжо зварзёкыныя, што ні прідумыць, як зы яе ўзяцца. Кругом стыла ўсё зварзёпына, прібярі хуць нямножка, людзі січас зойдуць.*

**Зганяцца** *незак. метаф.* Спраўляцца, даганяць па ўзроўню (у працы, у жыцці). *Мне з вамі згыняцца позна, вы ўсталі, зьелі і пашлі, а на мне ны адной хызяйства.* **Сагнацца** *зак.* Справіцца, дагнаць па ўзроўню (у працы, у жыцці). *Ішчэ ты хочыш з мыладымі сыгна́цца. Я з вамі ні зганюся.*

**Згойзаць** *зак. неадабр.* Стаптаць, збузаваць, носячыся, дурэючы. *Ну толька ўвідзіць бацька, як вы снапы згойзылі, ён вам пыкажыць.* **Згойзацца** *зак.* Стаптацца, збузавацца. *У іх усё згойзыіцца, дужа балыўнікі бальшэя.* **Згойзаный** *дзеепрым. Пыдгрябі ета згойзыныя, хуць к сьценкі прікладзі.*

**Згоцаць** *зак.* Збузаваць, скачучы, дурэючы. *Пасьцель як згоцыюць зы раньня, ны адну б нагу, кажыцца, стаў, а зу другую ўзяў ба і рызырваў,—так ат'ідаюць серца.* **Згоцаный** *дзеепрым. Дзьве капёшкі стыяла на борку, паехылі, думылі, зыбярём, а яны разьбітыя, згоцыныя, а даждэом здорыва прыняло,— раськінулі пірясушывыць.*

**Згражываць** *незак.* Рабіць з нядобрым намерам. *Каму ты згра́жывыіш, што апыстыляісься зь людзямі, табе ж самой і худжы.* **Згразіць** *зак.* Зрабіць з нядобрым намерам. *Во згразіў, што ні пріщоў, бізь яго абыйшліся і яшчэ абойдзімся.*

**Згэмзаць** *зак.* Змяць, збузаваць. *Харошый плашчык быў, лёгінькій, ні прымікаў, а разы трі надзеў у грязь,*

*згэмзыў, цяперя яго выкінуць толька.* **Згэмзацца** *зак.* Змяцца, збузавацца. *Ня будзіш бярежч — згэмзыіцца касьцюм, а другога я табе спруўляць ня буду, сам зароб.* **Згэмзаный** *дзеепрым. Яны адзёжы, адзёжы нуспруўлялі, толька бярежч ня ўмеюць, усё згэмзыныя выляіцца айдзе зря.*

**Здалічку** *прысл. памянш.-ласк.* Здалёк. *Здáлічку пыглядзелі ны Кірея, а пытхадзіць ні пытхадзілі.*

**Здзелываць** *незак.* Рабіць. *Нада што-небудзь зьдзелывыць, каб яно ні вылялыся, ні гніло мокрыя.*

**Здзяканнік, здзякацель** *м.* Той, хто здзекуецца. *Нашто етыга зьдзікáньніка ў хаці дзіржаць, ёй адной пражыць лехчы будзіць. Таго зьдзікáціль, што німа нікога ўнняць яго, а каб у руках хырашэнька пыдзіржалі, айдзе б і зьдзікацільства дзелыся.* **Здзяканніца, здзякацелька** *ж. Ты ні чылавек, а зьдзікáньніца, табе пы зямле хадзіць нілізя. Ікая зьдзікáцілька, у родныя сястры пызыбрала ўсё, а цяперя ідзі, ты мне ні нада.*

**Здохля** *м.* і *ж.*, **здыхляццё** *н.* 1. Недалужная асоба. *Ныйшла здохлю сабе нейкыга, ляжыць на печы, кахíкыіць — зяць. Была ў яго ікая-то здохля, кажыцца, звалі Хоўрыю. Сколька я помню, ён усё нейкыя здыхляцьцё. Сыма здыхляцьцё і зь дзяўчонкі толку німа.* 2. Схуднелая жывёліна. *Здохлю ету, кыбылёнку зыпрягі, пустэя калёсы дыцягніць. Ні цялёнык, нейкыя здыхляцьцё, ня будзіць зь яго толку.*

**Здыхаль, здохаль** *м.* і *ж.* Недалужная, хілая асоба. *Зды́хыль як зыдасца, дык ты яго ці лячы, ці ні лячы, нічога ні пымыгаіць. Тыкая самыя зды́хыль, як матка. Здохыль нейкій сватыўся, у зяці, знаць, хацеў.*

**Зелязняк** *м.* Рыдлёўка. *Айдзе-то выляўся зілізьняк біс цыўя, нада было б узьбіць, палычкі бярёзывыя ёсьць. Памянш.* **зелезнячок.** *Раншы войстрый быў зілізьнячок, а цяперя зрезыўся, зутупіўся.*

**Зер** *м.* Зрок. *Пры якей ты зерь гаворіш, ёй зы дзівяноста гадоў, дарогу трошку відзіць і то ладна.*

**Зжабліванне** *н.* Перагінанне. *У мяне хырашо гнецца, а ў цябе ўсё жжáблівыньня пулучаіцца.*

**Зжабліваць** *незак.* Перагінаць. *Ты ністарожна гнеш, можна б і ні жжáблівыць абручыкі, ета лыза хырашо гнецца.* **Зжабліваццa** *незак.* Перагінацца. *Лугувая лыза ні жжáблівыіцца, а ў аборкых ладныю лазіну трудна найціць.*

**Зліць** *зак. перан.* Змачыць моцна. *Дужа ўжо зьліў*

*дождж зямлю, цяпер ба доўга ні нада быў.* **Злітый** *дзеепрым. Так зімля зьліта, містамі ступіць нілізя, ногі вязнуць.*

**Злупасіць** *зак.* Адхвастаць, даць лупку. *Нада, каб цябе злупасілі хырашэнька, тады б ты, можа, хут троху за розум узяўся.* **Злупашаный** *дзеепрым. Злупашыный сядзіць у дваре і на людзі ні пыказыіцца.*

**Злыбедзь** *ж.* Бяда, ліха. *Буваіць, як уваліцца злыбідзь у хату, ат яе тады ні аткыраскыісься.*

**Змасоліць** *зак.* Зжаваць і запэцкаць. *Цялёнык пупаў кохтычку і змасоліў усю, ета хырашо, што хуць ні прыглыціў, ато б зыпірьхнўўся.* **Змасоліцца** *зак.* Вымазацца, запэцкацца. *Лі гаршкоў, лі чугункоў што ні пабудзіць, змасоліцца, пытпіряжы сьперіду старыю спыднічэнку ды ўжо квáкліcь, пызнаюць цябе.* **Змасоленый** *дзеепрым. А чаго ж ета кухвайка змасоліна, пыглядзі-ка, якей у ёй рукаў.*

**Змахацца, змахнуцца** *зак. метаф.* Шпарка схадзіць, збегаць. *Яму адна мінута змыхáцца ў Белый Мох, ён лёхкій ны пад'ём. Ты к абеду змахнесься туды і ньзад, тута і дзісяці вёрст ня будзіць.*

**Змірнець** *незак.* Суцішвацца, уціхамірвацца. *Я знаю, як яны зьмірнеюць: калі дзяржыш у руках, можна трываць, а чуць выпусьціў — і пашлі пы галовых.*

**Змэнчыць** *зак.* 1 *экспр.* Змучыць. *Хто цябе так змэнчыў?* 2 *метаф.* Папсаваць. *Каб у харошыя хызяйкі, дык ба ні прыпала, іна б усё дывілá ды ладу, высушыла б, пытріпала, а так змэнчыла столька лёну, ды лён якей быў — як золыта.* **Змэнчыцца** *зак.* 1. Змучыцца. *Вы ўжо біз работы змэнчыліся, а каб вас ны кажный дзень запрёг іціць то с плугым, то з борынымі, то ў касе стыяць.* 2. Папсавацца. *У цябе самыя харошыя адзёжына змэнчыцца.* **Змэнчаный** *дзеепрым.* Змучаны. *Твыя ікая ня будзіць змэнчыныя, а ніхай гармоня ріпніць, і пыляціць.*

**Змягнуць, змягнуцца** *зак.* Аслабець ад смагі, спёкі. *Вы думылі, рукамі лёхка жаць, бувала, зьмягніш за дзень ны жарішчы. Што вы, і з грáбількымі зьмягліся, а каб вам косы ў рукі, а?*

**Змяжджуліць** *зак.* 1. Расціснуць, пацiснуць. *Вы зьмяжджўліця ўсё ў адной кашолкі, булку нада адзьдзельна пыкласьць.* 2 *метаф.* З'есці без разбору. *Ладныя была ськібка хлеба, усю зьмяжджўліў.* **Змяжджуліцца** *зак.* Расціснуцца, пацiснуцца. *Усё ўмесьці пылажыў, і сала варіныя, і хлеб, пріцісвуў нейдзі, яно й зьмяжджўлілыся.*

**Змяжджуленый** *дзеепрым.* Расціснуты, паціснуты. *Аддай ціплятым зьмяжджу́ліныя кускі, яны пуклююць.*

**Зналёту** *прысл.* Раптоўна, з ходу, не прыпыняючыся. *Такей жа бычышча прыклятый, ідзець, ідзець, а тады зналёту прыг ны цябе, глядзі, прысапець на месьці.*

**Знаравіцца** *зак.* Спадабацца. *Можа там ні зныра́віцца, нызад пріедзіць. Чыя-то зныра́вілыся яму ў Бірязуйкых.*

**Знімаць** *незак.* Браць пры немагчымасці адгуляцца (пры гульні ў карты). *Чаго ж я зьніма́ю, адны малодкі пупаліся, ні адной старшый карты.* **Зняць** *зак.* Узяць пры немагчымасці адгуляцца (пры гульні ў карты). *Ні жалей, аддывай туза, ніхай зьні́міць, я ні атаб'юся.* **Знятый** *дзеепрым. Зьнятыя карты зыбірай.*

**Знішчываць** *незак.* Знішчаць. *Зялезы ставілі і зьнішчывылі кратоў. Ікая к ім жалысьць будзіць, калі яны людзей зьні́шчывылі.*

**Зяліць** *незак.* Затлумліваць крыкам, гаворкай. *Калі вы кініця мяне зяліць, зутурма́чылыся мыя галовухна ат вашыга віску.*

**Зяціный** *прым.* Зяцеў. *Я пакуля што ны зяціный хлеб ні сыбіраюся, яны жывуць самі пы сабе, а я сыма пы сабе буду мадзець.*

# І

**Іва** *ж.* Невысокае дрэва сямейства вярбовых з авальным цвёрдым лісцем. *Памянш.* **іўка, івачка.** *Я пыд вакном івык ба ня торкыў, рябінку ўжо ці ліпу пысадзіць другоя дзела. У аборкых пы крыйках івычкі ладныя бяруцца. Памянш.-зніж.* **івухна.** *Мыя ты і́вухна, горькыя, як я.*

**Ігрануць** *зак.* Паіграць крыху. *Ладна, калі вам Сярёжа троху ігранець, якей ён ігрок, такея вы танцоры.*

**Ігрушнік** *м. жарт.* Ахвотнік да груш. *Пашлі яго ігру́шнікі ш шыбня́мі, узьлезьць ня могуць, дык цэлый дзень мыхаюцца. Памянш.* **ігрушнічак.** *Бягіць твой ігру́шнічык нызад, знаць, нічога ні дыста́лыся.* **Ігрушніца** *ж. Ох, ікая ты ігру́шніца, кажыцца б, адныміі ігрушкымі і жыла.*

**Ік** *м. экспр.* Голас, здольнасць гаварыць. *Тая як прідзіць, рукамі рызмахыіць, крічыць — і пыддакыюць, а я як прішла, ік зыняло. Што, у цябе ўжо іку німа?*

**Іллінка** *ж.* Ранняспелая груша (дрэва і плод). *У мяне во тут сядзела ільлінка і зьмерзла летышнію зіму. Поў-*

*ныю зыпазыху ільлінык ныклаў і йдзёць. Памянш.* **ільлі-начка.** *Пысадзіў ба ці прішчапіў луччы ільлінычык, дзіцям на лета зыбава. Вы і сяньня ці ні злазілі ў мае ільлінычкі?*

**Ільнуць** *незак.* Вельмі хінуцца, адносіцца з выключнай прыхільнасцю. *Так ужо ільнець к Хведзю, так ільнець, пряма дыхнуць бізь яго ня можыць.*

**Індык** *м.* і *ж. перан. іран.* Тупая, бесталковая асоба. *Пецька твой як індык нейкій, аб'ісьняіш, аб'ісьняіш, а ён га, га. Індыку тому ці талкуй, ці ні талкуй, іна ні ў чом ні рызьбярецца. Памянш.* **індычок.** *Ах ты, індычок, ці так жа дзелыюць? Узмацн.* **індычына.** *Во яшчэ хто індычына — Высілёў большый, якей-то як палка дроў увы ўсякім дзелі. Павеліч.* **індычышча.** *Індычышча ты бісталковый, як ты ня можыш пыняць, длі чаго ета дзелыіцца.*

**Індычыць** *незак. перан. неадабр.* Балбатаць, пустасловіць. *Я ўжо ні знаю, пра што яны тама індычылі, доўга сьцяну пытпіралі.* **Індычыцца** *незак.* 1. Займацца балбатнёй, пустаслоўем. *У іх зыняція ізьвесныя, сыйшліся і пашлі індычыцца, у іх усігда ёсьць пра што.* 2. Фанабэрыцца. *Ета ўжо такоя пріродзьдзя — індычыцца, у яго дзядзькі зыдываньня було поўна.* 3. Мітусіцца. *Ну што там ні так пыкладжына, чаго ты індычысься, места сабе ні найдзіш.*

**Ірванне** *н.* 1. Разрыванне, раздзіранне. *А ну цябе сы рваньнім с тваім, пашло ўцэла, ці ты ня мог ножніцымі атрезыць.* 2. Лахманы, рвань. *Прібярі як нада, ніхай ірваньня зря ні выляіцца.* 3 *перан. асудж.* Крык. *Сходзі яшчэ туды ты, ірваньня іхныга паслухый.*

**Ірваннік** *м.* Той, хто рве, вырывае. *Нейкій жа ты слабый ірваньнік, ну-ка вазьміся дзьвюмя рукамі, яшчэ пыцягні.* **Ірванніца** *ж. Ты ж, ірваньніца, кожу так з рук пызьдзіраіш, дзяржы, каб у руках ня езьдзіла.*

**Ірдзенне** *н. перан.* Злаванне. *Якоя ірдзеньня ў чылавека, гатоў, кажыцца, зубамі грызьць другога.*

**Ірдзець, ірдзецца** *незак. перан.* Злавацца, кіпець ад злосці. *Я й сыма ні знаю, за што ён пычаў ірдзець, дурута нейкыя ўроілыся і кіпіць. Нечыга ірдзецца, кылі сам вінуват кругом: хто цябе пысылаў у тэя Різанцы, сам жа ўзыйграўся паехыць.*

**Ірдзіць** *незак. безас.* Злаваць. *Каторый дзень ірдзіць яго ніізьвесна што: тріпануў нехта, нібытта Маша хадзіла зь нейкім каробчыньськім.*

**Ірмяк** *м.* Армяк. *Цяперя ірьмякоў ніхто ня шыіць, а*

*раншы бізы рьміка нільзя, у ізвоз ірьмяк абізацільна нада быў. Памянш.* **ірмячок.** *Бувала, і мульчуганым ірьмячкі шылі, нібальшэя. Узмацн.* **ірмячуга, ірмячына.** *Коні як пывядзём дзярэўнію, да поўнычы прадурімся, а тады ў ірьмячу́гі закруцімся і сьпім. Во ірьмячы́на быў, ніякія халіпы ні быяўся. Памянш.-зневаж.* **ірмячышка.** *Я хуць ма́лый быў, а ўсё ета помню: старэй ірьмячы́шку ціріс плячо і пашоў, а Кузьма толька ґ дзьвірям — спаць хацеў лезьць ны хату,— дык яны грюк, грюк, грюк у вакно. Павеліч.* **ірмячышча.** *У мяне быў ірмячы́шча, што ніякыга дыжджа ні быяўся, як ляміц.*

**Іскар'е** *н. зб.* Іскры. *Я выйшла, ішчэ пріцімна було, глянула на іх крышу: а божычка ж ты мой, і́скырья сыпіцца с коміна, каб салома, ужо б шугала.*

**Ісчахаць** *незак.* Худнець, мізарнець. *Ад гультайства ішчыха́іць твой Сярёжа, разьві ён ня мог пірядзержыць каровы, каб ложка мылыка ны кажный дзень была.*

# К

**Кабан** *м.* Вяпрук. *Памянш.* **кабанок.** *Ладный кыбанок рюхыіць у пуні, гладзінькій, будзіць к Новыму году свыя скварка. Узмацн.* **кабанюга.** *У Кіреівых здаровый кыбаню́га, к свадзьбі сыбіраюцца біць. Павеліч.* **кабанішча.** *Во купі такога кыбані́шчу і за год сала ні пыясі.*

**Кабась-кабась** *выкл.* Выгук для падклікання кормнага вепрука. *Кыба́сь-кыба́сь, бягі есьць.*

**Кабаська, кабасёк** *м. ласк.* Вяпрук. *Харошынькій кыба́ська, сальца будзіць. Гадуіцца кыбасёк, няплоха есьць.*

**Кабыла** *ж.* Кабыла. *Памянш.* **кабылка.** *Зневаж.* **кабылёнка.** *Помню, была ў яго рыжынькыя кыбылёнка, вешна ныхрамывыла. Пахв.* **кабыліца.** *Бувала, зыпрягець сваю буланыю кыбылі́цу, свата пасодзіць і коцюць, пад ёю зімля стогніць. Павеліч.* **кабылюга, кабылішча.** *Буланыя была здаровыя кыбылю́га, любэй воз візла і ўсё жырябочыкыў жырябіла. Ці помніш ты Мільлянёнка, усё ны такой здаровый кабы́лішчы езьдзіў, с Пачынык пыдріджаўся тывар у горыд вазіць. Во была кыбылі́шча!*

**Каверчыць** *незак.* Круціць, выкручваць. *Пі бабок, ня будзіць так пальцы каверчыць.* **Каверчыцца** *незак.* Круціцца, скручвацца. *Быльшая жарішча тэй год стыяла, лісьця ны дзірівах каверчылыся.*

**Кавыранне, кавяранне** *н.* Калупанне, порканне. *Вазьмі булку ў рукі ды атреж як нада, ато дам с кывыра́ньнім, пыкрімса́іш як зря. Пірістань с кывіра́ньнім, і так усе сьцены аблупіліся.*

**Кавярза** 1 *ж.* Нязграбна зробленая рэч. *Айт, кывярзу́ такую купляць — луччы ўжо біс кашолкі.* 2 *м.* і *ж. метаф.* Няўмелая, няздатная асоба. *Такей кывірза́, пляцень зыгырадзіць ня ўмеіць. Ці кывірза́ табе кросны як нада пыставіць, ці выткіць што?*

**Кавярзень** 1 *м.* Нязграбна сплеценая рэч (звыч. лапаць). *Ма́лыя мы ня ўмелі плесьць, самі скывірза́ім кывярзьні і ходзім. Ні карзінка, а кывярзень нейкій, як ні рукамі плеціна.* 2 *м.* і *ж. метаф.* Няўмелая, няздатная асоба. *Во яшчэ кывярзень пупаўся бабі, зь ім ні ў пір ні ў вір ня дзьвініська.*

**Кавярнуць** *зак.* 1. Няўмела калупнуць, капануць, скрануць з месца. *Кывярну́лі троху, глуты́рі ліжаць. Бірнушко кывярну́лі, яно й пыкаціліся.* 2 *перан.* Зняць з пасады. *Доўга Мыцьвяёнык дзіржаўся, а во й яго кывярну́лі далоў.* **Кавярнуцца** *зак.* Скрануцца, зрушыцца, кульнуцца. *Так усё рызбалелыся, кывірну́цца ні магу, нешта ні ныціраньня ні пымыгаіць, ні ад бані лу́ччыньня німа. Будзіць балывыцца, балывыцца, як кывірнецца аб жардзіну гылавою!* **Кавярнутый** *дзеепрым.* Скрануты з месца. *Тама ёсьць кывярну́тыя камушкі, пыднясі пару штук, а зь лёду высікаць ні нада.*

**Каенчыцца** *незак.* Мучыцца, пакутаваць. *Аппечыныя дужа трудна зыжываіць, доўга будзіш каенчыцца.*

**Кажанёнак** *м. перан.* Бруднае, закарэлае, маларослае дзіця. *Такей ужо стаў кыжанёнык, зыкареў, як яго дамыцца.*

**Кажурынне** *н. зб.* Кавалкі скуры. *Ні знаю, ці выбіріш чаго-небудзь зь естыга кужуріньня, пыглядзі.*

**Кажушына** *ж.* Аўчына, кавалак аўчыны. *У мяне во вылялыся кужушы́на, я пулушубык пылапіла, ну рукаве дзірька прырвалыся. Памянш.* **кажушынка.** *Тута цэлый мяшок усякыга бырыхла, і кужушы́нкі найдуцца.*

**Казелька** *м. жарт.* 1. Казёл. *Я іду і йду, а казелька як пагоніцца за мною, я прыг ціріс кынаву.* 2. Грыб масляк. *Пы сасоньнічку казелькі дужа пракінуліся, мыладзенічкія, і зваріць хырашо, і пыджжаріць.*

**Казырыцца** *незак.* Ісці (пра казырныя карты). *Во як табе сяньня хырашо кызыріцца, адны козырі ў руке. Ня буду дзівіцца, ніхай кызыріцца.*

**Какарэчанне** *н.* Пагнутыя, пакручаныя рэчы. *Трошку с кыкаречыньня нывыбіраю на печку ды прытаплю, прістаўлю гаршчонычык чаго.*

**Какарэчыць** *незак.* Гнуць, круціць, ламаць. *Нашто табе ету лазу кыкаречыць? Мяне цэлыю восінь кыкаречыла ўсяго, хату піряйціць ня мог.* **Какарэчыцца** *незак.* Гнуцца. *Табе ішчэ рана так кыкаречыцца.* **Какарэчаный** *дзеепрым. На нейкіх санкых трактырым прівязьлі такога ўжо кыкаречыныга хлузу, што к яму ні пуцступіцца.*

**Калбасіць** *незак. жарг.* Выкрунтасіць, вычвараць. *Ды мы відзілі, як яны кылбасілі ўчора. Ішоў тута па вуліцы, кылбасіў, некуды ў тэй бок пыдаўся, пыд Лісяёнкывых.*

**Калдыбацца** *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* калдыбаць. *Ну што табе, трошку сь кіёчыкым калды́быіцца? Як яно кылдыба́іцца, усё ні праходзіць ныга?*

**Калена** *н. перан.* Вузел на сцябле злакавых раслін. *У нас етыя як вузялкі на жыці, ны пышаніцы, ячменю завуць калена, а ўжо на лёні, ны каноплíх калена німа.*

**Калошка** *ж.* 1. Маленькі галёш. *Пыднімі калошку, ні кідай айдзе зря.* 2. *Памянш. ад* калашына (штаноў). *Штонікі яму дліннува́ціньκі, калошкі нада пудрубіць.*

**Калошык** *м.* Маленькі галёш. *Пы сьнягу бегыў і нейдзі пыціряў калошык, с адным явіўся.*

**Калупаць** *незак. гумар.* 1 *перан.* Няўмела плесці. *Вот сядзіць, трошку кулупа́іць карзінку.* 2 *метаф.* Здабываць (звыч. грошы). *Ён выта́ркывыцца ныпярёд ня любіць, паціхіньку кулупаіць капейчыну.* **Калупнуць** *зак.* 1. Крануць, праверыць. *Усё горла драў, што луччы ўсіх работыіць, а другея нічога ня стоюць, а як сымаго кулупну́лі — пунька набіта калхозным лёным.* 2. Здабыць (звыч. грошы). *Пыработылі яны лета крепка, зато і грошы кулупну́лі будзь здароў.*

**Калхозніцкій** *прым.* Калгасніцкі. *Атаву будуць дзяліць ны калхозьніцкіх кароў. Жыта сяньня сеюць зы калхозьніцкімі участкымі.*

**Кальчэнне** *н.* Знаходжанне на холадзе. *Глядзі, такоя кальчэньня бокым вылазіць, застудзіш усё ў сярёдку і будзіш кычацца.*

**Каляк** *м.* Кол. *Кыля́к дубовый нада зыцісаць дый зыгнаць глубока, каб пырысяты ні пыткыпалі.*

**Калянэй** *прым.* Цвёрды, нягнуткі. *Вярёўкі нымяклі, кылянэя сталі. Пысканьніна, як мокрыя, кылíна́я дзелыіцца.*

**Камаш** *м.*, **камаша, камашына** *ж.* Самаробны галёш. *У мяне нывярьху і січас адзін кымáш выляіцца. Во тута адна стáрыя кымáша ёсьць, у горыдзі такея куплялі, самі ў нас ніхто ня клеіў. У клыдавýшычкі каб пыглядзеў, тама, верна, і січас кымáшыны ліжаць. Памянш.* **камашык, камашка, камашынка.** *Іван мальцым паклеіў кымáшыкі, і яны два гады бегылі ў іх. Кымáшкі глубокінькія, у іх вады ні ныбяреш. Калош хвабрішных тады ні було, дык некытырыя кымáшынкі самі клеілі.*

**Камком** *прысл.* Камяком. *Мокрыю адзёжу камком ні кідай ні разу, разьвесь, каб прасохла.*

**Камсанне, комсанне, кэмсанне** *н.* 1. Пханне камяком, камячанне. *На што ж етыя рубахі станиць пахожы посьлі такога кымсáньня. Ну хто тваё комсыньня будзіць выгладжывыць, сам глядзі. Пірістань с кэмсыньнім, я сам складу як нада.* 2. Адзяванне звыш меры. *Лішніга кымсáньня я ні люблю, надзенься, каб цёпла було, і ладна. Такоя комсыньня нічога ні дасьць, толька скарей праступзіцца дзіцёнык. Нашто ны дзіцёнка столька кэмсыньня, ён спаріцца.* 3 *перан.* Яда. *Пыглядзі на іх кымсáньня: пылажы сьвежыю буханку ны дваіх, і ўвамнуць бізь нічога. Гляджу я ны яго комсыньня: сколька б ён уклаў у сябе. Ці відзіш іх кэмсыньня,— сколька яны могуць зьесьць!* 4 *перан.* Тузанне, біццё. *Во, дужа такей балыўнік спужаіцца твайго кымсáньня. Як ён выглідаіць посьлі ўчыращніга комсыньня? Ніхай ня думыюць, ніхто іхніга кэмсыньня ні баіцца.*

**Камсаць, камсіць, комсаць, кэмсаць** *незак.* 1. Камячыць, мяць. *Расьсердзілыся: пайду — і дывай кымсáць у мяшок сваё тряхольля. Дос вам камсіць ету пасьцель, як мутузы вазьму, яй-богу, я вас уніму. Комсыіць пыць сябе пасьцілкі, памнець іх, пыгáдзіць. Харошыю адзежу кэмсыюць як зря.* 2. Адзяваць звыш меры. *Ні нада столька кымсáць ны сябе, ты як куль, ні паверніська. Камсіць ны сябе і кохтычкі, і жакетку, і яшчэ нешта. Лішніга ня комсый, ты ні паверніська і спарісься. Я гляджу, сколька іна кэмсыіць ны сябе тріп'я ўсякыга.* 3 *перан.* Есці. *Кымсáіць булку сьвежыю, аж нос гнецца. Ён камсіць усё пыдряд, ніпіряборлівый хлапчы́нка. Во такую ськібішчу ад булкі атваліць, ходзіць і комсыіць. Кэмсыіць сухей хлеб бізь нічога.* 4 *перан.* Тузаць, біць. *Сколька ні кымсáй, ён ні пыкаіцца. За што яго камсілі? — зу дуры́ зы яго. Як узяліся яго кучыю комсыць, чуць вырвыўся. Яны як возьмуцца кэмсыць, ня дужа выкруцісься, яны гурь-*

*бою.* **Камсацца, камсіцца, комсацца, кэмсацца** *незак.* 1. Камячыцца, мяцца. *Кучыю кылі кініш, усякыя адзежына кымсáіцца, вешыць нада. У цябе ўсё пыдряд камсіцца. Таго комсыіцца, што бярежч ня ўмеіш. Каб плацьця ня кэмсылыся, прібіраць нада.* 2. Адзявацца звыш меры. *Як станіць ужо кымсáцца, што б ён ны сябе толька ўсьпёр. Можа, табе хваціць камсіцца, я ж цябе варочыць ня буду. Нашто комсыцца, каб ні пывярнуцца, дваццыць мінут пройдзіш і рызапреіш. Пакуля яны кэмсыюцца, можна пяць разоў туды і ызад сходзіць, іх трудна дыждацца.* 3. Таўчыся. *А чаго яшчэ табе ў той кучы кымсáцца? Кымсяцца адзін па дном. Комсыліся тама кучыю, я ні стаў пытхадзіць. Ня лезь ты сюда кэмсыцца, пыдажджы на вуліцы.* **Камсануць, камшануць** *зак.* Штурхнуць, ударыць. *Во кымсанýць раз ды другей, ты й атлезіш, дуры́ твае айдзе прыпадуць. Кымшанýў ба яго аць сябе, каб носым пыляцеў.* **Камсаный, комсаный** *дзеепрым.* 1. Камячаны, мяты. *Пінжачэнка кымсáный, бяз ґузікыў — ідзець хлюст. Такога комсыныга ны сябе ні надзеніш.* 2. Тузаны, біты. *Трошку кымсáный, ніхай сам пыхваліцца. Мы знаім, што комсыный аттуля пашоў, дзеўкі лідагоськія гыварілі.* **Камсень** *выкл.* Пра штуршок, удар. *Пыдыйшла ды камсень яго ў плечы: пыра двору зьбірацца, а ён ба ішчэ доўга сядзеў, рузмундыкывыў.*

**Камшыць** *незак.* 1. Пхаць, засоўваць камяком. *Камшыць у зыпазыху хустычку, каб ні зывязывыць.* 2. Біць, таўчы, тузаць. *Ці вы Міцю тама камшылі, ці каго другога?* **Камшыцца** *незак.* Засоўвацца камяком, камячыцца. *Што ў цябе, ужо ні камшыцца усё ў сундуку, другей купляць нада?*

**Камшэнне** *н.* 1. Пханне камяком, камячанне. *Ну разьві ж так складывыюць, пылядзі ты ны яе камшэньня.* 2. Біццё, тузанне. *Троху пыпішчэў посьлі камшэньня, а тады ўзноў зы сваё балыўства ўзяўся.*

**Канархала** *звыч. м. неадабр.* Дакучлівая асоба. *Кылі хочыш, к нам етый кынархыла заверніць.*

**Канёў** *прым.* Такі, які належыць каню, мае да яго адносіны. *У кутушку ліжала канёва сена. У яго пряма канёва сіла, зы аглоблі ўсьцягнуў воз у прыкавýліну.*

**Каніца, канішча** *м.* Вельмі добры конь. *Што зы каніца быў, і ціхій, і спакойный, мульчугана пашлеш — ён зловіцца, а воз якей ні ўскладзеш, цягніць. Во канішча, ета ні нашыя пароды, атнекуль прігнат, любую калоду ны такім прівязеш.*

**Канун** *м.* Рытуальная страва на памінках пасля пахавання. *Кану́н ны хаўтурых первыя дзела, яго ўсігда варілі с кашы пышанішныя, а можна і булку рыскрышыць у салодкыю заду.*

**Канхветнік** *м.* Ахвотнік да цукерак. *Я ўжо сыма ні знаю, па ком яны зыдаліся, такея канхветнікі. Памянш.* **канхветнічак.** *Купі ўжо свайму канхветнічку чаго-небудзь, ён аж пря́гніць.* **Канхветніца** *ж. Во канхветніца, большы ёй нічога ні дывай, адными канхветымі кармі.*

**Капалка** *ж.* 1 *жарт.* Рыдлёўка. *Максім ба кыпаў, каб зы яго хто-небудзь кыпа́лку дзіржаў.* 2. Бульбакапалка. *Поля бальшоя, зразу чатыры кыпа́лкі ходзюць і выбіраюць бульбу наверьх, толька ідзі ўсьлед і пыдбірай.*

**Капуснік** *м. жарт.* Ахвотнік да стравы з капусты. *Па дзеду пашоў капу́сьнік, таму тожа, бувала, міску нальлеш, ён зьесьць і пыдлівай.* **Капусніца** *ж. Сяньня я сваю капу́сьніцу смашна ныкармлю, ато ўчора крупені есьць саўсім ні хацела.*

**Капусный** *прым.* Прызначаны для капусты. *У нас усё ўремя було капу́сныя карыта, капусту пысякеш, яго памыіш, ны балькі пыставіш, і яно чысьцінькыя стаіць.*

**Капчэннік** *м.* Той, хто вэндзіць. *Капчэньнік наш даволін, харошыя кылбыса пулучылыся.* **Капчэнніца** *ж. Ікая ні капчэньніца, а няплоха пулучылыся, іна лі старога прілумалыся капціць.*

**Капыціць** *незак. метаф. жарт.* Бегчы. *Куды ты капы́ціш? Капы́цюць ад бабы радыя, пулучылі пы канхвеціні.*

**Капыцце** *н. зб.* Капыты. *Пабеглі яны тады ў лес — німа жарёбкі, адно капы́цьця выляіцца.*

**Каравіць** *незак. перан.* Бэсціць, зневажаць. *Табе каб толька чылавека кырявіць, што ў цябе зы прівычка тыкая ўелыся.*

**Карасканне** *н.* Узлязанне з вялікай цяжкасцю. *Глядзі, ато ета кыра́скыньня ды дыбра ні дывядзець, будзіць поўзьць, поўзьць, а тады абарьвецца ды різанецца наўзныч, што ні ўстаніць.*

**Караціцца** *незак.* Рабіцца карацей. *Сікані зразу палку як у печ укінуць, а кусочыкымі яно ў цябе будзіць пуўдня кыраці́цца.* **Карацёмшы** *дзеепрысл. Нада прімеріць ды, можа, і два, і трі разы, а так кырацёмшы дыкароцісься, што толька ў печ палку ўкініш.*

**Каркавяк** *м.* Кракавяк. *У нас кыркывя́к усе ўмелі скыкаць. Турык, немiц і пыляк тынцывалі кыркывя́к, турык немцу зыдаў перцу, немiц турку сыдраў шкурку.*

**Карканнік** *м. неадабр.* Той, хто спрабуе прадказваць. *Тожа мне ка́ркыньнік, дужа ты знаіш, ці ўжывўць яны, ці ні ўжывуць.* **Карканніца** *ж. А ні каркый ты, ка́ркыньніца, дужа ты многа знаіш, як у яго палучыцца.*

**Кароза** *м.* і *ж.* Упартая і капрызная асоба. *Ішчэ якей быў карёза, ты яго мала знаіш. С такою карёзыю ня дужа згаворісься.*

**Карознічаць** *незак.* Упарціцца і капрызіць. *Змалку ні прівукай карёзьнічыць, ета саўсім нікрасіва.*

**Кароўкін** *прым. памянш.-ласк.* Каровін (у размове з дзецьмі). *Ні чыпай, дзетка, кароўкіну траўку, кароўка пад'есьць і мылычка дасьць.*

**Карсак** *м. жарг. гумар.* Жывот. *Ны работу ня дужа пытхвацін, глядзіць, каб скарей кырса́к набіць.*

**Картавешка** *ж.* Картавая жанчына. *Была ў яго нейкыя кыртавешка, я помню як ува сьне. Памянш.* **картавешачка**. *Нашто вам ету кыртавешычку трогыць, вы ж бальшэя мальцы.*

**Карузлівый** *прым.* 1. Карузлы. *Карю́зьлівыя нейкія пырысяткі бегыюць, ня дужа зь іх сала дажджэсься.* 2 *перан.* Упарты. *Есьлі ўжо зырадзіўся карю́зьлівый, ён да веку такей будзіць.*

**Карэбканне** *н.* Узлязанне няўмелае. *Пыглядзі ты ны яго карэбкыньня, ремінь на ногі і палез, а там жа гладка.* 2 *перан.* Выбаўленне. *Ці палучыцца што зь яго карэбкыньня, крепка ўлез.*

**Карэбкацца** *незак.* 1. Лезці, узлязаць няўмела. *Малый, а ўсё роўна карэбкыіцца, каб і яму узьлезьць.* 2 *перан.* Выбаўляцца. *Некуды ўжо яму карэбкыцца, ніхай сядзіць у зяця, пакуль сядзіцца.*

**Касіна** *ж.* Касізна. *Рубілі, рубілі, агледзіліся — ладныя кысіна́ ў адном вуглу — і ні пірядзелыіш, ні пірярубіш нызад.*

**Кастаед** *м.* Кастаеда, хвароба касцей. *У Мыланкі ў пальцых быў кыстаед, што ўжо мучыў яе гадоў сколька.*

**Кастрына** *ж.* Адна трэска кастры. *Кастрі́ныю кыляне́ш у вока, ныбаліцца. Памянш.* **кастрынка.** *Прібіраіць усігда посьлі сябе чыста, нійдзе кастрінкі ня кініць.*

**Кастылянне** *н.* Біццё. *Ты с кыстыля́ньнім дужа ні насіся, адзін быў такей храбрый, дык сымаму ныкыстылялі шыю, аж дзівіўся.*

**Касэй, касый** *прым.* Касы. *Касэй заіц нанёс я́іц, вывіў дзяцей, касых чарцей (дражнілка). Памянш.* **касенькій, касенечкій.** *У яе мужык троху касенькій, як прігледзісь-*

*ся, дык ладна заметна. Ах, якоя горя ў Шуркіныя дачкі: касенічкыя дзяўчонычка радзілыся, абрышчаюцца ґ дыктырам, ці памогуць што, ці не. Павеліч.* **касенный.** *Касенный мушчына, адно вока пряма служыць, а другоя ў бок глядзіць.*

**Катарг** *м.* Катар (страўніка). *Столька гадоў кáтыргым балела, а тады Буганёк яе вылічыў.*

**Катком** *прысл.* Перакочваючы. *Як турну, ты катком ат'етуль пакоцісься. Пакуля пыскатывыў катком бярьвеньня адзін, убіўся, каб удваіх, многа ляхчэй ба.*

**Катнуць** *зак.* Пакаціць. *Я так ня ўмею каток катнýць, у цябе луччы пулучаіцца.* **Катнуцца** *зак.* Пакаціцца. *Глядзі зы мáлым: катнецца і ўдаріцца аб мост.*

**Каўзун** *м.* Ахвотнік да коўзання. *Як троху падмерзьніць, куўзуны і пашлі па льду, хто ны кыньках, хто ны жалезкых, а каторый ны ныгáх, вобуў парвуць. Памянш.* **каўзунок, каўзунчык.** *Ну як ты, куўзунок, наезьдзіўся? Прібег наш каўзýнчык, рызагреўся, шчочкі аж гыряць.* **Каўзуння, каўзуха** *ж. Пабеглі нашы каўзýньні с кынькамі, яны езьдзіюць як мальцы, як вецір носюцца. Крікніка, ніхай тая каўзýха хуць ідзець пыабедыіць, ато зугульнёю і пад'есьць некылі.*

**Каўка** *ж.* Кошка (у размове з дзецьмі). *Кáўка наша замёрзла, просіцца ў хату, нада аччыніць, ніхай пагреіцца. Памянш.* **кавачка.** *Кáвычка лашчыцца, хочыць, каб пыґладзілі.*

**Каўкін** *прым.* Кошкін (у размове з дзецьмі). *Тама ў вугольчыку кáўкіны дзеткі ліжаць, мáлінькія-малінькія.*

**Каўрыга, каўрыжына** *ж.* Вялікі бясформенны кавалак. *Каўрігі пызасохлі, іх быраною ні рысскародзіш, пырызьбіваць нада. Відзіў, ікая там каўріжына ляжыць за пунію? Памянш.* **каўрыжка, каўрыжынка.** *Я трошку біў, ну каўріжкі ішчэ асталісь. Кой-айдзе каўріжынкі па бульбі ліжаць. Павеліч.* **каўрыжышча.** *Тама каўріжышчы ныварочыны трактырым у рост чылавека.* **Каўрыжжа** *н. зб. Узьвернута пряма адно каўріжжа пы ўсяму полю.*

**Каханне** *н.* Цяжкія ўдары. *Што кылі тута сук ну суку, ніякыя кáхыньня ні паможыць, разьві піріпіліць толька.*

**Кахаць** *незак.* Цяжка біць, ударaць. *Як стаў кáхыць палена кулуном, нябось, пыдалося, ні глядзі, што сукуватыя.* **Кахацца** *незак.* Ударацца. *Калі ня йду, кажын раз кáхыюся аб етый сук.*

**Кахікаць** *незак.* Ціха кашляць. *Будзіць кахíкыць,*

*кахікыць і саўсім зьляжыць, зь лёхкімі шуткі шуціць нілізя.* **Кахікацца** *незак.* Ціха кашляцца. *Як табе тута кахікыіцца? — На печы сядзеўшы ішчэ будзіць кахікыцца, ета ні лі вазоў зь вілкымі дзень прі дні стыяць.* **Кахікнуць** *зак.* Ціха кашлянуць. *Калі ўжо трошку кахікнуў, дык іна пряма ні знаіць, што зь ім дзелыць, трясецца над ім.* **Кахікнуцца** *зак.* Ціха кашлянуцца. *Калі яму раз кахікнулыся, дык, думыіш, ён саўсім прыпаў,— ні трясіся так, у яго мядзьведжыя сіла.*

**Кахленне** *н.* Моцнае напальванне. *У цябе грубычка можыць рызваліцца ат такога ка́хліньня.*

**Кахліцца** *незак.* Моцна награвацца. *У вас печ ка́хліцца цэлый дзень. Зраньня нічога, а к вечыру як пычанець гылыва ка́хліцца, тыкая боль, што ня выдзіржыць.*

**Кацалапый** *прым.* З ампутаванымі пальцамі, без пальцаў. *За ёю доўга нейкій кыцыла́пый бегыў, усё ўгыварівыў замуж, ні дываў збыту. Пы сваёй дурысьці пыціряў пальцы, астаўся кыцыла́пый. Памянш.* **кацалапенькій.** *Ці ты забыла свайго кыцыла́пінькыга?*

**Каценная** *прым.* Котная (пра авечку, кошку). *Каценныю аўцу ніхто ня режыць. Нідаўна тых кыцінят пызыкідала, дык ужо ўзноў каценныя, ці ні двынаццыць сядзіць у етый кошкі.*

**Каценне** *н.* Акот, прывядзенне ягнят (пра авечку). *Нешта авечка нівясёлыя нейкыя посьлі каценьня, дай-ка ты ёй поіла цёплыга.*

**Каціць** 1 *зак.* Бадзёра ісці, ехаць. *Коцюць учора пад вечыр утраіх — госьці явіліся.* 2 *незак., зак.* Прыводзіць (прывесці) ягнят (пра авечку). *Чорныя аўца ўсігда парычку каціла. Трёх авец кінуў на́ зіму, як коцюць пы пары, цэлый табун будзіць.* **Каціцца** 1 *незак., зак.* Прыводзіць (прывесці) ягнят (пра авечку). *Ста́рый аўцэ пріішло ўремя каціцца. Ні сяньня — заўтря аўца коціцца, ходзіць як гыра.* 2 *зак.* З'явіцца на свет (пра ягня). *Етыя быранчыкі ны масьлінку каціліся, ужо марозы троху апалі.* **Кацёмшы** *дзеепрысл.* 1. Коцячы, рухаючы котам. *Кацёмшы ўскоціш, а ня трогыўшы, будзіць ліжаць на месьці.* 2. Прывёўшы ягнят (пра авечку). *Раз кацёмшы, то ў поля ні пагоніш.*

**Кацяненне** *н.* Прывядзенне кацянят (пра кошку). *Я ёй пыкажу кыцяненьня ўмесьці зь яе кыцінятымі, ета ж нада ныйшла места за коміным.*

**Кацяніць** *незак., зак.* Прыводзіць (прывесці) кацянят. *Ну што я зь імі буду дзелыць, узноў чытырёх кыцяніла,*

*і дзеці ні даюць закінуць, як я к кыцінятым, яны ў крік.*

**Кацяняччый** *прым.* Такі, які адносіцца да кацяняці, прызначаны для кацяняці. *У вугольчыку кыцінячччыя пасьцель, ні рысьскідай. Кыцінячччыя банычка закінулыся і німа, не ўвы шта наліць.*

**Кацяччый** *прым.* Каціны. *Ці ня відзіў ты кыцяччыя місычкі? Пыц скамеічкыю кыцяччыя іда.*

**Качаннік** *м.* Той, хто качаецца, качае. *Я вас нықычаю, кычаньнікі, чыстыя рубашычкі пызадзелыіця ў зелінь. Зымаріліся нашы кычаньнікі, аддыхаюць.* **Качанніца** *ж.* *Вазьмі-ка ты сыма пыкычай сарочку, ато ета кычаньніца нықычаіць.*

**Качарожыць** *незак.* Гнуць, круціць. *Нешта цябе сяньня ўжо саўсім кычарёжыць, нійдзе ты сабе места ні найдзіш.* **Качарожыцца** *незак.* 1. Сохнуць і скручвацца (пра лісце). *Сухмень, дык і лісьця кычарёжыцца.* 2. Згінацца ў пакутах. *Учора цэлый вечыр кычарёжылыся на печы, нешта хваціла дужа.*

**Качарэжыцца** *незак. метаф.* Мучыцца, пакутаваць. *У яго дужа сьпіна быльная, то нічога, а то разым хваціць, кычарежыцца ён, кычарежыцца, места сабе ні находзіць.*

**Качаць** *незак. перан.* 1. Згортваць у кучкі (скошаную грэчку, віку). *Раншы ўсігда грячыху кычалі ў бабкі, пыляжыць скошыныя, пацсохніць і кычаюць.* 2. Гадаваць, укормліваць. *Ладныга кыбанчыка кычаюць, піряд Новым годым, кызалі, біць будуць.* **Качацца** *незак.* Згортвацца ў кучкі (пра скошаную грэчку, віку). *Граблі ні так дзяржыш, таго й ні кычаіцца.*

**Качурыцца** *незак.* Затлумлівацца, учаджваць. *Чаго вам сядзець тут, качуріцца, выйдзіця на вольный воздух ды пысядзіця.*

**Качэнне** *н.* Ускочванне. *На ногі адзін другому ускоціця цяльпух і пытріцё ногі, во што будзіць з вашыга качэньня.*

**Кашаленне** *н. метаф.* Вялікая цесната ад мноства народа. *Тут ба такоя кышаленьня ні нада, цісныта — ні шывяльнуцца нійдзе.*

**Кашамірка, кашаміроўка** *ж.* Хустка з кашаміру. *Ну, кышамірка — дыбрячыя хустка, праўда, дырыгая. Купіў сваёй кышымірёўку, за сколька гадоў рызагнуўся.*

**Кашкет** *м.* Вяртлявы хлапчук, гарэза. *Во кашкет урадзіўся, ні мінуты яму спакою нійдзе німа. Памянш.* **кашкецік.** *Ну каб мне етыга кашкеціка пыймаць, я б яго пы-*

*садзіў у крапіву. Узмацн.* **кашкеціна.** *Такей жа кашкеціна ніпаседлівый, січас ён тут, цірізь мінуту, глядзіш, па вільчыку гоцыіць. Павеліч.* **кашкецішча.** *Зыдайся кашкецішча, ні разу такога балыўніка ня відзіў.*

**Кашляннік** *м.* Той, хто кашляе. *Сядзіць мой кышля́ньнік на печы, ногі зьвесіўшы, пацстыў крепка.* **Кашлянніца** *ж. Во рысьпірьха́лыся кышля́ньніца, ні ўняць, вады халодныя хва́ціць, а тады бу́хыіць як у бочку.*

**Кашчаватый** *прым.* Хударлявы. *Хлёсткій мужык, кышчыва́тый, нікому ні пыддаецца. Памянш.* **кашчаваценькій.** *Я помню Хадоску, у яе ішчэ такей кышчыва́цінькій хлапчынка бегыў, гадоў пітнаццыць було.*

**Кашэннік** *м.* Касец. *Скора нашы кашэньнікі пыд'явюцца зайтрікыць.* **Кашэнніца** *ж. Зь мяне ніплыхая кашэньніца: усаджу касу ў зямлю і ня выню.*

**Кашэччый** *прым.* Кашачы. *Якей табе заіц, заіц нівісь як прыгыіць, чаго заіц лі пуні будзіць круціцца, ета кашэччыя сьляды.*

**Квактун** *м. жарт.* Той, хто стогне. *Ня хочыць мой квакту́н ужо і сь печы злазіць, пыдывай яму туды міску.* **Квактуха, квактуння** *ж. Чаго ты, кваку́ха, усё квокчыш, зьлезь-ка во, пысядзім, пыгамонім, рыскажы, што тваe хлопцы пішуць. Ляжыць наша квакту́ньня, ні пыдымаіцца, нада, знаць, везьць у бальніцу.*

**Квакун** *м. гумар.* Гаваркі чалавек. *Антоніхін кваку́н як рыстырыба́ніўся, ні піряслухыць було, усё пры сваё гіройства рысказывыў.* **Квакуння** *ж. Во яшчэ хто нысты-яшчыя кваку́ньня, усё будзіць сыкытаць і сыкытаць, усіх пыдряд пірібярець, нікога ні прапусьціць.*

**Квасіць** *незак. перан.* Гнаіць. *Нечыга ква́сіць столька бульбы, ніхай пыляжыць пару дней і пірібярём, а так іна на гной возьміцца.*

**Квокша** *ж.* Квактуха. *Нікуды ты ня пойдзіш, будзіш квокшу пасьвіць. Памянш.* **квокшачка, квокшанька.** *Ета Матруна ўсё бегыла: айдзе квокшычка мыя? Квокшыньку нада ныкарміць, іна дайно пыдзь дзьвірямі кохыіць.*

**Квэцаннік** *м.* Пэцкаль. *Такей ужо квэцыньнік, сам знаіць, што лі посыду нада глядзець ды глядзець, дык натопчыць, ныгадзіць кругом, ні к чаму ні пуцступіцца.* **Квэцанніца** *ж. Як возьміцца квэцыньніца ета, ня столька ўбярець, сколька грязь пырызварзёкыіць.*

**Кехаць** *незак. перан.* Патрэскваць. *Нешта іна кехыіць, ета лесьвічка, каб ня треснула, пыгріміш тады с крышы ні далешшы.*

**Кідацца** *незак. метаф.* Пагарджаць, адмаўляць ва ўвазе. *Што ты кідаісься такім хлопцым, айдзе табе луччый найдзіцца.*

**Кідком** *прысл.* Кідаючы. *Нашто цягнуць, скажы Толіку, ён табе ету ношку кідком уськініць.*

**Кілбаснік** *м.* Ахвотнік да каўбас. *Кілбасьнікі вы ніплахея, толька самім ны кілбасы зырыбатывыць мутырна, глідзіцё, каб бацька заробіў.* **Кілбасніца** *ж. Ну як я січас пайду, відзіш, нада сваю кілбасьніцу ныкарміць, буду жаріць, іна ўжо даўно віхліць.*

**Кімарыць** *незак. жарг. жарт.* Драмаць. *Некылі кімаріць, зьбірацца нада, ўжо мыжары запрежыны.*

**Кірарэць** *незак.* Карэць. *Там ба жыла панію, ніякыга б горя ні знала, а тут кіряреіць у грязі нямытыя.*

**Кірмашнік** *м. жарт.* Ахвотнік пагуляць. *Піліпывы хлопцы такея ўжо былі кірмашнікі, нійдзе гулянкі ні прупускалі.* **Кірмашніца** *ж. Аўдоткіна матка сваіх кірмашніц унімала, дзіржала іх у строгысьці.*

**Кірмашнічанне** *н.* Гульня. *Нешта зутужыў твой Васіль посьлі кірмашнічыньня.*

**Кірмашнічаць** *незак.* Гуляць (як на кірмашы). *Вы, знаць, луччы ўсіх умелі кірмашнічыць, усё выплясывылі ны Зяціцкім масту пыд былылаічку.*

**Кірмашовый** 1 *прым.* Прысвечаны гадавому традыцыйнаму святу. *У нас ого якея кірмашовыя гулянкі былі. Кірмашовыю адзёжу сваю кінуў, ні прібраў.* 2 *м.* Ахвотнік пагуляць. *Мой кірмашовый пыд раньня явіўся, хто яго знаіць, айдзе ён быў. Нада табе свайго кірмашовыга троху ўнімаць.*

**Кірпаносік, кірпацік** *м.* Кірпаносы чалавек. *Кірпаносік во такей нівісокінькій, помніш, прібігаў гуляць к Стыхванывым, дык відзіла яго ўчора, ахвіцэр, ж жонкыю рысхаджывыўся па горыду. Кірпацік твой ціряшчур зыдывацца стаў, так вісока сябе нясець, што кукішым носа ні дыстаніш.* **Кірпаноска, кірпатка** *ж. Глядзі, глядзі сваю кірпаноску, упусьціш, хлопцы мазылыўскія так і круцюцца лі яе. Ня будзіць твыя кірпатка нікога ждаць, во паедзіш, і йна цірязь месіц замуж выскычыць.*

**Кірпічча** *н. зб.* Цэгла. *У яго ні на печ, у яго на трі печы кірьпічча, яно пыгніло б даўно, каб гніло.*

**Кірпішня, кірпішная** *ж.* Цагельня. *Старік мой паехыў ны кірьпішню, каторыя пыра, а яго ўсё німа і німа, каб айдзе каток ні пулумаўся. Бягі пряма, кылы кірьпішный сьцёжычка ёсьць, і ты выбігіш ны быльшак.*

**Кірэчанне** *н.* Раскірэчванне. *Я табе дам кіречыньня, дыганю ды пруціка, пруціка.*

**Кірэчыцца** *незак.* Раскірэчвацца. *Балыіцца і балыіцца, во чаго ты кіречысься, так жа нікрасіва стыяць.*

**Кіславокій** *прым. абразл.* З хворымі вачамі. *Кіславокіх тута толька ні хвытала, ніхай вун ідуць ґ Гыўрілёнкывым. Памянш.* **кіславокенькій.** *Айт, ікая там нявеста, нейкыя кіславокінькыя дзяўчонка ходзіць.*

**Кіслагубый** *прым. абразл.* Макрагубы. *Ні хвытала нам вашыга кіслагýбыга ўстрічаць, самі зь ім вазіціся. Памянш.* **кіслагубенькій.** *Ідзі ўжо, ідзі, свайго кіслагýбінькыга абнімай.*

**Кісламордый** *прым. абразл.* З непрыемным тварам. *Ну ўжо с такім кісламордым зьвязывыцца — зь ім жа на людзі няўдобна выйціць. Памянш.* **кісламордзенькій.** *Дычка тыкая самыя кісламордзінькыя, як сыма, усё пріродзьдзя Цітыва.*

**Кісланосый** *прым. абразл.* З мокрым носам. *Сыўчанок такей самый кісланосый быў, як ты, усё сморьгыў к сабе. Памянш.* **кісланосенькій.** *Такому кісланосінькыму кісланосінькыя і сойдзіць, сам ішчэ ні наўчыўся нос выцірацъ.*

**Кісларотый** *прым. абразл.* З мокрымі губамі. *Ён быў пырядышный хлопіц, усё кісларотый хадзіў, зь ім дзеўкі дайжа скыкаць ні хацелі. Памянш.* **кісларощенькій.** *Хто ў цябе кісларощінькій, сам ны сябе пыглядзі луччы.*

**Кіснуць** *незак. перан.* 1. Нястрымана прыцішана смяяцца. *Учора увесь вечыр тут кісьлі, аж зыхадзіліся, нешта ўсё зічычань пыміналі.* 2. Плакаць стоена. *Чаго іна кісьніць, якоя ў яе горя?*

**Кіўканне** *н.* Мяўканне. *Псік с тваім кіўкыньнім, ныкармлю, цэл будзіш.*

**Кіўкаць** *незак.* 1. Мяўкаць. *Кыцянок узноў на верьбі кіўкыіць, узьлезіць вісока, а тады зьлезьць ня ўмеіць і крічыць.* 2 *перан.* Падаваць голас, жыць. *Кіўкыіць яе жаніх на печы. Як ты тут кіўкыіш адзін у хаці, ня зьмерз?*
**Кіўкнуць** *зак.* 1. Мяўкнуць. *Спакойный кыцянок, дужа ні ныдыідаіць, кіўкніць пару разоў і сьціхніць.* 2. Падаць голас. *Раз кіўкнуў, то жывець, гатоў зайтрік.*

**Кіханне** *н.* Слабы кашаль. *Ныдаела тваё кіхыньня, ежылі баліць што ў грудзях, схадзі ґ доктыру, нацыркі якой дасьць ці пырашкоў.*

**Кіхаць** *незак.* Крыху кашляць. *Кылі кіхыюць, ніхай пысідзяць у хаці, бязь іх тоя кіно абойдзіцца.*

**Кішкавэй** *прым.* Кішэчны. *Кішкавоя сала ўсігда пірі-*

*таплiюць, а тады на iм пыджжарiюць што, яно длi блiноў хырашо.*

**Кiшкi** *мн.* Мякаць у гарбуза. *Сь кiшок семiчкi выдаўлiвыюць, а тады ў цугун ды у печ сьвiньням, а семiчкi сушуць.*

**Кладавушына** *ж.* Кладоўка. *Худзь ба якую-небудзь клыдавýшыну прiпяць, разу пылажыць нiчога нейдзi. Памянш.* **кладавушынка.** *Нiбальшэнькыя клыдавýшынка ёсьць, туды многа ня ўвойдзiць, дзьве бочкi пыставiш i займiш усю.*

**Кладжаный** *дзеепрым.* 1. Пакладзены. *Каб вожкi былi клáджыны на места, яны б ляжалi, а ты iх сам нi знаiш, айдзе кiнуў.* 2. Пакладаны. *Я сабе клáджыныга кыбанчыка купiў, нiхай кычаiцца кыла рук.*

**Кладжэнне, кладзенне** *н.* Складванне. *Дужа я нi люблю кладжэньня як бяз рук, кылi класьць, дык кладзi як нада. Iдзi ты ґ богу с такiм кладзеньнiм, ня хочыш дзелыць, я бiсь цябе складу i серца iрваць ня буду.*

**Кладка, кладушка** *ж.* Частка складзенага ў сяннiцы цi гумне сена, збожжа, саломы. *У нас к вясьне кладка сухенькiя аўсяныя саломы ляжыць. У Максiмывых iшчэ цэлыя кладýшка сена ляжыць у пунi, яны хырашо прыкармiлiся сы скатом. Памянш.* **кладушачка.** *Малiнькыя кладýшычка ў вугалку асталыся.*

**Клапатанне** *н.,* **клапота** *ж.* Клопат, турботы. *Нюшкi хвацiла клыпытáньня, што тама ў iх случылыся, усяго ня пiшуць, ну, вiдна, нiпрiятнысьцi бальшэя. Ач чаго Зыхарёнку iкая клапота будзiць, пад'есьць, пабрынкыiць пы дзярэўнi, а тады пуўдня вылынґаiцца.*

**Класць** *незак. перан.* Параўноўваць, прыраўноўваць. *Разьвi можна яе ду Вулiцiныя класьць, тая сымыстыяцiльныя, а ета хылыйдрá саўсiм мылахольныя. Ён ка мне ўсiх кладзець.*

**Клён** *м.* Праклён. *Цi наслухылiся вы Андреiхiныга клёну? Каб iна нi знала нi дня нi ночы, я ж вас пызыкляну клёным.*

**Клёп** *м.* 1. Кляпанне. *Посьлi Хведзькiныга клёпу ўсякыя кыса будзiць резыць, ён ужо наклепiць дык наклепiць.* 2. Знакi кляпання на джале касы. *Трошку прiлаўчыўся дзёўбыць, ну iшчэ няроўный клёп у яго пулучаiцца.*

**Клiймат** *м.* Клiмат. *Раншы летым було дужа жарка, палiць i палiць, а тады ўжо грозы як стануць бiць, а цяперь клiймáт неiк мiняiцца. Ёй урачы скызалi клiймáт пiрiмянiць.*

**Клінаванне** *н.* Умацоўванне клінкамі. *Раз ніправільна зыцісаў, цяперіцька позна клінува́ньнім пупруўляць.*

**Клініць** *незак.* Клінаваць. *Пычаў клініць рямку, а кырацейшыняькыя планычка тресь — і ўся работа пышла к чорту.*

**Клінне** *н. зб.* Кліны. *Усё кліньня пабілыся, а пень дайжа ня треснуў, во курчы́жышча!*

**Клочча** *н. зб.* Невялікая частка (звыч. воўны, ваты, сена і інш.). *Ну ці ета шапка, кылі ў ёй клочча са ўсіх бакоў лезіць. Турну́ць, што зь яго клочча пасыпіцца, тады пойміць, а ўгаворы яму ні памогуць.*

**Клыпа** *м.* і *ж.* Няўклюда. *Ня думый, што клы́па, як распусьціць свае крівілы, ты зь ёю ні справісься.*

**Клыпанне** *н.* Няўклюдная хадзьба. *Зьбегый ты луччы сам, а зь яго клы́пыньнім пакуль дыкывіряіць, дык сьцямнеіць.*

**Клыпаногій** *прым.* З крывымі нагамі. *Каму ён нада, гультай самый пасьледній, нейкыя клыпаногыя пыдзіржала, кызалі, зь месіц ды прутуріла. Памянш.* **клыпаногенькій.** *Доўга нешта яны с тым клыпаногінькім шыпталіся.*

**Клыпаножка** *ж.* Крываногая жанчына. *Ат пріроды тыкая клыпаножка, доўга зь ёю вазіліся пы дыктырах — нічога ні пымагло.*

**Клыпы** *мн. іран.* Ногі. *Што ты клы́пы ні пыцягніш, нада вісялей шывяліцца. Павеліч.* **клыпішчы.** *Чую, чую, што йдзець, шырахыіць клы́пішчымі як па гру́дзі.*

**Клюб** *м. экспр.* Розум, развага. *Каб троху быў клюб у гылаве, дык ба с такімі чырцямі ні зьвязывыўся.*

**Кляваннік** *м.* Кураня. *Кубатырык прінісла два дзісяткі, яйцо рыскрышыла, яны такея клюва́ньнікі, іс-пыт квакухі луччы, тая і есьць на́ўчыць, і глядзіць іх.*

**Кляваць** *незак. перан.* 1. Няўмела кляпаць. *Троху клюець, наклепіць ці ні наклепіць, а лыпату́хі нагоніць.* 2. Бэсціць, лаяць. *Іна і адна ладна дыймаіць, а ўжо сы ста́рыю як возьмуцца клюва́ць, ён толька пакручывыіцца.* 3. Біць. *Лёнька цябе клюець, знаць, кажный дзень.* 4. Есці, піць. *Яны ўжо ў Сахвеі сыбраліся, клююць паціху.* **Клюнуць** *зак. перан.* 1. Ударыць вострым, дзеўбануць. *Клю́ніць сучком пы гылаве, будзіш тады пішчэць.* 2. З'есці, выпіць. *Клю́нулі патрошку, вясёлінькія ідуць.* **Клюнуцца** *зак.* Ударыцца, стукнуцца. *Там сук тарчыць, гылавою клю́нуўся, во тыкая шышка ўскачыла.*

**Кляпаннік, кляпец** *м.* Кляпальшчык. *На етых клі-*

*па́ньнікый надзёжа плыхая, нада Аўсею занесьць, тэй наклепіць. Пылажы-ка ты, кляпец, мылаток, ня порці касу.*

**Кляпаць** *незак. перан.* 1. Паклёпнічаць. *Дужа злаўредныя атродзьдзя, сколька яны кліпа́лі ны Клімчынка, зьесьць былі гатовы.* 2. Біць. *Зывалілі яго кучыю і дывай кліпа́ць пачом зря.*

**Кляпенне** *н.* Кляпанне. *Якоя ні кляпеньня, а кыса луччы стала резыць, дайжа пісьсяк бярець.*

**Кляшча** *ж.* Клешчына. *Помню, бярьвеньня раз вязьлі, толька зь лесу выіхылі, а клішча ў мяне ў кыня тресь на́пыл.*

**Кнопка** *ж. перан. жарт.* Жанчына малога росту. *Кнопык сваіх прівядуць ны вічарінку і выкручывыюцца. Памяниш.* **кнопачка.** *І сам ня дужа вісокій, а ўжо ўзяў кнопычку, пы плячо яму.*

**Козка** *ж.* Асобны парастак завязі ў цыбулі. *Ма́лый стаў любіць цубулю, козку аблуплю, дык бяс хлеба схрапочыць.*

**Кокнуць** *зак.* Падаць кароткі гук (пра курыцу, пеўня). *Квакуха вун там, пыд яблыныю кокнула. Пятух штонебудзь найдзіць, кокніць, кокніць, а пакуль куріца пыдбягіць, сам зьесьць.*

**Колікам** *прысл. груб.* Без руху, не падымаючыся. *Як пріехый, так і кычаіцца колікым, ні за вошта ні бярецца.*

**Комканне** *н.* Камячанне. *Посьлі комкыньня як ні гладзь, ня тоя будзіць, зразу нада бярежч, а ні гамзіць як зря.*

**Комкацца** *незак.* Камячыцца. *Кініць адзёжыну абыкуды, іна комкыіцца, такей ніряшлівый чылавек.*

**Кораный** *дзеепрым.* Ачышчаны ад кары. *У яго корі́ныя бярьвеньня ляжыць харошыя, быгатыя хата будзіць.*

**Кормніца** *ж.* Укормленая свіння. *У Пынасывых здыравушчыя кормніца, пудоў ны пітнаццыць, чуць ходзіць, будуць біць к Новыму году.*

**Коськанне** *н.* Падкліканне каня выгукам кось-кось. *Я ўвечырі нейкыя коськыньня чуў, усё дно як бабскій голыс.*

**Коськаць** *незак.* Падклікаць каня выгукам кось-кось. *Дойга хадзіў па полю, коськыў, а конь усё ні лавіўся.*

**Котам** *прысл.* 1. Коцячы, перакочваючы. *Пыдымаць такей цяльпух ні падыміш, нада прімудріцца, каб котым як ускаціць.* 2. Рэзка, рашуча. *Такіх гасьцей нада котым с хаты гнаць, каб і духым іх тут ні пахла.*

**Котаў** *прым.* Каціны. *Тута котыва работа, відзіш, кыкытáмі драў тряпку, хацеў у гырлач улезьць.*

**Коткій** *прым.* Такі, які добра коціцца. *Абручыкі етыя коткія, дзеці іх цэлый дзень кытаюць.*

**Коўрацiна** *ж.* Дэталь коўрат. *Кылы ясіня вылялыся коўрыціна, нехта пыдыбраў. Памянш.* **коўрацінка.** *Атвалілыся коўрыцінка, нада було б што-небудзь прібіць.*

**Краец** *м.* Акраец. *Пыкладзі кра́іц у кашолычку, кусочык сала вазьмі, зьясьцё за дзень. Памянш.* **крайчык, крайчычак.** *Гаворіць, нічога ня буду браць, атрезыў кра́йчык піряпечкі, ну ніхай, у лаўкі што-небудзь купіць. Хлеба кра́йчык, каб быў сын Мікілайчык. Ну ці вы такім кра́йчычкым пыд'ясьцё, большы реж.*

**Край** *м.* Край, бераг. *Памянш.* **краёк, краёчак, краюшок, краюшочак.** *І гляджу курей, і краёк ячменю пылажылі, айдзе ты іх угледзіш кажныю мінуту. Што ты ны краёчыку месьцісься, сядзь як нада, места хвытаіць. Я зыйшла ў хату, ён сядзіць ну круюшку́, у мінуту можыць хряпнуцца сь печы, тады дзелый што хочыш. Ну ніхай нямножка зыляпын, а круюшочык етый нічым ні атмыіш, так ён і астаніцца.*

**Крамсанне** *н. перан.* Тузанне, шкуматанне. *Відна, мала табе Яшкіныга крімса́ньня, яшчэ зыхацеў.*

**Крамсаць** *незак. перан.* Тузаць, шкуматаць. *Зывалюць і крімса́юць яго каленкымі, а ён толька пыхціць.* **Крамсануць** *зак.* Тузануць і ўдарыць аб зямлю. *Як крімсанець яго аць сябе, тэй чуць пыдняўся, во дычыпляўся.* **Крамсануцца** *зак.* Ударыцца ўпаўшы. *Я відзіла, як ён крімсану́ўся, ну, думыю, усё, каюк,— не, гляджу, пыднімаіцца.*

**Крамшчык** *м.* Прадавец у магазіне. *У нас Пііп Мікіцёнкыў троху работыў кра́мшчыкым, у яго нідыстача пулучылыся, пыкрываў троху. Пірід вайною кра́мшчыкым у Рылыўшчыні быў Чайкін зь Зяціцы.* **Крамшчыца** *ж. Наша кра́мшчыца дужа ні сьпяшыць, замкнець і пышла часы на трі.*

**Крандзялём** *прысл. іран.* Вельмі нізка, крута. *Пірід Мархвыю сагнецца кріньдзялём і пашоў ізыком лыпытаць: ла-ла-ла.*

**Крант** *м.* Кран. *Бызата хвацеру апставілі, усё на месьці, на кухні кра́нты, выда цякець і халодныя, і гырячыя, хырашо жывуць. Памянш.* **кранцік.** *Во тута кра́ньцік каб прідзелыў, і цікла б выда.*

**Красівець** *незак.* Прыгажэць. *Ты ні стареіш, а, ныбарот, усё крысівеіш і крысівеіш дзень аты дня.* **Красівецца**

*незак.* Рабіцца прыгажэйшым. *Што йта там ны грідах крысівелыся?* **Красівіцца** *незак. жарт.* Упрыгожваць сябе. *Красівіцца нашы дзеўкі ўздумылі. Вун у той хаці зычыніліся, красівюцца.*

**Красініць** *незак.* Абліваць, мачыць газай. *Нылівай ты ўжо сам і ў лампу, ні хачу я рукі красініць другей раз, толька што памыў.*

**Красінка** *ж.* Пасудзіна для газы. *Красіну даўно ўжо ні палім, дык і красінка нейдзі зывылялыся.*

**Краснель, красняк** *м.* Здаравяк з румяным тварам. *Пріїжджаў Мархвін зяць, во такей красьнель стаў, брюха ціряз ремінь пірявешыіцца. Марьін крысьня́к тожа нечыга рысхаджывыўся пы бызару, лі кароў стыяў, пріцыняўся, а тады с Пынасёнкым пашлі туды, у горыд.* *Памянш.* **краснячок.** *Нечыга пыт Каробчына пашоў твой крысьнячок, рузгудувала ты яго дужа.*

**Красьь** *м.* Карась. *Хто б ета цяперь паверіў, што ны Пыдгародзьдзі калі-то красёў лавілі.* *Памянш.* **красік.** *Прінёс пуўвідра кра́сікыў, прідзіцца чысьціць ды жаріць.*

**Кратоўнік** *м.* Кратавінне. *Як тама касіць, кылі адзін кратоўнік куча на кучы, пірівярнута ўся лашчынка.*

**Крахануць** *зак.* 1. Зламаць з рэзкім трэскам. *Пыдыйшоў, крыханўў рябінку, ну й дзелый яму што хочыш.* 2 *перан.* Рэзка пачацца (пра мароз, хваробу). *Вот-вот марозы крыхану́ць, дужа халодныя ўремя пыдбіраіцца. Я ня помню, а дзед рысказывыў: халера ўвалілыся, як крыханýла, пы два грабы ў дзень зырывалі.* **Крахануцца** *зак.* Моцна ўдарыцца. *Дудура́чуцца,— як крыханецца каторый з ряшэчыньня, што йта зу гульня на крышы, ны вісычыне.*

**Крахценне** *н.* Кракганне. *Ай, ныдаела тваё кряхценьня, злазь ды рысха́джывыйся, скарей пыправісься.*

**Крахцець** *незак.* Кракгаць. *Ні кряхці, ні кряхці, карова даўно есьць просіць, ідзі стру́шынкі нытрясі.* **Крахцецца** *незак.* Кракгацца. *Як табе тута кряхціцца, ці троху пупруўляісься, можа, мылыка ныкіпяціць?*

**Краціный** *прым.* Кратовы. *Выйшла раніька, дык пы гароду сьвежыя краціныя кучкі адна лі днае.*

**Крашанне** *н.* Фарбаванне. *Зразу відна, што ты посьлі кра́шыньня ідзеш, і лоб у краскі, і рубашка ўся зыля́пына.*

**Крашаннік** *м.* Фарбавальшчык. *Якей зь яго кра́шыньнік, толька сьцёклы пызыма́зывыіць, сам ба ўзяў ды пыкрасіў.* **Крашанніца** *ж.* *Во ныйшлася мне кра́шыньніца,*

*іна нядренна зьдзелыіць: ныляпыіць як зря і гатова, прінімай работу.*

**Крашына** *ж.* Невялікі кавалак (звыч. мяса, сала). *Ладныю крашы́ну быраніны кідала ў капусту, зьверьху ажно зашы́лыся жырым.*

**Кровi** *мн.* Менструацыя.

**Кроеннік** *м.* Той, хто кроіць, разразае (на палоскі). *Маім кроіньнікым толька дывай у рукі нож ды рімушок, яны накроюць, што пубурчыш ды ў печ укініш.* **Кроенніца** *ж. Ета кроіньніца табе паможыць ні знаю як, пальцы пыбрізáіць і зыпішчыць, во і ўся помышч будзіць.*

**Кромшы** *прыназ.* Акрамя. *Тама кромшы мяне ныбярецца людзей, мне і йціць ні нада.*

**Кроўка** *ж.* Кроў (у размове з дзецьмі). *Ні бярі ножычка, пальчык парежыш і кроўка пойдзіць.*

**Крошка** *ж. перан.* Невялікі кавалак, лапіна (зямлі). *Лі аборка нібыльшая крошка асталыся нізасеіныя.* *Памянш.* **крошачка.** *Ету крошычку каб засеілі клеўрым, ён ба ні звыляўся.*

**Круг** *м.* Абажур. *У нас інáчы ні завуць, круг і круг. Круг ны лаппі зыпыліўся, худзь ба працёрла.*

**Кругі** *мн.* Лішаепадобнае захворванне скуры. *У мáлыга пы ліцу пашлі кругі і па ручкых, нада чым-то мазыць.*

**Кругліна** *ж.* Круглавіна. *Я ў кустах нагледзіў харошыю кругліну, нада скасіць, з воз будзіць сена.* *Памянш.* **круглінка.** *Па жыту вымікла нескылька круглінык, лібіда, зябір пашлі.*

**Кружка** *прысл.* Кружком. *Усю яду выклылі, паселі кружкá — і пашоў у іх пір гарою.*

**Кружэлка** *ж.* Круглая пласцінка, кружок. *У сыныпряткі ў галоўкі кружэлкі ёсьць, пы крыях шпулькі, каб ніткі ні ссыпаліся.* *Памянш.* **кружэлачка.** *Кружэлычку атрезыць ні так проста, іна тоніська, чуць трошку ні так і пулумалыся.*

**Крупадзёр, крупадзёрашнік** *м.* Той, хто абдзірае крупы. *Паехыў мой крупадзёр на мельніцу, ніхай мяшочык ячменю зьдзярець, кашы можна будзіць зваріць. Як сыбралыся крупадзёрышнікыў, завоз ны два дні, у чацьверьг прідзіцца яшчэ раз ехыць.* **Крупадзёрашніца** *ж. Была там тыкая крупадзёрышніца, як ты, усё ізыком малола, мельнік хацеў саўсім яе прыгнаць.*

**Крупеннік** *м.* Ахвотнік да крупені. *Як сядуць крупеньнікі кругом міскі, толька ложкі зьвіняць.* *Памянш.* **кру-**

**пеннічак.** *А крупеньнічык ты мой, січас увальлю, ніхай пыкіпіць адну мінутычку.* **Крупенніца** *ж. Тыкая ўжо крупеньніца зыдылася, кажыцца б, нічога большы і ня ела, варі ёй кажный дзень крупеню і ні знайся.*

**Крупіна** *ж. перан.* Малы кавалак (звыч. мяса, сала). *Хуць крупіну затыўкі ўкінь, дык ня тоя, што нішчымныя.*

**Крута** *прысл. перан.* Складана і цяжка. *Кру́та яму прішлося ў Пустынкых, каб трошку, дык ба ладна пупала.*

**Крутка** *прысл.* Спрытна, шпарка. *Ён як мяшок, кру́тка ні паверніцца. Маша кру́тка работыіць, ізыком малоць ня любіць. Памянш.* **круценька.** *Тута некылі сядзець, нада кру́цінька шывяліцца.*

**Круцень** *м.* і *ж.* Круцель. *Што зу круцень чылавек, усюдых накруціць! Круцень баба, а ты ёй ны кажным словічку веріш.*

**Круцяшчый** *прым.* Распусны. *У мыладосьці была дужа круця́шчыя, а тады ўзілася за вум. Такей круця́шчый маліц, рыссыбачыўся, нікога ня слухыіць.*

**Крушыніна** *ж.* Асобнае дрэўца крушыны. *Ладныя крушы́ніна сядзела ў аборку, ды нехта высік. Памянш.* **крушынінка.** *Крушы́нінкі зрезыў ны кіёк гуляць у куля.*

**Крывагуб** *м.* 1. Чалавек са скрыўленым ротам. 2 *перан. іран.* Капрызнік. *Тэй крівагу́б надмецца як мыш на крупы, што поцступу к яму німа ніякыга.* **Крывагубка** *ж.* 1. Жанчына са скрыўленым ротам. *Ай, ці крівагу́бку захочыць браць.* 2. Капрызніца. *Якім яны хлыпцам нада, крівагу́бкі вашы, во так і прысідзяць кріцыю адны, ніхто іх ня возьміць за тэй замуж.*

**Крывалітный** *прым.* Кровапралітны. *Ён у такіх крывалітных быях быў, што с сотні пяць чылавек астывалыся.*

**Крывасць** *ж. перан.* Капрыз. *Ты крівысьць сваю ні пыказывый, ня дужа іна каму аньціресна.*

**Крывенный** *прым.* Вельмі крывы. *Лым'я́ крівенныга прівязьлі машыну, зь ім пакуля упыряччысься, нубуйтуісься.*

**Крывіліна** *ж.* 1. Крывое палена. *Каб ні пірярезылі пысярёд, мы б ету крівіліну ні дывязьлі, пірякруціцца ўніз пузым і чыпляіцца зы зямлю. Памянш.* **крывілінка.** *Такую крівілінку нікуды ні паложыш, толька на дровы піріпіліць.* 2 *метаф. груб.* Нага. *Ладна ўжо, віджу, што сыпагі ны крівіліны ныцягнуў.*

**Крывілы** *мн. метаф. груб.* Ногі. *Чукавей пыднімай сваё крівілы, к цёмныму ні дыпляцёмся.*

**Крывіна** *ж.* 1. Крывізна. *Есьлі бярно с крівіною, яго нікуды ні паложыш.* 2. Крывое палена. *Прівязьлі машыну крівін, ны баню палкі выріжуцца. Памянш.* **крывінка.** *Роўнінькія палычкі гырадзіць будуць, а крівінкі на дровы пірісякуцца.*

**Крывяніць** *незак.* 1. Пэцкаць у кроў. *Есьлі і кылы кыбына ходзіш, нада акура́тній, каб ні крывя́ніць адзежу.* 2. Кроватачыць. *Дужа глубока парезыў руку, крывя́ніць і крывяніць.* **Крывяніцца** *незак.* 1. Пэцкацца ў кроў. *Во пыглядзі, як апшлажкі крывя́нюцца, пыткысай хыращэнька.* 2. Кроватачыць. *Глубока пасек і косьць затронуў, чаму ня будзіць крывя́ніцца.*

**Крыкслівый** *прым.* Крыклівы, капрызны. *Дзяўчонкі ўжо большы дзісяці гадоў, а йна кріксьлі́выя, як мулюпа́хтычка.*

**Крыксуха, крыксуля** *ж.* Крыкса. *Каб ты ні была тыкая кріксу́ха, с табою можна було б рызгыварівыць, а так — не. Тыкая была кріксу́ля ма́лыя, усё, бувала, крічыць і крічыць, дылася іна мне. Памянш.* **крыксулька, крыксулечка.** *Дай хуць сосычку етый кріксу́лькі, на рукі хочыць. Кріксу́лічка твыя саўсім ні сьціхаіць.*

**Крыксы** *мн.* Дзіцячая хвароба, пры якой дзіця бесперапынна плача. *Ці буваюць тэя кріксы, ці не, ета Бязручыха ўсё гыварі́ла: у тваё дзевычкі кріксы.*

**Крымзазолістый, крымзазулістый** *прым.* Нязграбны. *Абея крімзазолістыя, і старшыя ні к я́кыму дзелу ні прілумалыся, і меншыя тыкая. Нявеста іна нічога, а што трошку крімзазу́лістыя — ікраз пы жыніху, тэй тожа няўрёма ні пасьледнія.*

**Крымзазоліць, крымзазольнічаць, крымзазуліць, крымзазульнічаць, крымзазоліцца, крымзазольнічацца, крымзазуліцца, крымзазульнічацца** *незак.* Рабіць нязграбна. *Зьдзелый ты сам, ато ён як возьміцца крімзазоліць, дык усё дно будзіш пірядзелывыць. Вазьмі ды хут троху пымагі, ато ўзілася крімзазольнічыць, ні пасьцілкі палучуцца, а мяшкі, дый то дзірёвыя. Айдзе йна мытаіць,— крімзазу́ліць, па́смымі ніткі пызыіжджаюць, пызапутывыюцца, паспробый тады распутыць. Мне крімзазу́льнічыць ні нада, ня ўмеіш, дык ні бяріся. Сколька табе ішчэ ўремя нада крімзазоліцца зь естыю бульбыю, пірібраў, пірібраў і мый,— дык не, рызглідаць будзіць. Тае бульбы нарезыць два часы ўремя зынімаіць, а іна другей дзень крімзазольнічыіцца. Ні крімзазу́лься столька ўремя, ня ўмеіш дзелыць — пылажы і атыйдзі. Не*

*ўжо, я пряма глядзець ні магу, як іна крімзазу́льнічыіц-ца на етых грідах.*

**Крымзазольнічанне, крымзазульнічанне** *н.* Нязграбная работа. *Пулюбуйся ны яго крімзазольнічыньня, ета ны-зываіцца складжыны дровы. Мне крімзазу́льнічыньня тожа ні ныравіцца.*

**Крымзазоля, крымзазуля, крымзазоліна, крымзазуліна** *м.* і *ж.* Нязграбная асоба. *Ты еткій самый крімзазоля, як твой бацька, нічога па-людзку ня зьдзелыіш. Твыя крімзазоля дайжа посыд памыць як нада ня ўмеіць. Нечыга хваліцца і нечым, ты ўсігда быў крімзазу́ля. У путнэя маткі дычка ня вырысьціць крімзазу́лію. Во ўрадзіў бог крімзазоліну: возьміцца зы касу — іна ў зямлю лезіць, станіць за плуг — ён ізь зямлі выскакыіць. Другея такея крімзазуліны ў белым сьвеці ні найдзіш. Памянш.* **крымзазолька, крымзазулька, крымзазолінка, крымзазулінка.** *Раз ужо зыдылася крімзазолька, пірявучывыць тады дужа трудна. Маўчы ўжо, у сымае крімзазу́лька пыдрыстаіць. Твыя крімзазолінка крепка ўзілася зы гарод, толька каб гуркі ні пырвала. Ну што, крімзазу́лінка, як нада ні пулучаіцца?*

**Кryндзядзюленне** *н. неадабр.* Балбатня, пустаслоўе. *Не ўжо, ні даждуцца, каб я яшчэ іхныя кріньдзядзю́ліньня слухыла, мне яны ня дужа важны, дыбрадзецілі такея.*

**Крындзядзюлістый** *прым. неадабр.* Няскладны, капрызны. *Ні знаю, якея там у яе дзеці, ну сыма была дужа кріньдзядзю́лістыя.*

**Крындзядзюліць, крындзядзюльнічаць** *незак. неадабр.* Балбатаць, плявузгаць. *Яны знайдуць, пра што кріньдзядзю́ліць, абы сыбрацца і малоць пустату цэлый дзень. Пра што яны тама кріньдзядзю́льнічыюць чацьвёртый час пыдряд?* **Крындзядзюліцца** *незак. неадабр.* 1. Балбатаць, плявузгаць. *Вун яны пад вербыю кріньдзядзю́люцца.* 2. Капрызнічаць. *Дакуля ты як малютычка кріньдзядзю́ліцца будзіш?* 3. Важдацца. *Ста́рый як ма́лый, нада яму сь цялёнкым кріньдзядзю́ліцца, усё дно як нечым большы зыняцца.*

**Крындзядзюля** *неадабр.* 1 *м.* і *ж.* Капрызная асоба. *З Машкыю ішчэ міріцца можна, а во Пёкліна была кріньдзядзю́ля, усё ня, ня, ня. Памянш.* **крындзядзюлька.** *Пы мамі ўдылася, ікраз тыкая кріньдзядзю́лька пыдрыстаіць. Узмацн.* **крындзядзюліна.** *Зыдылася кріньдзядзю́ліна на сьвеці, нічога яе ні пірядзелыіш.* 2 *звыч. мн.* Капрыз.

*Ні пыказывый свае крíньдзядзю́лі, усе ўжо нагледзіліся на іх.*

**Крынішлівый** *прым.* Крынічны. *У раву пут кустамі дужа крынішлівыя места, усё вадою прапітына і дужа-дужа выда халодныя, нійдзе ні станіш босыю нагою: ня выдзіржыш.*

**Крыўдліва** *прысл.* Пакрыўджана. *Мне кріўдліва Клаўдзя выгыварівыла, што я ні так скызаў пры яе сына.*

**Крыўё** *н. зб.* Крывыя палкі, дрэвы і інш. *Айдзе тута будзіш выбіраць, худзь ба кріўя́ якога нывазіць, пірібярецца, складзецца, будзіш бяз горя зіму сядзець.*

**Крыўлянне** *н. перан.* Няўклюдная хада. *Нічога хлопіц, ну як глянуць дзейкі ны яго кріўля́ньня, дык ні адна зь ім іціць ня хочыць, ногі ў яго крівенныя, крівенныя.*

**Крыўляць** *незак. перан.* Няўклюдна ісці. *Зірні-ка, ты луччы відзіш, ці ні ваш воґірь ета кріўляіць, верна, ат Мархвіных бягіць.* **Крыўнуць** *зак.* Пайсці (пра крываногага). *Быйстрінька кріўнýў у правулычык, пакуля мы агледзіліся, яго ўжо і сьлед прастыў.*

**Крычанне** *н.* Крык. *А што б я крічаў, хто тамыцька маё крíча́ньня пачуў ба.*

**Крышануць** *зак.* Пакрышыць, падкрышыць спяшаючыся. *Мулувата, жыдзінькыя капуста будзіць, нада б яшчэ трошку крышанýць.* **Крышануцца** *зак.* Пакрышыцца, падкрышыцца. *Ну кылі ні хваціць, крышанецца яшчэ, кычанчык у сенцых ляжыць на століку.* **Крышанутый** *дзеепрым. Большы ні нада паткрышывыць, вун крышанýтыя быракі ў ла́тычкі стыяць.*

**Крэпкасць** *ж.* 1. Моц, сіла, устойлівасць. *У цябе ішчэ крепкысьці многа, такей аборычык і зу пуўдня скасіў.* 2. Моц, высокая канцэнтрацыя (пра спіртны напітак). *Не, ні гывbooрі ты, крепкысьць тута ёсьць, сьлязінку выпіла, а ў гылаве зукружыла.*

**Крэханне** *н.* Гучны трэск. *Мы пачулі крэхыньня, дык ці ета ж ба хто падумыў, што такую вербу зломіць.*

**Крэхаць** *незак.* 1. Ламаць з гучным трэскам. *Ах вы, найшлі сабе гульню каноплі крэхыць, і ты ім маўчы.* 2. Ламацца з гучным трэскам. *Глядзі, глядзі, ліпа ўжо крэхыіць, січас пыляціць.* 3 *перан.* Звальваць (пра хваробу). *Балезьня іна як уваліцца, крэхыіць людзей пыдряд біз разбору, ці малый, ці бальшэй — ні глядзіць,* **Крэхацца** *незак.* 1. Ламацца з гучным трэскам. *Буря нейкыя пытхвацілыся, дзерівы гнуцца, ажно сучча крэхыіцца.* 2. Моцна стукацца. *Пынас як ідзець, і крэхыіцца*

*аб етый выступ, ужо разы трі ўдаріўся.* **Крэхнуцца** *зак.* Моцна стукнуцца. *Глядзі там, астыражней будзь, крэхнісься зьверьху, дык і ні ўстаніш.*

**Ксціннік** *м. жарт.* Удзельнік хрэсьбін. *Учора Андреівы ксьціньнікі дужа рана рызыйшліся. Памянш.* **ксціннічак.** *Аднаго ксьціньнічка пад рукі пывялі двору.* **Ксцінніца** *ж. Як рузгуляліся ксьціньніцы, чуць ні ды раньня песьні пелі і баріню ўсё выплясывылі.*

**Ксціцель** *м. устар.* Бог. *Аць цябе, чылавек, сам ксьціціль ацступіўся, хто ж ба ета прідумыў усё ўсякыя ны чылавека выдумывыць.*

**Кублік** *м.* Кубел. *У кýбліку расол ні нада, у ім дайжа дзірічкі ў дне калолі. Памянш.* **кублічак.** *У нас усігда було два кýблічкі, у адзін лаўчэйшыя клалі, а ў другей пыччарёвык, абрезкі ны расход.*

**Кугіканне** *н.* Кугаканне (звыч. пра дзіця). *Лёг і сьпі, штоб я твайго кугікыньня ня чуў.*

**Кугікаць** *незак.* Кугакаць (звыч. пра дзіця). *Дзеці сыплюцца як боб: адзін у люлькі кугікыіць, другога ну руках дзяржыць, трецьцій зы хвастом цігаіцца.* **Кугікацца** *незак.* Кугакацца. *Чаго тута, мáлый, табе кугікыіцца, наеўся і ляжы ціха, некылі с табою нянчыцца.* **Кугікнуць** *зак.* Кугакнуць. *Ета, відна, птушка нейкыя кугікнула, хто там яшчэ мог быць.*

**Кудаканне** *н.* Кудахтанне. *Адзін палезіць зу курямі, а другея на вуліцы справюць крік, каб ня чутна було кудáкыньня, во як дзелылі.*

**Кудакаць** *незак.* 1. Кудахтаць. *Я чула, што на сені кудáкыла куріца, ці ні нясецца там каторыя.* 2 *перан. іран.* Гаварыць шпарка, прарэзліва. *Табе б луччы пумуўчаць, а ні кудáкыць.* **Кудакнуць** *зак.* Пракудахтаць. *Як вазьму хвырасьціну, пасьледній раз кудáкніш: дзярець гряду кыкытамі і яшчэ ні чыпай яе, крічыць.*

**Кудравацістый, кудравастый** *прым.* Кучаравы. *Прівазіў жа меншый Вукулёнкыў сваю кудрювáцістыю, ны пыгляд нічога, красівыя баба, як толька ўжо ґ жызьні будзіць. Пыглядныя хлопцы Аксеньніны, пріхадзілі ны вічарінку рызадзетыя, кудрювáстыя. Памянш.* **кудрасценькій.** *Нешта тэй кудрювáсьцінькій ні ны шаг ні атходзіць ат твае дзеўкі. Кудрювáсьцінькій мальчышка, ты ня стой пиріда мной.*

**Куёлджанне, куёўджанне** *н.* Неспакойныя паводзіны (малога дзіцяці). *Далося мне яе куёлджыньня, плачыць і плачыць цэлымі днямі, ні на што дужа ні жаліцца, а*

*нечыга нідылігáіць. Дзецкыя куёўджыньня я пы сабе знаю, хвытаіць зь ім горя, мáліцькій ні скажыць, што баліць, айдзе нідылігаіць.*

**Куёлдзіцца, куёўдзіцца** *незак.* Паводзіць сябе неспакойна (пра малое дзіця). *Куёлдзіўся нечыга да поўнычы, ці ў яго жывоцік балей, ці так што біспакоіла, толька пыд раньня заснуў. У пятніцу пад вечыр як стаў куёўдзіцца, ножкымі дрыґыіць, рыскрываіцца, я ўжо ні знаю, што яму дзелыць, во трецьцій дзень атыйціць ні магу.*

**Кузнечанне** *н.* Занятак каваля. *Знаіш, што с твайго кузьнечыньня будзіць: пріедзіць стыршына, адбярець ключы і замкнець кузьню.*

**Кузнечыць** *незак. метаф.* Працаваць кавалём. *І етый будзіць кузьнечыць, як Пятрок,— ці ўмеіць ён ішчэ молыт у руках дзіржаць.*

**Кукавацца** *незак.* Мучыцца, пакутаваць. *Дакуль жа табе кукувáцца с такім мужуком, ні глядзіць, каб у хату прідбаць, а ўсё с хаты і с хаты.*

**Кукаць** *незак.* Кукаваць. *Ішчэ кукушкі трошку кýкыюць, нідаўна ў нашых вербых кýкыла.* **Кукнуць** *зак.* Пракукаваць. *Літаіць пы дзярейні кукушка, учора ў бярёзкых раз ці два кýкнула, а тады ны магільніку кукувала.*

**Кукса** *м.* і *ж.* Плакса, слязлівае дзіця. *Я ні знаў, што ты такей кýкса, ай, як стыдна плакыць. Заткні ты рот хуць якою канхветыю кýксі сваёй, скліміць і скліміць ныдыя́да.*

**Кукуля** *ж. узвыш.* Зязюля. *У нас бірізьняк быў ладный, кукýля пріляціць вясною, так жалысна кукуіць. Памянш.* **кукулька, кукулечка.** *Кукýлька бедніцькыя кукуіць, усё дно як па горю нейкыму плачыць. У нашых бярёзкых цэлыя лета кукýлічка жывець.*

**Кулага** *ж.* Варыва тыпу вадкага кісялю з аўсянай мукі. *Мой бацька так ужо любіў кулáгу, бувала, старэй с хаты, ён к мачыхі: мам, а мам, ці ні асталыся ў цябе кулáгі. Памянш.* **кулажка.** *Ах, пад'ела я ў Сямёнывых кулáжкі, во іда, хуць зыкычайся.*

**Куламесіць** *незак.* Размешваць, разводзіць. *Грязь куламесюць ны дваре, во што яны дзелыюць. Хваціць табе ету бульбу куламесіць, ніхай троху гусьцейшыя будзіць.*

**Куламесь** *ж.* Куламеса. *Лі самых варот куламесь, нада було засыпыць лужу чым-небудзь, хуць пяску вазы сы два падвезьць.*

**Кулачанне** *н.* Раскулачванне. *Кулáчыньня я хырашо*

*помню, некытырых нада було кулачыць, а пупыдаліся і ні кулакі.*

**Кулачча** *н. зб.* Кулакі, сціснутыя пальцы на руках. *Дужа ні хваліся сваім кула́ччым, хлопцы яго жыва аблумаюць.*

**Кулачыць** *незак.* Раскулачваць. *У нашый дзярэўні быгачоў дужа ні було, дык нікога ні кула́чылі, а цьвёрдым зыданіім Пынаса апклыдалі.*

**Кулдыканне** *н.* Кулянне. *Пыглядзі, на што твыя сарочычка пахожа посьлі кулды́кыньня.*

**Кулдыканнік** *м.* Той, хто куляецца. *Гані-ка етых кулды́кыньнікыў у хату, хваціць ім дурачыцца да цёмныга.*

**Кулдыкаць** *незак.* Куляць. *І ты ўжо стаў як малінькій, тэй становіцца ны каленкі і ны гылаву, а етый яго кулды́кыіць і рягочуць абоя.* **Кулдыкацца** *незак.* Куляцца. *Кучыю як сыбяруцца, яны і скачуць, і прыгыюць, і кулды́кыюцца, рубашычкі як павы́вырзікыюць, дык ні дамыісься.* **Кулдыкнуць** *зак.* Кульнуць. *Во сілішча ў чылавека: пыдыйшоў, кажыцца, лёгінька ўзяў Пітрычка і зразу кулды́кнуў, а тэй жа тожа ня зломык.* **Кулдыкнуцца** *зак.* 1. Кульнуцца. *Зьнімі ж жэрдзя, ніхай ні дурачыцца, будзіць балывыцца, балывыцца дый кулды́кніцца наўзныч.* 2 *перан.* Паваліцца. *Стыяў, кулды́кнуўся і ня жыў, во табе й здаровый на від.*

**Кулдыячанне** *н.* Неразборлівая гаворка. *Паслухый-ка ты, паслухый яго кулдыя́чыньня, можа, што й рызьбяреш.*

**Кулдыячыць** *незак.* Гаварыць неразборліва. *Як пычанець кулдыя́чыць, аж захлёбывыіцца, усё зразу хочыць рыскызаць.* **Кулдыячыцца** *незак.* Гаварыць, размаўляць неразборліва. *Яны ўдваіх як стануць кулдыя́чыцца, тэй таго ні пынімаіць, а тэй таго, сьмеху зь іх, сы ста́рыга і ма́лыга. А ні знаю я, чаго яны кулдыя́чыліся, знаць, адзін хочыць дыражэй прыдаць, а другей цыляіць, каб дзішавей зыплаціць.*

**Кулешнік** *м. жарт.* Ахвотнік да куляшу. *Мае кулешнікі як сядуць кругом міскі, толька пыдліваць спруўляйся.* *Памянш.* **кулешнічак.** *Січас, січас, кулешнічык, ужо выда закіпывыіць, буду муку сыпыць.* **Кулешніца** *ж.* *Во толька ныкармлю сваю кулешніцу і бягу.*

**Кулём, кулем** *прысл.* 1. Шпарка, імкліва. *Гляджу, чаго ета яны выскакывыюць кулём. Адзін зу другім выліцілі ку́лім ад Гапкі, во дыла іна ім чосу!* 2. Не распранаючыся. *Прїходзіць зморіный, кулём брязь і сьпіць.*

*Прішоў чуць жывэй, так выбіўся, крупені трошку зьеў, зываліўся кýлім і спаў цэлыю ноч.*

**Кульцяпістый** *прым.* Зграбны. *Зыбірай ты сабе такога кульця́пістыга, я абыйдуся як-небудзь і адна.*

**Куляшыцца** *незак. метаф.* 1. Мясіцца (у гразі). *Што ж яны дзелылі, куляшы́ліся ў грязі пы калені.* 2. Рабіцца вадкім. *Грязь пыд ныгамі куляшы́цца. Аттаплівыць стынаві ў гырячыя, ато пыстаіць, ня творг, ні сырыкваша, куляшыцца, ажно есьць ніпріятна.*

**Кумаўё** *н.* Кумы, кумаўство. *Ну як жа, кумаўё, рыдня, адзін зу другога і цягнуць. Датуля було кумаўё, пакуля чарычку відзілі, а посьлі дос і куміцца.*

**Кумільгам** *прысл.* Шпарка, імкліва. *Адзін за дным кýмільгым кінуліся за дзьвері. Чаго табе кýмільгым туды ляцець.*

**Куміць** *незак.* Рабіць кумамі. *Бáцькі ні захочуць, каб іх кумілі, яны можа ішчэ свытамі стануць.*

**Кумленне** *н.* Кумаўство. *У іх знаіш, якоя можыць быць кумленьня: сяньня кумюцца, а нызаўтріга пысварюцца.*

**Кундаль** *м.* Нізкарослы чалавек. *Ты сы сваім кýндылім ні пытыкайся туды, у іх зяць даўно намечын. Памянш.* **кундалёк, кундалька.** *Ні глядзі, што кундалёк, рузухáбістый хлопіц: я каторыю зыхачу, тую й вазьму,— хваліцца. Па-мойму, яе кýндылька зьбіраіцца ў свáты, ці ня пойдуць яны к Сахронывый дзеўкі.*

**Купаннік** *м.* Купальшчык, ахвотнік да купання. *Вы тама глядзіця, купáньнікі, ато некыму будзіць выцягывыць. Памянш.* **купаннічак**. *Січас, купáньнічык, во пабедыім і пойдзім на речку.* **Купанніца** *ж. З нас такея купáньніцы былі: залезім у сажылку і плешчымся.*

**Купануцца** *зак.* Пакупацца кароткі час. *Пашлі купанёмся і за косы, сяньня мы ні далжны пыткычаць.*

**Купелішча** *н.* Месца для купання (свіней, курэй). *Рябінькій пабег ужо ну купелішча. Купелішча зьдзелылі ны грідах куры, чатырі логывішчы ныкыпалі.*

**Куплёнік** *м.,* **куплёнка, куплянка** *ж.* Купленая рэч. *Шурка ў куплёніку ў сваім рысхаджыіцца, дыхвыляіцца. У цябе ўсё ляжыць як зря і куплёнка будзіць выляцца, ты адзежу бярежч ня ўмеіш саўсім. Ніхай купля́нку ныдзяець, ніхай сам пашыіць — мне ўсё роўна.*

**Купліва** *н.* Тое, што купляюць, тавар. *Ну й што, кылі кýпліва ёсьць, у цябе вецір у кырманых сьвішчыць.*

**Куплівый** *прым. жарт.* Той, хто купляе. *Ты быў ба*

*дужа харошый куплівый, каб табе хто грошы лубкыю меріў, а сымаму зырыбляць дужа мутырна.*

**Купляннік** *м.* Той, хто купляе. *Пашоў мой купля́ньнік у горыд, грошы узяў сотню, хочыць якей-небудзь касьцюмчык пыглядзець ны кажный дзень.* **Куплянніца** *ж. Ты, купля́ньніца, ідзі ды рызівонію ня будзь, глядзі, што бяреш, каб посьлі ня вохыць.*

**Купнуць** *зак.* Пакупаць хутка. *Чаго я буду заседжывыцца, ма́лыга купну́ ды пайду спаць, заўтря ўстываць дужа рана.* **Купнуцца** *зак.* Пакупацца хутка. *Хырашо пад вечыр купну́цца, выда цёплыя, ажно пара зь яе ідзець.*

**Курасадзень** *м. рэдкаўж.* Курасадня. *Кыш ну курyса́дзінь, сыты большы некуды. Стой-ка ты, я ўспомню, у нас нехта гыварію курyса́дзінь.*

**Кургузік, курдупік** *м.* Нізкарослы чалавек. *Пыказывылі мне таго кургу́зіка, хлапчынка й хлапчынка, аршын ш шапкыю, можа трошку пыдрасьцець. Дужа хваліцца сваім курду́пікым: і хызяйлівый, і прыцаўнэй, і мальца хырашо глядзіць.* **Кургузка, курдупка** *ж. Нейкыя рыдня ў Полькі была, дык усё тыкая кургу́зка прібігала, нічога ны ліцо дзяўчонка. Пыныравілыся яму тая курду́пка — ніхай жэніцца, мне ён дайжа ні брыдзіць. Памянш.* **кургузачка, курдупачка.** *Ты ўжо сваёю кургу́зычкыю дужа ні хваліся. Ужо носіцца с курду́пычкыю, ні прідумыіць, ны якой наге стаць піряд ёю.*

**Курнуць** *зак. перан.* Прапаліць крыху ў печы. *Бувала, жніво як патходзіць, і ні да ўборыў, і ні да гульніў, матька ранёсінька ўспоріць: бягіця,— сыма печ курнець і тожа йдзець ісь сярпом.*

**Курня** *ж.* Хата з дымнай печчу. *Што ён табе за печ склаў, ні хата, а ку́рня стала, пірікажы, ніхай прідзіць ды пыправіць.*

**Курняўка** *ж. метаф.* Кошка. *Нейдзі наша курня́ўка зугуля́лыся, трецьцій вечыр удвору ні пріходзіць. Памянш.* **курнявачка.** *Відзіш, як зыхацела курня́вычка есьць, просіць, ажно патпрыгыіць.*

**Курняўкала** *метаф.* 1 *ж.* Кошка. 2 *м.* і *ж. іран.* Асоба, якая дакучае размовамі. *Ты етыга курня́ўкылу ня слухыў ні разу, ні знаіш. Ні разу б ні падумыў, што Домніна дычка тыкая курня́ўкыла.*

**Куроля, курора** *звыч. ж.* Нязграбная асоба. *Куроля ета йдзець, піріліваць пустату будуць, ні тхадзіла ат тэя. Курора йдзець кріў, кріў, можыць ускыпаць пітнаццыць*

*сотык, быракоў пасеіць. Павеліч.* **куролішча, курорышча.** *Чаго твыя куролішча ніўдзе места сабе ні найдзіць? Доўга тута курорішча лазіла, пакуля радню абыйшла.*

**Куронак** *м.* 1. Кураня. *Нескылька курёнкыў бегыіць, квакуха іх дужа маліькіх кінула.* 2. Курыца наогул. *Ікая ж ты хызяйка, кылі ніякыга курёнка ні дзіржаць. Памянш.* **куроначак.** *Нада пысадзіць квакуху, ніхай хуць якей курёнычык ны дваре бегыіць.*

**Курчыжжа** *н.*, **курчыжнік** *м. зб.* Карчы. *Мой, бувала, дубовыга курчыжжа нывалочыць, наб'ець, яно высыхніць, тады ўжо зімуй бяз горя. Як ляда рыспахывылі, мы нескылька вазоў курчыжніку прівязьлі, сухей курчыжнік — дужа дырагея дровы. Памянш.* **курчыжнічак.** *Ні бядуй, у цябе курчыжнічык ёсьць, і сырых табе пыдвязьлі, пірізімуіш.*

**Курэннік** *м.* Курэц. *Такея бяруцца куреньнікі, пы заўгольлю смалюць, пакуля пытпалюць што.*

**Кус, кусман** *м.* Значны кавалак. *Кусма́н сала атваліў, на хлеб і кытануў на вуліцу. Павеліч.* **кусішча, кусюган.** *Лёду нулумалі кусішчымі, скарей рыстаніць, ато ён да лета ліжаў ба. Пылажыў у торбу кусюга́н сала хунтыў пяць, галодзін ня будзіць.*

**Кусака** *м. метаф. жарт.* Сабака. *Ты сабе завёў страшныга куса́ку, ны яго топні, ён хвост пыдажмець і зывішчыць.*

**Кусаннік** *м.* Недаедзены кавалак хлеба. *Куса́ньнікі астыўляць нікрасіва, бярі столька, сколька зьясі, а кылі многа, піряреж і пылажы лішнія. Памянш.* **кусаннічак.** *Даеж куса́ньнічык, ні кідай.*

**Кусаць** *незак. звыч. жарт.* Снедаць, перакусваць. *Ці ні пыра б ета куса́ць, ужо дзьвінаццытый час.*

**Кусце** *н. зб.* Кусты. *Пы Балоту було ку́сьця ладныя, кажный год секлі, а яно ўсё нырыстала.*

**Кутанне** *н.* Захутванне, ухутванне. *Разьдзетыга нілізя пускаць на холыд, ну ку́тыньня тожа ня дужа пымыгаіць, рыспацеіць — тады большы прастуджыіцца.*

**Кухавар** *м. жарт.* Кухар. *Я знаю, якей ся цябе кухува́р, як зваріш бульбы, дык ніхто ў рот ня возьміць.*

**Кухаварыць** *незак. жарт.* Кухарыць. *Ты луччы ўсіх умеіш кухува́ріць, Кіреіхіны мушчыны трі дні хадзілі, крівіліся посьлі тваіх быракоў.*

**Куцік** *м. жарт.* Нізкаpослы чалавек. *Якей-то ку́цік к ёй бегыіць, ні знаю, ці зладзіцца дзела, ці не. Памянш.* **куцічак.** *Ку́цічык жа ты мой, яны цябе саўсім зату́кылі.*

**Кучанне** *н.* Гуртаванне, збліжэнне. *Ня думыю я, каб толк быў з вашыга ку́чыньня, ні такея яны людзі, каб сь кім ладзіць.*

**Кучараўчык** *звыч. м.* Кучаравая асоба. *Антоніхін кучыря́ўчык скора прівядзець сабе мыладую, дужа ўлігаіць за Томычкыю.*

**Кучмель** *м. гумар.* Ускалмачаная галава, валасы. *Твой кучмель у пырядык прівесьць нада ні рашчоска, а гребінь, ны якім мычкі мы́кыюць. Рысха́джыіцца пу бульвару, трясець кучмялём.*

**Кушанькаць, кушанькі** *незак.* Есці (у размове з дзецьмі). *Садзіцісь-ка вы ку́шынькыць, мае малютычкі, мушчыны вун ужо с косымі ідуць. Ку́шынькі хочыць мой маліўкій, січас мылычка нальлю.*

**Кушаць** *незак.* 1. Спрабаваць на смак, каштаваць. *Ну што йта ты вярзеш, ня ку́шыла, я хырашо помню, што ку́шыла крупеню і йна была нясоліныя, а чаго іна пірясоліна — ні знаю.* 2. Спрабаваць моц яйка, стукаючы аб зубы. *Ета піріт паскыю ўсё ку́шыюць яйцы, а тады гуляюць у іх, другей дык поўныя кырманы нывыбіваіць.*
**Кушнуць** *зак.* 1. Пакаштаваць (на смак). *Я кушну́ла бульбу жыдкыю — смашныя, цубулькыю пахніць.* 2. Паспрабаваць на моц (пра яйка). *Кушні́-ка ты ета яйцо, па-мойму, яно кряпчэй за ўсіх.* **Кушануць** *зак.* Пакаштаваць на смак. *Забыла кушану́ць ды ўсыпыла солі яшчэ.*

**Кушынок** *м.* Невялікі збанок. *Дужа харошый быў кушунок і на́ табе, разьбіўся, ажно січас жалею.* *Памянш.* **кушыночак.** *Біс кушуночыка як бяз рук, толька пайду ў горыд, абізацільна куплю.*

**Кызінь!** *выкл.* Адганяльны вокліч для коз. *Кы́зінь у поля! Кы́зінь пасьвіцца!*

**Кызля** *ж. жарт.* Каза. *Ой, кы́зьля цябе січас зыбадзець, хадзі ка мне, хувайся.*

**Кызь-кызь** *выкл.* Падклікальны і адганяльны вокліч для коз. *Кызь-кызь-кызь! Кызь куды! Кызь ньзад!*

**Кызька** *ж. ласк.* Каза. *Скора кы́зьку сабе купім, будзім гуляць зь ёю.* *Памянш.* **кызічка.** *Хадзі, кы́зічка, хадзі, пычашу цябе.*

**Кызьканне** *н.* Падкліканне казы. *Дужа яны паслухыюць с тваім кы́зькыньнім, а ў пацёмкых айдзе ты дужа найдзіш, можа, ў чыю капусту ўваліліся.*

**Кызькаць** *незак.* Падклікаць або адганяць казу. *Ня кы́зькый, а вазьмі прут ды гані, тады скарей паслухыіць.*

**Кырканне** *н.* Карканне, падобны да каркання крык

птушкі. *Я чула за пунію нейкыя кы́ркыньня, каб там хто квакуху ні драў.*

**Кыркаць** *незак.* 1. Каркаць або выдаваць падобны да каркання гук (пра птушку). *Айдзе-то ў бульбі квакуха кы́ркыла, некыга спужалыся. 2 перан.* Падаваць голас, абзывацца. *А хваціць табе ўжо кы́ркыць, наслухыліся мы.* **Кыркнуць** *зак.* 1. Каркнуць або выдаць падобны да каркання гук (пра птушку). *Ці ня куріца ета кы́ркнула, каб ня тхорь тама лавіў іх.* 2. Абазвацца. *Як возьмуць зы гырля́нку, дык ты ня кы́ркніш.*

**Кырханне** *н.* Хрып, кашлянне. *Мы яго кы́рхыньня здаліку пызналі, сіпіць, як дзірявыя бочка.*

**Кырхаць** *незак.* 1. Хрыпець. *Ходзіць, трошку кы́рхыіць, у яго грудзі нейкія сла́быя. 2 перан.* Жыць. *Ні знаю, як іна там цяперя, увосінь ішчэ кы́рхыла нямножка.* **Кырхацца** *незак.* Жыцца. *Як на печы сяджу, нямнога кы́рхыіцца, а пытапчуся ны дваре — саўсім дренна становіцца, круціць мяне, лумаіць усю чысьцінька.*

**Кыска, кыцька** *ж. ласк.* Кошка. *У малых луччыя падруга — кы́ска, цігаюць яе пу руках, і йна нічога, цігайця. Памянш.* **кысачка, кысанька, кыцічка, кыцінька, кыця.** *Нешта кы́сычкі нашыя ня відна другей дзень, каб ні зблудзілыся куды. Кы́сынька, кы́сынька, ды цап яе зы карык. Замёрзла кы́цічка, курняўкыіць пыдзь дзьвірямі, пагрецца просіцца. Што б ты дзелыў, каб ня ета кы́цінька зубуўляцца табе. Ні мані, твыя кы́ця пышла ны работу — мышэй лавіць.*

**Кыскін, кыцькін** *прым.* Кошкін. *Ня трогый кы́скін чыряпочык, я сыма прібяру. Кы́цькіна пасьцелька ны хаці, ляжыць на сені і сьпіць, во й пасьцелька ўся. Памянш.* **кысачкін, кыцінькін, кыцічкін.** *Ты ўжо вілікувата, каб табе кы́сычкіны лентычкі мыць. Кы́цінькіна банычка асталыся ны дваре, помніш, ты яе карміла. Во табе, кы́цічкіна цацка пыціралыся.*

**Кышканне** *н.* Праганянне курэй воклічам «кыш». *Ня дужа яны твайго кы́шкыньня быяцца, вазьмі палку ды палкыю махні.*

**Кышкаць** *незак.* Праганяць курэй воклічам «кыш». *Ці ты на іх кы́шкый ці ня кы́шкый, трошку адбігаць і ўзноў у ячмень тубуном.* **Кышнуць** *зак.* 1. Прагнаць курэй воклічам «кыш». *Ідзеш міма ячменю, худзь ба кы́шнуў, ато зыдраў гылаву і ў тэй бок ні глядзіць.* 2 *перан.* Прагнаць. *Як ныдыядуць другей раз, я іх кы́шну с хаты, ніхай на вуліцы гылдзяць.*

**Кэрханне** *н.* Кашаль, хрып. *Ніякія балезьні ні зупускай, запусьціш — тады пачанецца кэрхыньня, і там баліць, і туды порідь,— пачуствывыў плоха — лячыся зразу.*

**Кэрхаць** *незак.* Кашляць, хрыпець. *Прустудзіўся, кэрхыў, кэрхыў, а тады саўсім зьлёг, у лёхкіх нешта найшлі, пыслалі куды-то лячыцца.* **Кэрхацца** *незак.* Кашляцца, хрыпець. *Ат прастуды кэрхыіцца, ач чаго ж яшчэ, іна, прыклятыя, на ўсё дужа ўліяіць.*

**Кэханне** *н.* Моцны ўдар. *Во ета кэхыньня, с такою сілыю любую калоду зразу рызваліць!*

**Кэхаць** *незак.* Ударадь з сілай. *Дубовыя калодкі, ды дужа сукуватыя, усё раньня кэхыў, нубуйтуваўся ладна.* **Кэхацца** *незак.* Ударацца з сілай. *Ці раз ты кэхыўся аб етый вугыл.* **Кэхнуць** *зак.* Ударыць з сілай. *Падлезь, падлезь, кэхнуць, што закруцісься, у іх сваe дзялы і ніхай самі рызьбіраюцца міс сабою.* **Кэхнуцца** *зак.* Ударыцца з сілай. *Ныгырадзіў, што ні прайціць, упацёмкых забудзіш, ні пагледзіш і сам кэхнісься.*

## Л

**Лабавік** *м.* 1. Лата на фасадным схіле страхі. *Зь етыя палкі харошый лыбавік будзіць.* 2. Фасадны схіл страхі. *Ны лыбывіку цеч пычало, нада прілажыць саломыю.* *Памянш.* **лабавічок.** *Пыглядзіця, ны лыбывічкі адзьдзельна крючча аткладжына. Пысярёд крышы стала прыцікаць, а лыбывічкі дзіржацца.*

**Лабатрас** *м. асудж.* Гультай, безадказная асоба. *Памяни.* **лабатрасік.** *Пыднімаіцца лыбытря́сік, паліц ап паліц ні зыставішударіць.* *Узмацн.* **лабатрасіна.** *Во яшчэ лыбытря́сіна цігаіцца, ні людзей яму ня стыдна, нічога яго ня трогыіць.* *Павеліч.* **лабатрасішча.** *Хто б ета падумыў, што ў Кывалёнкыў лыбытря́сішча будзіць, у еткіх прыцаўных людзей.* **Лабатраска** *ж.* *Што ты ёй скажыш, кылі лыбытря́ска, ёй луччы бяс хлеба сядзець, абы ні работыць.*

**Лабрэтаваць** *незак.* Гультаяваць. *А чаго яму ні лабрэтывыць, забот ніякіх, сьпі, гуляй, усё бізь яго і зьдзелына, і пріпучына.*

**Ладачка** *ж.* Таблетка. *Я ўсігда ла́дычкі дзяржу ў зыпасі, як зыба́ліііць, я скарей хвытаю.*

**Ладашнік** *м.* Ахвотнік да аладак. *Ла́дышнікі мае ўжо круцюцца, учора ўвечырі пріказывылі: глядзі ж,*

*баба, ныпякі заўтря ладык сы сьмітаныю.* **Ладашніца** *ж. Пыляжы, ла́дышніца, во сьпяку дзьве скыўрады, прастынуць і тады еж сколька хочыш, а січас ня лезь пыч чыпялу.*

**Ладжаннік** *м.* 1. Той, хто рамантуе. *Ла́джыньнік сь цябе, глядзі, каб ета лубычка саўсім ні рассыпылыся.* 2. Той, хто дагаджае. *Ніхай ён як ні пыдмасьлііцца, дык ня любюць яны етыга ла́джыньніка.* **Ладжанніца** *ж.* 1. Тая, што рамантуе. *Ці я ні знаю такую ла́джыньніцу, у рукі возьміць і пулумаіць.* 2. Тая, што дагаджае. *Сварюцца вашы ла́джыньніцы, кончыўся мір.*

**Ладнейшый** *прым.* Лепшы. *Чаго зря ні купляй, кылі брäць, дык нада што ладнейшыя, я дайжа б ні пінжак, а пулушубык цёплый купіла б. Памянш.* **ладнейшанькій.** *Ета мацерія ладнейшынькыя, зь яе што ні пашыіш, большы праносіш.*

**Ладнець** *незак.* Рабіцца лепшым. *У Пынаса віда дочкі ладнеюць, скора нявесты будуць. На жырный зямле і кукуруза ладнеіць.*

**Лазініна** *ж.* Асобная тонкая лазіна. *Атреж нескылька райнейшых лазі́нін ны абручы. Памянш.* **лазінінка.** *Штук пяць лазі́ніньк ні хваціла заплесьць дно ў карзіні.*

**Лазіцца** *незак. Зал.-бессуб'ект.* ад лазіць. *Ды я віджу, што па сену ім дужа ладна ла́зііцца, толька ўталуюць усё ныгамі.*

**Лалаканне, лалалаканне, лалыканне, лалаханне** *н. неадабр.* Балбатанне, балбатня. *А ну іх, я ўжо наслухыўся таго лыла́кыньня. Яны біз лылыла́кыньня ня могуць, луччы ты іх хлебым ні кармі, а дай ізыкі пычысаць. Стыяў, разьвесіўшы вушы, слухыў лалы́кыньня, дужа яму аньціресна тая тріпытня́. Мы наслухыліся Анькіныга лыла́хыньня, сыты ўволю, схадзіця і вы паслухыйця.*

**Лалакаць, лалалакаць, лалыкаць, лалахаць, лалакацца, лалалакацца** *незак. неадабр.* Балбатаць. *Пра што вы там лыла́кылі, верна, міжнародныя дзялы рішалі. Дужа далёка твыя Наста, ну лужку з бабымі лылыла́кыіць. Каб вы меншы лалы́кылі, дык ба і работа скарей пыдзьвігалыся, а зы былбатнёю некылі работыць. Яны ўсігда найдуць пра што лыла́хыць, шукаць ім доўга ні нада. Прішла Хадоріна меншыя, Хвенічка пыдыйшла, доўга стыялі, лыла́кыліся. Сыбяруцца, як пойдуць лылыла́кыцца, дык іх зы каўнерь ні рызьвядзеш.* **Лалакнуць** *зак.* Балбатнуць. *Упайне мыгла і Андрюшчыха лыла́кнуць, ат яе чаго хочыш можна ждаць.*

**Лалакі, лалы, лалалы** *мн. неадабр.* Балбатня. *Як зывядуць лыла́кі, ніізьвесна, сколька б яны сядзелі, усё чыста пірігаворюць. Кучыю сойдуцца і пычаліся лалы́, хочыш — на цэлый дзень рызьвядуць. Узноў пычалі лылылы́, гатовы ня піць, ня есьць, трілюды льлюць, і льлюць, і льлюць.*

**Ламануць** *зак. перан.* Моцна разбалецца. *У мяне, буваіць, с самыга раньня як луманець гылыва.*

**Ламата** *ж.*, **ламоцце** *н.* Ламота. *Лымыта́ нейкыя пы кысьцях пышла, круціць усяго, каб ня зьлежч, відна, рымацізма рысхадзілыся. Душыць мяне ламоцьця, ходзіць нешта па ўсіх жылых.*

**Ламей** *м. асудж.* Гультай, абібок. *А ці раз було, што бацька з маткыю прыцаўнэя, а сын — ламей.*

**Ламіць** *незак., метаф.* Біць. *Некыму було яго ламіць зь естымі дура́мі, каб найшоўся хто ўняць, так ба ні адурювай.* **Ламёмшы** *дзееприсл.* Ламаючы. *Суччa ламёмшы, руку рызыдрай, кроў цякець.*

**Ламэй, ламы́й** *прым. экспр.* Крывы, кульгавы. *Яму толька што пры баб думыць, кылі ён і крівэй, і ламэй. Каму сьляпэй, каму ламы́й, а ёй харош і ладна, ні ваша дзела. Памянш.* **ла́менькій, ламенечкій.** *Быў у яе нейкій ламенькій мальчышка, ён ці ні памёр. Ну й ламенічкій куды ж дзеніцца, будзіць цягнуць.*

**Ланпасенка** *ж.* Манпансье. *Лынпасенык сваім купіла, дужа любюць. Памянш.* **ланпасеначка.** *Ага, мыя лынпасенычка смашней! Лынпасенычык схвацюць у рукі і пабеглі, гуляюць і ссуць.*

**Лапаносік** *м.* Чалавек з шырокім носам. *Ныйшла сабе нейкыга лыпаносіка, вугнявіць троху: мыя Малхвыцка,— хваліцца, што дужа хызяйлівый.* **Лапаноска** *ж. Ладна табе будзіць і лыпаноска, во бярі дый жывіця, будзіш ты дужа пірібірaць.*

**Лапаносый** *прым.* Шыраканосы. *Сын увесь чыста ў яго пашоў, такей самый лыпаносый. Памянш.* **лапаносенькій, лапаносенечкій.** *У яе лыпаносінькій мульчуган быў, ці ні ат Валодзькі, а тады йна ўскорысьці зьехыла ці ні сь Пітраковым хлопцым. Дзьве дзевычкі лыпаносінічкія ў іх, гадкоў пяць і гадкі трі.*

**Лапатнуць** *зак. экспр.* Сказаць. *Ты ёй ніскoлька ня верь, січас іна с табою дужа хырыша, а атойдзіць — якую хочыш трілюду можыць лыпатну́ць.*

**Лапатуха** *ж.* Выгнутасць у палатне касы. *Хто кліпаць ня ўмеіць, тэй ураз лыпату́ху ўгоніць.*

**Лапатушыць** *незак.* Выяўляцца (пра выгнутасць у палатне касы). *Відзіш, як ты пыкліпаў, я толька стаў касіць, два разы шархнуў і чую, што кыса лапатўшыць.*

**Лапаціць** *незак.* 1. Веяць уручную лапаткай. *Ні знаю, айдзе ён дзеўся, пашоў лупáціць ячмень, тама нібальшэнькыя кучка астывалыся.* 2. Вастрыць мянташкай (касу). *Якей жа сь цябе касец, ежылі касы лупáціць ня ўмеіш.* **Лапаціцца** *незак.* 1. Веяцца ўручную лапаткай. *Канешня, ня будзіць лупáціцца, раз ты сеў па ветру.* 2. Вастрыцца мянташкай (пра касу). *Няклёпыныя кыса і лупáціцца ня будзіць.*

**Лапуховый** *прым. жарг.* Няздатны, абмежаваны. *Сам ён ня дужа пынімаюшчый і зяць такей жа лупуховый пупайся. Памянш.* **лапуховенькій.** *Мама лупуховінькыя была, і дычка нідалёка атыйшла ат яе.*

**Ласкацень, лескацень** *м.* і *ж. экспр.* Балбатун. *Што ты мне гаворіш пры Ныпряёнка, ён лыскацень як пасьледнія баба. А сьціхні ты, ліскацень ніўгамонный! Твыя залоўка тожа тыкая самыя ліскацень.*

**Ласкацець** *незак. экспр.* Балбатаць. *І адна лыскацела, і другая ёй пымыгала: а чаго йта так дзелыіцца, мы работылі цэлый месіц,— дык яны работылі месіц, а астатнія цэлый год.*

**Ласкуціна** *ж.* Ласкут. *Ці я табе ны лапік ац цэлыга куска резыць буду, пушукай якую-небудзь лускуціну дый зылап. Памянш.* **ласкуцінка, ласкуціначка.** *Па-мойму, у пячуркі нейкія лускуцінкі ёсьць, я нідаўна клала туды. Тута нібальшэнькыя лускуцінычка нада, знайдзіш.*

**Ласкуцце, ласкуццё** *н. зб.* Ласкуты. *У шкапу ласкўцьця сколька хочыш, пыглядзі, выбіріш, што табе нада. Лускуцьця́ ў яшчычку ў пасы́лышным многа сыбралыся, тама што захочыш найдзіш. Памянш.* **ласкуццiка.** *Ні выкідай ласкўцьціка, ніхай у вузялку зьвязыныя ляжыць, другей раз нада лапічык пад рукі, а яго німа.*

**Латачка** *ж.* Невялікая гліняная міска. *Дужа спадрушныя лáтычка была і разьбілыся.*

**Латашэнне** *н. экспр.* Абтрасанне, абіранне. *Я ім пыкажу лыташэньня, іш ты іх, узялі пынароўку кажнынюю ноч пу чужых сыдках лазіць.*

**Латвейшый** *прым.* Лепшы. *Есьлі Коля падойдзіць, латвейшый рызгавор палучыцца, а бізь яго ўсё насмырк можыць пайціць.*

**Латвей** *прысл.* Лепш. *Ці ні латвей ба схадзіць к Райчонку ёй самой, усё-тыкі нейкыя рыдня шчытаіцца.*

**Лаўчэйшый** *прым.* 1. Больш лоўкі. *Ніхай кідыіць Коля, ён лаўчэйшый.* 2. Лепшы. *Ірундовыга пацьцёлка я брацъ ні хачу, мне нада пыглядзецъ лаўчэйшыга. Памянш.* **лаўчэйшанькій.** *Клімчанок увы ўсякім дзелі лаўчэйшынькій. Нісколька і етыя грабількі ні лаўчэйшынькія.*

**Лахамудрый, лахамудрастый** *прым. экспр.* 1. Неакуратны. *Усігда ходзіць лыхамўдрый, сам сябе ні даглядзіць. Апусьцілыся, лыхамўдрістыя цігаіцца, ны яе глядзець нілізя.* 2 *іран.* Разумны, хітры. *Мы такіх лыхамўдрых ні аднаго знаді. Ён лыхамудрістый, можыць ураз цябе апхітріць. Памянш.* **лахамудранькій, лахамудрасценькій**. *Каб ужо дзяўчонкі такой лыхамўдрінькій хадзіць, ета саўсім стыдна. Пывіла свайго лыхамўдрісьцінькыга зяця. Дужа ты лыхамўдрінькій стаў, толька ня йшчы дурней зы сябе. Ох, якей лыхамўдрісьцінькій, усіх хочыць пірихітріць.*

**Лахамудрын** *прым.* Такі, які належыць неакуратнай асобе. *Чыя ж тыкая можыць быць адзёжа — лыхамўдріна, нічыя большы.*

**Лахмачка** *ж.* Жанчына з непрыбранымі валасамі. *Ходзіць лыхмáчкыю, прічысацца, як усе, ня можыць.*

**Лацнанне** *н.* Выбіранне зручнага моманту, становішча. *Ніякыя лыцнáньня ні паможыць, кылі сам ня хочыць думыць ні пра што.*

**Лежаный** *прым.* Такі, які пэўны час паляжаў (пра садавіну). *Зь естыя ігрушы лежыныя ігрушкі дужа смашныя. Унісла мне міску лежыных яблык.*

**Лемеш** *м.* Лямеш. *Во тута я пылажыў леміш, хто яго куды прібраў. Памянш.* **лемяшок.** *Як лімяшок стаіць круцей, тады луччы зімля атваліiцца.*

**Лепшыць** *незак.* Паляпшаць. *Пычаў лепшыць грубычку, дык у ёй верьх саўсім уваліўся туды, усярёдык.* **Лепшацца** *незак.* Рабіцца лепей. *Яму, знаць, трошку лепшыіцца, учора выпыўз, сядзеў ну зугувáльні.*

**Лепятаннік** *м.* Лепятун. *Зыняўся соскыю мой ліпітáньнік, сьціх.* **Лепятанніца** *ж. Такея ўжо ліпітáньніцы, яны ныгаворюць бабі ўсяго ўсякыга: і айдзе былі, і што відзілі, і як пы радзіві гываpілі.*

**Лес** *м.* Лес. *Узмацн.* **лясюга, лесюган.** *Такей лясюга быў, высіклі пыччыстую зы вайну. Езьдзілі мы раз у Пятровічы, цірязь лес ехылі,— во люсюгáн, стыяць сосны, аж макушык ня відна. Павеліч.* **лясішча.** *Хадзілі, хадзілі, лясішча бальшэнный, ні знаім, куды двору, во було нам!*

**Лёгкій** *прым.* Лёгкі. **Лёгкій дух.** Пар у лазні пасля першай чаргі наведвальнікаў. *Січас я ні пайду, я пазьней у лёхкім духў ціпануся пару разоў, січас мыя гылыва ня выдзіржыць.* **Лёгкая зямля.** Супясчаная глеба. *На лёхкый зямле ўсё лучы расьцець, а айдзе лі аборкыў як прід, нада дужа хырашо абрыбатывыць.* **Лёгкая печ.** Вытапленая і замеценая печ. *Ны заўтрік варіш, як дровы гыряць, пірят полымім, а на́ дзінь у лёхкыю печ ставіш.*

**Лёля** *ж.* Кашулька (у размове з дзецьмі). *Лёлю надзенім і пойдзім тпрўці. Памянш.* **лёлечка.** *Нада ныдзівоць лёлічку, халодна будзіць.*

**Лёпанне.** *н.* Плясканне. *Ты зірні, якей ён будзіць посьлі етыга лёпыньня.*

**Лёпаннік** *м.* Той, хто пляскае. *Так узяўся лёпыньнік за дзела, думыіць к абеду ўсё кончыць.* **Лёпанніца** *ж. Толька што лёпыньніца, а ні работніца.*

**Лёпацца** *незак.* 1. Пляскацца. *Сколька ты разоў лёпыўся ў ету лужу.* 2 *метаф.* Кешкацца. *Кідай лёпыцца, січас конь пад'едзіць, зьбірацца нада.*

**Лёсканне** *н.* Лясканне (пугай). *Чуіш, ета ўжо Ірмылаіва лёскыньня, ён сяньня пасець кароў.*

**Лёскаць** *незак.* Ляскаць (пугай). *Ух, ёсьць мысьціра́ лёскыць, як лёсьніць — усё дно як стрілянець з руж'я.* **Лёскацца** *незак.* Ляскацца. *Ну-ка, ну, як у цябе лёскыіцца?* **Лёснуць** *зак.* Ляснуць. *Лёснуць у цябе ні пулучаіцца і ні палучыцца.* **Лёснуцца** *зак.* Ляснуцца. *У цябе ні разу ня лёснулыся, ты ня ўмеіш.*

**Лёхаля** *н. жарт.* Лёгкае. *Яму каб лёхыля цэлыя зваріў, ета ён любіць. Памянш.* **лёхалька.** *Дывай-ка мы лёхылька пу кусочыку атрежым, посьлі крупені смашнінька будзіць.*

**Лізь-мызь** *прысл.* Вельмі мала, пераборліва (есці). *Дужа пірябірлівыя дзеці, лізь-мы́зь і ац стыла, самі ні прідумыюць, што б яны зьелі.*

**Лістаный** *дзеепрым.* Гартаны. *Нашто яму накуплівыць столька, у яго вун куча кніжык, і ліста́ныя, і ніліста́ныя ліжаць.*

**Лісціна** *ж.* Асобны ліст. *Пару лісьцін сарьві, г' быкам прілажы, і дынясеш сваё жалезьзя, яно дужа масьліныя. Памянш.* **лісцінка.** *Нейкыя лісьцінка пупала ў вядро, выкінь.*

**Лісціць** *незак.* Даваць у масць пры гульні ў карты. *Лісьця́ць у картых, адзін раз могуць улісьціць, а другей ні падлі́сьцюць.*

**Літра** *ж.*, **літрык** *м.* Літр. *Я кажный дзень бяру літру мылыка, дзеці пріносюць. Ён біс пріпасу ні часу, у яго ўсігда ня меншы як літрік схуваный ёсьць. Памянш.* **літровачка.** *Ты, відна, прігутувай гысьцям літровычку?*

**Ліцаваный** *дзеепрым.* Пераніцаваны. *Ну ета ж ліцуваныя куртычка, во дайжа старыя швы заметны.*

**Ліццё** *н. жарг.* Балбатня. *Наслухыісься і ты іхныга ліцьця́ сколька ўлезіць.*

**Ліць** *незак. перан.* 1. Несці выліўкі (пра курыцу). *Буваіць, што куры льлюць выліўкі.* 2 *жарг.* Балбатаць. *Сойдуцца і пашлі пустоя ліць, што ім большы дзелыць.* **Ліцца** *незак.* Несці выліўкі (пра курыцу). *Была ў мяне куріца, ліла́ся, я яе зарезыла.*

**Лішчэнне** *н.* Ход у масць пры гульні ў карты. *Ты ня жджы лішчэньня, а адбівайся.*

Лонскій: **чорт лонскій.** Невядома хто; наогул ніхто. *Чорт лонскій к ім пріхадзіў, ета во гываріць нечыга, дык выдумыюць ніізьвесна што. Чорта лонскыга яны знаюць.*

**Лотраў, лотрын** *прым.* Такі, які належыць гультаю, мае адносіны да гультая. *Хацеў ты, каб лотрыў касьцюм быў чыстый,— ні ў жысьць ня будзіць. Лотріны пріборы раськідыныя выляюцца.*

**Лоўкенька** *прысл. памянш.-ласк.* Лоўка, спрытна. *Ён пацуэліцца — лоўкінька выцігніць, у яго ні пытаць.*

**Лоўкенькій** *прым. памянш.-ласк.* Лоўкі, спрытны. *Лоўкінькыя дзяўчонка, так скорінька ткець.*

**Лубянелый** *прым.* Засохлы, закарэлы. *Хуць етый лубянелый плашчык накінь, усё ні так зьмякніш.*

**Лузкан** *м.* Спелы арэх, які сам вылузгваецца. *Мы якіх зря арехыў ня шчыпім пыдряд, мы адных лузканоў нывыбіралі. Памянш.* **лузканчык, лузканік, лузканок.** *Якея ў цябе харошыя лузка́нчыкі, дай паспробывыць. Пы кырману лузка́нікыў насыпылі і пашлі ны вічарінку, дзевык угышчаць. Якея харошыя арешыкі, лузканок к лузканку.* **Лузканнё** *н. зб. Во ета лузканьнё, нысты-яшчыя арехі!*

**Лунка** *ж.*, **лунок** *м.* Вузкая градка. *Я ўсігда дзьве лу́нкі капусты саджу. Адзін лунок пірябіла мякка вілкымі, а як с астатнімі справіцца, ні знаю. Памянш.* **луначка, луночак.** *Лу́нычку морквы пасеіла, ніхай будзіць дзіцям, яны летым пріедуць. Я бальшых гряд ня дзелыю, луночык гуркоў, трошку цыбулі пысаджу, капусты.*

**Лупастый** *прым.* Лупаты. *Два пырядышныя мальцы*

*бегыюць лупа́стыя, большый увесь чысьцінька Пятрок. Памянш.* **лупасценькій.** *Ніхай сабе лупа́сьцінькыя, ніхай руззлупа́сьцінькыя, ныравіцца яму і ладна.*

**Лупанне** *н.* Няўцямны погляд. *Ці ты ня можыш бяз лу́пыньня, етык жа нікрасіва дзелыць.*

**Лупасцік** *м.* Лупаты чалавек. *Ні зыдывайся з лупа́сьцікым сы сваім, ён ужо ні адной абішчаў жаніцца.*

**Лупіць** *незак. перан.* 1. Імкліва ісці. 2. Есці. *Лу́пюць мяса з бульбыю, во пы такому кусюга́ну ў руках у абоіх.* **Лупнуць, лупануць** *зак.* Хвоснуць. *Некыму цябе лупну́ць хырашэнька, бацькі ны цябе ладныга німа. Лупану́, што саўесься, во табе будзіць балыўства.* **Лупёмшы** *дзеепрысл.* 1. Лупячы. *Лупёмшы кыня, парезыў паліц.* 2. Лупцуючы. *І сыма ныплакылыся, лупёмшы яго.*

**Лупленне** *н.* 1. Здзіранне скуры, кары. *Якоя ў цябе лупленьня, калі ты айчынку прарезыў.* 2 *перан.* Лупцоўка, біццё. *Калі ўжо зыдайся неслух, яму і лупленьня ні паможыць.*

**Лупнуць** *зак.* Глянуць няўцямна. *Яго будзіць — горя, тырмашу́, тырмашу́, лу́пніць вычамі і ўзноў сьпіць, нізашта ні дабудзісься.*

**Лупы** *мн. абразл.* Вочы. *Пратрі све лу́пы, ужо дзевіць часоў пы радзіву скызалі.*

**Лут** *м.* Клубок з лык, пакроеных на вузкія палоскі. *Клубок кроіных лык, забыў як звацьъ,— а во ўспомніў: ета лут.* **Луток** *м.* Знятая з ліпы і высушаная кара для пляцення лапцей. *Луток — лыкі някручыныя, а кручыныя — быраньк.*

**Лухта** 1 *ж.* Лухта. 2 *м.* і *ж. метаф.* Балбатлівая асоба. *Якей зь яго чылавек, лухта́ ніпутная быў. Тыкая ўжо лухта, што хочыш ляпніць і ні падумыіць.* **Лухцішча** *ж. Павеліч. ад* лухта 1. *Ета твой сьвёкыр лухці́шчы напёр, ніхто кромі яго.*

**Лухценне** *н.* Лухта, плявузганне. *Ці ты ішчэ ні наслухылыся іхныга лухценьня?*

**Лухціць, лухцець** *незак.* Гаварыць лухту, плявузгаць. *Лухцілі, што Гаўрілёнык зьбіраіцца ў сваты к Райчонкывый, толька ныўряд, каб ета праўда. Нашто ж ім було лухцець, яны там ні былі і нічога ня відзілі.* **Лухцёмшы** *дзеепрысл. Як у вас ізыкі ні зыбылящь лухцёмшы.*

**Лыжына** *ж.* Асобная лыжа. *Мы лыж ні купялі, самі дзелылі, я, помню, адну лы́жыну кляновыю выстругыў, а другую бярёзывыю. Памянш.* **лыжынка.** *Ну глянь ты сам, чаго ў яго тая лы́жынка ні прічэплівыіцца.*

**Лында** *м.* і *ж.*, **лынданнік** *м.* Гультаяваты бадзяка. *Трудна лы́нду зыставіць рукі прілажыць к чаму-небудзь. Дзяўчонка ў гыдах, а еткыя лы́нда. Тым лы́ндыньнікым ніякыга зыняція німа, блукуняліся б і блукуняліся, каб ні за што ні ўзяцца.* **Лынданніца** *ж. Не, лы́ндыньніцыю на сьвеці ні прыжывеш, работыць нада.*

**Лындацца** *незак.* Бадзяцца ў бяздзейнасці. *Прівык лы́ндыцца. Ці табе лы́ндыіцца, як і раншы, ай абрузуміўся троху?*

**Лынды** *мн.*, **лынданне** *н.* Бадзянне ў бяздзеянні. *Некыму сь цябе лы́нды выгыняць, каб ты за дзела браўся. Я б ны такоя лы́ндыньня глядзець ні стаў, касу б у рукі ды йдзі на луг.*

**Лысік** *м. зневаж.* Лысы чалавек, сын лысага чалавека (ужываецца як дражнілка). *Сяньня лы́сікі прібігаць ны вічарінку. Сяку, сяку, ня высіку, едзіць чорт на лы́сіку.* **Лыска** *ж.* Дачка лысага чалавека. *Тоньку ма́льцы ўсё лы́скыю дражнілі, а іна сердзілыся.*

**Лыханне** *н.* Беганіна з мэтай пажывіцца. *Як ёй ні ныдаесьць ета лы́хыньня, ня любюць нійдзе — не, усё дно бягіць.*

**Лыхаць** *незак. неадабр.* Бегаць з мэтай пажывіцца. *Лы́хыіць пы хатых дзень прі дні, другога зыняція ў яе німа.*

**Лычаванне** *н. метаф. неадабр.* Падкоп. *А ці ты лычува́ньня іхныга ні баісься, яны, знаць, усюрьёз бяруцца.*

**Лэпанне** *н.* Хапанне. *Знаіш, што за лэпыньня пу руках пупыдаіць?*

**Лэпаннік** *м.* Той, хто хапае. *Адзін лэпыньнік пулучыў, і ты схваціш, ды яшчэ як!*

**Лэпнуць** *зак.* Схапіць, хапануць. *Так можыш лэпнуць, ажно закруцісься, кывалер найшоўся саплівый.*

**Лэпух** *м. экспр.* Някемлівы чалавек. *Што ат яго хацець, кылі ён лэпух быў і астаніцца ім.*

**Люгавец** *м.* Брыдкі, непрыемны чалавек, нягоднік. *Каму ён, такей люга́віц, нада, зь ім путная дзейка слова скызаць ні захочыць.* **Люга́ўка** *ж. Я пра ету люга́ўку дайжа гывaріць ні хачу, яе зы чылавека ніхто ня вёў і ні вядзець.*

**Люгавый** *прым.* Брыдкі, непрыемны, нягодны. *Ён мог патторнуць каго хочыш, падвесьць, люгавый быў чылавек.*

**Люгашка** *ж.* Жаба. *Буцяны́ ходзюць пы балоту і ловюць люга́шык. Памянш.* **люгашачка.** *Люга́шычык ма-*

*ліньківх пы балоту як усыпына, аткуль яны толька бяруцца.*

**Люгашкін** *прым.* Жабіны. *Люгашкіны сьлядкі, іна тут пырьхыла.*

**Люля** *ж.* Калыска (у размове з дзецьмі). *Пыкладзём цябе ў люлю, будзіш спаць крепінька-крепінька. Памянш.* **люлечка.** *Сяньня ты лажысься ў новый люлічкі.*

**Лягенне** *н.* Вантробы. *Усё лягеньня ў ночвы выгрузіш, а посьлі пірімуваіш, як с салым, зь мясым упыряччысься.*

**Лягчаннік** *м.* Канавал. *Хадзіў нейкій ліхчаньнік, ныбівайся, п'яный, я яго ні пусьціў.*

**Лядзець, ляднець** *незак.* 1. Пакрывацца лёдам. *Нейкыя ўсё дно як рось, і зразу лядзеіць усюдых.* 2. Мерзнуць. *Чаго яны там лядзеюць, ніхай греццa ідуць. Пойдуць ляднець, ім жа каб толька кучыю, гатовы хуць куды.*

**Лядоўня** *ж. метаф.* Вялікае халоднае памяшканне. *Нашто вам на трі душы еткыю лядоўню рызвадзіць, яе ні натопісься, дроў ні навозісься.*

**Ляжучый** *прым.* Ляжачы. *Ляжучыя усё трудна жаць. Пыд ляжучый камінь выда ні цякець.*

**Лякнуцца** *зак.* Спалохацца. *Ні пускай яго аднаго, каб ні лякнуўся, сыбака кініцца ці яшчэ хто спужаіць.*

**Лялька** *ж. перан.* 1. Дзіця. *Ішчэ замужым ні была — ляльку сабе зыімела.* 2 *метаф.* Хворая канечнасць. *Пулучыў ляльку: носіцца з рукою як з дудою, зыбінтувана па локыць. Памянш.* **ляля, лялечка.** *Што, у тваe ўжо другая ляля? Хлеба ішчэ падумый ці заробюць, а лялічык на сьвет нупускаюць. Ты ўжо ізноў зь лялічкыю носісься, што, пасек ці парезыў.*

**Лямця** *м.* і *ж.* Нязграбная, няўмелая асоба. *Зь лямцію дзелыць што-небудзь — луччы ні брацца. Тыкая ўжо лямця, што большы некуды.*

**Лямчанне** *н.* Злямчаны матэрыял. *Сыбраў ба ўсё лямчыньня ды ў печ укінуў, нікуды яно ні нада, толька места зынімаіць.*

**Ляпаннік, ляпканнік** *м.* Той, хто ляпае, стукае. *Да цёмныга тваe ляпыньнікі нешта мысьцярілі пыт павецьцю. За што йта ўзяўся тэй ляпкыньнік.* **Ляпанніца, ляпканніца** *ж. Ні пырызьбівай тама пасуду, ляпыньніца. Ніхай ба тваe ляпкыньніцы трошку ўняліся.*

**Ляпендра** *ж. неадабр.* Паўнатварая, таўстагубая, неахайная жанчына. *Прівёз сабе нейкыю ляпендру, ці доўга ён зь ёю ужывець.*

**Ляпіць** *незак. метаф.* 1. Ненадзейна класці, ставіць. *Што ты лепіш ну крюшочык, зваліцца ла́тка і рызаб'ецца.* 2. Біць без жалю. *Дывай яму ляпіць з вуха на вуха.* **Ляпёмшы** *дзеепрысл.* Лепячы. *Акуратней мыхай, забрызкыісься ўвесь, так ляпёмшы.*

**Ляпканне** *н.* Ляпанне, стуканне. *Нічога з вашыга ля́пкыньня ні палучыцца, тута нечыга чыніць.*

**Ляпкаць, ляпкацца** *незак.* Ляпаць, стукаць. *Кываль зь яго ні ахці якей, ну трошку ля́пкыіць, хут такей, і то ладна. Хваціць вам ля́пкыцца, ідзіця есьць, посьлі з быраною давозіціся.*

**Ляска** *ж.* Маленькая планачка ў верхняй частцы воза. *Ля́скі ў калёсых цешуць бярёзывыя. Калёсы рассохліся, ажно ля́скі шытаюцца. Памянш.* **лясачка.** *Ля́сычкі ў калёсых пывывалівыліся, нада цісаць новыя.*

**Ляўша** *ж.* Левая рука. *Прівык усё дзелыць ляўшою, толька пішыць правыю.*

**Ляцець** *незак. метаф.* Быць знятым з пасады. *Каторый ужо раз ён ляціць, куды ня ўстроіцца, месіц-другей пытарчыць і гонюць зу гультайства.*

**Ляшыльшчык** *м.* Той, хто лешыць. *Ляшы́льшчыкі пу пучку саломы пыт паху і пашлі.* **Ляшыльшчыца, ляшэнніца** *ж. Ікая зь яе ляшы́льшчыца, луччы я сыма прайду, прывяду сьлед нагою. Во табе ляшэньніца, зымарілыся, двацыць сотык пыхадзёмшы.*

**Ляшыцца** *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* ляшыць. *Што, посьлі вічарінкі ня дужа хырашо лешыцца?* **Ляшомшы** *дзеепрысл. Зыцігалыся я ляшомшы, а ну яго, ляшыць тожа ні так лёхка.*

# М

**Малавумак** *м. абразл.* Дурань. *Кылі зыдаўся мылаву́мык, дык ты яго ні піря́ўчыш і ні пірядзелыіш ні ў чом.*

**Малалетный** *прым.* Малых год. *Ён саўсім мылалетный астаўся ад бацькі, нугурюваўся. Памянш.* **малалетнянькій.** *Будзіш во так нянчыць і нянчыць, да веку будзіць мылалетнінькій.*

**Малацільня** *звыч. ж. метаф. асудж.* Балбатлівая асоба. *Зывілася мылаці́льня, піряслухыць яе хуць пызычай цярьпеньня.*

**Мальбон** *м.* Лаянка. *У Ярмоліхі мальбон праслухый, цяперя стаіць, думыіць, куды б яшчэ схадзіць.*

**Мандзюр** *м.* Гніласнае пашкоджанне на бульбіне.

*Бульба нічога ўрадзіла, буйныя, толька мундзюроў многа, як возьміш скабліць, усё кулупайся. Памянш.* **мандзюрок.** *Сёліта ўся бульба ў мундзюрках.*

**Мантачаннік** *м.* Марнатравец. *Мынта́чыньнікі вы, разьві ж так можна жыць на сьвеці, што ў вас усё ідзець па ветру.* **Мантачанніца** *ж. Мынта́чыньніца, а ні хызяйка, к цёплыму ўремю ў цябе аднае крошкі жыроў ні астанецца.*

**Марганнік** *м.* Той, хто моргае, падморгвае. *Каб рімушок харошый на етых мырга́ньнікыў, ета ж у чые-то гурочыкі цэлюцца.* **Марганніца** *ж. Відзіш, ікая мырга́ньніца, усё нешта на Грішычку Тоцькі пыказывыіць.*

**Мардаваннік** *м.* Той, хто мардуе, мучыць. *Быў кыналуп, мурдува́ньнік, пряма зырізаў коні.* **Мардаванніца** *ж. Іна січас сыма ўніміцца, ета мурдува́ньніца.*

**Марзёп** *выкл.* Пра квэцанне, пэцканне. *Я відзіла, як іна беліць: шах, шах, марзёп, айдзе мысьлянута, айдзе так кініць,— і пышла.*

**Мармытуля** *м.* і *ж.* Мармытун. *Мырмыту́ля нейкій, я нічога ні рызьбяру, што ён скажыць. Ета ж такея песьні пяець мыя мырмыту́ля. Памянш.* **мармытулька, мармытулечка.** *Хадзі, мырмыту́лька, са мною пысядзі, у мяне канхветкі ёсьць. Мыя мырмыту́лічка нешта скызаць хочыць.*

**Маруднік** *м.* Той, хто марудзіць. *Кузьмянкоў усігда быў мару́днік, сколька я помню яго.* **Марудніца** *ж. Такою мару́дніцыю на сьвеці ні прыжывеш, нада шустрей вурушыцца.*

**Масляненне** *н.* Пэцканне ў тлушчавае рэчыва. *Як нікрасіва ны тваё мысьля́ніньня глядзець, саўсім ты нікуратный зьдзелыўся.*

**Масляніць** *незак.* Пэцкаць у тлушчавае рэчыва. *Ні мысьля́нь-ка ты кылы машыны чыстыя адзежыны!* **Масляніцца** *незак.* Пэцкацца ў тлушчавае рэчыва. *Твыя кохта пычыла мысьля́ніцца, ты б яе к посыду ні ныдзівала.*

**Мататуй** *звыч. м. абразл.* Дурань, тупіца. *Кылі мытату́й, зь ім ці гыварі, ці ні гыварі, толку ні знайдзіш. Узмацн.* **мататуіна.** *У каго ён удаўся, еткій мытату́іна! Павеліч.* **мататуішча.** *Мытату́ішча ты, во хто ты і нечыга мне с табою тулкуваць.* **Мататуйка** *ж. Мытату́йка ты с пустога балота, большы ніхто, тама такея, як ты, нясеіныя растуць. Памянш.* **мататуечка.** *Пусьціў бог на сьвет мытату́ічкыю, давеку такою будзіць.*

**Матка** *м.* і *ж.* Важак пры гульні ў мяч. *Маткі меріюцца ны палкі, каму пад ніз іціць, каму нывярьху быць. Як захочуць гулять у мячыка, сьпірва нада брацца ны маткі, а посьлі згыварівыюцца, і тая матка, што нывярьху, выбіраіць сабе гульцоў.*

**Матузнік** *м.* Непаважаны чалавек. *Яны крічаць яму: «Эй ты, матузьнік, мы к табе ня пойдзім!» — «А кылі я матузьнік, а вы вісокі, дык я вас паніжу»,— і атыбраў зямлю.* **Матузніца** *ж. Луччы з матузьніцыю ні зьвязывыцца, ну душэ чысьцей будзіць.*

**Матушка** *ж.* Мат. *Ат такога ні раз матушку пачуіш. Лыўрінёнык устреціў Высіля, пы матушкі яго нылаіў, нылаіў і пашоў.*

**Матычаннік** *м.* Той, хто матычыць. *Стыряюцца матычыньнікі, відна, хочуць зьбегыць пугулять.* **Матычанніца** *ж. А тыкі зымаріліся матычыньніцы, пымыхай-ка цэлый дзень ды такою жарою.*

**Махлатый, махластый, махлавастый** *прым. неадабр.* Бяздумны, ветраны. *Што ты ат яго хочыш, кылі ён усігда быў мыхлатый. Мыхластыя баба, ляпніць ні падумыўшы што заўгодна. Каб ні ўрадзіўся мыхлывастым, луччы було б. Памянш.* **махлаценькій, махласценькій, махлавасценькій.** *Што ўжо хацець ат мыхлацінькыга. Ну трошку мыхласьціньксій, ікраз пы нявесьці. Пірідай сваёй мыхлывасьціньксый, ніхай уніміцца зь ізыком.*

**Махляваннік** *м.* Махляр. *Глядзі, з мухлюваньнікым ні зьвязывыйся, ураз кругом пальца абвядзець.* **Махляванніца** *ж. Знаю я цябе, мухлюваньніца, дайжа знаю, пра што ты думыіш.*

**Махнуцца** *зак.* Пабегчы. *Па-мойму, у правулычык твой цялёнык махнуўся, ён ці ні праведыў дарожку ў клівярок.*

**Махол** *м.* і *ж.* Бяздумная, ветраная асоба. *Што табе путноя махол рыскажыць, трілюду якую-небудзь. Адзін бог знаіць, ікая іна махол.*

**Маху** *прысл.* Спрытна, як мага хутчэй. *Паднімуцца раніньа і маху ў лес, у арехі. Старэй Мільлян іх пыдззываіць, а яны маху ат яго.*

**Машкар'ё** *н. зб.* Машкара, заядзь. *А ўсякыга мышкырья хвытаіць, глядзі, у вока што пупадзець.*

**Машэнстваванне** *н.* Машэнства. *Мой старік ні любіў машэнствывыньня, машэньнік, гываріў, пасьледній чылавек.*

**Машэнстваваць** *незак.* Ашукваць, падманваць. *Зь імі*

*дзяржы вуха войстра, дужа машэнствывыць любюць.*

**Медавік, мяднік** *м.* Пчаляр. *Тады паехыў Хведзька к мідывіку́, прівёз пырядышнью банычку мёду. Ні так даўно ў Сьвітазеры быў мяднік, і ў яго мёд хырошый бралі.*

**Медуніца, медунічына** *ж.* Сорт яблык са скараспелымі салодкімі пладамі. *Нада було б мідуніц нескылька прішчапіць, ніхай ба дзіцям была зыбава. Цэлыю кашолку прінёс мідуніц. Ці ні мідунічына ета ў цябе? Памяниш.* **медунічка, медунічынка.** *Наша мідунічка зьмерзла зімою, жалка, дужа смашныя былі яблыкі. Ці ўгасьціць цябе мідунічкымі? На во, нескылька мідунічынык асталысь.*

**Меканне** *н.* Мэканне. *Ці чуіш мекыньня, ета ж узноў бычок с пустуха ўцёк.*

**Меканнік** *м.* Той, хто мэкае. *Стаіць твой мекыньнік кылы ґаньык, піць просіць.* **Меканніца** *ж.* *Цішы, цішы, мыя мекыньніца, січас вынісу табе вядзерца.*

**Мелянуць** *зак. перан.* Сказаць не падумаўшы. *Штонебудзь мілянець, а тады глядзіць: што йта я скызала?*

**Мул** *м.* Іл. *Увы ўсякый вадзе мул ёсьць. Памяниш.* **мулок.** *Ноч як пыстаіць выда, дык мулок на дне асідаіць.*

**Муравейніца** *ж. метаф.* Старанная, працавітая дзяўчына. *Дзед Бязрукій ні кідаў нас, зваў мяне: муравейніца мыя.*

**Мурашаскій, мурашаўскій, мурашаччый** *прым.* Мурашыны. *Мура́шыскія ванны дзелыць хырашо, дужа пальзіцільны. Луччы німа мура́шыўскія ванны, усякыю балезьню як рукою зьнімаюць, асобінна палезны прі рымацізьмі. Можа калі табе трапіцца мура́шыччыга сьпірту, ато біз ріцэпта ў нас ні даюць.*

**Мурзапонка** *ж. экспр.* Мурза, мурзатая жанчына. *Турні ету мурзапонку, каб ня лезла сюда, ёй тута дзела німа ніякыга.*

**Мурзаціць** *незак.* Мурзаць. *Пірістань ты дзіцёнку пхаць, ён есьць ня хочыць, ты яго толька мурза́ціш.*

**Мушкарыць** *незак.* Муштраваць. *Відна, мала цябе мушка́рюць у зіцях, што ты пру другіх думыіш.*

**Мшыць** *незак. метаф.* Рабіць шурпатым дрэва (пра тупы тапор). *Тапор зутупіўся большы некуды, ён ня цешыць, а мшыць.*

**Мядзяш** *м.* Кавалачак медзі, медная манета. *Ета нейкій мідзя́ш, відна, дзеці прінясьлі неткуль. У цябе, знаць, мідзяшы́ ў кырмані зьвіняць. Памяниш.* **медзяшок.** *Айдзе табе пупаўся такей мідзяшок?*

**Мяк** *выкл.* Пра важкі ўдар. *Мяк яго ў плечы, а тады другей раз мяк!*

**Мяканне** *н.* Важкае біццё. *Іванька ат твайго мя́кыньня толька пыхціць. Ну хто ж твайго мя́кыньня спужаіцца?*

**Мякіненне** *н.* Забруджванне мякінай. *Ці відзіш, якей ты стаў посьлі мякініньня, хуць венікым абмяціся.*

**Мякініна** *ж.* 1. Парушынка мякіны. *Мякі́ніна вун ны шапкі.* 2. Мякіна наогул. *Ікая мякі́ніна была, ні тріпуціў з восіні, пыгніла ўся, папрела. Памянш.* **мякінінка.** *Мякі́нінкі пы ўсяму пінжаку.*

**Мякініць** *незак.* Забруджваць у мякіну. *Ня лезь ты сюда чыстыя штаны мякі́ніць, запылівыць, мы тута адны справімся.*

**Мярылка** *ж.* Прыстасаванне для вымярэння, сажань. *Нехта ж браў тваю мярі́лку, пыдажджы-ка, можа, я ўспомню, хто йта тріхадзіў.*

**Мярэканнік** *м.* Той, хто спрабуе падумаць і зразумець. *Вы як возьміціся удваіх мярекыньнікі, зразу пыйміцё, што к чаму.* **Мярэканніца** *ж. Самыя луччыя мярекыньніца с Храсеньніный дачкі, усё пынімаіць.*

**Мяшанне** *н.* Паўторнае ворыва. *Мяккыя міша́ньня, як станіш, ныга пряма тоніць.*

## Н

**Наабдурываць** *зак.* Нападманваць. *Ну, ці многа ты ныабдў́рівыў Кымшачонка, а во што ён цябе акылпачыў, дык ета праўда.*

**Наамацца, наамкацца** *зак.* Пад'есці (у размове з дзецьмі). *Ныа́мыімся і пойдзім гуляць на вуліцу. Во ныа́мкыўся, як пузырь, толька пыхціць.*

**Набалдзіць** *зак. неадабр.* Нагаварыць пустога, неверагоднага. *Табе нарошня ныбалдзі́лі, а ты й паверіў.* **Набалдзіцца** *зак.* Набалбатацца, перастаць гаварыць глупства. *Калі ты ўжо ныбалдзі́сься, худзь ба ж адно слова праўды було ў тваіх тріл́юдых.*

**Набеглый** *прым.* Такі, які з'явіўся раптоўна невядома адкуль. *Яны нейкія набеглыя, ат вайны тута асталіся і асталіся.*

**Набілябеніць** *зак. неадабр.* Набалбатаць без сэнсу і разумення. *Ні знаю, што яны тама ныбілябенілі пры Сахроныввых.* **Набілябеніцца** *зак.* Набалбатацца без сэнсу і разумення. *Можа ж прідзіць уремя, што і етыя пад-*

*ругі ныбілябенюцца, толька няскора такоя ўремя прідзіць.* **Набілябеніный** *дзеепрым. Ім німала чаго ныбілябеніна, етыя свайго ня ўпусьцюць.*

**Набожкацца** *зак.* Навохкацца, нашкадавацца. *Што, кылі йна прібягіць, набожкыіцца, паможч іна нічога ні паможыць.*

**Набохацца** *зак. экспр.* 1. Набіцца (пра людзей). *Людзей набохылыся ў хату, і ўсе ні пымясьціліся.* 2. Напіцца звыш меры. *Халодныя вады набохыюцца, а тады хы́рліюць.*

**Наброхаць** *зак. неадабр.* Напоўніць вадой. *Пуза набрёхыіць як бырыбан. Набрёхыў пузішча, толька пыхціць.*

**Набулдыхаць, набулдыхацца** *зак.* Атрымаць непрыемнасці ў выніку скакання ў ваду. *Нубулды́хыюць, як каторый на корч узаб'ецца. Ладныга нубулды́хыліся, Пітрачковыга чуць выцігнулі, ладна, што большыя хлопцы былі, аткычалі.*

**Набухторыванне** *н. неадабр.* Наліванне праз меру. *Я знаю тваё нубухторівыньня: збрэзь кажный раз і збрэзь.*

**Набяздзельнічаць, набяздзельнічацца** *зак.* Дайсці ў бяздзеянні і гультайстве да пэўнага выніку. *Ныбязьдзельнічыіш, як бяз бульбіны астанесься ў зіму, тады грызьнеш зы паліцу. Ну й ныбязьдзельнічыліся ж, як ім толька ня стыдна ў етыя Мархвы за стол садзіцца, кусок хлеба браць.*

**Навалындацца** *зак.* Перажыць шмат турбот. *А сколька ж нывалы́ндыліся, пакуль усе бумажкі пысыбралі!*

**Наварка** *ж. жарг.* Прыбытак. *Усігда глядзіць, каб яшчэ і ныва́рка была. Памянш.* **наварачка.** *Ну што, пулучыў ныва́рычку ай іс свайго кырмана прішлося дыкладывыць?*

**Навешаць** *зак. жарг.* Пабіць. *Ім абоім ладна навешылі, толька ты ні гывbooрі нікому, ато пойдзіць пу людзях ат мяне.*

**Навойнік** *м.* Навой. *У нас редка гываріліі навойнік, усё навой і навой. Памянш.* **навойнічак.** *Навойнічык зьдзелыць тожа нада ўмець, ета ня кол зыцісаць.*

**Навысмаргываць, навысморгываць** *зак.* Навыцягваць смограючы. *Нітык нывысма́ргывый, скруці ў суваёк, во табе і зывязка будзіць. Сьпялейшых кыласкоў нывысморгывыў па жыту с краю і пряжмо зьдзелыў.* **Навысмаргывацца, навысморгывацца** *зак.* Навыцягвацца

сморганнем. *Сколька нывысма́ргывылыся, дывай, ці я тута буду ждаць. Трошку нывысморгывылыся і хваціць.*

**Навысмаргываный, навысморгываный** *дзеепрым. Ні цігай большы, тута ішчэ нывысма́ргывыных сувайкоў многа. Чаго тута выляіцца нывысморгывыныя пышаніца, каму ета нечыга було дзелыць?*

**Навышній** *м.* Усявышні. *Мне твой навы́шній ня дужа ў модзі. Ніхай адзін навы́шній знаіць, што я цярьпела аць цябе.*

**Навярнуць** *зак. метаф.* З'есці з вялікай ахвотай. *Ты пыглядзеў ба, як яго зяць жрець: чугунок капусты нывярну́ў міскі трі, тады крупені зыбіляныя, і мяса хунты два, яй-богу, ня меншы.*

**Навярху** *прысл.* У вядучай камандзе (пры гульні ў мяч). *Айдзе я гуляў, мы пасьці ўсігда былі нывярьху. С харошыю маткыю усігда будіця нывярьху́, а тэя, пыд нізом, згніюць.*

**Нагамацца, нагамкацца** *зак.* Пад'есці (у размове з дзецьмі). *Ныга́мыйся маліныкій, спаткі хочыць, січас пасьцельку рысьсьцялю. Нада ныга́мкыцца хырашэнька, а тады і гуляць пойдзім.*

**Нагасцяваць** *зак.* 1. Пакарыстацца правамі госця. *У Праскоўіных доўга ні ныгасьцю́юць, судкі пабудуць і тэя скажуць: едзьці-ка вы з богым.* 2. Пачаставаць, начаставаць. *Ці хырашо ж вашых сваты нугусьцюва́лі? — яны тама доўга былі.*

**Нагламазджыванне, нагламазджэнне** *н.* Нагрувашчванне. *Калі ты рызьбяреш ета ныглыма́жджывыньня, тут жа пывярнуцца нілізя. Худзь ба ты прібраў троху ныглымажджэньня, ступіць нейдзі.*

**Нагламазджываць** *незак.* Нагрувашчваць. *Вы ўсё ныглыма́жджывыіця на бочкі, яно як гуркніць, будзіць тут ні прышчаміцца.* **Нагламазджывацца** *незак.* Нагрувашчвацца. *Пылавіну ўсяго нада було даўно паськідывыць, а ў вас большы і бо́льшы ныглыма́жджывыіцца.*

**Надаеднік** *м.* Дакучлівы чалавек. *Ты ныдаеднік як ма́ліныкій дзіцёнычык.* **Надаедніца** *ж. Я ўжо рада, што ета ныдаедніца аччапілыся.*

**Надвечараць** *незак.* Набліжацца да часу, калі вечарэе. *Пычало ўжо ныдвічыря́ць, як мае госьці ўваліліся ў хату.* **Надвечарэць** *зак.* Пачаць вечарэць. *Я выхадзіла на вуліцу, ныдвічарела, нічога ніійдзе ня чутна було.*

**Наджыданне** *н.* Няпэўнае чаканне. *А сьціхні ты сы сваім ныджжыда́ньнім, ні паедуць яны сюда.*

**Наджыдаць** *незак.* Няўпэўнена чакаць. *Во сядзім, ныджжыдаім, абішчалі к абеду пыцскачыць, ужо і конь прігнат, і бульба насыпына.* **Наджыдацца** *незак.* Няўпэўнена чакацца. *Яны ішчэ ўчора ныджжыдаліся, дык во сяньня ці пад'едуць, ці не.*

**Надзелень** *прысл.* Крыху зеленавата. *Па-мойму, каноплі ішчэ надзьзілінь, іх браць рунувата, нада пару нядзель пыдыждаць.*

**Надзелываць** *незак.* Набруджваць. *Каб я была ў дваре, ці я ж ба пазволіла яму так надзелывыць.* **Надзелывацца** *незак.* Набруджвацца. *Як жа яно ня будзіць надзелывыцца, кылі цэлыя раньня топчысься пы грязі, пы гнаю, а ўсё зы ныгамі ў хату нясецца.* **Надзелаць** *зак.* Набрудзіць. *Ён сабе сьпіць, сенцы аччыніты, куры ўваліліся ў шаічку, пырысьцігалі бульбу, надзелылі ў сенцых, што ні зайціць.* **Надзелацца** *зак.* Набрудзіцца. *Каб сам троху акуратней глядзеў, так ба ні надзелылыся, а ў нізґраі аткуля пырядык будзіць.* **Надзеланый** *дзеепрым.* *У сенцых нымяшона, у хаці надзелына — дзьве дзейкі і пырядку ня могуць навесьць.*

**Надзюбаць** *зак.* Пашкодзіць дзяўбаннем. *Клумычку тваю куры надзюбылі, сенцы ні зычыняюцца, а яны толька і глідзяць, каб шмыгнуць сюда.* **Надзюбаный** *дзеепрым.* *Пыглядзела я — гуркі надзюбыныя, нашто етым курям гуркі, ці яны галодныя.*

**Надзюндзіць, надзяндзіць, надзюндзюліць, надзяндзюліць, надзюндзюрыць, надзяндзюрыць** *зак. неадабр.* Набалбатаць. *Дык што ваша госьця тута надзюньдзіла? Чаго ня зьдзелыюць, а ныдзяньдзіць умеюць. Пышла кы Льлёвым, узноў нечыга нудзюньдзюліць. Клянуся, што ета Антаноўна ныдзяньдзюліла, большы ніхто. Можа, і ні нарошня, ну ета яго жонка нудзюньдзюріла. Ім нядоўга ныдзяньдзюріць, нічога ня дзелыўшы.* **Надзюндзіцца, надзяндзіцца, надзюндзюліцца, надзяндзюліцца, надзюндзюрыцца, надзяндзюрыцца** *зак.* Набалбатацца. *Ну, можа ж, за судкі надзюньдзіліся. Сколька ўремя вам нада, каб ныдзяньдзіцца? Пышла сьвякруха ат Мішычкіных, нудзюньдзюлілыся. Ну пастойця ўжо мінутку, ніхай ныдзяньдзюлюцца. Ні ў век ні нудзюньдзюрюцца, судкі гатовы піріліваць с пустога ў парожнія. Ірмылай ні станіць ждаць, пакуля яны ныдзяньдзюрюцца.*

**Надзяўбыванне, надзёўбыванне** *н. перан.* Нанясенне адзнак дзяўбаннем. *Ны такой скыльзаце і ныдзяўбывыньня ні пымыгаіць. Во надзёўбывыньня трошку відна.*

**Надрогаць, надрогкаць** *зак.* Натрэсці па няроўнай дарозе на возе. *Я сваю нагу надрёгыла, дык стала яшчэ большы балець. Ці хырашо цябе зяць надрёгкыў зы дарогу?* **Надрогацца, надрогкацца** *зак.* Натрэсціся па няроўнай дарозе на возе. *Я надрёгыюся, тады мне яшчэ хужы, едзьця вы бізь мяне, адны. Нічога, кылі трошку надрёгкыісься, цэла будзіш.* **Надроганый, надрогканый** *дзеепрым. Надрёгыныя цела неік пряма рызламывыіцца. Чаго ж ня будзіш надрёгкын пы такіх кулдобіных.*

**Надрэнчыцца** *зак. асудж.* Закончыць гарачыцца, штукарыць. *Ты стой, жджы, пакуля ён надрэнчыцца,— ну й чылавек, ніізьвесна што ў ём зывіряіцца.*

**Надсыр** *прысл.* Крыху сыравата. *Ні разу нáцсырь адзёжу ні складывый, папорціцца зразу.*

**Надтаплівацъ** *незак.* Заканчваць паліць у печы. *А я ныттáплівыла печ і нічагенічка ня чула.* **Надтаплівацца** *незак.* Заканчвацца паліцца ў печы. *Печ ныттáплівыіцца, а ў мяне ішчэ нічога ні прігатоўліна нá дзінь.* **Надтапіць** *зак.* Амаль закончыць паліць у печы. *Печ ныттапіла, а заўтрік ні гатоў.* **Надтапіцца** *зак.* Амаль закончыцца паліцца ў печы. *Печ як наттопіцца, так і прістыўляй усё нá дзінь.* **Надтопленый** *дзеепрым. Я січас, печ ужо наттопліна.* **Надтапёмшы** *дзеепрысл. Ныттапёмшы печ, я пычыла сыбірацца.*

**Надурыцца** *зак.* Натурбавацца да стомы. *Як надýрісься зы раньня з мáлымі, дык ні ды работы становіцца.*

**Наехаць** *зак.* 1. Натрапіць едучы. *Во ны яе шчасьця наехылі дзіхцярнікі, іс смылакурні ехылі.* 2 *перан.* Сутыкнуцца. *Палычка арехыва з горычкі паехыла, ні дбівай, падруга, друга, ні на ту наехыла.*

**Нажвянькаць, нажвянькацца** *зак.* Нагаварыць пустога, нецікавага. *Ныжвя́нькыіць ён, што Сьціпаніда ўстреціць і выстрыміць. А якея ж уредныя людзі, сколька ныжвя́нькыліся пры Архіпывых.*

**Нажмурыцца** *зак. жарт.* Напіцца. *Сырадою нажмýріцца і тады лезіць ны хату спаць у сена.*

**Назбродываць, назбродывацца** *зак.* Нашкодзіць. *Назбродыіця, хлопцы, крепка вам калі-небудзь пупадзець. Яны ладна назбродывыліся, чаго зь іх толька ні тварілыся.*

**Наздзяваць** *зак.* Шмат зняць з сябе. *Ета ж Кірей столька нызьдзівáў, цэлыю гару.* **Наздзяваный** *дзеепрым. Усё нызьдзівáныя лі парогу ляжыць кучыю.*

**Наздрастый** *прым.* З вялікімі ноздрамі. *Нейкій гадоў*

*пач шэзьдзісят хадзіў тут мушчына такей ныздрястый, прапытывыў, каб у зяці прічаліцца.*

**Назол, назольнік** *м.* Назола. *Чаго ты еткій назол зьдзелыўся, раньшы ж ты такім ня быў. Назольнік дзіцёнык, усьлед цігаіцца, пішчыць і пішчыць.* **Назольніца** *ж. Іна дужа назольніца, упікаіцца Арцямёнку.*

**Назублянне** *н.* Назубліванне. *Ці будзіць серп жаць посьлі твайго нузубляньня?*

**Назубляць** *незак.* Назублівацъ. *У Рылыўшчыні быў майсьцір сярпы нузубляць.* **Назубляцца** *незак.* Назублівацца. *Як ні нузубляіцца, можа ж, трошку будзіць резыць.*

**Назубрыванне** *н.* Зубрэнне. *Назубрівыньня — ета плоха, нада, каб ты выўчыў і пынімаў, што ўчыў.*

**Накавярзаць** *зак.* Наплесці абы-як. *С такога пляценьніка толк малый, ныкывірзаіць, што бульба будзіць сыпыцца зь яго карзінкі.* **Накавярзацца** *зак.* 1. Сплесціся абы-як. *Што ў цябе ныкывірзалыся, ці ета лубка, ці вароньнія гняздо?* 2. Стаміцца, здаволіцца плетучы. *Ты ўжо ныкывірзаўся, сядзь пысядзі.* **Накавярзаный** *дзеепрым. Ныкывірзана, дык ні рызьбяреш, што ета.*

**Накалупываць** *незак. перан.* Набываць пакрысе (звыч. грошы). *Умеў капейкі ныкалупывыць, нійдзе случыя ні ўпускаў.* **Накалупывацца** *незак.* Збірацца, набывацца пакрысе (звыч. пра грошы). *Я чуў, што ў цябе сыбіраіцца ны хату, ныкалупывыіцца патроху.*

**Накапываннік** *м.* Той, хто капае і накідае (гной). *Сяньня ныкапывыньнікым нялёхка пріўшлося, яны самі і с пуні выкідалі.* **Накапываннiца** *ж. Пы вазу ныкапывыньніцы ўськінулі і селі зу вуглом.*

**Накапываць** *незак.* Браць віламі і накідаць (гной). *Гной ныкапывыць цяжола, а дзень пымыхай-ка вілкымі, духу дасіся.* **Накапывацца** *незак.* Накідацца (пра гной). *Само ныкапывыцца ня будзіць, сілу нада пріл ажыць ды прілажыць.*

**Накасыванне** *н.* Навязванне, неадчэпнае прыставанне. *Я іх атвучу жыва ат ныкасывыньня, ня будуць яны ўсякій раз ныдыідаць.*

**Накасываць** *незак.* Навязваць, неадчэпна прыставаць. *Чаго іх усігда ныкасывыіць, як ня пойдзіш у горыд, абізацільна прівяжуцца, што ні ацстаць.*

**Накідаць** *зак. жарг.* Крыху пабіць. *Яны дайно зьбіраюцца табе накідыць і пупадуць калі-небудзь. Рожыўцы адзін раз ныкідалі вам і яшчэ тоя самыя палучыця.*

**Накіпець** *зак.* Згарнуцца пад скурай пры пашкоджанні (пра кроў). *Дужа больна ударіўся нагою, ныкіпела, ажно чорна лі калена.*

**Наклоністый** *прым.* Нахілены, пахілы. *Крыша ў яго ня дужа наклоністыя пулучылыся.*

**Накрышыванне** *н.* 1. Крышэнне. *Ні ныра́віцца мне тваё накры́шывыньня.* 2. Тое, што накрышана. *Тваё накры́шывыньня ат абеду стаіць у латкі, а ты ўзноў зы пряснушку хвытаісься.*

**Накрышываць** *незак.* Крышыць. *Ні накры́шывый многа хлеба ў мылако, ты ні пыясі.* **Накрышывацца** *незак.* Крышыцца. *Як режыш, хлеб накры́шывыіцца, сыгрябі крошкі ў шайку.* **Накрышыцца** *зак.* Утварыцца (пра крошкі). *Ні сыма ж ета пряснушка ныкрышы́лыся, нехта балывыўся, рукі дужа чысаліся.*

**Налазіць** *незак. перан.* Прыставаць, чапляцца, лезці ў кампанію. *Чаго ён ныла́зіць к етым хлыпцам, яны ж турнуць яго, што ня будзіць знаць, як ляцець.* **Налезць** *зак.* Прыстаць, прычапіцца. *Раз налез, другей раз налез, атпору ні пулучыў, дык цяперя ат яго ні аччапіцца.*

**Наляшыць** *зак.* Паляшыць. *Ён табе німала налешыць, ны яго пынадзейся тольқа.* **Наляшыцца** *зак.* Стаміцца ляшыўшы. *Ныляшы́лыся я сяньня біс прівычкі, ажно ўсё баліць, асобінна ногі.*

**Намасляніваць** *незак.* Запэцкваць тлушчам, маслам. *Сам рызьбіраіць кыбанчыка, і ма́лый круціцца лі яго, рукі нымысьля́нівыіць.* **Намасляніваццa** *незак.* Запэцквацца тлушчам, маслам. *Лянь-ка, як левыя пыла нымысьля́нівыіцца.* **Намасляніць** *зак.* Запэцкаць тлушчам, маслам. *Ты сваe каленкі нымысьля́ніў нейдзі, ажно блішчаць.* **Намасляніцца** *зак.* Запэцкацца тлушчам, маслам. *У яго дайжа лоб нымысьля́ніўся, во стыряіцца работнічык.* **Намасляненый** *дзеепрым.* *Нымысьля́ніныя рукі ап што зря ні пціpай.*

**Намёт** *м.* Сугроб. *Пы дзяреўні ні праедзіш, пакуля ні рызатруць, бальшэя намёты пасці лі кажныга двыра, дужа круціла ўсю ноч. Памянш.* **намёцік.** *Нібальшыя, ну пырядышна намёцікыў па ўсёй дарогі.*

**Намыкацца** *зак.* Намучыцца ў дасягненні вынікаў. *Пу чужых хатых як намы́кыісься, рад будзіш, рад, каб свой вугалочык, хуць німудренічкій.*

**Намякацца** *зак.* Нападацца (нямоцна, у мяккае). *Ныма́кыўся ў сені як клубок. Набегыіцца, нымя́кыіцца, тады сьпіць.*

**Напаваджываць** *незак.* Накіроўваць падвучваннем, падбухторваннем. *Нарошня ныпывáджывыюць яго: што зь естыга будзіць.* **Напавадзіць** *зак.* Накіраваць падвучваннем, падбухторваннем. *Шыряёнык яго ныпывадзіў, атыйграцца на ём думыў.* **Напаваджаный** *дзеепрым.* *Кім-то быў ныпываджын, сам ба такога ні прідумыў.*

**Нападдаваць** *зак.* Атрымаць пры падачы (у гульні ў мяч). *Ныпыддаеш, што пы пальцых палкыю схваціш, ня лезь, айдзе бальшэя гуляюць.*

**Напалучаць, напалучацца** *зак.* Атрымаць шмат. *Многа ты нупулучáла ац сваіх, во і мне столька ныпрісылалі. У жызьні ўсякыга нупулучáісься, і харошыга, і плахога.*

**Напароць** *зак. метаф.* Нашукаць, знайсці шмат. *Грібы тожа нада ўмець браць, адзін нічога ні найдзіць, а другей і ладна напоріць. Нада ж столька ныпароў ігрушык!*

**Напарываць** *незак.* 1. Парыць вялікую колькасць. *Я ныпáрівыю бульбы зразу ны два дні і тады печ таплю ціріз раз.* 2. Добра напарваць. *Я ўсігда крепка ныпáрівыю і ногі, і сьпіну, тады мне ляхчэй неік.*

**Напаследку** *прысл.* Напаследак. *Толька ныпасьледку прізнайся, што ён у сватоў пубувай.*

**Наперакасяк** *прысл.* Наперакос. *Ні кладзі ныпірікысяк, усё паедзіць і шухніць уніз. Як пашло ў іх с самыга ныцала ныпірікысяк, дык і сяньня толку німа.*

**Наплутаць, наплутухаць** *зак.* Паблытаць шмат. *Наплýтыіш сваё пляценьня, што ні русплутухáіш. Ці ня ты нітык нуплутáў, што нада выкідывыць. Кыцянок у ніткі ўлез, нуплутухáў і сядзіць ціхінька.* **Наплутацца, наплутухацца** *зак.* Паблытацца шмат. *Ну ні само ж яно наплýтылыся, пыхадзілі чые-то рукі. Тута столька нуплутáлыся, што я нічога ні рысьцягну. Луччы зразу рызьбярі, ато нуплутухáіцца, дык нічога ня зьдзелыіш.* **Наплутаный, наплутуханый** *дзеепрым.* *Ну што йта тута наплýтына? Січаж жа прібярі ўсё нуплутáныя! Нуплутухáныя сувайкі ні пырысьцягыіш, выкініш.*

**Наплюхаць** *зак. перан.* Пабіць ударамі ў вуха. *Як зловюць, як наплю́хыюць, тады ты будзіш знаць, што прідумляць і ны каго прідумляць.*

**Направа** *ж.*, **напраўлянне** *н.* Рамонт. *Як аддай боты ў ныпрáву, яны там месіцыў сем выляліся, усё некылі і некылі зыбраць. Тута ўжо ніякыя нупруўля́ньня ні памbelieveжыць, выкідаць нада.*

**Направаджыванне, направоджыванне** *н.* 1. Накіроў-

ванне. *С такім ныпрываджывыньнім можна і ў Кііў зайціць, ні спрашывыўшы дарогі. Ня дужа што с твайго ныправоджывыньня пойміш, саўсім у другей бок можна зайціць.* 2 *перан.* Навучанне. *А можа яны і біс твайго ныпрываджывыньня абойдуцца? Вы яго ныправоджывыньня большы слухыйця.*

**Напрасліца, напрасніца** *ж.* Нагавор. *Ета ныпрасьліцу ну Пуўлючонка узводзюць, нічога ён нікому ні тріпануў. Ні хачу ныпрасьніцу слухыць, ды яшчэ ат каго, каб чылавек быў, а то гніда нішчасныя.*

**Напузырыць** *зак. экспр.* Наліць шмат, не шкадуючы. *Хто сюда вады нупузыріў столька?* **Напузырыцца** *зак.* Напіцца звыш меры. *Нупузыріўся, што ня спышыцца, жывацёнык як бырыбан стаў.*

**Напутаць** *зак.* Атрымаць непрыемнасці пры путанні (каня). *Напутыіш, што ён крутанецца і дасьць кыпытом у зубы.*

**Напучанне, напучыванне** *н.* Павучанне, настаўленне аб выбары жыццёвага шляху. *Ня дужа тваё нупучаньня дзействыіць на іх. Пымыгаіць ці ні пымыгаіць, а напучывыньня ўсігда нада.*

**Напучаннік, напучываннік** *м.* Той, хто павучае, настаўляе. *Бярецца Сьціпанідзін нупучаньнік учыць Куліныга сына. Знаю, якей зь яго напучывыньнік, на што дурноя наўчыць ён можыць.* **Напучанніца, напучыванніца** *ж. Ну, січас дзела пойдзіць, новыя нупучаньніца узілася нывадзіць на пуцьісьцінный. Ты самыя луччыя напучывыньніца са ўсіх Лівынят.*

**Напучываць** *незак.* Павучаць, настаўляць на жыццёвы шлях. *Во цётка ўсё ўремя напучывыла, дык і чылавекым вырыс.* **Напучывацца** *незак.* Атрымліваць настаўленне па выбару жыццёвага шляху. *Ні к чаму ён харошыму ні напучывыіцца між тых бысякоў.* **Напуціцца** *зак.* Атрымаць настаўленне па выбару жыццёвага шляху. *Ці нупуціўся ж хут троху ён кылы дзядзік?* **Напучаный, напучоный** *дзеепрым. Каб жа ён к чаму харошыму быў напучыный. Не, яе маліц ладна нупучоный.* **Напуцёмшы** *дзеепрысл. Нупуцёмшы, дык яны ду дураты ня дойдуць.*

**Напытыванне** *н.* Прапытванне, шуканне шляхам распытвання. *Ён шукаў якей-нібудзь іструбчык,— ні найшоў, і напытывыньня нічога ні дало, пытхыдзяшчый ні пупыдаіцца.*

**Напячкурыць** *незак. жарт.* Скласці або адраманта-

ваць печ. *Етый сьпіцыяліст як ныпячку́ріць табе, дык ты калі-небудзь пряма ў печ прывалісься скрозь пыднябеньня.* **Напячкурыцца** *зак.* Стаміцца, кладучы або рамантуючы печ. *Ці вы тута ішчэ ні ныпячку́ріліся, можа, пірякусіця нямножка?*

**Нараіванне** *н.* Даванне парад. *Ня дужа ты верь яго ыра́івыньню, ён як веціp, можыць тріпануць што хочыш.*

**Нараіваць** *незак.* Даваць параду. *Відзіш, Хвідарёнык ім нешта ыра́івыіць, кучыю сыбраліся.*

**Нарашэціць** *зак.* Прымацаваць паплёт да крукоў або крокваў. *Пуню ныряшэцілі, нада хвытацца крыць. Многа тваe госьці ныряшэцілі, прівізалі па трі паплеціны і зьлезьлі.* **Нарашэціцца** *зак.* 1. Стаць нарашэчаным. *Я дужа ні сьпяшу, калі ныряшэціцца, тады й ладна.* 2. Стаміцца, нарашэчваючы. *Нешта дужа скора ты ныряшэціўся.*

**Нарвацца** *зак. перан.* Цяжка напрацавацца, патраціць шмат намаганняў. *Ты ні знаіш, сколька я над етым пнём нырва́ўся.*

**Наруганнік** *м.* Той, хто здзекуецца. *Нуруга́ньнік быў пасьледній у міpi, ніхай яму зімля колым.* **Наруганніца** *ж. Ні сьвякрова, а нуруга́ньніца, нявестык поідым есьць.*

**Наругацельскій** *прым.* Здзеклівы. *У яго дайжа словы нуруга́цільскія, ён як чылавек ні гаворіць.*

**Нарціцца** *незак.* Упарціцца. *Дайно б зьбегыў слова ні гывыря, дык не, будзіць на́рціцца,— што зы ніпутнэй дзіцёнык.*

**Нарыванніk** *м.* Той, хто капае і накідвае гной. *Зынясі вады нырыва́ньнікым, прасілі піць.* **Нарыванніца** *ж. Нада було б паможч нырыва́ньніцым, яны крепка зымаріліся.*

**Нарываць** *незак.* Браць віламі і накідаць гной. *Заўтря ранінька пойдзім нырыва́ць гной.* **Нарывацца** *незак.* Накідвацца (пра гной). *Як у вас тут нырыва́іцца, помышчы ні нада?* **Нарыць** *зак.* Беручы віламі, накідаць гною. *Етыя вазы нары́ім і пірідыхнём.* **Нарыцца** *зак.* Накідацца (пра гной). *А нары́іцца твой воз, пысяджу мінутычку.* **Нарытый** *дзеепрым. Вазы ўжо былі нары́тыя, як мы пачулі крік.*

**Нарыгацца** *зак.* Моцна стоена наплакацца. *За нейкыю канхвеціну столька нары́гыцца! Нары́гылыся і пышла спаць рызабіджыныя.*

**Насвердліваць** *незак.* Насвідроўваць. *Я буду на-*

*сьвердлівыць, а ты гатоў кылячкі зыбівіць.* **Насвердлівацца** *незак.* Насвідроўвацца. *Сьвярдзёлычык войстрый, дык хырашо насьвердлівыіцца.*

**Наскаваць** *зак.* Нацкаваць. *Ета ж тыкая гадысьць, што, хочыш, сыбаку нускуець.*

**Наскратываць** *зак.* Накласці вельмі многа, высока. *Пылацён у сундук ныскрятывыла ны дваццыць гадоў, толька хто імі папользыіцца.*

**Наскубцца** *зак.* 1. Стаміцца або здаволіцца скубучы. *Што ты, ужо наскýбся, што аддыхаіш?* 2. Напасвіцца. *Айцам ны харошый траве нядоўга наскýбцца. Нечыга крічаць, січас можна наскýбцца, дык ты жджэш, што ў карзінкі прінясуць.*

**Наспаный** *дзеепрым.* Заспаны. *Выйшыў, вочы ныспáныя, і ня відзіць, што мы тута сядзім.*

**Настояць** *зак.* Настаяць, ператаварыць у гной (пра падсцілку). *Карова ужо настоіла троху гною.*

**Настрашыць** *зак.* Пакрыць страху. *А ты красіва ныстряшыў пыд грябёнку. Глядзі, настрешыш як зря, будзіць хуць пірікрывай.* **Настрашыцца** *зак.* Стаміцца, крыючы страху. *Ныстряшыўся мой работнічык, ужо лезіць аддыхаць.*

**Насунуць** *зак.* Закрыць неба хмарамі. *Цэлый дзень так: насýніць, а тады разгоніць. Насýнула, насýнула, січас хляніць дождж.*

**Насухамятку** *прысл.* Сухама. *Ні було нам урем ждаць заўтріка, нусухумятку пірихвацілі і пабеглі.*

**Насяродку** *прысл.* Унутры. *У мяне доўга балела нысярёдку, а тады неік само пы сабе прайшло. Буваіць, як зыпякець нысярёдку!*

**Наталаваць** *зак.* Моцна натаптаць. *Сколька яны чаго нутулувáлі, етыя бысякі.* **Наталавацца** *зак.* Натаптацца. *Сяньня ім будзіць раскоша нутулувáцца, ныталýюцца дык ныталуюцца.* **Наталаваный** *дзеепрым.* *Што я зь імі зьдзелыю, я прішла, дык ужо було нутулувáна.*

**Натапторываць** *незак. экспр.* Намешваць, накладваць у адну пасудзіну. *Ні нада усяго ўмесьці нытапторівыць, адзьдзельна ў місычкых пыстаў.* **Натапторывацца** *незак.* Намешвацца, накладацца ў адну пасудзіну. *Я віджу, як у цябе нытапторівыіцца.* **Натапторыць** *зак.* Намясіць, накласці ў адну пасудзіну. *Нечыга ў міску нытапторіла, яешню жжаріла, пыставіла ны краёк, хто йта пойдзіць ны краёк браць туюю яешню.* **Натапторыцца** *зак.* 1. Намясіцца, накласціся ў адну пасудзіну. *У цябе нытапторілы-*

*ся вышы краёў, крышка ні ляжыць.* 2 *перан.* Вельмі натупацца. *Як нытапторюся зы раньня лі печы, зь мяне ўжо ніважныя работніца.* 3 *перан.* Наесціся. *Сядуць, я ім чугунок пыстаўлю, нытапторюцца бульбы іс салым, па кружкі мылыка зап'юць і пабеглі.* **Натаптораный** *дзеепрым.* 1. Моцна напханы. *Ці ета нейкыя трыва нытапторіна ў мяшку, ці аторя, пашчупый-ка сам.* 2. Сыты. *Яны тольк ац стыла, нытапторіныя, ні нада нічога ім дываць.*

**Натлецца** *зак.* 1. Пагнісці значны час. *Пірікаціць нада палкі ў пуню, яны тута натлеліся пад мокрыю саломыю.* 2 *перан.* Напакутавацца цяжка хвораму. *Натлелыся іна, ета ж нада: нескылька гадоў пыдняцца ні мыгла сыма.*

**Натырхаць** *зак.* Наштурхаць. *Мала цябе ўчора натырхылі, ішчэ сяньня лезіш.* **Натырхацца** *зак.* Наштурхацца. *Вы ўсіх натырхыліся, тольк самім часьценька піріпыдала. Нытырхаюцца, што па шыі схвацюць.* **Натырханый** *дзеепрым. Прішоў натырхыный і маўчком лёг, ні слова ні скызаў. Ні тваё дзела, кылі я нытырханый.*

**Наўроднічаць, наўроднічацца** *зак.* Насамаўпраўнічаць. *Каб тольк яго дупусьцілі, етый наўроднічыў ба ого скольк. Ні пасьпеў наўроднічыцца, унялі скора.*

**Наўчываць** *незак.* Падвучваць. *Дзім'яноўна наўчывыла яе ўсякія тріпюды гывяріць.* **Наўчывацца** *незак.* Навучацца. *Некытырыя мульчуганы з мылалества наўчывыюцца куріць.*

**Нахаласцякаваць** *зак.* Пажыць халасцяком. *Доўга ён ні ныхылысьцякўіць, скора прівядзець якую-небудзь кралю.* **Нахаласцякавацца** *зак.* Нажыцца халасцяком. *Мікілаіхін сын нухулусьцюкуваўся, заўтря, гываріліі, паедуць у сваты к Варычкіный дачке.*

**Нахаўрусаваць, нахаўрусавацца** *зак.* Набыцца ў хаўрусе. *Не, многа яны ні ныхаўрусыюць, скора раздружуцца. Як у Сьвітазеры жылі, тады яны ныхаўрусывыліся, а посьлі іх дружба рыспалыся.*

**Нахватывацца** *незак.* З'яўляцца якраз у час. *Ніхто ды пары ды часу ні ныхватыіцца, каб вас пыгыняць хырашэньк.*

**Нахлуджыванне** *н.* Насмечванне хлудам, трэскамі. *Гыняй часьцей зы такоя нахлуджывыньня, ніхай прівукаюць к пырядку.*

**Нах-нах** *выкл.* Выгук для падклікання сабак.

**Нахрамываць** *незак.* Накульгваць. *Ці ета мне пыкы-*

*залыся, ці ён трошку ныхра́мывыіць, Вульлянін зяць?*

**Нахрапнік** *м. метаф.* Нахабнік. *Такей ныхра́пнік у цябе з зубоў вырьвіць, а ня то табе дасьць.* **Нахрапніца** *ж. Штоб дзейкі і быць такою ныхра́пніцыю!*

**Нахыкаць** *зак.* Набурчаць злосна, стоена. *Перша нахы́кыіць, а тады ўжо будзіць пы-чылавечыску рызгыварівыць.* **Нахыкацца** *зак.* Набурчацца злосна, стоена. *Пастылый чылавек, зы ўсякыю мелыч нахы́кыіцца.*

**Нацмыгаць** *зак.* Здабыць, назбіраць выпрошваннем, хітрыкамі і інш. *Пріехыў галы́м галенічкій, біс капейкі, ладна кыла цётык нацмы́гыў.*

**Начахаць** *зак.* 1. Насячы. *Із ношку лазы нычáхыў, тама і ехыць незычым.* 2. Нарабіць ляскату. *Я іх там нычáхыю, ніхай успакоюцца з грюкытым.* 3 *перан.* Налупцаваць. *Іван учора свайго балыўніка ладна нычáхыў.*

**Начысліваць** *незак.* Налічваць. *Мне знаіш па сколька, пы підзьдзісят трудадней начы́сьлівылі за месіц, як я мыладэй быў.* **Начысліваца** *незак.* Налічвацца. *Нічога ў іх там ні начы́сьлівылыся, яны самі ні знаюць, што дзелыць цэлымі днямі.*

**Начыслянне, начысліванне** *н.* Налічванне. *Я й біз нычысьля́ньня скажу, што табе пулучаць нечыга. У іх такоя начы́сьлівыньня: глядзі ды глядзі, ато што хочыш нукруціць могуць.*

**Начысляннік, начысліваннік** *м.* Той, хто налічвае. *Нычысьля́ньнікі вашы ўзяліся зы работу, абішчалі ґ зайтріму аддаць ведымысьці. Аріхмеціку трошку знаіць, во й начы́сьлівыньнік.* **Начыслянніца, начысліванніца** *ж. Ці я ні знаю, якей грымацей с тае нычысьля́ньніцы. А ты, начы́сьлівыньніца, ні ашыблыся, нешта ў мяне ўсё дно як за сена німа, што гряблі чатырі дні.*

**Начышчывацца** *незак. перан. гумар.* Актыўна прыбірацца, рыхтавацца да гулянкі. *Ішчэ гармоні ні пачулі, а ўжо дывай начы́шчывыцца.*

**Нашколіваць** *незак.* Ушчуваць, павучаць. *Хто ж яго будзіць нашколівыць, кылі бацька редка ў дваре буваіць.* **Нашколіць** *зак.* Паўшчуваць, павучыць. *Матка як нашколіць, тады ён пыціішэіць на нескылька дней.* **Нашколеный** *дзеепрым. Яны і нашколіныя пры балыўства ні зубуваюць.*

**Нашчаніць** *зак.* Прывесці шчанят. *Пладлівыя сучычка, іна табе зы два гады псярню нашчэніць.*

**Нашчыціць** *зак.* Заштукаваць. *Хырашо нышчыціў: дні трі шчычэньня пыдзіржалыся і вецір усё пувудувáў.*

**Нашыварат** *прысл. экспр.* Наадварот. *Што ж ты нашы́вырыт ґузікі пыпрішывай у пулушубку?*

**Недавуздак** *м.* Аброць без повада. *У мяне ну крючку вісей нідаву́здык, ці ні ўзяй яго хто. Памянш.* **недавуздачак.** *Акуратный нідаву́здычык пашый.*

**Недаганяный, недаганятый** *дзеепрым.* 1. Нявыараны. *Канцы нідыгыня́ныя кылы аборка асталіся, нада жжынаць бульбоўнік, туды с плугым ня ўлезіш. А іщчэ нескылька нідыгыня́тых грядык тарчыць.* 2. Неакучаны. *Ты што, нідыгыня́ную бульбу хацей у лета кінуць? У такога хызяіна нідыгыня́тыя бульба можыць астацца.*

**Ненаеднік** *м. асудж.* Сквапны, ненасытны чалавек. *Я такім нінаеднікым ня буду, як твой брацiц, тэй усё ні ныгрябецца і ні ныхвытаіцца.* **Ненаедніца** *ж. Зыдылася нінаедніца і дзяцей к етыму прівучаіць, яны тожа, што ні пупадуць, цягнуць.*

**Несмышлёнуш** *м.* Праставаты, неразважлівы хлапчук. *Каб жа нісмышлёнуш дзелый, дык што зь яго возьміш, ато ж узрослый чылавек!*

**Неўзадаўга** *прысл.* Неўзабаве. *Пад'ехый Ірмачонык, а нійза́дыйга усьлед за ім і Цімка бягіць.*

**Нявырушнасць** *ж.* Невыгоднасць. *Цяперя нечыга тулкуваць пры нявы́рушнысьць, дыгыварівыйся, дык нада браць, ты чылавека пыдвядзеш.*

**Нязграйства** *н.* Неакуратнасць. *Не, мыя сьвякрова нізґрайства ні любіла, усё ста́рыга грызла, што грязь у хату носіць.*

**Нямтурнік** *м. зневаж.* Глуханямы або глухі чалавек. *Зы маімі табе нечыга глядзець, луччы свайго нямту́рніка глядзі.* **Нямтурніца** *ж. Разьві с тою нямту́рніцыю пыгаворіш пра што-небудзь.*

**Няўдоба** *ж.*, **няўдоб'е** *н.* Няўдобіца. *Ад быльшыка нічога зімля, а дальшы пышла няўдоба. У іх дзярэўні многа няўдоб'я, там ні пашыцца, толька скот пасуць.*

**Няўладна** *прысл.* Не даспадобы. *Табе ўсе ніўладна дзелыюць, адзін ты хырашэй за ўсіх.*

**Няўладный** *прым.* Такі, які не можа дагадзіць. *У цябе самый ніўла́дный Кіряёнык, а тады ўжо я.*

**Няўмесный** *прым.* Не сумесны. *Пакуля мы пріехылі, тэй дзьвері ў бані зьняй, дзьвері былі няўмесныя, ён адзін вешый.*

**Няўцерп** *м.* Нецярпенне. *Нешта вас дужа няўцерп сяньня рызьбіраіць, нада іщчэ пагресьць нямнога.*

**Няўшломаный, няўшломканый** *прым.* Не стомлены.

*Толік няўшломыный, ён зы мінуту атверніцца. Хто, Прося няўшломкыныя? — іна ж чуць дывылыклася ад быльшыка.*

**Няхлюда** *м.* і *ж.*, **няхлюднік** *м. іран.* Неахайны чалавек. *Што пры яго скажыш, кылі ён усігда быў няхлю́дыю. Няхлю́да баба, дайжа стыдна так апускацца. Ты ж самый пасьледній няхлю́днік у дзярeўні, с табою дайжа сесьць стыдна рядым.* **Няхлюдніца** *ж. Ходзіць няхлю́дніца як сьвет пыціряўшы, прігледзіць зы сабою ляніца.* **Няхлюддзе** *н. зб. Некуды ваша няхлю́дзьдзя вупруўля́іцца, ці ні к свытам.*

**Нячуткій, нечуткей** *прым.* Такі, які дрэнна чуе (звыч. пра сабаку, ката). *Сыбака красівый, толька ён, знаць, нячу́ткій. Старый кот нічуткей, мышы ў клеці пяшком ходзюць, а ён худзь ба што.*

**Няшэнне** *н.* Адкладанне яец (свойскай птушкі). *Дам я ёй няшэньня, ніяк места сабе ні найдзіць, пятух ужо водзіць і гняздо ёй дзелыіць.*

# П

**Паабросць** *зак.* Паабрастаць. *Пыабрасьлі́, што вачэй ня відна, хут ты іх смалі гылавешкыю.*

**Пааддаць** *зак.* Пааддаваць. *Глядзі, рыськідонка, пыаддасі́ ўсё, самой гарод апсіміняць нічога ні астаніцца.*

**Паайкаць** *зак.* Павойкаць. *Пыстыялі кучыю, пыа́йкылі, што ж яны памогуць, рук ні падложыш.*

**Пабулдыхаць** *зак.* Пабіць па вадзе нагамі пры купанні. *Троху пубулды́хылі ў Швяцовый сажылкі, ці ты карзіныю рыбы наловіш.* **Пабулдыхацца** *зак.* Пакупацца з шумам, плёскатам. *Хырашо пубулды́хыліся, выда пріятныя, цёплыя.*

Пабядзяшчае: **на пабядзяшчае.** На пахаванне. *Тайныя сховы былі, вырылі у баку ў пыдвалі і зыгладзілі, ніхто на сьвеці ні знаў, адзін етый, усё зыбраў, Рухамініха дужа кліла: ніхай яму ны пыбідзя́шчыя.*

**Павальнець, павальнецца** *зак.* Пасвабаднець (пра час). *Трошку пывальнеіць, і я абізацільна зьежджу к стырікам. Табе цяперя пывальнелыся, можыш паехыць, куды захочыш.*

**Павецце** *н.* Павець. *Старік пыт павецьцім, відна, венікі вяжыць. Памяниш.* **павецціка.** *Пырядышныя павецьціка, што хочыш паложыш, і заехыць можна.*

**Павыветрывацца** *зак.* Выветрыцца (пра ўсё). *Пріехылі, вокны пыччынялі, пывыветрівылыся ўсюдых, цяперя можна жыць.*

**Павыжлукчываць, павыжлукціць** *зак.* Выпіць усё. *Глядзі, пупадуць — усё пывыжлу́кчывыюць, дальшы хувай. Доўга ім павы́жлукціць, усё пыдбяруць, сколька ні пыднясі.*

**Павымахываць** *зак.* Шпурляючы, павыкідваць усё. *Ён як возьміцца, хочыш, і красённый посыд усьлед зы пальлём пывыма́хывыіць.*

**Павыстаўляцца** *зак. перан. іран.* Паганарыцца, пазадавацца. *Трахім дужа любіў пывыстыўля́цца, вісока сябе нёс.* **Павыставіцца** *зак.* Выставіць сябе на агляд (пра ўсіх, многіх). *Нырядыў пынапёрлі ны сябе, павы́стывіліся: любуйціся, якея мы, сколька ў нас быгаства.*

**Павыцярабліваць, павыцерабіць** *зак.* Выцерабіць шмат, усё. *Я помню, як Павіл Хваміч хадзіў кажный дзень с тапорікым, усе кынаўкі пывыцірябліві́ў. Горька нада пывыцірябліві́ць аборкі, зырастуць кусьцім, ні кышанеш. За восінь усё кусьця павы́цірібілі, што ж, кылі німа дроў пріпаліцца.*

**Пагладзець** *зак.* Пагладчэць. *Доўга я ждаць ня буду, трошку пыгладзеіць кыбанчык і заб'ю, дужа мне нада сьмігува́цца аб нішчымніцы.* **Пагладзелый** *дзеепрым. Ат'етуля пыгладзелыя паехылі, яны ўсігда пріїжджаюць сюда ат'ідацца.*

**Пагрымліваць** *незак.* Пагрымваць. *Нада скарей шывяліцца, пагрі́млівыіць, можыць сыбрацца дождж.*

**Падабедываць** *незак.* Есці перад абедам. *Мы толька селі, зьбіраліся пыдабедывыць, а ён коціць зы Аксютыю.* **Падабедаць** *зак.* Паесці перад абедам. *Вы ўжо справіліся пыдабедыць? — скорыя, нечыга скызаць.*

**Падбаўліванне** *н.* Невялікае дабаўленне. *Ні пaможыць тваё пыдба́ўлівыньня, нада сьвежыя вады наліць.*

**Падбаўліваць** *незак.* Крыху дабаўляць. *Учора еткій дождж атлупіў, а сяньня ўзноў пыдба́ўлівыіць.*

**Паддуранне, паддурыванне** *н.* Падманванне. *Ты калінебудзь крепка палучыш зы сваё пуддуря́ньня. Ніхто твайму падду́рівыньню ўжо ня веріць.*

**Паддураць, паддурываць** *незак.* Падманваць. *Любіш ты пуддуря́ць, а сам носым варочыіш, як цябе падду́рюць. Ня ўмеіш ты падду́рівыць, саўсім рузучыўся.* **Паддураный** *дзеепрым. Ён пуддуря́ный ужо, большы ні паслухыіць. Пабег падду́ріный.*

**Падзаўтракаць** *зак.* Перакусіць да снедання. *Пыдззаўтрікыім і бягім ну гумно, пысад змалоцім.*

**Падзяцініцца** *зак.* 1. Паводзіць сябе пэўны час па-дзіцячаму. *Ну, трошку пыдзяцініліся і хваціць, пашлі сена касіць.* 2. Здзяцінець (пра ўсіх, многіх). *Ці вы йта, людзі, пыдзяцініліся, што яшчэ за косы ні браліся?*

**Падкавыка** *ж.* Падкалупліванне словамі, шпілька. *Дзёма ні пыняў зразу, што ета пыткавыка, дывай аб'ісьняць, як ішоў ціріз Равы.*

**Падлаз** *м.* Падыходлівы чалавек. *Ну й пыдла́з быў, ён табе ні так, дык так пад'едзіць к любому.*

**Падлягчаць** *незак.* Рабіць лягчэй. *Ты зылажы палку і пыдліхча́й, а мы будзім сунуць.* **Падлегчыць** *зак.* Зрабіць лягчэй. *Нада трошку падлехчыць, удваіх ім дужа цяжола усьцягнуць такоя бярно.*

**Падманчывата** *прысл.* Падманліва. *Мы знаім, што усё ета дзелылыся пыдма́нчывыта.*

**Падматаць** *зак. перан.* Ашукаць, падмануць. *Як сы мбара насілі, яны трошку і пыдмыта́лі: мяшочык уськінулі лішній ні важыўшы.*

**Паднараджацца** *незак.* Крыху прыхарошвацца, прыбірацца ў лепшае. *Куды-то сяньня нашы гульцы пыдныріджа́юцца, ты ні знаіш?* **Паднарадзіцца** *зак.* Крыху прыхарашыцца, прыбрацца ў лепшае. *Ну што ж, яны нядренна пыднырядзіліся.*

**Падолле** *н.* Месца, дзе мыюць бялізну. *Пайду ны падольля, тама выпіру ўсё, выпылышчу, выда ў сажылкых чысьцінічкыя.*

**Падпіраць** *незак. перан. неадабр.* Перадаваць шмат. *Яму швагрі пытпіра́юць сена, учора воз прівылаклі.*

**Падсаджыванніk** *м.* Той, хто падсаджвае. *Пыглядзі, каб дзіцёнык умесьці с пыцса́джывыньнікым ні брязнуўся.* **Падсаджыванніца** *ж. Плыхая сь цябе пыцса́джывыньніца, цябе самую ішчэ дзіржаць нада.*

**Падсубочыванне** *н. жарт.* Прыбіранне па-святочнаму. *Кынчайці-ка вы с пуцсубочывыньнім, ішчэ работы нівісь сколька.*

**Падсявала** *м.* і *ж.*, **падсявалка** *звыч. ж. метаф. іран.* Легкадумная, ветраная асоба. *Ну што ж, кылі пыцьсіва́ла, што ты зь яго возьміш, ляпыіць ізыком ні падумыўшы. Тыкая самыя пыцьсіва́ла дычка, як матка. Ні гывары прі той пыцьсіва́лкі нічога, усё пырызьнясець. Памянш.* **падсявалачка.** *Урадзілыся пыцьсіва́лычка, ні ў чом ні пірявучыш.*

**Пазапялёхкываць** *зак.* Моцна вымачыць. *Ні бярі ў лес ма́лых, ты іх там пызыпялёхкывыіш.* **Пазапялёхкывацца** *зак.* Моцна вымакнуць. *Нілізя січас у лес іціць, вы пызыпялёхкывыіціся ў кусьціх посьлі дажджу.*

**Пазастраміць** *зак.* Моцна насарамаціць. *Я ж ба іх каб устреціла, пызыстраміла б, большы б яны ні нясьлі лухты ны Дзім'янёнка.*

**Пазлечываць** *зак.* Павылечваць. *Тады, я помню, іх Буганёк пазьлечывыў, харошый быў доктыр.* **Пазлечывацца** *зак.* Павылечвацца. *Доўга хырлілі, а во пазьлечывыліся, здаровыя хлопцы сталі.*

**Паіцца** *незак.* Піць. *Жарішча — ня выдзіржыць, каровы бігаць паіцца.*

**Пакапыціць** *зак. жарт.* Шпарка пабегчы, затупацець. *Пыкапыцілі ґ быльшаку сваіх устрічаць, тэя пыд'іжджалі зь мідзькыўцымі.*

**Пакачарожыць** *зак.* 1. Пагнуць, пакруціць. *Сьнегым асінкі пыкычарёжыла: нываліць многа, а тады ў воцьціпіль асідаіць і гнець куды каторыю.* 2 *перан.* Паламаць. *Жызьня пыкычарёжыла, такую вайну прайшлі.*

**Палапаціць** *зак.* Звеяць уручную пры дапамозе спецыяльнай лапаткі. *Вы трошку пірідыхніця, пакуля я пулупа́чу ячмень.* **Палапаціцца** *зак.* Звеяцца ўручную пры дапамозе спецыяльнай лапаткі. *А пулупаціцца ішчэ, ні сьпяшы дужа.* **Палапачаный** *дзеепрым.* *Пулупа́чыныю пышаніцу сыпця ў мяшкі, а астатнія ныкрывайця пылаткыю.*

**Памякаць** *зак.* Памокнуць пэўны час. *Ніхай тваё тряп'ё пымікаіць троху, луччы ататрецца.*

**Памяць** *ж. перан.* Розум. *Ікая па́міць у ма́лыга, што пачуіць, то й скажыць. С табою ўжо я па́міці сыбяру, ня бойся.*

**Панапрыкляцца** *зак.* 1. Падакучаць прыкра пэўны час. *У хаці седзічы пыныпрікля́юцца, ніхай бігаць на вуліцу.* 2. Моцна надакучыць, стаць прыкрым. *Дужа пыныпрікля́ліся, ніхай ба куды паехыць ат іх.* **Панапрыкліцца** *зак.* Моцна надакучыць, стаць прыкрым. *Ета ж нада, каб свае так пынапрікліліся.*

**Папрадаць** 1 *зак.* Папрасці пэўны час. *Часікі два пыпріда́й, а тады зьбегый ґ залоўкі.* 2 *незак.* Прасці шмат. *Бувала, цэлымі днямі прядзеш і прядзеш, зы зіму, знаіш, сколька лёну пыпріда́лі.*

**Папяшочыць** *зак. жарт.* Пайсці пехатой. *Пыпяшочылі яны ішчэ цімнувата було, хто іх захочыць пыдвазіць.*

**Параздруіць** *зак.* Зрабіць расквашаным, перамешаным з вадой (у адлігу). *Усюдых пуруздруіла, нійдзе ні праедзіш і ня пройдзіш.* **Параздруіцца** *зак.* Растаць, раскіснуць (у адлігу). *Уся дарога, пуруздруілыся, нікуды ня выбірісься.*

**Параспатворыць** *зак.* Распусціць, разбалаваць патураннем. *Ты іх сыма пырыспатворіла, цяперя нечыга абіджацца ны каго.*

**Парасятніца** *ж.* Свіння, якая прыводзіць шмат парасят. *Ох, была ў мяне пырыся́тніца, зылытая скаціна, дужа астарожныя была і малошныя дужа.*

**Парня** *ж.* Памяшканне для запарвання корму жывёле. *Лі кароўніка парня стыяла, мы туды грецца бегылі.*

**Пароддзе** *н.* Род. *Я каб і ні знала, скызала б, што етый мульчуган з вашыга пародзьдзя, ён дайжа ныгамі кріўляіць, як Трахім.*

**Паслабка** *ж.* Паслабленне. *Ты ім пысла́бкі з мыльства́ ні дывай, з рук выпусьціш — тады ня ўдзержыш.*

**Паспаведываць, паспавядаць** *зак. перан. іран.* Налаяць, збэсціць. *Січас падойдзіць Полька, іна вас абоіх пыспаведывыіць, ня будзіця лухту несьць. Во гірой-баба, пыспывіда́ла брігадзіра і пышла.*

**Пасуліць** *зак.* Прапанаваць. *Стыльмашыха зыбігала, я ёй крупені пусуліла, іна ложык пяць зьела. Нада карові пусуліць вады, ёй многа сена клалі.*

**Патарчачына** *ж.* Патарчака. *Прібраў ба ты ат'етуля пытырча́чыны, дзеці тут бегыюць, могуць узьбіцца.* *Памянш.* **патарчачынка.** *Узьляці, узьляці ны пытырча́чынку, тады ня вохый.* *Павеліч.* **патарчачышча.** *Во пытырча́чышча вырысла, як ты яе давёз?*

**Паўгражываць** *зак.* Пагражаць пэўны час. *Посьлі тых пацьсьвінкыў мне яны пыўгра́жывылі, дык ці я іх спужаўся.*

**Паўпаваць** *зак.* Паспадзявацца. *Ныпрасна ты пуўпува́ла на етыга круціля́, ты ж яго хырашо знала.*

**Пацягавіна** *ж.* Тоўстая жэрдка, якая кладзецца паверх шулаў або на падсошкі, а таксама на козлы пад вільчак. *Пыця́гывіны ў мяне ўжо ёсьць, нада пыцьцісаць ды класьць.* *Памянш.* **пацягавінка.** *Каб загыдзя прігатовіў пыця́гывінкі, хужы ні було б.*

**Пачачэніцца** *зак. экспр.* Пазадавацца. *Ну як жа, ім дужа хочыцца пычачэніцца.*

**Пашарбаваный** *прым.* Гранёны. *Быў пушурбува́ный стыкан, ды разьбіўся, гладкія асталіся.*

**Перабіркі** *мн.* Рэшткі пасля неаднаразовай выбаркі, перабірання. *Тута адны пірябіркі асталіся, зь іх нічога ня выбіріш. Памянш.* **перабірачкі**. *Высып пірябірычкі ны прысяньня, зыпашуцца.*

**Перагаджыванне** *н.* Псаванне значнай колькасці, аб'ёму рэчыва, прадметаў. *Я дужа ні люблю пірігаджывыньня, што йта, нільзя прібраць па-людзку ці што?*

**Перагаджываць** *незак.* Псаваць значную колькасць, аб'ём рэчыва, прадметаў. *Нашто січас лугавоя сена пірігаджывыць, яно табе луччы спынадыбіцца ў марозы.* **Перагаджывацца** *незак.* Псавацца (пра значную колькасць, аб'ём рэчыва, прадметаў). *У вас уся адзежа пірігаджывыіцца, разьві можна ў грязь ныдзіваць чыстый касьцюм.*

**Перадубець, перадубянець** *зак.* Моцна перакалець. *Ныдзівайся цяплей, пагода нінадзёжныя, холыд усхваціцца — пірідубеіця большы ні нада. Мы дужа крепка пірідубянелі кылы скыта.*

**Перадуковываць** *незак. экспр.* Перавучваць. *Позна цяперіцька пірідуковывыць, нада було змалку ні пызвыляць руспускацца.* **Перадукаваць** *зак.* Перавучыць. *Глядзі, пірідукуіш ты іх, калі яны дайжа ў тэй бок ня слухыюць, што ты гаворіш.* **Перадукаваный** *дзеепрым. Пулучыў аць цёткі ўзбучку, цяперя ты будзіш пірідукуваный.*

**Перакатлець** *зак. экспр.* Моцна перакалець. *Ета ўсё хворс ваш, як пірікатлеіця, тады хваціціся розуму.* **Перакатлелый** *дзеепрым. Чуць на печ ускаціліся пірікатлелыя.*

**Перапхнуць** *зак. перан.* Перадаць. *Сколька чаго яны піряпхнулі за Сож, тама сям'ішча, ратоў многа, а рук мала, дык етыя іх і кормюць.* **Перапхнутый** *дзеепрым. А што вы за ўсё піряпхнутыя пулучылі, яны вам і спасіба ні скызалі.*

**Перасудак** *м.* Паўторны суд. *Ён пыдываў ны пірясудык, ды, знаць, нічога ў яго ня выпыліла.*

**Перасэндзіць** *зак. неадабр.* Абгаварыць. *Ім толька дай сыйціцца, яны німала пірясэньдзюць.* **Перасэнджаный** *дзеепрым. Ці ў вас ны сяньня усё пірясэнджына, ай троху нызаўтріга асталыся?*

**Перахаджывацца** *незак.* Не несціся пэўны час (пра курыцу). *Ета нясушчыя куріца, редка калі дзень прапусьціць, ні зьнясецца, а во нядзелі дзьве ні нісласъ, піріхаджывылыся.*

**Перашалацца** *зак.* Прабадзяцца. *Дужа яму тая Анісься нада, ета во так прічаліўся, каб пірішыла́цца сколька месіцыў.*

**Пітнік** *м.* Крук, на які навешваюцца дзверы. *Дзьверї сь пітнікоў ліцяць і брязь,— павесілі, называіцца.*

**Пітнуць** *зак.* Выпіць, глынуць крыху. *Зыкасіліся, што вады пітну́ць некылі, ныпірягонкі касілі.*

**Пішчык** *м.* Клавіш у гармоніку. *Гармонь ба нічога, ды нескылька пішчыкыў зыска́кыіць, нада, каб хто сьпіцыяліст пыглядзеў.*

**Плутня** *ж.* Хітры падман. *Усё ета плутня, што ён вярзець, яму на нохыць нілізя веріць.*

**Полаз** *м.* і *ж. перан. іран.* Капрызная асоба. *Во полыз зыдаўся, слова ні па ём скажы — і надуў губы.*

**Порт** *м.* Льняныя ніткі. *Усяк ткалі, суконныя аснова, а портым пытыкалі, што каму ныравілыся.*

**Прагрымець** *зак. перан.* Знікнуць. *Ці яны айдзе прыгрімелі, етыя мушчыны, заўтрік стыніць, а іх німа.*

**Прадацельный** *прым.* Здрадніцкі. *У яго дайжа від прідацільный быў, ні такей, як у чылавека.*

**Пракалёвый** *прым.* Паркалёвы. *Ёсьць у яго прыкалёвыя рубашкі, ніхай толька носіць. Памянш.* **пракалёвенькій.** *Купіла сабе два прыкалёвінькіх плацьці.*

**Пракаль** *м.* Паркаль. *Прыка́лю каб ныбраў к лету, нядренна було б. Памянш.* **пракалік, пракальчык.** *У мяне трошку було прыка́ліку. Січас ёсьць у прыдажы харошый прыка́льчык.*

**Пралетаваць** *зак.* Правесці лета. *Пралетыю тута, а ны зіму паеду к старшый у горыд.*

**Праправаджываць** *незак.* Праводзіць урачыста. *Яны ўжо, відна, зьбіраюцца гасьцей прыпрыва́джывыць.* **Прапраvадзіць** *зак.* Правесці ўрачыста. *Прыпрывадзіла свайго кума, давольный пашоў.*

**Праскрысеніць, праскрысеніцца** *зак. жарт.* Прагуляць. *Ты ўжо ці ня трецьцій дзень пыдряд прыскрысеніў. Віджу, віджу, што табе дужа хочыцца прыскрысеніцца.*

**Прассаць** *зак. метаф.* Прасачыцца. *Айдзе-то прысса́ла і ў погріб ныцікла выда, ды пырядышна ныцякло.*

**Прастываць** *незак. перан.* Супакойвацца. *Ён усігда такей: успыхніць як сьпічка, а тады скора прыстыва́іць, рызгывыварііць, як нічога ні було.* **Прастыць** *зак.* Супакоіцца. *Сядзь, пысядзі, прасты́нь, тады пыталкуім, што нам дальшы дзелыць.*

**Прaталалахкаць, пратaлалахкацца** *зак. неадабр.* Пра-

балбатаць. *Дзень прытылыла́хкылі, нічога ня зьдзелылі. Во сам увідзіш, што прытылыла́хкыюцца, а сена можыць астацца ніварочыным.*

**Пратарчачча** *н. зб.* Патарчакі. *Куды ты лезіш, тама ўсякыя прытырча́чча.*

**Праўленец** *м.* Член праўлення. *Праўленцы пашлі зысідаць, зьбіраліся гывaрiць сяньня пра сена.* **Праўленка** *ж. Раз ты праўленка, табе ацстываць нілізя, нада быць первыю.*

**Прахаласцякаваць** *зак.* Пражыць халастым. *Ён можа ўсю жызінь сыбіраіцца прыхулусьцюкува́ць, ці ты яго зыставіш жаніцца.*

**Прослух** *м.* Выпадковая чутка. *Каб якей-небудзь прослух быў, мы б абізацільна пачулі.*

**Прыгваздзячыць** *зак.* 1 *метаф.* Моцна прыбіць. *Шалёўкі прігвызьдзя́чыў, што іх ніхто ні атарьвець.* 2 *перан.* Моцна пабіць, збіць. *Ты даслужысься, што яны цябе пупадуць у кустах і прігвызьдзя́чуць.*

**Прызаўныць** *зак.* Засумаваць. *Нешта наша мылыдая узноў прізаўны́ла.*

**Прыкладка** *ж.* Тое, чым прыкладаюць, прыціскаюць. *Ну гуркі і ны капусту абізацільна нада ў бочку прікла́дка. Памянш.* **прыкладачка.** *Можа, табе хваціць такой прікла́дычкі, луччыя я ні найшоў.*

**Прыкладна** *прысл.* Складна, звязна. *Во Хведзя ўмеў прікла́дна гывaрiць, пряма сьцішкамі. Памянш.* **прыкладненька.** *Як скажыць пріклáдніњка, аж заслухыімся.*

**Прыкупіцца** *зак.* 1. Набыцца ў дадатак. *У мяне тоясёя к свадзьбі ёсьць, яшчэ троху прікупіцца і ладна.* 2. Змагчы купіць. *Так усё дорыга ны бызарі, прікупі́цца нілізя.*

**Прымудры** *мн.* Выдумкі, вычваранне. *Ты б меншы глядзела на іх прімý дры, а большы к рабоці прітýркывыла.*

**Прыпаліцца** *зак.* Спаліць, выкарыстаць як паліва. *Што ж ты дыжываісься, што палкі дроў пріпалі́цца ні астаецца.*

**Прыплаціцца** *зак.* Бяздумна зрасходаваць. *Так плаціць, дык пріплоцісься, што біс капейкі астанісься.*

**Прырод** *м.* Ураджайнасць. *Якей летыся быў прірод на ўсё, дык ні нада богу гряшыць.*

**Прысцябнуць** *зак.* Прышыць наспех. *Прісьцябні ґузічык, во ніткі, ён у цябе чуць ліпіць.* **Прысцябнуцца** *зак.* 1. Прышыцца наспех. *Скарей шый, як прісьцябнецца,*

*так і ладна, коні стыяць.* 2 *перан.* Прывязацца. *Як прісьцябнецца, ты ат яго ні ацстаніш.* **Прысцябнутый** *дзеепрым. Толька што прісьцябну́тый хлясьцік, ён атарьвецца пы дарогі.*

**Прытукаць** *зак.* Прымусіць настойлівымі патрабаваннямі. *Чуць пріту́кыла свайго пайціць лашчынкі выкысіць, каб скот ні пытыптаў.*

**Прэжч** *незак.* Пражыць, пячы. *Ты, я віджу, дужа лоўка ўмееш пряжмо прежч. Пряглі сала і ўсю скыўраду спалілі.*

**Пудавік** *м.* Гіра вагой у пуд. *Ны задоўку пудавік нывязывылі і апускалі у Сьвятоя возера — і ні дысталі дна. Памянш.* **пудавічок.** *С пудывічком гуляіць як с цацкыю.*

**Пук** *м.* Сцябло шчаўлю. *Дзеці пукі ірвуць, лупюць і ядуць; як мыладэя, яны смашныя.*

**Пунцыр** *м.* Пухір. *Рукі ўсе пунцуря́мі, дужа крепка аппёкся. Памянш.* **пунцырок, пунцырочак.** *Пунцырькі нейкія пашлі па целу. Маліནькія пунцурёчыкі красьніньнькія пывыскакывылі ны плічах.*

**Пуціць** *незак. метаф.* Вучыць, павучаць, настаўляць на правільны шлях у жыцці. *Каб ты на што добрыя пуціла мальца, дык ба толк быў.*

**Пучэнне** *н. метаф.* Павучанне, настаўленне на правільны шлях у жыцці. *Ніякыя пучэньня ды яго ні даходзіць, нічога ні ўдуку́іш.*

**Пылінь!** *выкл.* Выгук для адганяння куранят. *Пы́лінь сь сянец! Пы́лінь клювацъ у карыццы!*

**Пырсканнік** *м.* Той, хто пырскае. *Дапырскыіцца, што пыбягіць зарёўшы етый пы́рскыньнік.* **Пырсканніца** *ж. Січас ты, пы́рскыньніца, сыма ўся будзіш мокрыя.*

**Пярвак** *м.* Першакласнік. *Пірвакоў доўга ні дзіржаць у школі, троху па́ўчуць і атпускаюць. Памянш.* **первачок.** *Ета пірвачок мой бягіць іш школы, сёліта первый раз пашоў.*

## Р

**Рагацюля, рагацюліна** *ж.* Сукаватая палка, палка з развілінай. *Апсякі рыгацю́лю, а тады пілою піряреЖым. Носюцца з рыгацю́ліньмі, ішчэ вочы пывыпа́рівыюць адзін другому. Памянш.* **рагацюлька, рагацюлінка.** *Нашто табе ета рыгацю́лька, што ты зь ёю зьдзелыіш? Пупаў нейкыю рыгацю́лінку і зубуўляіцца. Павеліч.* **рагацюлі-**

**шча.** *К такой рыгацю́лішчы ні прідумыіш, як прісту- піцца.*

**Разамлецца** *зак.* 1. Разамлець. *Ны такой жарішчы рызамлецца нядоўга.* 2 *перан.* Пачаць выражаць неадольнае жаданне. *Дужа яны рызамлеліся ны вічарінку бежч.*

**Разбалакацца** *зак.* Разгаварыцца няспешна, надоўга. *Рызбыла́кыліся нашы ста́рыя ны лавычкі, усё мінуўшыя ўспымінаюць.*

**Раз'езджый** *прым. жарт.* Такі, які любіць ездзіць. *Думыю, скора мой разьежджый двору зыявіцца.*

**Разжарыванне** *н.* Засмажванне (невялікай колькасці). *Ці я ні знаю твайго рыжжа́рівыньня: дзьве шчэпычкі ўкініш і будзіш пуўдня стыяць лі печы. Рыжжа́рівыньня застыла, і яны сідзяць рузмундыкыюць.*

**Разудаліца** *м.* і *ж.* Удалец, удалая асоба. *Рузуда́ліца хлопіц, яму каб толька дзейка пы ныраву. Пёкла — тыкая рузуда́ліца, што хочыш аччубу́чыць.*

**Разумец** *м. звыч. іран.* Разважны і кемлівы чалавек. *Усё ваш рузумец прідумывыіць. Такога рузумца́ толька пыіскаць.*

**Разуратнік** *м.* Свавольнік. *А такей рузура́тнік, а такей рыскабойнік, а сколька ж у ём усякія дураты́ зывіряіцца!* **Разуратніца** *ж.* *Стыдна дзяўчонкі такою рузура́тніцыю быць, саўсім стыдна.*

**Разуратный** *прым.* Свавольны. *Я ня думыла, што ты еткій рузура́тный маліц, як табе ня стыдна так балывыцца.*

**Раз'ядацца** *незак.* Расцягваць працэс прыняцця ежы. *Некылі рызьіда́цца, ужо сонца ўсходзіць, бежч скарей нада.* **Раз'есца** *зак.* З'есці са смакам. *Ніхай есьць, сала етыга дужа ні разьесца.*

**Рамацізма** *ж.* Раматус. *У мяне змалку рымацізма, як пасьвіла па холыду кароў, прустудзілыся, і с таго ўремя атрыгаіцца.*

**Рандаваць** *незак.* Арандаваць. *У нашый дзярэўні ніхто ні рундува́ў зямлю, ета ў Каўшові былі рында́тыры.*

**Ранетый** *прым.* Ранены. *Яе мужык нядоўга быў ны вайне, ён ра́нітый двору вярнуўся.*

**Расіну** *прысл.* Трошкі. *Сколька ты тама, расіну зьеў, вазьмі во хуць кусочык вокырка ўкусі. Памянш.* **расінку, расіначку.** *Я адну расінку пысядзела, некылі мне було заседжывыцца. Каб расінычку пыдыждалі, і пашлі б вы разым з усімі.*

**Расквактацца** *зак. перан. іран.* Расстагнацца, развохкацца. *Яе старэй рысквыктаўся на печы, ляжыць і ні злазііць.*

**Распалох** *м.* Спалох, разгубленасць. *У рыспалохі пан пыціряў грошы, а тэй ня будзь дураком пыдняў і нікому ні скызаў нічога.*

**Распуціца** *ж.* Разводдзе. *Скора распўціца, нікуды с хаты ня выпыўзіш.*

**Рассаліванне** *н.* Растварэнне солі ў вадзе. *Сыпні-ка ты хырашэнька солі, ато тваё рыссáлівыньня пасьці ня чутна.*

**Растрэсца** *зак.* 1. Растрэсціся. *Ношку нёс, а сена рыстряслося, яны па сьледу, па сьледу і пряма к яму на двор.* 2 *перан. жарт.* Нарадзіць. *Твыя нявестка, знаць, скора рыстрясецца, будзіш унука нянчыць.*

**Растулмачыванне** *н.* Тлумачэнне. *Нічога ён ні пыняў с твайго рустулмáчывыньня.*

**Расхаджываць** *незак.* Прыводзіць у нармальны стан хаджэннем (пра нагу пасля супакою, хваробы). *Ныга як замлеіць, тады яе рысхáджывый.* **Расхадзіць, разайціць** *зак.* Прывесці ў нармальны стан хаджэннем (пра нагу пасля супакою, хваробы). *Нешта як зьдзелыіцца ў нагу, ні ступіць, пакуля рысхаджў яе, намучыюсь. Думыіш, лёхка мне ногі рызыйціць, сколька ныкавэнчуся, пакуль прілаўчуся троху калдыбыць.*

**Родный** *прым.* Ураджайны (пра поле, сорт збожжа). *На родным полі што ні пасей, вырысьціць, бяс хлеба ні астанісься. У мяне раншы быў дужа родный ячмень, я пряма асыпаўся.*

**Руб'е** *н. зб.* Лахманы. *Выкінула б троху рўб'я, у цябе б у сундуку пысвыбаднела.*

**Рухава** *прысл.* Жвава, спрытна. *Ты ішчэ рухава шавелісься, табе ні біда. Памянш.* **рухавенька.** *Глянь-ка, як Іваніха рухáвінька бегыіць, паспробый спраўся зь ёю.*

**Рыжыць** *незак.* 1. Фарбаваць у рыжы колер. *Ці ні зьбіраісься ты свае рубашкі рыжыць?* 2. Здавацца рыжым. *Мне етый мыцірiял неік рыжыць, а табе як?*

**Рытатуй** *м.* Някемлівы чалавек, дурань. *Каб ён ня быў рітатўй, дык ба і ў яго можна було цёлычку ўзяць. Узмацн.* **рытатуіна.** *Удаўся рітатўіна, ні найціць зь ім, ні пыціряць. Павеліч.* **рытатуішча.** *Во яшчэ айдзе рітатўішча, як зь ім ужыць можна!* **Рытатуйка** *ж. Абея яны рітатўйкі, толку ні с адною ні найдзіш. Памянш.* **рытатуечка.** *Ладныя рітатуічка, нічога ні скажыш.*

# С

**Сакатнуць** *зак.* 1. Прасакатаць аднаразова. *Айдзе-то ў бульбі куріца сыкатнýла.* 2 *перан. іран.* Пачаць плявузгаць. *Былі сыкатнýлі пры Надзьку, а тады сьціхлі, маўчок, ні слова.*

**Сакатунне** *ж. метаф.* Гаваркая жанчына. *Во рыссыкыталыся Юркыва сыкатýньня, ні піряслухыіш.*

**Самавушнік** *м.* Самавук. *Ён нійдзе ня ўчыўся, сымавýшнік, на што ні пыглядзіць — і зьдзелыіць.*

**Самерць** *зак.* Памерці, вымерці. *Асталыся толька нам самерць. Стырікі самрýць, а вы тады будзіця пасвойму рыспырі́джацца.*

**Сапанне, сапканне** *н.* Сапенне. *Усё дно як нейкыя сáпыньня зы капою, я ні глянула, неік кропна. Я пачуў сáпкыньня ў кустах, палез — тама ўдзьвюх каровы стыяць.*

**Сапаць, сапкаць** *незак.* Сапці. *Крепка наелыся карова, стаіць, толька сáпыіць. Чаго ён сáпкыіць над бульбыю, ніхай скарей выбіраіць.*

**Сварэнне** *н.* Сварка. *Зу мутузок, зы нінадыбныю вярёвычку пычынаіць свареньня.*

**Сварэннік** *м.* Той, хто сварыцца. *Каб ікая дрючынка ны твайго свареньніка, ён ба троху уняў язык свой.* **Сварэнніца** *ж. Рызыйшлася свареньніца, аж кіпіць.*

**Сваты** *мн.* Сватанне. *У Ірмачонкывых сяньня свáты. Посьлі сватоў ці ні пыбáлівыіць твыя гылыва?*

**Свецкій** *прым.* Такі, які прыехаў са «свету», здалёк. *К Сьціпанідзі ўчора сьвецкія госьці зыявіліся. Што ёй цяперя ды дзярэўні, іна стала сьвецкыю.*

**Скакулі** *мн. жарт.* Вечарынка. *Сяньня ў вас харошыя скакýлі будуць, калі толька гырманіст ні засьнець.*

**Скакуля** *ж.* Ахвотніца скакаць, прыгаць. *Рызыйшлася скакýля — ні ўняць. Воц скакýля цёлычка, ніяк ні заморіцца. Памянш.* **скакулька, скакулечка.** *Што, скакýлька мыя, усё яшчэ ні напрыгылыся? Ох, ікая скакýлічка вясёлінькыя.*

**Скальзануць** *зак.* Пакаўзнуцца. *Ныга на лесьвічкі скыльзанýла, я й пыляцеў кýлім уніз.*

**Скаравець** *зак.* Зрабіцца брудным, закарэлым. *Етык скырявеў, што нівісь як, худзь ба ў бані атпаріўся.*

**Скрабіна** *ж.* Драпіна. *Ны шчаке пырядышныя скрáбіна. Памянш.* **скрабінка.** *Многа скрáбінык ну руках, верна, кошку дражніў.*

**Скрыгнуць** *зак.* Рыпнуць, скрыгатнуць. *Нікога там німа, ета ат ветру дзьвері скры́гнулі. Адз злосьці ажно зубамі скры́гнуў. Разы два і Васіль скры́гнуў ны гармоні.*

**Слабэй, слабый** *прым.* Слабы. *Сямён саўсім слабэй, каторый год ужо чуць ча́пыіць. Памянш.* **слабенечкій, слабёсенькій, слабёсенечкій, слабюсенькій, слабюсенечкій.** *Ікая ў яго сіла, ён саўсім сла́бінічкій. Я ж дайжа ні мыгла падумыць, што Хрісьціна тыкая слабёсінькыя. Саўсім ты стала слабёсінічкыя, нешта і ат ветру хітаісься. Тады ён, як ліжаў, быў дужа слабю́сінькій, чуць выкычыўся. Домніна дычка слабю́сінічкыя, вот-вот памрець.*

**Славіць** *незак.* Знеслаўляць. *Яны Сідарёнка ўсюдых будуць славіць, ат іх так скора ні аччэпісься.*

**Слепандзей, слепанджа** *м.* і *ж. абразл.* Асоба са слабым зрокам. *Так і пірідай свайму сьліпаньдзею, што ніхто яго ні пра́зныіць. Сьліпаньдзей ты, сьліпаньдзей, ета ж ты ныгываріла ны Быбарёнка. Січас сьліпынджа́ сюда ўвапхнецца.*

**Слізнуць** *незак.* Пакрывацца сліззю, гнісці. *Сёліта ўсё ны гародзі сьлі́зьніць ны кыряні, во ладный гурочык і сасьліз.*

**Слыхі** *мн.* Няпэўныя чуткі. *Былі такея слы́хі, було троху чутна, бытта бы за Воршыю яго відзілі.*

**Сляпуха** *ж. абразл.* Жанчына са слабым зрокам. *Ты луччы сваю сьляпу́ху глядзі, а мяне ўжо трогыць нечыга. Памянш.* **сляпушка, сляпушачка.** *Некуды пляцецца Трыхімёнкыва сьляпу́шка ізыком чысаць. Воць сьляпу́шычкі там ба дзелыць нечыга.*

**Смашніць** *незак.* 1. Рабіць больш смачным. *Ці будзіш ты чым-небудзь смашніць ету бульбу?* 2. Здавацца смачнейшым. *Сянішнія твыя крупеня большы смашніць.*

**Смешачкі** *мн.* Жарты, насмешка. *Думыіш, ета сьмешычкі сходзіць у Крічыў і ны́зад вярнуцца. Табе ўсё сьмешычкі, а Лёньку хуць плач.*

**Смуроджанне** *н.* Смурод. *Я чую, смуроджыньня пахніць. А ні выдумывый ты, ніякыга смуроджыньня німа.*

**Снуджэннік** *м.* Той, хто ненадзейна прыстасоўвае. *Ты, снуджэньнік, можыш пыляцець умесьці іс сваім гыраджэньнім.* **Снуджэнніца** *ж. Палезіць ета снуджэньніца і зыгріміць разым с палкымі.*

**Спаіванне** *н. перан.* Намочванне. *С такім спа́івыньнім толку ня будзіць, тваe сапожыкі за дзьве нядзелі рызьліцяцца.*

**Сплаўліваць** *незак. жарг.* Таемна збываць. *Яны ўсё ўмелі сплаўлівыць, сколька чаго цірязь іхнія рукі прайшло за Сож, пад Рослыў.*

**Спорка** *ж.* Спрэчка. *Ета ў іх даўнія спорка. Спорка зыйшла зы калёсы.*

**Ссурочаный** *дзеепрым.* Падвергнуты ўздзеянням сурокаў. *Каб ня быў етый дзіцёнык ссурочыный. Можа, ён ссурочыный, што большы ня бегыіць сюда.*

**Станкавэй** *прым.* Такі, якога трымаюць у станку, добра дагледжаны (пра каня). *У яго былі стынкавэя коні, як зьвярьё. Етыя коні як стынкавэя, за ўвесь сельскій Савет.*

**Стражчэй** *прысл.* Акуратней, больш строга. *Стражчэй бярі гырлач зьнізу, ато ён някрепык, можыць атырвацца. Стражчэй яго парь, ён ні прівык ґ дзірявенскім банім.*

**Стрыжэнне** *н.* Стрыжка. *Якоя стрыжэньня адною рукою, а дзед і стрыжч нас пымыгаў.*

**Стрыклівый** *прым.* Такі, які стрыкаецца. *Жыгучка — ох, стрыклівыя крапіва, а глухая ні стрыкаіцца саўсім.*

**Стрыкун** *м.* Той, хто стрыкаецца. *Я січас ныстрыкаю етыга стрыкуна, січас я яго, толька злаўлю.* **Стрыкуння, стрыкуха** *ж. Глянь, стрыку́ньня ашчэ палезла ў крапіву, цэліцца вырвыць. Дывай-ка мне стрыку́ху, я яе саму пысаджу ў крапіву.*

**Субытчывацца** *незак.* Збірацца. *Пыльчанок даўно субы́ччывыіцца пірякрыць Танькі хату, толька ўсё гаворіць.* **Субытчыцца** *зак.* Сабрацца. *Ці субы́ччысься ты за месіц комін пачысьціць?*

**Судзенца** *н.* Невялікая пасудзіна. *Ны ягыды тожа нада чысьцінькыя судзенца.*

**Судзержыванне** *н.* Суніманне. *На етыга балыўніка каб Сенькіна судзержывыньня, а што ты ізыком тріпанеш,— ета яму як і ня чуў.*

**Сурочанне, ссурочыванне** *н.* Уздзеянне сурокамі. *Ні выдумывыйця, бабы, ніякыя ета ні сурочыньня, пацстыў дзіцёнык і гырячый стаў. Можа, ны цябе ссурочывыньня дзействыіць, як ны твайго дзеда?*

**Сухалом** *м. зб.* Зламаныя і высахлыя дрэвы. *Каб сухалому прівёз на лета, сядзеў ба бяз горя.*

**Сцалець, сцэліцца** *зак.* Застацца цэлым. *Мы кароў у кустах хувалі, дык сцалелі, а авец немцы пыстрілялі на полі. У яе доўга нічога ня сцэліцца, усё рыспыса́дзіць.*

**Сцюпаць** *зак.* Схадзіць з цяжкасцю. *А ўчора ішчэ сьцю́пыла ў горыд, чуць прівылыклася нызад.*

**Сцягывацца** *незак. перан.* Перабудоўвацца ў адно месца. *Трудна було сьця́гывыцца с хутароў, разым дзярэўні рушылі.* **Сцягнуцца** *зак.* Перабудавацца ў адно месца. *Адна хаччына сь сенцымі, ён быйстра сьцягну́ўся.*

**Сыснуць** *зак.* Крыху пассаць. *Цялёнык трошку пыляжыць, карова яго ліжыць, пабліжыць, тады ён пыдымаіцца, сысьнець трошку, а мы ні даём, зыбіраім, карова будзіць дура́чыцца, мылыка ні ддаець.*

**Сытнець, сытнецца** *незак.* Рабіцца сытым, гладкім. *Пріехылі ат'ідацца ны бацькыва сала, ны вачах сытнеюць. Чаго ж ён ня будзіць сытнецца гульма гуляючы?*

**Сялёдчый** *прым.* Селядцовы, з-пад селядца. *Толька сялёччыя бумагі ні кладзі сюда.*

# Т

**Таго** *злучн.* Таму. *Таго ні пашоў, што яго ніхто ні зваў. Маўчыць, таго што нечыга скызаць.*

**Талдоненне** *н. экспр.* Балбатня. *Усяго талдоніньня ні піряслухыіш, ідзіця, куды сыбра́ліся.*

**Талістый** *прым.* З тонкай таліяй. *Нідаўна ішлі некуды ўдваіх, відна, на вечыр, та́лістыя жонка.*

**Тарбіна** *ж. зніж.* Торба. *Тарбіну сваю за плечы і пышла дальшы. Памянш.* **тарбінка.** *Нада б ікая-нібудзь тарбінка ны квасолю.*

**Тасаваннік** *м.* Той, хто тасуе пры гульні ў карты. *Твой тусува́ньнік усе карты пырыссыпаў.* **Тасаванніца** *ж. Дайця новый тусува́ньніцы, ніхай рыстасуіць і рыздасьць.*

**Топтанка** *ж.* Месца, дзе топчуць, месяць. *Быў ни копынкі, быў на топтынкі, быў ны пыжарі, ачынуўся ны бызарі, а як памёр, сыбакі косьці ня гложуць* (загадка).— *Гаршчок* (адгадка).

**Тпруці, тпруцькі, тпруцечкі, тпруценькі** *выкл.* Выгукі, якімі дзяцей пабуджаюць да прагулкі. *Пойдзім тпру́ці. Лена тпру́цькі ідзець. Ці хочыш ты тпру́цічкі? Хадзі, мой ма́ліенькій, тпру́цінькі.*

**Трапацца** *незак. перан.* Цяжка працаваць, трацячы сілы. *Ты тряпліся, а ён будзіць бутылычкі купляць.*

**Траплівый** *прым. іран.* Балбатлівы. *Іна нічога баба, ну трошку тряплівыя. Памянш.* **траплівенькій.** *Нічога ні скажыш, тряплівінькій ладныга, язык зу зубамі ні дзяржыцца.*

**Траскатаннік** *м. метаф. неадабр.* Балбатун. *А якей жа ён тріскытáньнік, хужы пасьледнія бабы!* **Траскатанніца** *ж. Дужа тріскытáньніца, як зывядзецца, дык ня можыць астынавіцца.*

**Трохрожкі** *мн.* Вілы з трыма рагамі. *Лоўкінькія трёхрожкі, імі хырашо сена пыдываць. Памянш.* **трохрожачкі.** *Чые ета ў цябе трёхрожычкі, твае ці бацькі твайго?*

**Труждaнне** *н.* 1 *іран.* Цяжкая праца. *Канешня, скора і ат Ліксяёнка дажджэсься труждáньня.* 2. Пакуты. *Як цяжола було глядзець ны яго труждáньня.*

**Труждaннік** *м.* 1 *іран.* Той, хто цяжка працуе. *Ат етыга труждáньніка дажджэсься работы, ныработыіць.* 2. Пакутнік. *Цяперя ён вешный труждáньнік, з мыладых гадоў астацца біз рукі дужа цяжола.* **Труждaнніца** *ж.* 1. Тая, што цяжка працуе. *Як ваша труждáньніца, верна, горы варочыіць.* 2. Пакутніца. *Асталыся труждáньніца, ныгарюіцца зь ёю нявестка.*

**Труждацца** *незак.* 1 *іран.* Цяжка працаваць. *Ты ня бойся, сь пятніцы ён пычанець труждáцца, толька ні гыварій зь якея.* 2. Пакутаваць. *А што ж ты думыіш, труждáіцца чылавек, аппечыныя — яно ўсігда дужа балючыя.*

**Трухля** *м.* і *ж.,* **трухляк** *м. перан.* Састарэлы, беззапаможны чалавек. *Куды такому трýхлю йціць. Некуды і ваша трýхля зьбіраіцца. Іван — саўсім трухля́к, лежч дый памерць толька.* **Трухлячка** *ж. Якея мне свадзьбы, кылі я саўсім трухля́чка, іду і валюся.*

**Трышчэнне** *н. экспр.* Ламанне. *Айдзе ты што хочыш цэлыя найціць посьлі такога трышчэньня.*

**Трышчэннік** *м.* Той, хто ламае. *Рызыйшоўся тры́шчэньнік ні на шутку, ён табе січас усё прясла пірятры́сьціць.* **Трышчэнніца** *ж. Ты дужа страшныя трышчэньніца.*

**Турмачанне** *н. экспр.* Задурванне. *Ныдыідаіць ета турмáчыньня, кажный дзень адно і тоя пычынаіцца.*

**Турмачыць** *незак. экспр.* Задурваць. *Хваціць вам турмáчыць яго.* **Турмачыцца** *незак.* Задурвацца. *Ахотычка ж яму турмáчыцца зь імі, сядзіць і нешта ўсюрьёз аб'ісьняіць.*

**Тухляццё** *н.* Тухляціна. *Выкінь ты ўсё тухляцьцё с клеці, пачысьці хырашэнька.*

**Тыханне, тыхканне** *н.* Біццё (сэрца). *Во серца б'ецца, я дайжа ат'етуля чую ты́хыньня. У цябе б ні такоя тыхкыньня було, каб столька страху пріняў.*

# У

**Убоістый** *прым.* Непаслухмяны, упарты. *Абоя мальцы ўбоістыя, дыслацца куды-небудзь — нарьвеш серца.*

**Убухторываецца** *незак. неадабр.* Наліваецца. *Выда бяс толку ўбухторівыіцца кажный раз.* **Убухторыцца** *зак.* Наліцца. *Як убухторіцца поўна вады, запухніць і цеч ня будзіць, нылівай.*

**Увешлівый** *прым.* Знявечаны. *Ёй ныхадзіліся і луччыя людзі, а пышла за ўвешлівыга.*

**Угарныванне** *н.* Угортванне. *С такім угáрнывыньнім вы будзіця пуўдня вазіцца, нада скарей пышавелівыцца.*

**Угарнываць** *незак.* Угортваць. *Пычынайці-ка вы ячмень у мяшкі угáрнывыць, ато хляніць дождж — намочыць.* **Угарнывацца** *незак.* Угортвацца. *Ны самыю зямлю край мішка кладзі і дзяржы каленым, каб угарнывылыся.*

**Угнесца** *зак. перан. неадабр.* Улезці, праціснуцца. *Нада ж було угнесца сюда, паспробый цяперя выцігні.*

**Удрыгаць** *зак. метаф. іран.* Увайсці з выкрунтасамі. *Пыдажджы ўжо, нулюбуісься, як ён у хату удры́гыіць.*

**Удыбаць** *зак.* Увайсці няўклюдна. *Ныкідайця там скарей бульбу ў карзінкі, ато я пакуля ўды́быю, будзіць стыяць с канём.*

**Узадраць** *зак.* Прымусіць узлезці. *Чаго іх узыдрáла на ліпу, што яны тамыцька ня відзілі?*

**Узбутурыванне** *н.* Узганянне. *Я яму дам січас узбуту́рівыньня, нашто яму етый скот трогыць.*

**Узбутурываць** *незак.* Узганяць. *Скот ні ўзбуту́рівый, ішчэ жарка. Нада мальцыў узбуту́рівыць, яны ўжо выкычыліся.*

**Узгорчына** *ж.* Пагорак. *Нібыльшая ўзгорчына, а конь ні ўзяў, воз дужа цяжолый. Памянш.* **узгорчынка.** *Тама маліинькыя узгорчынка, чуць заметныя.*

**Узгрэсца** *зак.* 1. Узгрэбціся. *Во ўзгрябецца, прікініцца чым-небудзь і ніхай ляжыць ды заўтріга.* 2 *перан.* Узысці, узабрацца. *Чуць узгрёбся пыд гару наверьх, тут дужа крута.*

**Уздушлівый** *прым.* Удушлівы. *Ён даўно узду́шлівый, гадоў с тріццаці, калі ні раншы.*

**Уздыханнік** *м. гумар.* Той, хто часта ўздыхае. *Ну што вы, уздыхáньнікі, голывы пупускалі? Памянш.* **уздыханнічак.** *Астаўся адзін уздыхáньнічык твой.* **Уздыханніца** *ж.* *Сядзіць уздыхáньніца адна ў хаці і сыма сябе рызвыжаіць.*

**Укановываць** *незак.* Наканоўваць. *Кінь-ка, кінь, што тваее карты укановывыюць.* **Уканаваць** *зак.* Наканаваць. *Карты ёй укунувáлі дарогу.* **Уканаваный** *дзеепрым. Што каму ўкунувáна, тэй тоя і пірiжывець.*

**Укланяцца, укланiвацца** *незак.* Схiляцца, выражаць пакорлiвасць. *Я iм уклынáцца нi стану, нiхай нi надзеюцца. Хацеў ба, каб яму ўсi уклáнiвылiся,— не, нi даждджэцца етыга.*

**Украсiнiванне** *н.* Запэцкванне газай. *Я ўкрасiнiвыньня знаю: нi пыдыйцiць нi к чому, нi ўзяцца нi за што.*

**Укрыўджываць** *незак.* Крыўдзiць. *Хто тута майго мáлiнькыга укрiўджывыiць, я яму дам.* **Укрыўджывацца** *незак.* Крыўдзiцца. *Нi нада ўжо так укрiўджывыцца, яны проста нi падумыўшы скызалi.*

**Уломiстый** *прым.* Непаваротлiвы, гультаяваты. *Цылiком у iхный род пашоў, уломiстый, як усе яны.*

**Улучываць** *незак.* Выбiраць, падбiраць момант. *Яны даўно ўлýчывылi ўремя, каб паможч навесьць хундамiнт.*

**Улыбляцца** *незак.* Усмiхацца. *Бацька ўлыбляiцца, што сын дужа харошый, нулюбувацца ня можыць.*

**Улыбчывата** *прысл.* З усмешкай. *Пыглядзелi ўлыбчывыта, а скызаць нiчога нi скызалi, пывярнулiся i пашлi.*

**Улыбчыватасць** *ж.* Усмешлiвасць. *Мы знаiм яго улыбчывытысьць: будзiць улыбацца i такоя ныгаворiць, што ўва сьне нi сасьнiцца.*

**Улыбчыватый, улыбiстый** *прым.* Усмешлiвы. *Яны ўсе улыбчывытыя пы маткi, ны бацьку нiсколька нi паходжы. Ладный мужык, мыладэй мушчына, улыбiстый, хырашо к ёй атносiцца.*

**Упацёмках** *прысл.* Папацёмку. *Нi нада табе ўпацёмкых iцiць, заўтря ранiнька устанiш i пыбягiш.*

**Уплёты** *мн.* Каснiкi. *Старухi ўсiгда гыварiлi: уплёты, а мыладыя кысьнiкi зыплiталi.*

**Упорка** *ж.* Невялiкi ўпор. *Нада було б пыставiць упорку пач шула, яно можыць пывярнуцца, i выiдуць абея сьценкi. Памянш.* **упорачка.** *Тама упорычкi пыстаўлiны, толька яны ня дужа крепка дзiржаць.*

**Упорчыва, упорчыста** *прысл.* Упарта. *Упорчыва зышчышчаiць Кiсялёнка, на чом-то ўжо сьпелiся. Як скажыць, тады ўпорчыста стаiць, нi ацступаiць ац свайго.*

**Упорчывый, упорчыстый** *прым.* Упарты, настойлiвы. *Брыцiк упорчывый, зь iм ня дужа згаворiсься. Ён упорчыстый, iкраз, як Максiм быў, таго тожа нi ў чом нi пiрiўбядзiш.*

**Упраўна** *прысл.* Спрытна, жвава, спраўна. *Гыўрілёнкый маліц упраўна вядзець хызяйства.*

**Урасіць** *зак.* Намачыць у расу. *Дужа ўрасіў бацінкі, нада апцерць і зразу пымазыць, каб ні ссыхаліся.* **Урасіцца** *зак.* Намачыцца ў расу. *Ныпрямкі ішоў, увесь урасіўся, можна ж було абыйціць.*

**Урупліваць** *незак.* Пачынаць турбаваць. *Я ні знаю, што яму ўру́плівыіць, нечыга ж хочыцца ляцець у Пустынкі.* **Урупіць** *зак.* Пачаць турбаваць. *Нечыга ўру́піла яму бежч у Валоўнікі, што ён там забыў.*

**Усмеліваацца** *незак.* Асмельвацца. *Ён усё ня ўсьмелівыіцца пыдыйціць к Танічкі.* **Усмеліцца** *зак.* Асмеліцца. *Як ты ўсьмеліўся адзін пайціць такою цімнатою.*

**Успрыгывацца** *незак. метаф.* Пачынаць хвалявацца, паводзіць сябе неспакойна. *Нечыга ўспры́гывыцца, я што відзіў сам, тоя й гыварю.* **Успрыгацца** *зак.* Усхвалявацца, пачаць паводзіць сябе неспакойна. *Позна ты ўспры́гыўся, нада було раншы пра горыд думыць.*

**Усхарашыванне** *н.* Усхвальванне. *Ні нада яму нічыё ўсхыра́шывыньня, якей ёсьць, такей і ладна.*

**Усхарашываць** *незак.* Усхвальваць, паказваць у лепшым святле. *Іна ўсігда сваіх пляменьніц усхыра́шывыіць.* **Усхарашывацца** *незак.* Паказваць сябе ў лепшым святле. *Табе б ужо хваціць усхыра́шывыцца.* **Усхарашыць** *зак.* Усхваліць, паказаць у лепшым святле. *Цябе усхырашы́лі большы некуды, рысьпісалі як куклу якую.* **Усхарашыцца** *зак.* Паказаць сябе ў лепшым святле. *Яны самі ладна ўсхырашы́ліся, што пра іх рысказывыць.* **Усхарошаный** *дзеепрым.* *Я дайжа ні прідумыю, чаго ён такей усхарошыный у вас.* **Усхарашомшы** *дзеепрысл.* *Так усхырашомшы і ў сваты везьць можна.*

**Утрапывацца** *незак. перан.* Выбівацца з сіл. *Сколька ён будзіць ны вас утря́пывыцца, нашто йта яму?* **Утрапацца** *зак.* Выбіцца з сіл. *Столька работы пірівярнуць, утріпа́ліся мушчыны за лета.*

**Утуіванне** *н.* Прытойванне. *Вун ён сядзіць кулу куста, ці я ні знаю яго утуівыньня.*

**Утуівацца** *незак.* Прытойвацца. *Пыц салому трошку падлез, ета ён так утýівыіцца.*

**Учэпка** *ж.* Прычына, зачэпка. *Пастылый чылавек, ці ёсьць учэпка, ці німа, усё дно будзіць бурчэць як борыхыва кіла.*

**Ушарыць** *зак.* Знайсці. *Можа ты ўзноў бабіны канхветкі ўша́ріў?*

**Ушчаплянне** *н.* Прышчаплянне. *Ны ўшчыпля́ньня тожа нада харошый сьпіцыяліст.*

**Ушчапляннік** *м.* Той, хто прышчапляе. *Стыряюцца ушчыпля́ньнікі, думыюць бальшэй сад разьвесьць.*

**Уяўляцца** *незак. перан.* Атрымліваццa. *Відзіш, якей толк зь яго уіўля́іцца.* **Уявіцца** *зак.* Атрымацца. *Во гадысьць уяві́лыся, што я ні скажу, ні на волыс ня хочыць слухыць.*

# Х

**Хадатальства, хадатальстваванне** *н.* Хадайніцтва. *Во відзіш, ні пымагло нісколька і Антончыкыва хыда́тыльства. Калі трошку паможыць, дык толька Прытасёнкыва хыда́тыльствывыньня.*

**Хадатальстваваць** *незак.* Хадайнічаць. *Па-мойму, яны ні зьбіраюцца хыда́тыльствывыць.*

**Хапун** *м.* У старых уяўленнях: звышнатуральная сіла, якая можа ўхапіць чалавека. *Бэрка ўсё быяўся, каб яго хапу́н ні схваціў. Будзіш так балывыцца, дык і пупадзесься хупуну́ ў лапы.*

**Харахоня, харахонька** *м.* і *ж.* Задавака ў дробязях. *Чаго ты луччыга ат хырахоні хочыш, ён усігда адзінакывый. Ты ныстыяшчыю хырахонію стала. Табе, відна, тожа хочыцца пыглядзець ны хырахоньку. Памянш.* **харахонечка.** *Хырахонічка ты маліўкій. Пабегла твыя хырахонічка ў горыд. Павеліч.* **харахоніщча.** *Такога хырахоніщчу пушукаць толька.*

**Харашэйшый** *прым.* Лепшы. *Верка сваёй дачке хырашэйшыя пальто справіла. Памянш.* **харашэйшанькій, харашэйшанечкій.** *Канешня ж, у цябе хырашэйшынькія бацінычкі. Табе самый хырашэйшынічкій гырадзкей Міця, ты па ём ажно прягніш.*

**Хармузнік** *м.* Зграбны чалавек. *Юцік усігда харму́зьнікым быў ого якім.* **Хармузніца** *ж.* *Не, дренныя з яе харму́зьніца, толкым нічога ні пулучаіцца.*

**Хварсата** *ж.* Задаванне. *Прівыклі зынасіцца сваёю хвырсатою, ні знаюць, пы якому сьвету ходзюць.*

**Хваст** *м.* Выхвалянне. *Дзела ні ў хва́сьці, можа б ты дыла ўкусіць, мы паехылі на зорькі і яшчэ крошкі ў році ні дзіржалі.*

**Хвярубінне** *н. зб.* Лахманы. *Пывыкідала б усё хвярю́біньня, зыгрымазьдзіла лаўкі, ні пріступіцца. Хвірюбі́ньня выляіцца кругом.*

**Хітрунне** *ж.* Хітруха. *С такою хітру́ньнію ты дайжа ні садзіся гуляць.*

**Хлабазнуць** *зак.* 1. Хвоснуць. *Як хлыбазьнець лазінью, ты на етым месьці і саўесься.* 2 *метаф. іран.* Выпіць. *Яны хлыбазну́ць умеюць, толька каб пыднасіў хто-небудзь.* **Хлабазнутый** *дзеепрым.* Хвоснуты. *Як ацскочыш хлыбазну́тый, пірістаніш хадзіць пы гылыва́х.*

**Хлепястаць** *незак.* Прагна піць. *Многа ні хліпяшчы́ дужа, ні нылівай, ат халодныя вады рыспацеўшы ўраз прастуды пытхваціш.*

**Хлягі** *мн.* Ногі. *Што ты хля́гі сваё цігаіш як ніжывэй.*

**Храставіна, храставініна** *ж.* Крыжавіна. *Хріставі́на крепка зьбіта, сьмела вешый крючча, усё выдзіржыць. Каб зьбіў дубовыю хріставі́ніну, ета была б надзёжныя. Памянш.* **храставінка, храставінінка.** *Зьбі-ка ты яшчэ адну хріставі́нку, ета, па-мойму, ня дужа крепкыя. Разьві ета хріставі́нінка, ны такой нічога ня ўдзержыцца.*

**Хрост** *м.* Хрышчэнне. *У іх пат хрёст ня дужа многа езьдзіла. Яны рана пріехылі с-пат хрёсту.*

**Хугаванне** *н. экспр.* 1. Энергічнае дзеянне. *Уго, якоя хугува́ньня, так яны табе горы зьвернуць.* 2. Энергічная хада. *Во ета хугува́ньня, толька яны скора сь сілы выб'юцца, прістануць.* 3. Выганянне. *Ня дужа яны твайго хугува́ньня пыбыяцца, іх нада за шкырку браць.*

# Ц

**Цалей** *прысл.* Больш захавана. *Ты аддай грошы Кузьмянку, у таго будуць цалей. Мала чаго цалей і сінінькыя рубашычка.*

**Цапкаць** *незак.* Хватаць, цапаць. *Ён ужо зы лазу ца́пкыў, быяўся, што выда зьнясець.* **Цапкацца** *незак.* Хватацца, цапацца. *Ца́пкыйся вун зы Івана, ён здыравей за ўсіх, удзержыць.*

**Цвярдынь** *ж.* Вялікая цвёрдасць. *Засохла зімля, цьвярды́нь, што лупатку ні ўбадзю́ліш.*

**Церабіць** *незак. перан.* Настойліва сцвярджаць сваё. *Етык гыварíў раншы і цяперь цярэбіць, ні ны каго ні глядзіць.* **Церабнуць** *зак.* Нечакана моцна ўдарыць. *А такей быў, што мог цірябну́ць із-зу вугла чым хочыш.* **Церабнутый** *дзеепрым.* Нечакана моцна ўдараны. *Ладна цірябну́тый, і жаліцца некыму, нырваўся ны свайго, пулучыў.*

**Цмоканнік** *м. жарт.* Той, хто цалуе. *Во цмокыньнікі, ніяк ні ныцалу́юцца.* **Цмоканніца** *ж. Хваціць ужо, хваціць вам, цмокыньніцы, аддыхніця.*

**Цубаліна** *ж.* Ссохлае сцябло буйной травяністай расліны. *Пы гароду тырчаць цуба́ліны, нада пыпаву́рвыць. Памянш.* **цубалінка.** *Цуба́лінкі пацсохлі, пызьбірай на вілкі ды ў агонь.* **Цубалле** *н. зб. Кукурузныя цуба́льля асталыся, можа, борынымі пысьцягывыіцца с поля.*

**Цюпкаць** *незак. экспр.* Парыць злёгку. *Ня хочыць, каб яго цю́пкылі, пішчыць.* **Цюпкацца** *незак.* Парыцца злёгку. *Асталіся самі цю́пкыцца ны палку, я січас пайду гляну, што яны тама твыряць.*

# Ч

**Чадзіць** *незак. метаф.* Існаваць (пра старога). *Нідаўна я была ў Кіреіхі, ішчэ трошку чадзіць, толька дужа пыслабела.*

**Чаёўнічанне** *н.* Чаяванне. *Дывайці-ка вы кынчаць чаёўнічыньня, пыра двору зьбірацца.*

**Чапурыста** *прысл.* Прыбрана, прыхарошана. *Дужа чупурі́ста сваю крысавіцу ныріджаіць, хочыць кылячкі падбіць к Сыўчынкам.*

**Чарап'ё** *н. зб.* 1. Чарапкі. *Пыць сіреньню насыпылі чыріп'я́, усё дно як у погріб ні маглі занесьць.* 2 *абразл.* Галовы. *А чыряп'ё нашто вам ны плічах — думыць ці шапкі насіць?* 3 *абразл.* Дзеўкі. *Чыріп'я́ поўныя хата, на той нядзелі ці ня шостыя радзілыся.*

**Чмыхала** *м.* і *ж. іран.* Той, хто выражае незадаволенасць. *Ты саўсім ні знаіш, якей ён чмы́хыла. Нялёхка ёй будзіць у чужой сям'е, тыкая чмы́хыла, што ні дай бог.*

**Чмыханнік** *м. іран.* Той, хто выражае незадаволенасць. *Ого, якей чмы́хыньнік, яму пы насу ні прідумыіш ні прігатовіць, ні пыдаць.* **Чмыханніца** *ж. Я ету чмы́хыньніцу жыва ўніму, раз чмыхніць, а другей ні захочыць.*

**Чуканькі** *выкл.* Выгук пры пялегаванні дзіцяці. *Чу́кынькі, мой ма́лінькій, чу́кынькі!*

**Чуланік** *м.* Невялікая камора. *У чула́ніку места ёсьць, можна і кублік пыставіць і бочычку.*

**Чупырснуцца** *зак. экспр.* Ударыцца знянацку. *Ні паглядзіў упоцімкых калодкі, крепка чупы́рснуўся.*

**Чэраз** *прысл.* Цераз. *Пыдымі вядро і лі чэріз. Ціха, там дужа поўна, чэріз пойдзіць.*

# Ш

**Шабурдэханне** *н.* 1. Выліванне ўсяго адразу з шумам. *Цішэй сы сваім шубурдэхыньнім, можна ж цішэй наліць.* 2 *перан.* Паданне. *Будзіць шубурдэхыньня, як ны якоя лымачча брязьніцца.*

**Шабурдэхаць** *незак.* 1. Выліваць усё адразу з шумам. *Ні шубурдэхый так, усё пызыліваіш.* 2 *перан.* Падаць, правальвацца. *Ён трі разы шубурдэхыў ж жардзін, хырашо, што ны салому.* **Шабурдэхацца** *незак.* 1. Вылівацца з шумам (пра ўсё адразу). *Як жа нікуратна ў цябе шубурдэхыіцца!* 2. Падаць, правальвацца. *Табе ўсё дно як ныравіцца шубурдэхыцца етык.* **Шабурдэхнуць** *зак.* 1. Выліць усё адразу, з шумам. *Глядзі, шубурдэхніць етый чугун, поўна будзіць мыкрыццьця ўсюдых.* 2. Упасці, праваліцца. *Між жардзінык як шубурдэхнуў з балік, ладна, ны сьвірепку пупаў, ні ўдаріўся.* **Шабурдэхнуцца** *зак.* 1. Выліцца з шумам (пра ўсё адразу). *З начовык шубурдэхнулыся выда, пыттапіла мяшкі.* 2. Упасці, праваліцца. *Нагою станіш ны край і шубурдэхнісься, тама ўсё чуць ліпіць як на нітычкі бажок.*

**Шабуцёж** *м.* Шум, крык, галас. *Ач чаго йта ў іх шубуцёж быў? Яны ўмеюць шубуцёж пыднімаць.*

**Шкарлупаха, шкарлупіна, шкарлупа** *ж.* Шалупайка. *Шкурлупаху ны загнет ды ў печ зымяцецца. Сыбярі ўсе шкурлупіны ды махні на двор, куры пыдбяруць. Нікрасіва, што шкурлупа пыд ныгамі ўсюдых выляіцца. Памянш.* **шкарлупашка, шкарлупашачка, шкарлупінка, шкарлупіначка, шкарлупка, шкарлупачка.** *Куры любюць шкурлупашкі, зразу зьдзяўбуць, а хто гаворіць, што курям нільзя дываць: яны тады яйцы пычануць дзіўбаць. Па-мойму, ета шкурлупашычкі маліінькія выляюцца. Пыдмітай чысьцінька, вун шкурлупінкі кулу суножкі. Айдзе тэя яйцы, у мяне шкурлупінычкі нійдзе ні найдзіш. Ці ня кот ета пыхадзіў на пунькі: адны шкарлупкі асталіся. Шкарлупычкі выляюцца, а большы нічога німа.*

**Шкумачаннік** *м.* Той, хто шкуматае. *Во рызыйшоўся шкумачыньнік, нада даць успакой.* **Шкумачанніца** *ж. Німа места шкумачыньніцы, сь сябе гатова выскычыць.*

**Шкуралуп** *м. перан.* Жорсткі, бяздушны чалавек. *Жывэй шкуралуп, ён можыць чылавека ні за што зугубіць і сьміяцца будзіць. Узмацн.* **шкуралупіна.** *Мы помнім таго шкуралупіну, брыдзяга з брыдзяг быў. Павеліч.* **шкуралупішча.** *Быў шкуралупішча, яго толька ня к ночы*

*пымінаць.* **Шкуралупка** *ж. Тыкая самыя шкуралу́пка, як яе цётка, аднае пароды, у іх ува ўсіх нешта зьвярінbacks.*

**Шкуркі** *мн. перан.* Тонкае сала. *Ці ў цябе шку́ркі трошку вядуцца? — у мяне дык к канцу патходзюць.* *Памянш.* **шкурачкі**. *Айт, якоя там сала, адны шку́рычкі, мы ні пасьпелі як нада пыткарміць.*

**Шкыпідар** *м.* Скіпінар. *Я шкыпіда́рым як натру, тады яму троху ляхчэй становіцца.*

**Шлёпаннік, шлёпканнік** *м.* Той, хто шлёпае, пляскае (па дарозе, па гразі і г. д.). *Пірістань, шлёпыньнік, ныбалыісься, што дзіцёнык зыплачыць. Пляцецца наш шлёпыньнік, грязный па вушы. Дай сымаму шлёпкыньніку пу руках. Ахота шлёпкыньніку тыптацца ў тванішчы.* **Шлёпанніца, шлёпканніца** *ж. Етый шлёпыньніцы січас самой пупадзець. Уніміся, шлёпыньныца, дзіцёнык табе нічога ня дзелыіць і ня трогый яго. Як ты тама, шлёпкыньніца, лазіш, ны дваре ступіць нілізя нійдзе. Пыцягнулыся шлёпкыньніца пуд узгорык.*

**Шлёпканне** *н.* Шлёпанне, плясканне. *Што ты яму грозіш шлёпкыньнім, ны такога лыбытряса ціріcьсядзельнік нада. Ныдаела ета шлёпкыньня, худзь ба скарей пыцсыхала. Абмувай яго ўзноў посьлі шлёпкыньня.*

**Шлёпкаць** *незак.* Шлёпаць, пляскаць (пра біццё, хадзьбу па гразі, паданне). *Калі ня слухыіш, дык буду шлёпкыць. Ня шлёпкый ты яго большы, ато зыпішчыць. А я гляджу, хто тут шлёпкыіць упацёмку.* **Шлёпкацца** *незак.* Шлёпацца, пляскацца (пра паданне, хадзьбу па гразі). *Глядзі зы ма́лым, ён ужо шлёпкыўся у грязі. Некуды шлёпкыіцца сь кіёчыкым ста́рыя Хрісьціна.*

**Шліхтаванне** *н.* Абчэсванне сякерай. *Шліхтува́ньня — нялёхкыя работа, рукамі нымыхаісься, аж быляць, а нада ж глядзець, каб ні скрівіць, каб роўнінька бярно апцісаць.*

**Шліхтаваннік, шліхтавальшчык** *м.* Той, хто абчэсвае сякерай. *Пашлі заўтрікыць шліхтува́ньнікі, скора выйдуць. Каб яшчэ адзін шліхтува́льшчык, скарей ба дзела пашло.*

**Шліхтаваць** *незак.* Абчэсваць сякерай (бярвенне). *Калі ж мне сымаму́ шліхтува́ць, усё работа і работа, нада ныймаць людзей.* **Шліхтавацца** *незак.* Абчэсвацца сякерай (пра бярвенне). *Само шліхтува́цца ня будзіць, ныд бярьвеньнім нада пыстыяць ды пыстыяць крюкым.* **Шліхтаваный** *дзеепрым. У яго куча шліхтува́ныга бярьвення ляжыць, знаць, плотнікыў шукаіць.*

**Шломканне** *н.* Тэпанне. *А ты думыіш, шломкыньня ні ныдыіда́іць? — ныдыіда́іць, ды яшчэ як.*

**Шмацце** *н.* Шмаццё. *Шма́цьця нейкыя адззаду бууўта-іцца, пыба́рвывый. Пынавешый яшчэ сюда шма́цьця, ні було яго тут.*

**Шмулю** *паб. сл. іран.* Моў, маўляў. *Ого, як ён умеіць зыдывацца: шму́лю мы, і ні пытхадзі к яму. Знаіш, якей ён: шму́лю я табе ня хто-небудзь!*

**Шмуляванне** *н.* 1. Трэнне шморганнем. *Кынчай шму-люва́ньня, бежч нада, ато яны адны паедуць.* 2 *перан.* Лупцаванне, лупцоўка. *Ладныя шмулюва́ньня яму було ўчора.*

**Шмуляваць** *незак.* 1. Шмуляць, церці шморганнем. *Сяньня ён доўга вожкі шмулюва́ў. Сядзі́ць і ста́рым пат-пілкым шмулю́іць тапор.* 2 *перан.* Лупцаваць. *Міцю часта шмулю́юць, ну ён ні каіцца, як тварі́ў, так і тваріць.* **Шмулянуць** *зак.* Лупянуць. *Шмулянець, што ты на месь-ці сядзіш, будуць табе дуры.*

**Шмыганне** *н.* Непрыкметнае хуткае прабяганне. *Ну што ты скажыш пры яго шмы́гыньня, вот што б яму ну чужом дваре дзелыць.*

**Шмыганнік** *м.* Той, хто шмыгае. *Нейдзі тута схуваўся шмы́гыньнік, січас мы яго найдзім.* **Шмыганніца** *ж.* *Ты-кая ж прыспалітныя шмыга́ньніца, айдзе толька яе ні пубуло за дзень.*

**Шмыгляўка** *ж.* Бестурботная, непаважаная жанчына, якая многа, без патрэбы бегае. *Ішчэ ты пры шмыгля́ўку будзіш мне тулкуваць, ці я сам яе ні знаю. Памянш.* **шмыглявачка.** *Па ком іна тыкая шмыгля́вычка зыды-лася?*

**Шмык** *выкл.* Пра раздаванне, марнатраўства. *Туды шмык, сюды шмык, а тады самім нічога ні астаецца.*

**Шмыканне** *н.* Раздаванне, марнатраўства. *Такоя шмы́кыньня ды дыбра ні дывядзець, распу́сьціць усё, а тады што, іціць пыбіра́цца?*

**Шмыканнік** *м.* Той, хто раздае, марнатравіць. *У шмы́-кыньніка нічога ні було і ня будзіць, ён ні пріблюдзець нічога, ні прібірягець.* **Шмыканніца** *ж.* *Раншы Вольга шмы́кыньніцыю ні была, ні знаю, чаго йна цяперя такою стала.*

**Шмыкаць** *незак.* Раздаваць, марнатравіць. *Калі так будзіш шмы́кыць, дык сымаму нічога ні астаніцца.* **Шмыкнуць** *зак.* Раздаць, змарнатравіць. *Пырядышна грошы було, ён зы адзін дзень шмы́кнуў.*

**Шумуль-шумуль** *выкл.* Тут-туп (з шумам). *Доўга сядзелі, нікога ні було, а тады, чуім, ідзець: шумýль-шумýль пы саломі.*

**Шышак** *м.* Нарост, шышка (на целе, дрэве). *Нейкія шышакі пат кожыю, аж муліюць, ці яны ат прастуды, ці яшчэ ач чаго. Ні паложыш бірьвяно, шышáк мішаіць, сьсякі. Памянш.* **шышачок.** *Ускачыў шышачок і сядзіць ужо нядзелі дзьве. І во етый шышачок нада цісануць.* **Шышачча** *н. зб. Па ўсёй шыі пашло шышáчча, рысьцірацъ нада сьпіртым ці якою мазьзю.*

**Шышвал** *м.* Нарост, шышка, купіна, калючы пяньчук. *Буваіць, што па целу ускакывыюць шышвалы́, часьцей усяго ат прастуды. Пы дарогі як замёрзнуць шышвалы́, прайціць нілізя. Пы пахыці пы ніскароджыный ікая кызьба, адны шышвалы́. Памянш.* **шышвалок, шышвальчык.** *Ны плічах нейкія шышвалкі нібальшэя. Гляджу, якея ета шышвалкі пы грідах, ажно ета крот пынырываў. Пыт пальцым шышвáльчык нацёрся, ды такей балючый. Ні глядзі, што мяккыя трыва, на скошыным шышвальчыкі ўсігда буваюць.* **Шышвалле** *н. зб. Шышвáльля пыд быградою высыпыла. Там шышвáльля, шышвáльля, я глубока прабіла нагу.*

**Шэрснеў** *прым.* Такі, які мае адносіны да шэршня. *Глядзі, ета шэрсьніва гняздо, яны могуць пукусаць. У кынавых многа було шэрсьнівых норык.*

## Я

**Ясненне** *н.* Праясненне. *Не, ня дужа многа толку зь естыга ясьненьня: пыясьнеіць, а тады ўзноў капыіць.*

**Яснецца** *незак.* Праясняцца. *Кажыцца, трошку ясьнеіцца, можа, і пірістаніць ліць.*

**Ячменне** *н.* Поле пасля ячменю. *Пы ячменьню нічога ні кышанеш, ета па жыту трыва буваіць. Памянш.* **ячменніка.** *Ячменьніка горька нада ўспыхаць ны зімý, каб піряпрела хырашэнька.*

# ТЭКСТЫ

## ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

Абы балота, чэрці знойдуцца.
Абы бычкі, будуць і цёлычкі.
Абы лужа, а сьвіньня будзіць (найдзіцца).
Ад бога грех і ат людзей сьмех.
Ад горя ні ўцякеш.
Ад гразы і пыд гаршчок ні схуваісься.
Аддай рукамі, хадзі нығамі.
Адзінакывыя: адзін другога ні пірявесюць.
Адзін зьеж выла — адна хвыла.
Адна прірода, што пень, што калода.
Адно лета на (для) ўсіх.
Адным колым пляцень ні пыдапреш.
Адным куском пыдавіўся.
Айдзе большы двух, там гаворюць услух.
Айдзе днюіць, там ні начуіць.
Ат капусты ў жываце пуста.
Ат худога семя ня жджы (ня будзіць) добрыга племя.
Ахочыга ні ўняць.
Аць сьмерці ні аткупісься (ні атпросісься).
Бальшэя дзеткі — бальшэя бедкі.
Бальшэя рублі кырман дзяруць.
Біда ходзіць пу людзях, а ні пы лісах.
Біззаботныя гылыва ні разу ні пысівеіць.
Біс прічыны і болька ні сядзіць (скулка ня ўскочыць).
Будзім мы, будуць і яны.
Быгатыму удаецца, у яго і пятух нясецца.
Быгатыму чорт кашу масьліць.

---

Большасць тэкстаў запісана ў розных вёсках раёна. Частушкі, песні і замовы запісаны ў сярэдзіне 70-х ґадоў у в. Кудрычы ад маці Васілісы Міхайлаўны. Частушкі і песні выконваліся яшчэ ў дарэвалюцыйны час.

Была ў сыбакі хата, ды ад дажджу згарела.
Бяз мужа пыганыя лужа [хто ня йшоў, тэй і плюнуў].
Вадзіца мельніцу лумаіць.
Век жжыць — ня мех шшыць.
Вісока літаіць, ды нізка садзіцца.
Вольныму воля, а дурному (шалёныму) поля.
Вырысьць вырыс, а ўма ня выніс.
Гнілоя дзеріва доўга скріпіць.
Голыд усяму наўчыць.
Горыд грошы любіць.
Горя само сустрюкаіць.
Грех у мех, а бяду ў торбу.
Гулі разулі.
Гулі ў лапці абулі.
Дзеткі ў шчэпкі, маткі ў хахлы.
Дзірьку ў небі пальцым ні заткнеш.
Добрыя слава на месьці ляжыць, а дурная па сьвету бяжыць.
Дренныя слава далёка бягіць.
Дурак дураком пахніць (здохніць).
Дурак пру дурноя думыіць.
Дураку дурноя сьніцца.
Дурному жывату і піроr урядзіць.
Дурноя дзела дзелыць няхітра.
Дурных ня сеюць, ня содзюць, самі родзюцца (растуць).
Душка ня птушка [есьць хочыць].
Дывялося (удалося) чырьвяку ліст падгрызьць ны вяку.
Дыгыняючы ні ныцалуісься.
Жывеш ні так, як хочыш, а як пріходзіцца.
Жывому на ўме жывоя.
Жывэй пры жывоя думыіць (клапоціцца).
Зарыта — [ніхай будзіць] забыта.
За сьмерць брацца (ручацца) ні пріходзіцца.
З бабы дзеўкі ня зьдзелыіш (ня будзіць).
З гроба ніхто ні вылазіць.
З дурука дурноя плувець (паўзець).
Зімля (зямелька) прінімаіць кажныга (усякыга, усіх чыста).
Зы правінку чэшуць сьпінку.
Зы пяць пальцыў ня купіш.
Зычыні чорту дзьвері, ён у вакно ўскочыць.
Зямле скварка, людзям чарка.
Зяць, каб узяць.
І біс пыпа знаюць, што ў скрысеньня празьнік.

І бог ня чуў, і людзі ня відзілі.
Ікая работа, тыкая й клапота.
І кошка хызяйка, як бліны ны паліцы.
І к чыстыму целу грязь ліпніць.
Қажный старіц свой кій хваліць.
Қалі год, тады і ўмалот.
Қалі горя, дык і ўдвоя.
Қалі сьвіньню смалюць, ёй ні ды пырысят.
Қаму годзя, каму глодзя.
Қаму гурюваць, таму ні мінуваць.
Қінь упярёд — найдзіш (падыміш) адззаду (адззадзі).
Қінь хлеб-соль ныпярёд — яны цябе пызадзі найдуць.
Қроў ныйшла (наступіла) на вочы.
Қрутнёю сьвет пройдзіш, ды нызад ня вернісься.
Қуды (айдзе) ня кінь, усюдых клін.
Қуды едзіш, туды і кіруй.
Летым нагою, зімою губою.
Летым (улетку) нагою коп, зімою губою хоп.
Летым (улетку) пыт кажным кусьцікым нашлег.
Луччы з разумным пыціряць, чым з дураком (дурным) найціць.
Любоў зла, спалюбіш і кызла.
Ляжучый камінь мохым абрыстаіць.
Мой (наш) дзень, мой (наш) і век.
Мыш капы ні баіцца.
Набойкі дзёшыва стоюць.
На горькыга і го̄рькій случый.
На Юрья усякыга дурья.
Ні бацькін двор, ныгадзіў дый вон.
Ні було шчасьця зраньня, ня будзіць ды зьміръканьня.
Ні дай бог сьвіньне рог.
Німазыныя калёсы далёка чутны.
Німа той крамкі, айдзе прыдаюцца мамкі.
Ні пужай смаліныга гылавешкыю.
Ні пужай стрыжыныга ножнімі.
Ні радуйся чужой бядзе, свыя ны грядзе.
Ні скуюць — ні гаўкый.
Ні так жывеш, як хочыш, а як пріходзіцца.
Ні ўцеч, ні пабежч.
Ніхай у адной лёлі, ліж ба пу любові.
Ні шукай (ня йшчы) бяды, іна сыма цябе найдзіць.
Новыя сіта нывісіцца (пыд лаўкыю нывыляіцца).
Ну чужой стыране паклонісься быране.
Ны агне ні гаріць і ў вадзе ня тоніць.

Ны вяку папробыіш і ў гляку.
Ны крівоя дзеріва і козы скачуць.
Ны наге сапог скріпіць, а ў гаршку трясца кіпіць.
Ны сває рукі найдзіш мукі.
Ны хаценьня ёсьць цярьпеньня.
Ня трогый чужога і ня бойся нікога.
Ня ўчыцца — вылачыцца.
Пад'еў і ў хлеў.
Пазыка хахлы зводзіць (ды дыбра ні даводзіць).
Пакуль дзяцей іс пуху, сам із духу.
Палы атреж і ацступіся.
Патходзюць дні к пятніцы (субоці).
Пашоў па воўну — вярнуўся стрыжыным.
Прішло махым — пашло прахым.
Проця ўласьці ня пырьхый (ня пырьхніш).
Пусьці, божа, пывалюся.
Пусьці сьвіньню за стол, іна і ножкі (лапкі) на стол.
Пуўтары капейкі нікому ні пызычай.
Пызавідывыў пляшывый шулудзівыму.
Пыміняў пень ны калоду.
Пыцстыўляць (пыцстынаўлівыць) пыц старый зад мыладэя ножкі.
Пышла сучка быразною.
Пяшком зь мяшком.
Раз ны раз ня сходзіцца (ні пріходзіцца, ні выходзіць, ні выпыдаіць).
Раньній госьць ды абеда.
Раньнія птушка носік выціраіць, позьнія птушка вочкі прыдзіраіць.
Родым (пріродыю, пы пріродзі) куры хыхлаты.
Рукі ні туды павернуты (служуць).
Рукі сває, хлеб ны стале.
Свадзьба сарочку найдзіць.
Сває гылавы ні пріставіш.
Сває цаны ні ўставіш.
Сей поля і лес, ні страшын ніякій бес.
Скріпучыя дзеріва доўга жывець.
Старыга (свой свайго) хвалі, ды з двыра валі.
Старыму (старому) і на печы ухаб.
Сыбаччыя дзела гаў ды ў будку.
Сьвіньня грязь найдзіць.
Сьвіньням рана даецца.
Сяньня ціха, заўтря ліха.
У ваці сядзець у хаці.

У дурука дурноя на ўме (у гылаве).
У кажныга адно лета.
У кажный хаці свае мышы (свыя кошка).
Усё бяруць, адно горя ніхто ні бярець.
У ступі туўкачом ні пупадзеш.
У хаці гаршчок аб гаршчок стукніцца.
У хворыга здароўя спрашывыць.
У хызяйстві кажныя вярёвычка згадзіцца (прігадзіцца, к месту).
Уцёк ня ўцёк, а пабежч нада.
Учы дзіцёнка, як уперік лаўкі ляжыць (месьціцца).
Хата — рыгата.
Хваціць гырячыга да сьлёз.
Хочыш урыга нажыць — грошы пазыч.
Хрымая блыха ў прошлым гаду пасьвілыся.
Хто лі каго сьмяецца, тэй таму і дыстаецца.
Хуць зы выла, абы ў хаці ні была.
Хуць раз, ды наўскыч.
Хырыша матка — харошый і дзіцятка.
Ці гывари, ці кол ны гылаве цяшы.
Цыганскій пот прыняў.
Чорт ні адну пару (сем пар) лапцей стыптаў, пакуля іх пыдыбраў (укучу зьвёў).
Чорт чортым быў і будзіць
Чорт чорта пызнаў і на піва (у госьці) пызваў.
Чорт чорта ўсігда найдзіць (здаліку відзіць).
Чорт чортым пах, пахніць і пахнуць будзіць.
Чужая болька нікому ні баліць (ня больна).
Чужоя нікога ня греіць.
Чужую бяду па нітычкі рызьвяду [а к сваёй вума ні прікладу].
Чужымі блінамі сваіх радзіціліў пымінаць.
Чужэя ямкі ніхто ні займіць.
Чым з дурным квасым, луччы з вадою.
Чыя б кароўка мычала, а твыя б ніхай муўчала.
Што год, то ўдод.
Што ўбіў, то ўехыў.
Што ўкладжына, ня выніш.
Што ўкладзеш, тоя й дыстаніш.
Шулудзівый пляшывыга у госьці пызваў.
Шулудзівый хызяін пустому двару.
Язык біс касьцей.
Якей сук (корінь), такей і атростычык.
Якея дровы, такей і клін, якей бацька, такей і сын.

Як ні пывязець, і пірагом пыдавісься.
Я ны гару, а чорт зы нагу.

## ПРЫГАВОРКІ

А кылядныя бліны ладныя, а пятроўскія (мікольскія) ні такоўскія.
Астывайся, дом, с хрястом.
Атпілі, ат'елі, шух і пыляцелі.
Біцца ні гадзіцца, лаіцца ні пылыгаіцца, а каб піхнуў, каб ні прыдыхнуў.
Вот табе хамут і дуга, а я табе большы ні слуга.
Гады пыдбіраюцца і сілы пыдбіваюцца.
Горька редзька, ды ядуць, дренна замужым, ды йдуць.
Горя скачыць, горя плачыць, горя песінкі пяець.
Гыварілі дураку, што сядзёлка ны баку.
Гэй, гэй, кылы балота, ікая кармлёта, тыкая й работа.
Даў — спасіба, ні даў — другоя.
Дзела ня дзелый і адзь дзела ня бегый.
Дзень прайшоў — і слава богу, і грошы пы баку.
Дзесіць бацік ны гаду, адна матка ны раду.
Дурак — ні дурак і два ні выходзіць.
Дух вон, кішкі ны ціліхон, а трябух ны былылайку.
Дырма й скулка ні садзіцца, сьпірва нада прустудзіцца.
Есьця, госьцікі, есьця, усё дно сьвіньням выліваць.
Жыў — ня жыціль, памёр — ні радзіціль.
Забыла сучка, як шчанком была.
Забыў пятух, як сам ціўкыў.
Замуж выйдзіш, бабый будзіш: на ўсе песінкі забудзіш.
Замуж выйціць — нада знаць: позна лежч і рана ўстаць.
За шчэпку найдзіць прічэпку [зу лучынку найдзіць прічынку].
Зла як у кызла, а сілы як у кымыра.
Злосьці поўны косьці.
Каб пілося, елыся і яшчэ хацелыся.
Калі бокым, калі скокым.
Калі густа, калі пуста.
Калі доўга мучыцца, можа, што й палучыцца.
Калі ны ражне сала, усім смашна стала.
Канешня, папу яешня, а дзяк ба зьеў, ды далёка сеў.
Каню калёсы вазіць, што чылавеку штаны насіць.
Касіць ба касіў, каб хто (чорт) касу насіў.
Кісла, пресна — вярні ўместа.
Кол на полі заб'ю і абжывуся.

Крупінка зу крупінкыю гыняіцца з дубінкыю.
Кулік, кулік, доўгій нос, куды цябе чорт панёс [ні пыдмазыўшы калёс]?
Май, а кажух ні ськідай.
Май — каню сена дай, а сам на печ пылізай.
Мужык быгат — яму добря, сыбака кысмат — яму цёпла.
Мыладосьць прыйшла — ні пыпрышчалыся, старысьць прішла — ні прівіталыся.
Нам абы пір, а мыладым хуць гылавою ў вір.
На новым месьці прісьнісь жаніх нявесьці.
Ні гырбатый, ні кырбатый.
Ні зыдавіцца, явіцца.
Ні села, ні пала, дывай баба (бабі) сала.
Ні тваёй (вашый) гылаве балець.
Ні ўдасца — сыбакым (сьвіньням) аддасца.
Ні ў сылдаты, ні ў матросы, толька загвыздка ў калёсы.
Ніхай хуць гаршком нызавуць, абы (ліж ба) ў печ ні ставілі.
Нуда хужы каросты.
Ня дзеля жыру, а дзеля жыву.
Ня столька мёду, сколька смуроду.
Пабочына — пінька ня мочына.
Пей песьні, хуць лоб тресьні.
П'ецца — пі, есца — еж, любіцца — любіся.
Пі, еж, гуляй і дзела ні зубувай.
Пі з ныска, каб ні брала тыска.
Піць-есьць дывай (дай), а работы ні пытай (ні спрашывый).
Пічаць ні лапыць, каб усюдых ляпыць.
Пы два грошыкі на дзень, куды хочыш, туды й дзень.
Пыдняліся шуры-буры, кымаріка з дуба здулі.
Пы мылаку ног ні пывылаку.
Прыпаў бізь вясьцей, ні мяса (шкуры), ні касьцей.
Пятрок бліны пёк, расьсердзіўся і уцёк.
Работы ды самый суботы (на трі (чатырі) суботы).
Радуйся, душа і цела, ўся палучка пыляцела.
Раз пышла тыкая п'янка, реж пасьледній агурец.
Родзічы, родзічы, пываліліся ходзічы.
Рыдня с пуўдня, а як сонца зайдзіць, тады й [сам] чорт ні найдзіць.
Смаку, як у печыным раку.
Спасіба ў ручкі, ў ножкі і ўсюдых патрошкі.
Спасібым ні адбудзіш.
[Сыбралыся] гасьцей са ўсіх выласьцей.

Сьмех сьмехым, а торба зь мехым.
Тады дзеўка схыпянулыся, як у пузі стріпянулыся.
Ты нам ня должын, мы табе ні вінуваты.
У Дрыбіні даюць па рыбіні.
У нас ні гырдзяцца, айдзе стыяць, там і сыдзяцца.
Харошыя парычка — быран і ярычка.
Хлеб, соль і выда — мыладзецкыя іда.
Хуць бісь кішок, ды грошы мяшок.
Ці ён (або імя) скызаў, ці сыбака бряхнуў (вецір вяйнуў).
Ці ты (ён) у полі рос, ці ў лесі гудуваўся.
Цыр-дой — сырадой.
Чые бычкі ні бычкі, абы нашы цёлычкі.
Чым рыжэй, тым дыражэй.
Чыя работа, таго й забота (клапота).
Што стреў, то й зьеў.
Што ступі, то й купі.
Шуба рвана біс кырмана, біс падмётык сыпагі.
Шыла, мыла, каб і выпіць бы́ла.
Якей ні дажджышка, усё людзям аддышка.

## ЖАРТЫ

Адбіць ногі пы самыя вушы.
Адна баба — бызар, дзьве бабы — кірмаш, а трі бабы — ярмырка.
Айдзе ні работыць, абы ні работыць.
Арёл с суседніга курятніка.
Ац скрысеньня ды скрысеньня і радзіны, і вясельля.
Бей, лей, ні жалей, сердзіцца ня буду.
Бріца, бріца, бріца-ца, будзіць паска бізь ійца.
Бусінькі, бусінькі, абоя галюсінькі.
Бытата жывець: два каты хуць куды, дзьве кошкі, як ляпёшкі.
Быгатый дзівіцца, чым бедный жывіцца, а бедный сьмяецца, айдзе ў быгатыга дзяецца.
Вады ні пап'еш (ні нап'есься) — усё рыдня.
Верю ўсякыму зьверю, лісе і яжу, а табе пыгажу.
Віджу мех, а ў мяху сьмех.
Вух! — ш часу да двух.
Вялікій чылавек: сырыкавый номір калошы носіць.
Глухей ні кажный чуіць [сьляпэй ні кажный відзіць].
Глухей скызаў: паслухыім [сьляпэй скызаў: пасмотрім].
Глухуват, ну нідачуіць.

Глядзі ў воба, а зрі ў трі.
Губы баньцікым, носік краньцікым.
Гылыва с арех, а вочы пы яблыку.
Дальшы-пыдальшы у кошкі ляпёшкі.
Два грібы ў капусту ні паложыць.
Дурак, дурак, а празьнікі знаіць.
Дурак, дурак, а сала любіць (бліжы к салу садзіцца).
Ду рубля дзевіць грівін (дзівяноста капеік) ні хвытаіць.
Жыві, вун дзьвері.
За сном аддыхнуць некылі.
Знаць, аткуль хвост расьцець.
Знаць, на чом сьвіньня хвост носіць.
Зукуріў ба я, каб імеў бумажку, ды жалка, тыбачку німа.
Ідзі ў тэй бок, там твыя хата.
І сыт, і п'ян, і нос у тыбакі.
Каб усё раўно, лазілі б у вакно [а так ходзюць у дзьвері].
Калі здаецца, піріхрясьціся (нада піріхрясьціцца).
Каму ныравіцца поп, каму пупыдзьдзя, а каму папова дычка.
Каму што, а цыгану сала.
Канешня, клёцкі, ды каб з забелым.
Кылядный гром забіў.
Любі мяне ззаду, пакуль прівыкніш.
Можна, толька астарожна.
Мука, як мука, ну як паходзіць па ёй пыганыя рука...
Мыя мама, як царіца, а я, як брюнет.
На поліўку ні прівёз, а просіць кашы.
Ні бунтуй мішаць, я сам саб'юся.
Нідаўна аглох, а нічога ня чуіць.
Нідаўна асьлеп, а нічога ня відзіць.
Ні дурак, зроду так.
Ні духові, ні слухові.
Ні за тоя лаю, што піў, а што ня ўмеў закусывыць.
Ні сьпяшы, кыралём ня выбіруць (ні станіш).
Нос ны дваіх (сімярых) рос, аднаму дыстаўся.
Ны адно вока сьлеп, ну другоя ня відзіць.
Ны адно вуха глух, ну другоя ня чуіць.
Ныпіліся, наеліся, хуць і ды двыра.
Ны сьвятэй ніколі.
Ня глух, а туг на слух.
Ня еў — ня мог, пад'еў — саўсім лёг.
Ня піў ба й ня еў, а ўсё б на сонца (месік) глядзеў.
Ня ўсьпеіць лысыя дзеўка касу заплесьць.
Пакуль ні разьдзеніш, ні пызнаіш.

Памёр і ножкі задзёр.
Пашоў ба я, ды вочырідзь твыя.
Посьлі кыляд цыган шубу ськідаіць (прыдаець).
Пріборы — лапці ды аборы.
Пы такому (еткыму) дзелу дзеці будуць.
Пяць рублей за места!
Сьляпэй ні кажный відзіць.
Сьляпэй скызаў: увідзім (пасмотрім).
Сяньня сяк-так, а заўтря з блінамі (грібамі, клёцкымі, цубулію).
Так яны і жы́лі: урозь спалі, а дзеці бы́лі.
Тпру — кышляць буду.
У Амеріку ны зялёным веніку.
У Пірядніні коні ціряс крышу грузюць.
Усяго піць-есьць було, аднае прінукі ні хвытала .
Хто любіць пыпа, хто пыпадзьдзю, а хто папову дачку.
Ці Марья ажанілыся, ці Іван замуж пашоў.
Ці поп памёр, ці цэрьква згарела.
Цірізь нядзелю — субота.
Ці рыскызаць казку пру гуся? Було слухыць, іна ўся.
Ці чуў, кум, сонца, ці бачыў гром?
Часы длі красы, а ўремя па сонцу.
Чым чорт ня шуціць, як (калі) бог сьпіць.
Шутычкі, шутычкі, будуць і авечкі.
Як ба ні хвыраў, ліж ба памёр.

## ВЫРАЗЫ-ФОРМУЛЫ, ЗАЧЫНЫ

Аддайця мае цацкі, я з вамі большы ні гуляю.
Адзін пірід адным.
Адно кы днаму (ґ другому).
Айдзе ета відна!
Ат ізыка к ізыку.
Біс сучка і задорінкі.
Будзь здароў: ногі дзяржы ў цяпле, гылаву ў холыдзі, а жывот у голыдзі.
Було-було, а цяперь зывяршылыся.
Відзілі вочы, што куплялі, цяперь есьця, хуць пыдавіціся.
Возіцца, як кошка зь лягушкыю: гідка есьць і жалка кінуць.
Дамоў, як у сыбакі ламоў (калоў).
Дурак, з дуракоў вон.
Дурак і вушы халодныя.

Дурнэй поп хрясьціў.
Ды Ільлі сена сохніць і пут кустом, посьлі Ільлі ня сохніць і ну кусьце.
Ды тріццаці гадоў самі жэнюцца, посьлі тріццаці людзі жэнюць.
Жывець кот, жывець і сыбака, кот пад'еў і на печ, а сыбака ў будкі дрыгніць.
Жыць як ныбяжыць.
Збрешыць — дорга ня возьміць.
Зывіваць (завіць) горя вярёвычкыю.
Зьясі хлеба ложкыю.
Ідзі ты ў баню (к чортывый гылаве, к чортывый мацірі).
І сьвет ня міл, і людзі ня любы.
Калі на тоя пашло...
Капейка кыла рук мітаіцца.
Карова целіцца, а ў быка хвост трясецца (дрыжыць).
Конь ба таго ні павёз [што ён (або імя) зьвёз].
Куды зыхацеў, туды й пыляцеў.
Купіш — сучку аблупіш.
Купляць зы пяць пальцыў.
Лай ці ні лай, а маё (чужоя) аддай.
Малы дзеці — мал і клопыт, пабольшылі дзеці — пабольшыў і клопыт.
Маўчы ды дыш, як бытта сьпіш.
Мінушчыя дзела.
Нада ў платочык увізаць і насіць.
На добрый канец.
Нашто ж табе (вам) луччы.
На [якога] злога духа?
Нема сьціна, а ён (іна) нямей.
Ні гывыря другога (дурнога, добрыга) слова.
Ні знаць, пы якой зямле (якому сьвету) хадзіць.
Ні калі [тоя] було, ні калі будзіць.
Ні прі вас будзь сказына.
Ніхай сьцены ня чуюць.
Ніхто мною (ім, ёю) ня быў і ня будзіць.
Ну прідумый-ка ты!
Ня будзь ні горік, ні салодык. Будзіш горік — пруплююць, будзіш салодык — зьядуць.
Ня мне кызаць, ні табе (вам) слухыць.
Ня мыльсе, брыцца ня будзіш.
Ня трогый, ня купіш.
Пад добрый гумыр.
Пашоў ад гатовыга і прішоў ґ гатовыму.

Пашоў і ўсё зы табою пашло.
Плоха, ня плоха, а...
Посьлі сьвінства нет ізьвінства.
Проста з моста.
Пыд адну зьвязь.
Раз скызаў, другей раз прістукнуў.
Руб? У кулак патруб.
Рукі ў бокі і пашлі ў скокі.
Рызважыць як рызмажыць.
Сам сябе адзін раз у год любіць.
Самый тэй, што дасьць (паслухыіць...).
Скызаць і прістукнуць.
Старіц галеіўскій.
Старіц сапрыныўскій.
Сто раз угадзі, адзін раз ні ўгадзі — дрень (усё прыпала).
Сьвіньня пройдзіць — і тая рюхніць.
Сьмех біс прічыны — прізнык дурачыны.
Табе (яму або імя) скызаць — усё дно што вады лінуць.
Такому (еткыму) хлопцу ў акругі дзеўкі німа.
У дыўгах як у шыўках.
Ураньні росна, днём млосна, а ўвечырі кымары кусаюцца.
У році як куры нучувалі.
Усё па ўсём.
Халера хвытаіць (бярець) за рёбры.
Хвост крючком.
Хвустуна з быгачом ні разу ні рызьлічыш.
Хітрікі на мудрікі.
Хоцьцю-няхоцьцю.
Хочыш, каб ну дубовым кусьціку яблычка вырысла? Не, вырысьціць жулудок.
Хто ўперід радзіўся, таму і первыму [баріню] скыкаць.
Хуць сапліпінькій, ды мой.
Хырашо, ні хырашо, а...
Хырашо яго па сьмерць пысылаць: ныжывесься і ныдаесьць.
Цаца, цаца, ды ў кырман.
Ці доўга да случыя.
Ці ты ў полі рос, ці ў лесі гудуваўся?
Ці чуў ты еткыя дзіва!
Цяперь саўсім другея грібы.
Чорныя выда на вочы ныйшла.
Чорт бярі ідзі (дзелый), радзіміц (пріпадык) бярі ня йдзі (ня дзелый).

Чорт яму (ёй, ім) даў.
Чым дзержа.
Шануючы вас (сьцены, хату).
Што далеіць, то дурнеіць.
Што на рыт лезіць.
Што нішто, а...
Што ны вадзе, ны зямле ні було, на ім (ёй) було.
Што там гываріць.
Як ёсьць ня ёсьць (було ні було, будзіць ня будзіць).
Як ны цяперішній розум.
Як у вас, так і ў нас.
Я хацеў, каб кувалыся, а яно толька плешчыцца.

## КЛЯТВЫ І ПАЖАДАННІ

Ацсохні мне (у мяне) рукі і ногі.
Ацсохні мне язык.
Дай бог дзяцей і ў дзіцях пуць (толк).
Забі мяне бог (гром).
Каб кажныму добрыму так.
Каб мне зь естыга места ні сыйціць.
Каб мяне горя ні знала.
Луччы жывот лопні (тресьні), чым(ся) дабру прыпыдаць.
Ніхай вочы ня відзюць і вушы ня чуюць.
Ніхай сьвят (сьвятэй, сьвя́цінькій) ляжыць.
Ніхай цябе (яго, вас) бог закрыіць і зыбароніць.
Ны лаўкі буду ліжаць, ну зьдзелыю!
Ня зьвідзь бог і ня шчуй бог.
Ня к ночы будзь сказына.
У магілу пайду (лягу) — век табе (яму) ні прашчу (ні забуду).
Хуць дзень, ды мой.

## ПРАКЛЁНЫ І ЗЛАМЫСНЫЯ ПАЖАДАННІ

Каб густа сеіліся, ды редка ўсхадзілі.
Каб і пах ні пах.
Каб і ўзны́ку (атры́гу) ні було.
Каб ны цябе заідзь.
Каб табе (яму) на тым сьвеці стальгом стыяць.
Каб табе пранцы (скульля зываліла).
Каб ты жыватом езьдзіў.
Каб ты столька зь людзямі гываріў (рызгыварівыў).
Каб ты столька ў бога здароўя прасіў.

Каб ты так (столька) дыхыў (есьць хацеў).
Каб цябе біла пыдымаючы!
Каб цябе вадýн вадзіў!
Каб цябе зы жывот брала!
Каб цябе пываліла!
Каб цябе сарочка (рубашка) ня трогыла (ні чыпала).
Каб цябе ў цянёты лавілі!
Каб цябе цяцюха трісла!
Калі сесьць ны вашу апеку, дык укыраці, бог, веку.
Калі ў мяне ны ладоні шэрсьць пырасьцець, тады аддам.
Ні падохлі ж ба вы аднаго разу й аднаго часу!
Ніхай на ём (ны вас) шкура брешыць!
Ніхай табе (яму) пранцы сядуць (зывалюць)!
Ну сухей лес, на ніцыя лозы.
Прывал вас вазьмі!
Рызарьві (рызарвуць) твае бакі (духі)!
Штоб твыя (яго) ныга ні варочылысь (ні ступала)!

## ДЫЯЛОГІ

— Айдзе прівык чорт?
— У балоці.

— Бярі, кум, лёхкыя.
— Ні клыпацісь, кумка, і кылбыса ні цяжкыя.

— Дзень добрый у хату.
— Здароў, калі ня шуціш.

— Добрый вечыр.
— Добрый вечыр. Добра білі, добра енчыў.

— Куды (па што), воўк, ідзеш?
— Па ўдовіныга (бабіныга) пырасёнка.

— Накорміць?
— Накорміць. Хочыш, і пажвець.

— Памыіць?
— Памыіць. Хочыш, і абдасьць.

— Пымыгай бог!
— Вялеў бог, каб і ты памог.

— Прыдаў?
— Прыдаў. Узяў зы пылавіну хвыста і адзін рог.

— Сук, сук!
— Ны язык.

— Хто цябе?
— Сам сябе.

— Ці мы рыдня?
— Рыдня: твыя маці й мыя маці пяклі бліны ў адной хаці.

— Што, ты сьвішчыш?
— Сьвішчу.
— Ну, сьвішчы, пасьвістывый.

— Як завуць? (звaць?)
— Як крупы дзяруць (драць).

— Я паехыў.
— Вінтом дарога.

— Я уеду.
— А я і прываджу.

## ЧАСТУШКІ, ПЕСНІ

А хто тамыцька пашоў
Пы нашый вуліцы пяшом?
Саша, Ванін меншый сын,
Рубашка з ворытым касым.

А хто тамыцька пашоў
У розывый рубашкі?
— Дзеўкі, дзеўкі, я ні к вам,
Я к сваёй мілашкі.

Пыглядзіці-ка на лес,
Хто на ёлычку палез.
Ножкымі ўпіраіцца,
Жаніцца сыбіраіцца.

А я тонінька, малодзінька,
Становюць пыд вянец.

А я стала і скызала:
— Усёй гульне маёй канец!

А мой мілый вусы брыіць,
Ў сваты сыбіраіцца.
Я гуляю, ні ўнываю,
Ніхай аткідаіцца.

Хырашо лі табе вýціца,
Па морю ціха плысьць?
Хырашо лі табе, мілінькій,
Ў разлукі са мной жыць?

Я іду, іду, іду,
Сыбакі лаюць ны хаду.
Яны лаюць, пра то знаюць,
Што я к мілінькый іду.

Хырыша я, хырыша,
Ды бедна адзета.
Ніхто замуж ні бярець
Дзевіцу за ета.

Ты Сярёжа, мой Сярёжа,
Ны цябе уся надзёжа.
Ты ўлюбіўся, ўрезыўся,
Узяў ба нож, зарезыўся.

А я ў армію ішоў —
Ніхто мяне ні пыжалеў.
Толька рыжынькій цялёнык
У сыраі зырявеў.

Сколька водычкі ня піў! —
Мілашка зыняволіла.
А ў сылдацікі ішоў —
Бутылку прігатовіла.

А я ў мамычкі адна,
Речку меріла ды дна.
Речычка глубокыя,
Судзьба мыя далёкыя.

Дура, дура я была,
З дураком чыпалыся.
Усю ночку прыстыяла,
Сьлізамі абліналыся.

А мой мілый хіцір, хіцір:
Ны машыну дый у Піцір.
Я к машыні пыдыйшла —
Машына сьвіснула, пышла.

Рассыпыўся гарох
Па белыму блюду.
Я любіла чытырёх,
А цяперь ня буду.

Дзьве гармошкі,
Адзін бубін.
Зыўлякём —
Тады ня любім.

А ня будзіць ні пы-бацькывыму,
А ня будзіць ні пы-маткіныму.
А так будзіць, як сыма зыхачу,
Поўну хату кывалерыў нупушчу.

* * *

Як на елі, ны ялі
Дзеўкі свадзьбу зывялі.
Ны самый ны макушычкі
Кукуюць дзьве кукушычкі.
Дзьве кукушычкі кукуюць,
Два саловушкі пяюць.
Ацец з мацірью гарююць:
Дочку замуж аддаюць.

* * *

Удовушка-удыва
Паехыла ў дрыва,
Зычапілыся за пень,
Прыстыяла цэлый дзень.
Каб ня тэя паповічы,

Прыстыяла б да поўнычы.
Каб ня тэя пынарі,
Прыстыяла б ды зарі.

## ЗАМОВЫ

### АД ВАЎКОЎ

Ваўкі мае, выўка́ні, лісавыя двыряні, рыджаліcь вы сьляпэя і бяздушныя. Як вам свайго духу ні слыхаць, так вам мае скаціны, рыжыя (ці іншай масці) шарсьціны, ні відаць. Зыгыварівыю скаціну — рыжыю шарсьціну у чыстым полі дзікім камнім, у цёмным лясу пнём ды калодыю, у зялёным лугу ку́стым ды вадою, у сьветлым полі сьвятою травою. Сьвятэй Пётра-Паўла, зымыкаў ты рай і пекла. Замкні ваўку і ваўчыцы ярый зуб і ясныя вочы, каб ня відзілі мае скаціны ні днём, ні ноччы.

### АД ЗВІХУ

Ехыла Ягорья на сівым коні. Конь спытыкну́ўся, зьвіх зьвіхнуўся. Зьвіх, ня будзь ліх, касьці ні ламі, жылы ні сушы, серца ні крушы, мяне ні нурі. Каб Івану (ці іншае імя) стаў зьвіх на места.

### АД ЗМЯІ

На сінім морі стаіць дуб. У том дубі зьмяіныя гняздо. У том гнязьдзе трі зьмяі. Адна зьмія Сахвея, другая — Шкурлапея, а трецьція — Стрыханея. Сьвятэй Юрій-Ягорій, упрашывый сваіх слуг, штоб яду ні пускалі, штоб зьмяіный яд ні дупускаўся ду людзей.

### АД РОЖЫ

Первым разым, добрым часым, ні сыма сабою — прячыстыю сьвятою выгыварівыю рожу балючыю, калючыю, ламучыю, ветріныю, прастудныю, урошныю, кышча́выю с касьцей, з масьцей, ж жыл с калючых, балючых, ламучых рабу божжыму Івану (ці іншае імя), каб яму рожа пірістала балець. Ны ряке Ірдані стыяў божжый храм. У тым храмі мацірь божжыя стыяла. Ісуса Хріста ну руках дзіржала, калек, бальных, сьляпых спысала. Хрясьціўся ты, Ісусі Хрясьце, у ряке Ірдані ірданскыю

вадою. Ангілы высьпівалі, калек спысалі, сьляпых, бальных. Спасі, госпыдзі, Івана. Амінь.

Другім разым і г. д.

Трецьцім разым і г. д.

## АНЕКДОТЫ

### ЛУЧЧЫ ЎСІХ

Пан пыдззываіць бытрыка, даець грошы і гаворіць:

— Зынясі грошы маёй жонкі ў цэрькву.

Бытрак спрашыіць:

— А ікая іна?

Пан гаворіць:

— Іна луччы ўсіх.

Узяў бытрак грошы, зайшоў у цэрькву, пыглядзеў, пыглядзеў і аддаў грошы сваёй жонкі.

Іна ў цэрькві была луччы ўсіх.

### УКРАДЗЬ І ТЫ

Жонка гаворіць мужуку:

— Усе крадуць пышаніцу і пякуць булкі. Украдзь і ты.

А мужык ёй:

— Як жа я буду красьць. У другіх ёсьць свыя пышаніца, а ў нас німа. Сьпякеш булык — і зразу увідзюць, што с крадзіныга. Стыдна.

Жонка атвічаіць:

— Ты ня бойся. Я сьпяку такіх булык, што ніхто ні пызнаіць, ці ета яшныя, ці пышанішныя.

### ЯК САБАКА ХАТУ СТРОІЎ

Халодна зімою сыбаку. Пакруціцца ў будкі, пабегыіць пірікалелый кругом двыра. Пыгаўкыіць, пыдасьць голыс другім сыбакым. А есьць даюць мала. Усё ўремя есьць хочыцца. У хату пагрецца ні пускаюць.

Ну, рішаіць сыбака, хваціць мёрзнуць, летым абізацільна хату пастрою.

Прідзіць лета. Сонца греіць. Цёпла. Хырашо.

Успомніць сыбака пры хату. Улезіць у каноплі, каб бірнушкі ны хату выбрыць. Ны адну кынапліну пыглядзіць — крівувата, ну другую гляніць — тункувата, а трецьція, што с краю стаіць,— сукувата. А тута муха зы нагу як джыґнець!

— А-я-яй! — зыякочыць сыбака. І зубамі за тоя места за ўкушыныя хвытаіць. Хвытаіць-хвытаіць. Закруціцца, аж зываліцца. А як зываліцца, хырашо так. І ўстываць ня хочыцца.

— Ай, ня буду я сёліта строіцца, налета як-небудзь. І так зь лета ў лета аткладывыіць. А кажныю зіму біс хаты калеіць.

## ЛЕГЕНДЫ, ПАВЕР'І, ПАДАННІ, АПАВЯДАННІ

### НАЗВЫ БАЛОТ

Мне ўжо восімдзісят пяць, а ета мой дзед рысказывыў, што пад лесым стыялі нібальшэнькія хаткі і тама жылі Мыслак, Чачэнька і Кароль. Ніхто ня помніць, што йта былі за людзі і ці астаўся хто зь іхніга роду. А во балоты так і завуцца, сколька мы помнім: Маслыва балота, Чачэнькыва балота, Кыралёва балота. Кыла тых балот поля ўсігда було, а кылы Кыралёвыга балота быў лес, ета ўжо ны нашый паміці яго цірябілі. Купляли ў Юзькі й цірябілі. Трі хызяіны куплялі. Айдзе там хто мог жыць кыла етыга балота? Ні знаю.

### СІДАРАВА КАНАВА

Ета кынава ціріз быльшак, ціряз Рошчу к Стыхвану. Ехыў каўшоўській Сідыр з горыда п'яный у кыляды. Ніда́ўна воцьціпіль была, толька замёрзла, лёд быў слабый. Ён убіў кыня у кынаву. Тады бягіць ны дзяреўню, айдзе й п'янка дзелыся. А наша хата стыяла вокнымі туды, ны быльшак. Убег к нам увесь у сьнягу:

— Рятуйця, кыня зытапіў!

Пабеглі мушчыны. Конь убэхыўся і зыкалеў, пакуля прібеглі. Выкыцілі, а ён і ня жыў. Сані ны сабе пріцягнулі ны дзяреўню.

Тады тую кынаву звалі Сідырывыю. Цяпер іна ужо ці ёсьць тама.

### АЙДЗЕ МАЯ ЖАРОБКА

Во ты гаворіш: шукаць рукавіцы зы пазухыю. Быў у нас Антон, яго ішчэ многія помнюць. Раз пашоў зы канём, жарёбка была ў яго мылыдая. Нада було скырадзіць падж жыта. Зыбрыта́ў ён ету жарёбку, распутыў,

сеў ны яе. А тады думыіць, айдзе ж мыя рыжыя жарёбычка. Туды пыглядзеў, туды — нійдзе ня відна.

Куды іна пабегла, думыіць. Паехыў пыд Радкеўшчыну — ні відаць, пы Зяціцкій дарогі пад'ехыў ґ Гырбацкыму логу — і там німа, у Стахоўшчыну паехыў, ны Пірагоўскій лог, усё Зыбыльшачча аб'езьдзіў. Пыд абеды ужо едзіць па Сімыныву, нейкіх мульчуганыў спрасіў, ці ня відзілі яго жарёбычку. Тэя скызалі, што нійдзе ня відзілі. Тады пыд'іжджаіць ужо ґ дзяреўні, узноў спрашыіць.

— Дзядзька,— гаворюць яму хлопцы-пудуросткі,— ты ж на ёй сядзіш.

Як пычаў ён лаіцца, крічаць. Спырьхнуў ж жарёбкі, тады ўзноў сеў. Пасьці пуўдня езьдзіў, шукаў. Што хохыту було, што рёгыту. Доўга ў дзяреўні помнілі. Кылі што, дык, бувала, і скажуць:

— Шукаіць, як Антон рыжыю жарёбку.

Сьміяліся, пакуля троху-патроху забылі.

## Я САМ ТУТ

Ета було ішчэ ды калхозыў, ну хутурах. Вісна была дужа цёплыя і сухая. Пыхаць ужо выіхылі.

Арьхіп пычаў пыхаць бульбянішча пыт пышаніцу і зыпаліў бульбоўнік нідалёка ац свайго гумна. А дзень быў з ладным віцярком.

Яму крічаць:

— Арьхіп, што ты дзелыіш, гумно згаріць!

А ён атвічаіць:

— Чаго яно згаріць, я ж сам тут.

Ат'ехыў ён с плугым у канец загона. А яму крічаць:

— Арьхіп, гумно гаріць!

Глянуў ён, а агонь па ўсёй крышы ўжо скачыць.

Як зыкрічыць етый Арьхіп:

— А-я-яй, а што ж дзелыць!..

Згарела гумно, вецір рызмыхаў ураз. Во табе й сам тут.

## ЯК АДАРКУ ХАВАЛІ

Памёрла Адарка Кроціха. Яны жылі зу Чубуком на Міждарожжы, пысярёд. Ну, сыбраліся бабы, памылі, пыклалі, асталіся наныч. Вечыр прайшоў. Ноч зуступіла. Сідзяць, гамонюць. Пакойніца ліжала, ліжала, а тады

рукі шах уніз. Як пыцскачылі бабы, як кінуліся ґ дзьвірям, чуць дзьвері ня вы́сыдзілі. Разьбегліся куды каторыя пу кустах, пы аборкых.

А тады трошку аду́мыліся, гукаюць адна адну:

— Ганна, айдзе ты?

— Полька, ці ета ты?

Сыйшліся кучыю, руссуждаюць:

— Ці зьвязывылі ета ёй рукі?

— Не, ні зьвязывылі, толька склалі.

Рукі ў яе самі і разьехыліся.

Выйшыў Крот, спрашывыіць:

— Чаго йта вы пыўцікалі?

Сыбраліся бабы нызад у хату. Злажылі Кроціхі рукі, селі і ды раньня сядзелі.

Во було ім страху кылы тае пакойніцы, што ныбыя́ліся яны! Гыварілі, ац страху чуць ні пыпыўміралі.

## ЯК ХАРЫТОН З ГАННАЧКАЮ

Хрітон з Ганнычкыю былі неткуль с-пат Крічыва. Нейкія былі як нідапечыныя. Пы старцых хадзілі. Хрітон пасодзіць яе ны лавычку, зывяжыць ёй красьнінькій платочык, атойдзіць ціряз вуліцу і любуіцца:

— Ай, хырыша! Ай, красівыя ты ў мяне!

Ён яе і біць спробывыў. Кылі што ні так, ні па ём, як дасьць, дасьць баню. А як атойдзіць серца, тады цалуіць тую Ганнычку, лашчыць яе.

Во посьлі етыга і сталі гывaріць: як Хрітон з Ганнычкыю.

## МУЛІЦІ-МУЛІЦІ

Ета дужа даўно було. Ніхто ў нас ня чуў халеры. А тады нехта прівёз ісь Сібірі. Многа тады людзей памёрла. Скот хадзіў біс прігляду. Людзі выляліся, некыму було хуваць. Прівёз ету халеру нейкыя рыдня Ягору.

Дзед наш усё ета помніў. Ён старшым быў, ахрыняў іменія, дык рысказывыў:

— Ідзець абыкнавенныя баба с паньськыга гумна і выіць, голысым вядзець: «Мулі́ці-мулі́ці». Голыс харошый, звонкій. Будзіць выць-выць, а тады пойдзіць ну гумно ны барініна. Мне б нада пылядзець ну гумне, а баюся, ны пасту́шні пысяджу. Пабудзіць ну гумне, тады пойдзіць пы дзяреўні і выіць уголыс. Усе быяліся.

Я падзьвінуўся к комнытым. Стук-стук-стук у вакно. Баріня пріслухылысь:

— І нам чутна: выіць, выіць уголыс.

Дзед гывaріў, што многія відзілі ету бабу.

Халера тады як хваціла людзей ламіць! Схваціць чылавека, скруціць, зьверціць. Столька людзей пыўмірала! Қылі ататруць крапівыю-жыгучкыю. Тапілі баню і ў гырячый бані цёрлі жыгучкыю. Некытырыя пупруўляліся. А многа дужа ўмірала. І ўсё сяредній народ, гадоў па тріццыць.

Дзед гывaріў, што як ноч ныстаніць, баба ходзіць і выіць. Зь нядзелю хадзіла. Ён к ёй блізка ні пытхадзіў, быяўся.

## СКОРЫ СУД

Пынас Мікіцёнык бедна жыў. Зямлі ў яго було мала. Сім'я быльшая, дзяцей як насыпына. Стыряўся, работыў крепка, а нічога дужа ні було. А еў ён многа, любіў пад'есьць. Толька што там було есьць? Бульба ды капуста.

Паехыў ён раз у луг касіць. Наліў с сабою гырлач мылыка. Як пранюхыла сучка ета мылако. Неік сыдрала зьверьху тряпку. Пыхліптала мылако, гылаву ўсадзіла, а ныздад ня выцігніць.

Падбег Пынас, схваціў сучку за хвост і ў праровык як пусьціць:

— Во радзіміц увыгнаў!

Выда буль-буль-буль, і пашлі на дно і гырлач, і сучка.

## ВАКУЛА-ШАХЦЁР

Мікілай Вакулін быў шахцёр. У шахтых быў. Браў ён сабе іш Шыряёў жонку, Ріпіну. Қ яму Вакула езьдзіў ны шахты. Сьміяліся, як рысказывыў. Чудак быў чылавек.

Пріехыў ён туды. Мікілай зыпісаў яго куды нада.

Пыдыйшоў пісырь:

— Ты Іван Цяреньціў?

Тэй дзівіцца:

— Во чылавек: первый раз у вочы ўвідзіў, і знаіць, як звaць. Во ета грымацей!

Ён там троху работыў. У шахты ні лазіў, нывярьху нешта дзелыў.

Пашлі абедыць. Пыдалі яму суп. Пыглядзеў ён:

— Якей ета суп? Ета крупеня!

Ны шахтых ён нядоўга пабыў. Скора вярнуўся.

Помню, рубахі насіў доўгія, пы калена. Ні ґузіка, нічога. Красныю стужычкыю каўнерь зывязын. На вуліцу выйдзіць, абея рукі ну грудзях задзеніць у выратнік і стаіць.

## КАБ БЫЎ ЦАРОМ

У тоя ўремя тожа пы-разныму жылі. Хто работыў, тэй біс куска хлеба ні сядзеў. Ён і зямлю абрыбатывыў, і скот дзіржаў.

А Пархвен быў гультай, работыць ні хацеў. У яго було два надзелы зямлі. У нас ета ўжо быгач шчытаўся. Ого, два надзелы! Дзеўка пайціць к такому хызяіну зы шчасьця мела. А ў яго зімля пустувала. Праўда, яго палоскі усігда былі крайнія, скот выбіваў, вытаптывыў. Ну ў харошыга хызяіна і ны крайніх палоскых быў ба хлеб. А ў Пархвена не, ні було.

У яго дайжа карова калі была, калі не. А сьвіньнёнка і ці дзіржаў калі. У людзей сала, мяса, а ў яго сім'я сьмігуіцца аб бульбіні ды аб шчаўлі.

Праўда, кыбылёнку дзіржаў, калёсы былі пулуманыя.

Летым ён венікі візаў. Нывяжыць венікыў, ускладзець ны калёсы і павёз у горыд. Там прыдасьць, капейкі нейкія возьміць. Алі ж якея грошы за венікі.

Ён гываріў:

— Каб я быў царём, нyслаў ба у хаці саломы пы самыя вокны, сала сыроя еў ба с хлебым і спаў. Большы б нічога ня дзелыў.

## З'ЕЎ БЫ КІСЯЛЮ

Ета дужа даўно було. Жыла нейкыя Мархва. Ні знаю, зь якога іна роду была, ці былі ў яе свае хто-небудзь. Хаты ў яе ні було, хызяйства ні було, зямлі тожа ні було. Жыла пу чужых хатых, айдзе год, айдзе два. Патроху пымыгала людзям, то тоя зьдзелыіць, то тоя. Зь естыга і кармілыся. А быў у яе сын Півон, здаровый лабрэціна. Гультай-гультай быў, ні хацеў дзелыць ніча-

генічка. Кычаўся як быбак то ны палу, то на печы. Помню, ляжыць у Полькі на печы, ногі зыдраўшы, рукі пыд гылаву і гаворіць:

— Зьеў ба, зьеў ба кісяльку.

Зьеж папробый. Ны кісель нада зыработыць.

## КАНЕЦ СВЕТУ

Пріехыў к нам у дзяреўню каморнік зямлю дзяліць. Стыяў у нас.

Раз наехыла к яму гасьцей многа-многа.

Як бягіць-бягіць ка мне Домна. Мы рядым жылі. Мне було гадоў шэсьць, а Домна ну пуўтыра года старей. Мы дружылі.

Іна гаворіць:

— Ета прістаўленія сьвету. Людзей будуць лавіць, а тады казьніць.

— Што ж нам дзелыць? — спрашывыю.

— А пойдзім тапіцца.

Ны Пыдгародзьдзі сажылкі-сажылкі былі вадою пыналіты. Поўныя як вока.

— Мы атойдзім ац сажылкі, каб рызыгнацца.

— Ну, госпыдзі божа, блыгыславі! — піряхресьцімся, вочы заплюсьнім і бягім. Вочы заплюсьнім, а шчэлычкі вузінькія кінім. Пыдбягім ґ берігу, вычамі луп — не-а, страшна. І йна ня хочыць первыя у ваду прыгыць, і я ні хачу.

Мы можа раз дваццыць рызгыняліся. Бягім-бягім, дыбягім — і страшна. Ніяк ні пыряшы́м тапіцца. Ужо, кажыцца, усё, піряксьці́мся. А толька да беріга дыбягім — не, ня можым асьмеліцца. Што мы набегылісь, што ныбыялісь!

А там жа глыб-глыб! Каб укінуўся, і ня выліз ба.

Во каб хто-небудзь быў тама путней, узяў прут ды даў-даў прута.

Так мы і ні пытапіліся.

А тады рыззнакоміліся с каморнікым. Ён пысылаў нас у ягыды. За міску плаціў пітнаццыць капеік. Пыбягім скорінька зы быльшак, ныбярём па міскі ягыд, і ў цябе ужо пітнаццыць капеік ёсьць. Тама ягыд-ягыд було! Буйныя-буйныя. Настолька було ягыд красных. Траву кыла борка разгорніш — ягыд як насыпына. Самі ядзім сколька хочым. І каморніку нясём самых луччых.

Каморнік у мяне возьміць, я чыста брала, а ў Домны ні бярець. Іна сердзіцца. Тады йдзець у панскій двор. Ёй дадуць дзесіць капеік. А ў тоя ўремя і ета былі грошы.

## І НЕ ЗБІРАЎСЯ ПАМІРАЦЬ

Думыіш, у тоя ўремя мала чудзілі. Усяго хвытала. Адзін прідумыіць, другей пытхваціць — і пашло пы дзяреўні.

У Антона была нявестка, вясёлыя мыладзіца Машка.

Пріносіць раз у хату зімою суды вады і гаворіць:

— Вакула памёр, заўтря хыраніць будуць.

Антон ны ліжанкі ліжаў. З Вакулыю яны былі пасьці равесьнікі. Злазіць ён зь ліжанкі, ныдзяецца.

— Уш як жа так. Учора яшчэ быў жывэй. Ну, уш я пашоў на́ныч.

Увыйшоў у хату, хресьціцца:

— Уш упакой, госпыдзі, душу рыба грешныга Івана. Прімі ны свае рукі. Аччыні яму дзьвері свайго рая.

Прыгываріў ета. Прі пакойнікых усігда так гыварілі. Спрашыіць:

— Уш айдзе ж пакойнік?

А Вакула сь печы:

— Антон, каго ты тама хароніш?

Етый сумеўся:

— А разьві ты жывэй? Уш мыя нявестка скызала, што ты памёр.

— Што ты выдумывыіш, Антон! Чаго йта я буду пыміраць?

Пыстыяў трошку Антон. Нялоўка яму неік. Ідзець нызад двору. Грюк-грюк у сенцы.

— Уш глупа́я! — ны нявестку.— Ты мяне пыдмыняіш. Іван і ні зьбіраўся пыміраць.

А тая:

— Ну я ж ні знаю, я ня відзіла. Бабы лі калодзіжа кызалі.

А ніхто ёй нійдзе ні гыварiў. Іна іс свае гылавы выдумыла, каб пысьміяцца. А тады, нядоўга думыючы, пышла к Высілёнкывым:

— Я пыдманіла свайго стыріка.

Сколька посьлі етыга було рёгыту. Доўга пы дзяреўні сьміяліся, як Антон хадзіў Вакулу хыраніць.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

*Абразл.* — абразлівае, *адзінк.* — адзінкавае, *аднакр.* — аднакратнае, *асудж.*— асуджальнае, *безас.*— безасабовае, *выкл.*— выклічнік, *груб.* — грубае, *гумар.* — гумарыстычнае, *дзеепрым.* — дзеепрыметнік, *дзеепрысл.* — дзеепрыслоўе, *дзеясл.* — дзеяслоў, *ж.* — жаночы род, *жарг.* — жаргоннае, *жарт.* — жартоўнае, *займ.* — займеннік, *зак.* — закончанае трыванне, *зал.-бессуб'ект.* — залежна-бессуб'ектная форма, *зб.* — зборны назоўнік, *звыч.* — звычайна, *злучн.* — злучнік, *зневаж.* — зневажальнае, *зніж.* — зніжальнае, *інш.* — іншае, *іран.* — іранічнае, *ласк.* — ласкальнае, *м.* — мужчынскі род, *метаф.* — метафарычнае, *мн.* — множны лік, *н.* — ніякі род, *-н.* — небудзь, *неадабр.* — неадабральнае, *незак.* — незакончанае трыванне, *паб. сл.* — пабочнае слова, *павеліч.* — павелічальнае, *памянш.* — памяншальнае, *пахв.* — пахвальнае, *перан.*— пераноснае, *прым.*— прыметнік, *прысл.*— прыслоўе, *прыназ.* — прыназоўнік, *рэдкаўж.* — рэдкаўжывальнае, *узвыш.* — узвышанае, *узмацн.* — узмацняльнае, *устар.* — устарэлае, *экспр.* — экспрэсіўнае.

# ЗМЕСТ



Справочное издание

**Юрченко Георгий Федорович**

**СОВРЕМЕННОЕ НАРОДНОЕ СЛОВО ИЗ ГОВОРА МСТИСЛАВЩИНЫ**

**Словарь**

Минск, издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Даведачнае выданне

**Юрчанка Георгій Фёдаравіч**

**СУЧАСНАЕ НАРОДНАЕ СЛОВА З ГАВОРКІ МСЦІСЛАЎШЧЫНЫ**

**Слоўнік**

Рэдактар *А. М. Садоўская.* Мастак *Л. І. Усачоў.* Мастацкі рэдактар *Л. І. Усачоў.* Тэхнічны рэдактар *В. І. Кручонак.* Карэктар *М. А. Вячорка.*

ІБ № 3408

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 06.10.87. Падпісана ў друк 26.02.88. Фармат $84 \times 108^1/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 13,44. Ум. фарб.-адб. 13,44. Ул.-выд. арк. 14,96. Тыраж 1000 экз. Зак. № 1722. Цана 1 р. 30 к.

Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.